

# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**4** (1038)

КРАСАВІК

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2016

# ЗМЕСТ

*ПАЭЗІЯ І ПРОЗА*

3 **Мікола МЯТЛІЦКІ.** Неастылае сэрца планеты. *Вершы.*
13 **Іна ФРАЛОВА.** Белы бераг. *Вершы.*
19 **Раіса ДЗЕЙКУН.** І тут жывуць людзі. *Згадкі.*
34 **Анатоль ЗЭКАЎ.** Я не веру гараскопам. *Вершы.*
38 **Яўген ХВАЛЕЙ.** Не пакідай мяне, Аля... *Аповесць.*
83 **Міхась БАШЛАКОЎ.** О як гарчыць чырвоная рабіна... *Вершы.*
91 **Мікола ЧАРНЯЎСКІ.** «І вясной узыду...» *Аповесць-эсэ.*

*ГАЛАСЫ СВЕТУ*

125 **Аксана ШАЛАК.** Новы сусвет нарадзіўся. *Вершы.*
*Уступнае слова і пераклад з украінскай Сяргея Панізніка.*

*НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ*

131 **Наталля ЯКАВЕНКА.** Пісьменніцкі пераклад
як мастацкае мадэляванне свету.

*КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА*

145 **Алесь МАРЦІНОВІЧ.** З душою чулай, з сэрцам мужным.
162 **Уладзімір САЛАМАХА.** Пра ўсё, чым трэба даражыць...

*ПОСТАЦІ*

172 **Барыс КРЭПАК.** Жывая повязь часу.

*СЦЭНА*

181 **Зоя МАТУСЕВІЧ.** Усё больш тэатраў у госці да нас...

*КНІГАРНЯ*

188 **Юлія АЛЕЙЧАНКА.** Дайсці да сябе.



Мікола МЯТЛІЦКІ

# НЕАСТЫЛАЕ СЭРЦА ПЛАНЕТЫ

## ПОЎНЯ

Ты глядзелася ў вочы сляпыя Гамера,
Калі ён, натхненнем азораны,
На ўзбярэжжа Эгейскага мора,
Брыз вітаючы шумны, выходзіў.
І гекзаметры ў хвалях пачуў.

Усміхалася з небнае вышы
У вячэрняй смузе Юаньміну,
Назірала, як мудры кітаец,
Збегшы з тлуму пыхлівай сталіцы,
Гадаваў на гародзе каноплі,
Вандраваў па рачным узбярэжжы
І да ночы ў хаціне пахілай
Вершы новыя сыну чытаў.

І начамі Амару Хаяму
Зазірала ў напоўнены кубак,
Калі перс з вінаграднай лазою
Хмельна-соладка зноўку вітаўся
І пісаў павучанні радкамі
Тым, хто мудрасць шукае ў віне.

---

***Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч*** *нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002—2014 гадах — галоўны рэдактар часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005), «На беразе маім» (2010), «Цяпло буслінага крыла» (2010), «Чалавек падымае неба» (2012) і інш.*

На Баяна ля ціхай Нямігі
Пазірала ў час позні вячэрні,
Калі ён сечы мёртвае поле
Азіраў і, тугою працяты,
Слова, поўнае скрухі, тварыў.

Асвяціла Скарыны дарогу,
Што вяла друкара на Радзіму,
І на мытні парою начною
Захінулася чорнаю хмарай,
Каб не згледзелі вочы дазорцаў
Першадрукі, схаваныя ў сене.

Пазірала ў начы пецярбургскай
У пакой Эпімаха-Шыпілы,
Дзе Купала, займеўшы прытулак,
Толькі што завяршыў свой «Курган».

Над аглухлым украінскім стэпам
Узышла уначы і глядзела,
Як, паранены бомбы асколкам,
Воін юны ўзіраўся ў нябёсы,
Прыціскаў ацалелай рукою
Да грудзей свой мяшэчак паходны,
Дзе ляжаў томік «Ціхага Дона», —
І не ведала шчэ, што ён — Мележ.

Па люстранай суцішанай гладзі
Прыімглёнае Нарачы хмурай
Падышла да акна таямніча,
Зазірнула ў пакой, дзе пад лямпай
Танк, вярнуўшыся з тлумнай Еўропы,
Уздыхаў гучна: «Ave Maria!..»

А сягоння ля Віліі соннай,
Паказаўшыся ярка з-за лесу,
У нябёсах вандруеш — шукаеш,
У чые зазірнуць яшчэ вочы
На шляху пакручастым стагоддзяў.

## СНЕЖНЫ ЧАЛАВЕК

Брыдзе ад веку да веку
Легенда пра снежнага чалавека.
Жыве у гарах ён, снежны,
На выгляд — лахматы і смешны,
На вочы не патрапляе,
Ва ўсім асцярожны заўжды.

Ды зрэдку ўсё ж пакідае
З мядзведжую лапу сляды.

Стагоддзі па гэтым следзе
Ходзяць. І ўсё дарма.
Схаваўся, лахматы, недзе,
Быў толькі — і ўжо няма.

Нават махнатай спінай
За нейкай мільгнуў ялінай.

А сёння, у зімні вечар,
Ён, снежны, прыйшоў да мяне.
— Скажы, ты марыў аб стрэчы? —
Пытаецца. — Так ці не?

Мне гэтак, павер, пастыла
Хавацца век ад людзей,
Што пакідаюць сілы,
Самочуся кожны дзень.

Душа мая ледзяная
Так цягнецца да цяпла,
Ад холаду век канае,
У пяты як не ўвайшла.

Сяджу на сваім Эльбрусе,
У прогаладзі заўжды.
І мару, як забяруся
У ранішнія сады,

Дзе апельсіны, бананы,
Фінікі, вінаград.
Я ж малпы, сястры названай,
Усё-ткі старэйшы брат.

Як думаеш, а ці прымуць
Людзі мяне ў свой гурт?
А мо спрытна скуру здымуць
І скажуць, як калісь — гут!

Калі тут брат на брата
Ходзяць да гэтых пор,
Думаю, а ці варта
Спускацца мне з родных гор?

Я толькі, было, вейкі
Прымружыў на хвілю ўсяго.
Ці сон гэта быў дзіўны нейкі?
Ці ўпраўду я чуў яго?

## СКАРГА БАЛОТА

Не ў краі палескім, дзе выдзерта-ссушана
Віднеюцца клеткі між кінутых дрэў,
А там, дзе прырода яшчэ не задушана,
Пад Полацкам самым балота сустрэў.

Ляжала, куп'істае, з рослымі лозамі,
Са строкатам вечна прысутных сарок.
Адразу ж памкнула з усімі пагрозамі,
Сказала, нібы паўтарала знарок:

— Ты знішчыў суродзічаў глёўкія лежанкі,
Павыдраў лазоўе усё, да карча,
І выпала доля падацца мне ў бежанцы
Вясною злавеснаю той згарача.

Дык бачыш цяпер, што табою учынена
Злавеснае самае, хіжае зло?
Нябесная брама наглуха зачынена,
Ўжо месяц і болей дажджу не было.

Ты клімат змяніў, сам таго не жадаючы,
Не ўзважыўшы ўсё, у прыроду палез.
Гарбаціцца сёння, стаіць, высыхаючы,
На прыпяцкіх сушнях загублены лес.

Нацешыцца думаў і бульбай, і коласам,
Павысахла, бачыш — ні кроплі дажджу.
Табе я з сухоты замораным голасам,
Сустрэўшыся, горкую праўду кажу.

Я мчаўся дарогаю полацкай гонкаю,
Часцінка Палесся ў чужой старане.
І кожнай лазінкаю, чэзлай сасонкаю
Махала балота самотна ўслед мне.

І самыя розныя думкі прыходзілі
(О, як мы забыць пра сумленне маглі!):
Багата мы ўчора бяздумна нашкодзілі
Збалелай да болю айчыннай зямлі.

Ці хопіць нам розуму зараз адумацца
І рэшты балотнай зямлі не дабіць?
Ці зноў над зямлёй векавечнай наглумімся,
Забыўшы перш-наперш яе палюбіць?

* * *

Далёкае… Забытае… Былое…
Даўно пад тоўшчай часу знікла Троя.
І зараз, цераз многія вякі,
На раскапаным Шліманам кургане
Знаходзяць толькі з гліны чарапкі,
Ды вывучаюць старажытна-ранні
Жыццёвы вопыт продкаў на зямлі, —
Чым войны несупынныя вялі.

І як зубцы міфічнай Атлантыды,
Ўтыркаюцца ў нябёсы піраміды
На прыбярэжжы сухадолым Ніла,
Даўно абрабаваныя чын-чынам,
Накрыла іх вякоў зыбучым пылам,
Ухутала самотлівым спачынам.
І толькі неўгамонныя турысты
Вяртаюць ім, сівым, настрой ігрысты.

Драпежна-ваяўнічыя без меры,
Сышлі пад шаты прошласці шумеры —
Шчарбацяцца пакінута ў пустыні
Каменныя астанкі гарадоў,
Забыліся ў бясклопатным спачыне,
Абвеяныя пошугам вятроў,
Абмытыя нячастымі дажджамі, —
Ахвяры ў вечнай чалавечай драме.

І не нашэпты паўзабытых міфаў —
Над Донам ціхім спяць курганы скіфаў,
Даследча-прагавітыя нашчадкі
На іх загрыўках золата капаюць
Ды розныя здагадкі і загадкі
Ў талмудах гістарычных пазначаюць,
Адкуль прыйшлі забытыя плямёны,
Якія іх імёны і пісьмёны?

Далёкае… Забытае… Былое…
Плыве па небе сонца агнявое.
Мінаюць дні. І некалі іх стане,
Паспешліва-таропкіх, незлічона.
І ўжо на часу нашага кургане
Ўтыркне рыдлёўку нейкі зух вучоны
І паспрабуе, спрытны, дакапацца
Да тла таго, што з нас змагло застацца.

* * *

Калі Шамякін з Вечнасцю страчаўся,
Доўга з ёй, зацятаю, спрачаўся.
Адкладзі прыход, — прасіў, — зарана.
Не закончыў новага рамана,
Не прывёў яшчэ сваіх герояў
З цьмянае мінуўшчыны сівое,
Не сказаў усё і пра сучаснасць,
Дзе сягоння — поўная няяснасць,
Хто адмоўны, хто цяпер дадатны,
Твор чакае, будзе, вер, выдатны.
Дапішу яго з душы парывам
І тады сыду, зусім шчаслівы.

Помніш,— кажа Вечнасць, — мы з табою
Разышліся ўжо на полі бою.
Брала іншых, а цябе не брала.
Не прасіся, сатварыў нямала,
Як паглянеш, дык раманаў горы,
Нават прачытаць, не кожны скоры.
А як вучні ўжо ўздыхнуць з палёгкай,
Бо, чым далей — ім чытаць нялёгка,
Ў іх туман скразны ад гэтай чыткі.
Зазірнеш калі, бывае, ў сшыткі,
Там стаяць сучасныя чацвёркі,
Інтэлект іх — новым часам сцёрты.

І заплакаў наш Іван Пятровіч.
Састарэлай Вечнасці ён мовіць:
Ты скупая, як заўсёды, Вечнасць,
Хворая на чэрствасць, бессардэчнасць.
Ведаю, калі й мяне не будзе,
Не здрабнеюць сэрцам нашы людзі.
Імі столькі ўчора пражыта,
І крыві за родны край праліта,
А яшчэ к таму і слёз, і поту,
Што заўжды жыць будуць у ахвоту.
Падраслі, павыраслі іх дзеці,
Маладыя вочы шчасцем свецяць,
Пазіраю з гонарам на ўнукаў,
Цягнуцца да працы годнай рукі,
І не будзе, ведаю, забыта
Тое, што дзядамі пражыта.
Нават буду бачыць ў час спачыну
Нашу уваскрэслую краіну.
Хоць і ўкрые прах зямля сырая,
Вечнасць, я цябе ёй пажадаю.

## ВІНА

Няўцешнай дажывала удавой
Век зацяжны Арсенава Агата.
І несла моўчкі боль нясходны свой,
І на сыноў глядзела вінавата.

Былі яшчэ малечаю яны,
І нават не запомнілі Арсена.
А ён штоноч яе вярэдзіць сны
І ўсё нясе, як некалі, палена.

На папялішчы хату цесляры,
Грукочучы сякерамі, рубілі.
Пад тым паленам, мёртвы, без пары
Ён так і злёг, а быў у поўнай сіле.

Вясною той не бралася цяпло,
Яна ўначы ад холаду канала.
Быў май ужо, а шчэ не нарасло,
Хаця б на боршч той, шчаўя па канавах.

А трэба цеслям нешта гатаваць,
Усё яна навокал абхадзіла.
Ды шчаўя не сумела там нарваць,
Тады пайсці на могілкі рашыла.

Прынесла шчаўе і упрэлы боршч
Зварыла цеслям на абед у печы.
Як налівала — ціснуў сэрца боль:
«От паступіла не па-чалавечы!»

Хлапцы ў абед той з’елі боршч усмак,
Пайшлі з зарой вячэрняю да хаты.
А ёй не спіцца ў ночы аніяк,
Ўсё мёртвыя завуць яе: — Агата!

І нам баршчу па місцы хоць налі!
Ўжо зуб аб зуб — якому быць спачыну.
Яна прасіла мужа: — Запалі
На комінку смалістую лучыну!

І расказала ўсё, як ёсць, яму.
— Ат, глупства гэта! — той махнуў рукою. —
Нарвала й добра. Не нарваць чаму! —
І гэтым надта жонку супакоіў.

А ўжо назаўтра, як палена нёс,
Рукой за сэрца, крэкнуўшы, хапіўся.

З паленам тым, адкуль і браў, — на воз,
І кроку не ступіўшы, паваліўся.

Ужо даўно старэчая, яна
Супыніцца і выдыхне гарача
Сама сабе адной: — Мая віна! —
Ссамочаная, голасна заплача.

І ўжо даўно дарослыя сыны,
Як будуць перапытваць ні старацца,
Да гэтае яе «маёй віны»
Не здолеюць ні разу дапытацца.

* * *

Нібы патрапіў у глыбіні мора
І, акваланг цяжэрны не адзеўшы,
Плыву па лабірынтах у пячорах,
То ўлева, то направа паглядзеўшы,

І ўсякія нязнаныя істоты,
Страшылы усялякія марскія,
Пакінуўшы глыбінныя цянёты,
Пытаюцца вачамі: хто такі я?

А хто услед плыве? І як пасмелі
Ў жытло Нептуна трапіць без дазволу?
Няўжо марскія стражы не сумелі
Прысекчы нечуваную сваволу?

І клешнямі гатовыя ўчапіцца,
Прысутнасцю угневаныя, крабы.
А вось ужо плаўнік гарыць-іскрыцца
У рыбы, што падобная на жабу.

Глядзі, яшчэ ўпячэ электратокам,
Запомніш душарэзіну такую.
А вось па дне марскім ужо з падскокам
Лангуст вядомы некуды прастуе.

Як хмары, ходзяць чорныя акулы,
Паблісквоючы белаватым брухам.
І чорт марскі знайшоў на дне прытулак,
Стракаты ўвесь, парослы нейкім пухам.

Плыве павольна, гожа рыба-месяц,
Нікога гойстрым зубам не чапае.
І ўсім у моры гэтым штучным месца
На дружбу непарушную хапае.

* * *

Я да драбніц той уяўляю дзень:
Цвіў пахка бэз пад вокнамі ля хат,
Былі пасаджаны ўсе грады за платамі,
Збіраў пастух, як звычна, чараду,
Малыя з ранку рвалі гойстры плюшнік,
Што вытыркнуўся кметна на раскопах.

Ды маткі пазіралі з асцярогай
На вуліцу — баяліся, Яўстрат
Паявіцца з крыжастаю павязкай,
Прыцыкне грозна, люта на малых
І давядзе, як шмат разоў даводзіў,
Прывезеную з Хойнік разнарадку,
Каго з дзяцей ў Нямеччыну пагнаць.
Быў звыклы май. Быў трэці год вайны.
Затузаная карнікамі, вёска
Жыла сваім хвалюючым жыццём —
З штодзённаю аглядкаю на смерць,
Што блізка-блізка, чорная, хадзіла.

Яшчэ з жахлівай памяці не сцёрты
Гвалтоўныя расстрэлы-хапуны.
Ляжалі, прыкапаныя зямлёй,
На дне сілосных ям забітых целы.
І, дзень пражыўшы, кожны перад сном
Успамінаў жывыя іх абліччы.

Ды ў гэты дзень пачула вёска жах
Шчэ большае, няведамае сілы.
Ўся сцялася, павыгнаная з хат,
Глядзелі людзі, як шашою гналі
Пад пуламі вінтовак, аўтаматаў
Сямейнікаў тутэйшых партызан.

Іх расстралялі на вачах вяскоўцаў
Пад соснамі на ўскраіне ірва,
Які капалі папярэдне месяц
Сагнаныя старыя і малыя
Пад стражаю аўчарак і фашыстаў,
Каб нашы танкі ў вёску не зайшлі.

Шчэ доўга дыхаў жвір у рове гэтым.
Штоноч сцінаў жывых нясходны жах —
Ускрыквалі у сне малыя дзеці.
Пахмурыя, дабітыя адчаем,
Тулілiся змаркочана па хатах,
Да рук работа нат не прыставала,
Сляза з вачэй сама сабою бегла.

І сэрца калацілася-трымцела,
Гатовае праз рэбрыны прабіцца…

Пяць месяцаў было да вызвалення…

## СТРОМБАЛІ

Гэты вулкан
Не патухае ніколі —
Раз-пораз, разяўляючы
Вогненную зяпу,
Паказвае аранжавы
Язык лавы,
Палошачы ўсё жывое навокал,
Быццам жадае злізаць ім
З пахілістых бакавін гарыстых
Дамкі чалавечых паселішчаў
І самае да схілаў ягоных блізкае —
Вёску Джаностра,
Дзе жыве занепакоены
Джан Лука.

Аднак, на шчасце,
Ужо багата гадоў
Аніяк не здолее вулкан
Дацягнуцца да ягонае хаты.
Ён грукоча ў глыбінях,
Як няўтольнае, неастылае сэрца
Нашай састарэлай планеты,
Пакутлівае на вечную арытмію,
Знясіленае доўгімі гадамі
Маларазумнай чалавечай прысутнасці
І ўсяго шкодніцтва,
Учыненага на цвёрдай
Зямной скарынцы.

Стромбалі — строма болю зямлі
За нас, чалавекаў!





Іна ФРАЛОВА

# БЕЛЫ БЕРАГ

## САДЫ МАЛІТВЫ

Навошта мне лічыць свае гады,
Успамінаць былыя зарапады,
Калі на золку вецер малады
Сустрэчы нашай спадзяванай рады?!

Калі яшчэ вясёлай гаманой
Вітаюць позірк птушкі напрадвесні,
І Заўтра, за трывожнаю смугой,
Аб шчасці блізкім мне складае песні.

Не буду я лічыць свае гады!
Бо толькі Богу лік іх падуладны!
Я лепш Малітваў узвяду Сады
З адкрытым сэрцам да нябёс спагадным!

## Я ДАЧАКАЮСЯ ЦЯБЕ СА СТА ДАРОГ

Я дачакаюся цябе са ста дарог,
З усіх далёкіх і з усіх расстайных.
Вазьмі з сабой, вазьмі, як абярэг,
Мой неспакой, мой сон дзявочы тайны.

Вазьмі з сабой пяшчоту маіх слоў,
Да іх цяпла ты ў роспачы туліся,

---

***Фралова Іна Мікалаеўна*** *нарадзілася 6 жніўня 1972 года ў Мінску. Скончыла Мінскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка (1996), працавала ў сістэме адукацыі. Зараз — супрацоўнік Мінскага гарадскога аб’яднання Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар двух паэтычных зборнікаў: «Чакаю першы снег» (2011) і «Там у светлых барах» (2012).*

Каб не захмарыць замеццю гадоў
Пачуццяў першых залатыя высі.

У мітусні, у холадзе завей,
На скрыжаванні нашых шчасных лёсаў
Вазьмі святло, святло маіх надзей,
Як таямніцу яснавокіх вёснаў.

* * *

Павялі мяне лёсу сляды
Па заснежанай далі-далечы.
Халады, ах, ізноў халады
На слабыя жаночыя плечы.

Зноў аблогі віхурных завей,
Чарнабыльнік сухі і сутонне,
Страта лепшых людзей і надзей
Ды абдымкі сляпога бяссоння.

Я сцярплю. Гэты час праміне.
Можа, трошачкі выбеліць скроні
Ды, як леташні снег па вясне,
Каламуццю зляціць у бяздонне.

Я змагу. Я забуду пра смак
Невыносна гаркавай атруты.
І на самы далёкі бальшак
Здрады ўрэшце звяду і пакуты.

Не збаюся пасля вышыні —
Пад крыламі глыбокай сінечы,
Каб адчуць зноў у заўтрашнім дні
Радасць новай шчаслівай сустрэчы.

## Я КАХАЛА ВАС

За лесам ранак сарамлівы згас,
Зноў дзень наступны расхінаў нябёсы.
Так нечакана напаткаў нас час,
Дзе Нехта звыш пераплятае лёсы
Таемна ад усіх, не напаказ.

Стаялі поруч, як на рушніку,
Хаваючыся ў туманах бялёсых,
Да сэрца — сэрца. І рука ў руку
Пайшлі па шчасце па сцяжынах росных,
Пайшлі шукаць вірлівую раку.

Туды вялі шляхі зямныя нас,
Дзе чуўся голас маладога лета,
Цвілі сады, нібы ў апошні раз.
І я кахала ўсёй душой паэта,
Ўсёй без астатку, я кахала Вас.

## ЗАМАЛЁЎКА

Стала цёмна ў вокнах
І кідаюць на плёс
Цень размыты, намоклы
Зоркі з чорных нябёс.

Забалочаны бераг
Абдымае рака,
Гнуткіх вербачак шэраг
Спавіла асака.

Час панёс хваляванні —
І бяда ні бяда.
Адшумела каханне,
Ды й яго не шкада.

Шкода ціхія цені,
Што ўпрыгожылі плёс,
Яны ў вечар асенні—
Нагадалі мой лёс.

## ЗІМА І ХАЛАДЫ

Каханы мой, няўжо прыйшла зіма?
Як сад вясновы, белым крошыць неба.
Чакала шчасце, ды, відаць, дарма…
А як няма — чужога і не трэба.

Каханы мой, далей ідзі адзін:
Стамілася нязвычна я за восень.
Не лісце залатое, а палын
З мінулага вятры да нас прыносяць.

Каханы мой, зіма і халады —
Звычайныя, на першы погляд, рэчы.
Але чаму ў трапяткой далечы
Цярушыць неба, бы вясной сады?

* * *

Я нарадзілася тады,
Як спеляць жалуды дубровы,
Губляюць яблыкі сады.
І лета ціхія размовы
Аб сумнай восені вядзе,
Да золку шэпчучы замовы
На першай тонкай павуце.

Я нарадзілася, калі
Па небе, як сам жнівень, спелым
Плылі самотна жураўлі,
Свой цень кідаючы нясмела
На залацістыя стагі,
А потым у аблоках белых
Знікалі песняю тугі.

Я нарадзілася тады...

* * *

Тваё каханне мне, як абярэг,
Як першы пробліск маладога ранку,
Як абуджальны спеў вясновых рэк
І вуснаў дотык раніцой ля ганка.

Тваё каханне — прага гонкіх крыл,
П’янкімі вёснамі якую не спатоліць.
Калі ізноў чакаць хапае сіл,
Чакаць ад шчасця гаркаты і болю.

## ЗАПЛЯТАЮ КАХАННЮ ТУГУЮ КАСУ

«Я хачу быць з табой, хай зайздросцяць усе», —
Ахаплю сказ калючым двукоссем.
Я хачу раніцою з табой па расе
Расціраць у далонях калоссе.
Марыць разам, што прыйдуць шчаслівыя сны
Да цябе, да людзей, да Айчыны.
Дачакацца ў халодным Сусвеце вясны.
І хваліць без усякай прычыны.
Гаварыць неўпапад, знішчыць дзён мітусню,
Прамаўчаць, што датычыцца Бога.
І ніколі, ніколі не бачыць хлусню
У вачах, дзе блакіту так многа!
Будзем разам збіраць дзіўных гукаў красу,

Нас да зор паднімаюць арэлі.
Заплятаю каханню тугую касу,
Як радочкі кладуць міністрэлі.

## СУСТРЭЧА

Як па вокнах вясковых узоры
Размалюе мароз малады,
Як узыдуць калядныя зоры,
Мы спаткаемся, дружа, тады.

Мы спаткаемся, дружа, з табою,
Адагрэцца пяшчотаю слоў!
Да твайго я пляча галавою
Прыхінуся шчаслiва ізноў.

Будзе радасцю звонкай спавіта
Гэта стрэча. І зорка, як знак,
Блаславення нябёсаў нібыта
На імгненне асветліць бальшак.

Як па вокнах вясковых узоры
Размалюе мароз малады,
Як узыдуць калядныя зоры,
Мы спаткаемся, дружа, тады.

## СЭРЦАМ ТВАЯ

Я не помню калі,
Зразумела, што сэрцам твая.
Можа, як зацвілі танкаствольныя вішань сады,
Мо мяне абудзіў апантаны любоўю жаўрук,
Ці зязюля, што лічыць гады,
Ці той колас, што лашчыцца рук?!
Я не помню калі
Стала роднаю гэта зямля,
Можа, як матылі бесклапотна расквечвалі май?!
Ці ўвосень было, калі енчыў у печы смаляк?!
Сенажаць падказала, дзе рай?...
Мне не ўспомніць той час аніяк.
Я не помню калі,
Ап'янела ад кменных вятроў,
Чабарамі азораных ветлых сцяжынак-дарог,
Я не помню калі,
Зразумела цану гэтых слоў.
Зразумела душой, зразумела Усё, далібог.

* * *

У межах сустрэчы, у межах сустрэчы
Былі недарэчы, былі недарэчы:
Твой позірк, што так абдымаў мае плечы,
І позірк чужы, асуджаючы, нечы.

І вуснамі дотык халоднай шчакі,
Падобны на плыткія хвалі ракі...
У межах сустрэчы ўсё недарэчы:
І звыклыя рэчы, і новыя рэчы...

## МОВА

Няма дзе прытуліць мне галаву —
Разбураны мой дом. Губляю веру.
Абрысы слоў кідаю на паперу.
Не ведаю жыву ці не жыву.

Найлепей таму краю анямець,
Дзе мову абражаюць недаверам.
Як адмяраем — будзе тая ж мера —
Чужыя песні нашым дзецям пець.

Народзе мой, няўжо сярод людзей,
Табе маўклівым быць і непачутым.
Няўжо табе — мой велічны, славуты —
Жыць вечна без прытулку і надзей!?





Раіса ДЗЕЙКУН

# І ТУТ ЖЫВУЦЬ ЛЮДЗІ

*Згадкі*

*Без памяці пра мінулае не існуе будучыні. Нашы продкі перажылі нямала напасцей — апошняй з іх была катастрофа на Чарнобыльскай АЭС. Гэтая бяда сваім чорным крылом так або інакш не абмінула ні адну сям'ю ў Беларусі.*

*Як гэта было ў першыя дні, месяцы, гады. З чым сутыкнуліся людзі, якія апынуліся ў чарнобыльскай зоне і прайшлі праз яе жахі?.. Што адбілася ў іх памяці? Пра што яны распавядаюць сваім нашчадкам? Чаму? Каб лішні раз паплакацца? А можа, каб тыя зрабілі высновы і не дапусцілі болей такога жаху?*

*А яшчэ — каб ні пры якіх абставінах не гублялі надзеі на лепшае.*

## Вёска і... Паска

Як і спрадвеку, вёска рыхтавалася да Вялікадня — галоўнага веснавога свята.

Гаспадары-мужчыны свежавалі парсюкоў... Жанчыны былі заняты іншым. Хаты да Паскі, так на Палессі называюць Вялікдзень, павінны былі зіхацець чысцінёю — каб жа суседзі не абгаварылі, а госці пахвалілі, ды самім было ўтульна і радасна сустракаць Вялікі святы дзень. За месяц-другі да яго гаспадыні выносілі з хат, каб прасушыць і праветрыць падушкі, матрацы, дываны... З акон здымалі фіранкі і гардзіны, каб памыць і падсініць, бялілі грубкі, печы, столі і кухні... Некаторыя, маладзейшыя, мянялі ў пакоях шпалеры... Пасля такіх клопатаў у хатах станавілася чыста і святочна.

Вяскоўцы прыбіралі панадворкі, наводзілі парадак нават у хлявах, адрынах. Падграбалі агароды. Не ўсякі гаспадар па восені зграбаў стары бульбоўнік і паліў яго: хто знарок пакінуў, каб з бацвіння дажджы і снег вымачылі-вымаразілі ўсе спажыўныя рэчывы і тыя адразу б пайшлі ў зямлю. Зараз жа,

---

***Дзейкун Раіса Васільеўна** нарадзілася 9 жніўня 1954 года на станцыі Аўраамаўская (вёска Партызанская) Гомельскай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы.*

*Аўтар некалькіх кніг на праваахоўчую тэматыку, кнігі-споведзі «Мой Чарнобыль, або Я боль людскі... кранаў рукамі...», казак «Прыгоды Бульбаесціка» і інш.*

пасля зімоўкі, рэшткі бульбоўніку вяскоўцы сцягвалі ў кучы і палілі. Дымы плылі над вёскай, прадвяшчалі, што хутка настане Вялікдзень.

Вопратцы жанчыны таксама надавалі не абы-якую ўвагу: старэйшыя шылі новыя сукенкі або кофты ў мясцовай краўчыхі, маладзейшыя ехалі па ўборы на базар у Хойнікі або ў Чарнігаў (на пароме да яго рукой падаць). Там яны куплялі сабе штосьці маднейшае, а старым маткам — «свежую» хустку-гарусоўку, вігоневую або ваўняную кофту з кішэнямі (у адну — лузанцоў, у другую — семак насыпаць, каб, седзячы на лавачцы святочнай вуліцы, частавала суседак і вясковую дзятву).

А ўжо як сур'ёзна і адказна ставіліся гаспадыні да фарбавання яек — спаконвечнага, нязменнага атрыбута доўгачаканага Вялікадня! Адны на працягу года збіралі шалупінне з цыбулі, іншыя, каб пафарсіць і ўцерці нос суседкам, куплялі на базары фарбы. Дзеці ажно біліся за тыя сінія ці зялёныя «крашанкі», бо пафарбаваныя шалупіннем былі не такія, на іх погляд, прывабныя. «Пад вялікім сакрэтам» яны загадзя расказвалі-хваліліся адно аднаму, у каго якія яйкі будуць, і дамаўляліся, на што будуць гуляць «у мацакі». У хлопцаў-падлеткаў былі свае каштоўнасці: адзін вельмі хацеў выйграць маленькі сцізорык у сябра, а той — незвычайную чатырохкаляровую ручку. У дзяўчатак — свае дамовы: абмен карткамі-артыстамі, просценькімі пярсцёнкамі з шклянымі вочкамі-«дыямантамі», кліпсамі і іншымі прыкрасамі. А яшчэ — абмен букецікамі першых кветак, за якімі яны ў той дзень (абавязкова) бегалі ў бліжэйшы лес. Меншыя іх брацікі і сястрычкі, калі старэйшыя гулялі ў «мацакі», мяняліся сваімі любімымі цацкамі…

Напярэдадні свята, у Вялікую суботу, на досвітку, над комінамі хат у неба ўзвіваліся колцы дыму: вёска жыла сваім адвечным жыццём. Гаспадыні пачыналі чараваць над прыгатаваннем абрадавай і святочнай ежы. Перш-наперш замешвалася цеста, з якога ў печах будуць пячы велікодныя булкі-кулічы — без іх якая ж Паска? Цеста павінна было падысці, каб булкі былі бухонымі (пульхнымі), а не пляскатымі блінамі. У кожнай гаспадыні вёскі меліся свае рэцэпты іх прыгатавання, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Яйкі, малако, тварог свае, дамашнія, муку, разынкі і дрожджы загадзя куплялі ў горадзе. Пакуль у дзежачках, місках, тазіках падыходзіла цеста для булак, печ застаўлялася вялізнымі чыгунамі з бульбай — для жывёлы. Тры дні вёска будзе гуляць-адпачываць. Яе жыхары, ад малога да вялікага, ведалі: «Працаваць на Паску — вялікі грэх!» Карміць-паіць жыўнасць — грахом не лічылася. Усе велікодныя дні печ не будзе паліцца... Калі печ добра прагравалася, наступала чарга кумпякоў, булак, яек… Ужо апоўдні вёска плыла-купалася ў водарах смажанай, печанай, варанай ежы. Наперадзе чакала перадвелікодная ноч набажэнства — «усяночная».

Потым наступаў доўгачаканы ранак таго дня, калі гаспадыні паводле спаконвечнага звычаю сваіх дзядоў-прадзедаў налівалі ў місачку са свянчонымі «крашанкамі» ваду і ўся сям'я апаласквала ёю твары, каб яны былі чыстымі, прыгожымі цэлы год. Толькі пасля гэтага можна было сядаць за святочны стол. Спярша трэба было паспытаць велікодную булку, яйка (пабіцца перад гэтым ім з сямейнікамі) і потым можна есці ўсё тое, чым застаўляўся стол.

Закончыўшы велікодны сняданак, вяскоўцы выходзілі на святочныя вуліцы і хрыстосаваліся з суседзямі. З нязменным воклічам: «Хрыстос уваскрос!», а тыя у адказ: «Ваісціну ўваскрос!» — тры разы абдымаліся-цалаваліся і абменьваліся «крашанкамі». І так — тры дні!..

Кажуць: чалавек толькі гадае, а Бог — ведае і мае!

Ніхто з тых, хто так рыхтаваўся да Вялікадня, нават у самым жудасным сне, не бачыў, што якраз на Паску, у святы дзень, калі ў праваслаўных цэрквах будуць асвячаць велікодныя яйкі і булкі-кулічы, ім давядзецца пакідаць сваю вёску…

У той чорны год і ў той майскі дзень, што таксама стаў чорным, у вёсцы адбылося нябачнае дасюль. Тут з'явіліся вялізныя аўтобусы. Людзям сказалі, што на Чарнобыльскай АЭС нешта здарылася, і трэба ехаць адсюль... І яны паехалі, усёй вёскай, пакінуўшы свае хаты, гаспадарку, не адсвяткаваўшы Вялікадня…

Пасля таго, на здзіўленне, сонечнага, як заўжды, дня, таго праклятага людзьмі года, над комінамі хат вёскі болей не віўся колцамі ў неба шэра-блакітны дым жыцця, паветра болей не было напоўнена смачнымі пахамі печанага, смажанага, вэнджанага... Па яе вуліцах болей не бегалі з «мацакамі» дзеці, на лавачках не сядзелі ў святочных уборах людзі, дзяўчаткі-падлеткі не ішлі да бліжэйшага лесу па першакветкі…

Вуліцы вёскі ў той дзень былі пустымі і чыстымі. Без людзей, без рознакаляровага шалупіння яек, семак і арэхаў яны хутка пачалі травянець, а з часам зараслі быльнягом і хмызнякамі…

У той год, на Паску, вёска… памерла…

І толькі былым яе жыхарам яна і цяпер сніцца. Сніцца жывая…

## Матчын гасцінец

Дачка Гарпіны з сям'ёй — мужам і двума маленькімі дзецьмі жыла ў Хойніках. Неяк так сталася, што яна не паспела выехаць пры першай эвакуацыі. А тут — новая бяда — па горадзе разнёсся слух, што вось-вось на станцыі зноў «бухне», што вакол не застанецца нічога жывога ў радыусе трох соцень кіламетраў! Як пацвярджэнне гэтай шакіруючай весткі ў горад сталі прыбываць аўтобусы, каб вывезці малых дзяцей з маці і школьнікаў. Яны запаланілі маленькі гарадок так шчыльна, што паміж імі можна было толькі праціснуцца. Дачка паспела пазваніць бацькам у вёску і паведаміць аб тым, што яе разам з дзецьмі зараз павязуць з раёна…

Гарпіна, дазнаўшыся пра гэта ад суседкі, якая засопшыся прыбегла да яе (у той быў тэлефон), вырашыла тут жа ляцець у раён: яна мусіла пабачыцца з дачкой і ўнукамі (мо ў апошні раз). У чым была на агародзе, забегла ў хату — узяць па звычцы гасцінцаў дачцэ і ўнукам. Але што ж браць? Зяленіну — нельга, сала-мяса — нельга, бульбу — нельга… У вочы кінулася вядро яек — у тую вясну чамусьці куры несліся спраўна, як ніколі. У калідоры яшчэ стаялі поўненькімі рэшата і два вядры. Яна схапіла адно вядро і пабегла (былі б крылы — паляцела) да шашы. Там пачала нястрымна махаць рукой, не выпускаючы з другой — вядро. Каля яе спыніўся грузавік, што ехаў якраз у той бок. Яна не памятала, як дабралася да тых Хойнікаў, а потым да кватэры, дзе паспела застаць дачку з унукамі. Тыя былі, лічы, на выхадзе.

— А, мамачка мая! А родненькая! А навошта ж ты прыперла гэтыя яйкі, а куды іх дзяваць, а што ж з імі рабіць — іх жа нельга есці? — плакала дачка. Гледзячы на яе загаласіла маці. Малыя, абшчаперыўшы бабулю, таксама плакалі, не разумеючы: куды яны так спяшаюцца, чаму плачуць маці з бабуляй. Похапцам, закрыўшы на ключ дзверы кватэры, пабеглі да аўтобусаў…

Вядро яек так і засталося стаяць пры дзвярах у прыхожай…

## Упартыя

Былы сакратар Хойніцкага райкама партыі, а на момант катастрофы кіраўніца раённага ашчаднага банка Нона Сцяпанаўна Малінец, пражывала ў фінскім доміку раённага цэнтра. Той стаяў непадалёку ад райкама партыі. Калі здарылася чарнобыльская бяда і людзей пачалі адсяляць-вывозіць каго куды, яна паехала да сваіх старых бацькоў у вёску, каб жа забраць іх да сябе (Хойнікі ўсё ж такі трохі далей ад таго ліха — станцыі, а іх вёска — побач). Але старыя заўпарціліся: «Нікуды не паедзем. На каго гаспадарку пакінем? Карова павінна вось-вось расцяліцца, яна ж столькі гадоў карміла-паіла ўсіх і цябе таксама…»

Адзін раз прыехала дачка па бацькоў, другі — дарэмна. Карова расцялілася ўжо, а старыя — ні ў якую! Як ні прасіла, як ні ўгаворвала — тыя і слухаць нават яе не хацелі. «Без каровы — не!» — і ўвесь адказ.

Прыйшлося дачцэ разам з бацькамі забіраць да Хойнік і рагулю з прыплодам. А ў цэнтры горада пры тым доміку, дзе жыла — няма ніякіх умоў, каб трымаць карову з цялём.

Хайнічане, ходзячы паўз той домік на работу, бачылі, як каля прывязанай да садовага дрэва чырвона-рабай Красулі з малым цяляткам побач, кожны дзень тупаюць старыя бацькі былога сакратара…

— І што б я рабіла з усімі вамі, калі б у мяне кватэра была на трэцім паверсе, або яшчэ вышэй? Мабыць, карову прыйшлося б ставіць пад балконам, а цялятка — на балкон, — горка жартавала Нона Сцяпанаўна.

## Букет

Быў месяц май 1986 года.

— Нікуды я не паеду, мне паміраць пара! — гаварыла бабка Пелагея з Радзіна, калі яе, разам з сям'ёй сына і аднасельцамі ўпрошвалі ісці да аўтобуса. Калі ж пачыналі настойваць сын і суседзі, маўляў, трэба, ды бралі пад пахі, галасіла, вырывалася, чаплялася старэчымі рукамі за касякі дзвярэй сваёй хаткі, якая прымасцілася на адным падвор'і побач з вялікай хатай сына. Усё ж так-сяк яе адарвалі ад тых касякоў і ледзь не на руках занеслі ў салон бліжэйшага аўтобуса.

На новым месцы, як і казала-прадчувала старая, яна доўга не працягнула — да пачатку ліпеня. Перад сконам бабка прасіла сына з нявесткай каб яе пахавалі каля мужа на «сваіх» могілках, каб па дарозе да іх падвезлі да роднай хаткі — развітацца. Гразілася, што калі яны не выканаюць яе запавету, то перавернецца ў труне.

Сын аслухацца маткі не мог. Узяўшы дазвол на паездку ў забруджаны раён, ён разам з раднёй павёз на аўтобусе, які спецыяльна выдзелілі, нябожчыцу дамоў. Цяпер ужо ў «зону». Пад'ехалі, як і прасіла маці, да падвор'я і, нават, на нейкія лічаныя хвіліны занеслі труну з нябожчыцай у яе хатку. Потым — бягом на могілкі. Могілкі, як было заведзена спрадвеку ў вёсках, знаходзіліся за ёй, у бліжэйшым хвойніку. Пахаваўшы маці, дзеці наведалі заадно магілы дзеда, бабы, іншых родных і, хутчэй да машыны: радыяцыя ў раёне зашкальвала. Аб гэтым людзей папярэдзілі ў штабе і катэгарычна загадвалі як мага хутчэй пакінуць вёску. Але сыну нябожчыцы і яго жонцы, ужо жыхарам іншай вобласці, вельмі карцела крыху пабыць на сваім былым

селішчы, развітацца з ім, можа, і назаўсёды. Бо пры эвакуацыі, і зараз, калі хавалі маці, яны толкам і не зрабілі гэтага: не было калі.

Зноў пад'ехаўшы да былога селішча, сям'я рушыла да дзвярэй сваёй хаты, хацелася паглядзець, што там ды як. Ім жа, калі вывозілі з вёскі, казалі, што на тры дні, а аказалася… Абышлі пакоі, абгледзелі, абмацалі, абгладзілі пакінутыя рэчы — моўчкі развітваючыся з імі. Столькі гадоў нажывалі ўсё гэтае дабро... Зрасліся з усім… Потым рушылі на двор. Абышоўшы яго ўвесь, абгледзелі хлеў, адрыну, сцёбку. Пастаялі і заглянулі ў калодзеж, што знаходзіўся насупраць ганка пры зарослым агародчыку, а потым, не згаворваючыся, накіраваліся да весніц — за хлявы. Там, за імі, у агародзе, заставаўся капец бульбы. Ці уцалеў?..

Тое, што пабачылі, здзівіла, уразіла: на месцы капца быў вялізны белафіялетавы букет. Бульбяны.

Капец цвіў. Жыццё і ў радыяцыі працягвалася.

## Аперацыя «Мундзіры»

Пад Мінск, да аднаго з санаторыяў у Ждановічах, у маі 1986 года падчас эвакуацыі вывезлі Восаўскую няпоўную і Партызанскую сярэднюю школы Хойніцкага раёна. Разам з вучнямі эвакуіравалі і іх настаўнікаў (маладых жанчын і дзяўчат) — яны суправаджалі дзяцей і заставаліся разам з імі, чакаючы, як будзе вырашаны іх лёс.

Размясцілі «бежанцаў» у санаторных нумарах з усімі выгодамі. Персанал, а гэта былі ў асноўным жанчыны, спачуваў змарнелым, перапалоханым дзецям і жанчынам. Усе стараліся аблегчыць іх вымушаны адпачынак-жыццё. «Чарнобыльцаў» добра кармілі. У меню былі супы, баршчы, рыба, мяса, дэфіцытныя тады грэчка, проса, макароны, садавіна, агародніна, сокі…

— Дзеўкі, а дзеўкі, давайце ў Мінск з'ездзім, развеемся, растрасемся трохі, а то кормяць так, што... — гэта да суседак па пакоі звярнулася самая бойкая і гаваркая Алёна. «Дзеўкі» былі не супраць, тым больш, выхадным днём. У Мінску яны зайшлі ў гаспадарчы магазін. На вочы трапілася электрычная плітка. Жанчыны паглядзелі адна на адну.

— Давайце купім у складчыну, — кажа Алёна, іншыя моўчкі ківаюць галовамі і лезуць у кашалькі. Купілі. Пайшлі далей...

Камароўскі рынак. Чаго там толькі няма, вочы жанчын-бежанак разбягаюцца і нечага шукаюць, а потым, спыняюцца на… маладзенькай бульбе. Зноў рукі цягнуцца да кашалькоў. Жанчыны купляюць па два кілаграмы (кожная) і хаваюць яе, як найвялікшую каштоўнасць, на самае дно сумак-пакетаў. Усю дарогу да санаторыя ў галовах адна думка: «хутчэй бы вечар»...

Позна. Дзеці спяць, персанал адпачывае. У адным з нумароў некалькі жанчын вядуць сябе неяк па-змоўніцку: адна ўпотайкі ставіць на плітку невялікую алюмініевую каструльку з вадой, другая ў цэлафанавым пакеце мые пад кранам ва ўмывальным пакоі бульбу, трэцяя, стоячы ля дзвярэй, сочыць, каб не з'явіўся хто чужы. Яны ўсе азнаёмлены з правіламі санаторыя, а там чорным па-белым напісана, што самавольнае карыстанне электрычнымі прыборамі, тыпу пліткі, катэгарычна забаронена!.. У пакоі прыадчынена акно, каб пах выходзіў на вуліцу. І вось ужо больш як дзясятак невялікіх жоўценькіх клубняў варыцца ў алюмініевай каструльцы пад крышкай. Чакаць няма сіл... Нарэшце, бульба ў «мундзірах» гатовая. З гарачай (у руках не ўтрымаць) бульбы, похапкам, дрыжачымі рукамі маладыя жанчыны чысцяць-абдзіраюць

шалупінне. Рукі з бульбінамі адначасна цягнуцца да сальніцы, потым — да ратоў. Моўчкі. Праз нейкую там хвіліну адна са змоўніц выдае:

— Родненькая наша! Залаценькая! А як жа ж мы па табе засумавалі!

— Дзяўчаты, якая смаката! — уздыхае-захапляецца другая.

— Божа, як мала чалавеку трэба! — ківае галавой трэцяя.

— Нішчымная, а якая смачная! — здзіўляецца чацвёртая.

— А мы ж яе так мала цанілі, шанавалі, а жыць без яе, аказваецца, не можам? — падводзіць рыску дыялогу пятая.

Вочы маладых жанчын ззяюць не толькі ад задавальнення, а і ад шчаслівых, горкіх і няпрошаных слёз. Праз мінуту-другую тая ж завадатарка Алёна зграбае шалупінне ў старую газету і гарэзліва звяртаецца да сябровак:

— Дзеўкі, а дзеўкі, а як наконт дранікаў? Яны ж таксама ў вачах стаяць.

Слёзы з вачэй «дзевак» імгненна знікаюць (іх як і не было), і маладзіцы пошапкам абмяркоўваюць план чарговай «аперацыі» пад назваю «Дранікі».

## Начныя змоўшчыкі

Прыехаўшы да бацькоў у вёску, Шура не вытрымаў і на золку, тайком, каб не разбудзіць старых, выйшаў на двор. Пад страхой адрыны віселі лазовыя кашалі і берасцяныя каробкі. Зняў адну з іх — «самую пахватную», як яе называла маці. Ногі самі павялі да весніц на агарод — за ім пачынаўся лес. Змалку, разам з братамі і сёстрамі, бацькамі, ён бегаў-хадзіў у ягады, грыбы, па арэхі, жалуды. Ведаў (як і ўсе ў іх сям'і) кожнае грыбовішча, самыя ягадныя мясціны, урадлівыя ляшчыны і старыя дубы-волаты ва ўрочышчы Будзішча пад Дубровіцай. Лясныя дармовыя (толькі не лянуйся) дары: сушаныя, вараныя, настоеныя, закатаныя не пераводзіліся ў іх хаце. Без лесу яны не ўяўлялі сабе жыцця. А пасля той, праклятай Чарнобыльскай аварыі ён стаў небяспечным. Да ўсяго, што ў ім расло, нельга было нават дакранацца, не тое, што ўзяць ды есці. Але дзе ж тут утрымаешся? У лес цягне нейкая невядомая сіла. Вось жа ён, здаецца, такі самы, як быў да таго ліха. Праўда, такі ды не такі: штосьці ў ім змянілася.

Шура агледзеў знаёмыя змалку мясціны і хутка зразумеў у чым справа: у лесе не было ні кароў, ні людзей. Колькі год назад шэсць пасялковых статкаў кароў пратоптвалі вузкія сцежкі нават у самым гушчары. Яны ж збівалі шляпкі грыбоў, раструшчвалі іх. Ён успомніў, як старэйшы брат Міша будзіў яго і меншую сястру на золку, каб жа «да кароў» абабегчы ўсе грыбовішчы. А цяпер тыя мясціны не пазнаць — пазарасталі травой, хмызняком. Не сустрэў ён і грыбнікоў, якіх да аварыі ў лесе было, як тых грыбоў.

Ён абышоў усе, якія ведаў, грыбныя мясціны (яны сніліся па начах) і набраў поўную каробку маладых баравікоў і падасінавікаў. Старых, якіх было процьма, не чапаў. Калі прынёс дахаты, бацькі вельмі здзівіліся: як да аварыі... (Пасля аварыі, маці і бацька, пастарэўшыя неяк ураз, баяліся хадзіць у лес.) Налюбаваўшыся ляснымі дарункамі, селі ўтрох перабіраць: пяшчотна абмацваючы і з асалодай нюхаючы кожны грыб. Часам бацькі пыталіся, на якім грыбовішчы ён узяў таго ці іншага красуна, і Шура адказваў... Калі закончылі перабіраць, сын адсыпаў трэцюю частку грыбоў і сказаў: «Шуры пакажу (жонка — таксама Шура), хай пацешыць душу, яна ж такая ж заўзятая грыбніца, як і я», — склаў іх у невялікае пластмасавае вядзерца, а яго паставіў ў пакет.

Астатнія грыбы маці акуратненька разлажыла на блясе і засунула ў вытапленую печ. Па прывычцы. (Колькі ж тых блях з грыбамі яна пацягала за сваё жыццё!) Вячэрнім прыгарадным цягніком Шура вярнуўся дамоў, у Хойнікі.

— Паглядзі, што я прывёз, — адкрыў ён пакет на кухні, паказаў жонцы — дзеці забаўляліся ў пакоі. Шура, убачыўшы грыбы, ціха войкнула і хуценька закрыла пакет: дзеці пабачаць, грыбоў захочуць, яны ж іх смажанымі так любілі…

— Палюбуйся, адвядзі душу, тады занясу на сметнік, — сказаў ён, а сам вінавата глянуўшы на жонку, пайшоў да дзяцей. Тая адкрыла пакет, з асалодай нюхала грыбы — іх водар ажно закружыў галаву, потым хуценька закрыла і схавала пад стол. На вочы накаціліся няпрошаныя слёзы...

Вечарам, калі паўкладвалі спаць дзяцей, Шура дастала з-пад стала грыбы, памыла іх у некалькіх водах, у адной дык з воцатам, потым адварыла ў трох водах, кожны раз зліваючы, пасля пасмажыла пад накрыўкай, дадаўшы цыбулі, лаўровага лісту, перцу. Пакуль управілася з грыбамі, наступіла ноч. Шура не спаў. Чакаў. Дачакаўшыся, раўнадушны да пітва, паставіў на стол бутэльку з гарэлкай. Моўчкі наліў у кілішкі грамаў па пяцьдзясят: Шура не пярэчыла.

Моўчкі выпілі, моўчкі накінуліся на грыбы, быццам век не бачылі. Елі ўпотай, пазіраючы на дзверы кухні, баючыся, што ад грыбнога паху прачнуцца дзеці і таксама захочуць гэтай лясной смакаты: нельга ж!..

…Хойнікі. Ноч. У трохпакаёвай кватэры мікрараёна «Меліяратар» на кухні за чыстай патэльняй сядзяць двое і мараць аб часе, калі яны, не хаваючыся, будуць есці любімыя з дзяцінства грыбы.

## Буракі

Санаторый пад Мінскам. Сюды вывезлі дзяцей з настаўніцамі з забруджаных радыяцыяй вёсак. Дзеці, занятыя рознымі гульнямі, экскурсіямі, спаборніцтвамі, лічылі, што яны проста адпачываюць у летнім лагеры, а потым паедуць дамоў. А вось іх настаўніцы…

Як толькі іх не называлі там, куды яны трапілі не па сваёй волі (без ценю абразы, спачуваючы): чарнобылькі, бежанкі, эвакуіраваныя, перасяленкі, а яны, спакутаваныя, спалоханыя, прыгаломшаныя нудзіліся па сваіх дамоўках, па сваіх садах-агародах, па сваёй жыўнасці, па ўсім, чым яшчэ нядаўна жылі. А яшчэ — па працы, цяпер жа яны былі беспрацоўнымі...

— Дзяўчаты, а дзяўчаты, давайце папросімся, каб нас паслалі буракі палоць. Чаго мы тут сядзім без справы? — прапанавала Аляксандра, настаўніца Восаўскай пачатковай школы, сваім калегам з Партызанскай сярэдняй.

— І сапраўды, мы ж не ўломкі якія. Бач, адкармілі нас тут, як на курорце. Трэба ж і сумленне нейкае мець. Пайшлі да дырэктара санаторыя — няхай патэлефануе ў бліжэйшую гаспадарку, — падхапіла яе калега Алёна з Хойнік. Мы ж там і пячонікаў зможам напячы…

Сказана — зроблена. Пайшлі ўсім гуртам. Дырэктар выслухаў жанчын і набраў нумар тэлефона аднаго старшыні калгаса...

Назаўтра ўжо раніцой каля санаторыя стаяў старэнькі ЛАЗ. Як некалі, калі самі былі вучаніцамі і спяшаліся на калгасныя палеткі на ўборку буракоў, бульбы, морквы (толькі б не вучыцца), так і зараз, але ўжо настаўніцы-жанчыны навыперадкі займалі месцы ў аўтобусе. Ажыўленыя, павесялелыя, ахвочыя да працы на зямлі, усю дарогу, пакуль ехалі да бліжэйшага прыгараднага калгаса, спявалі песні, як звычайна рабілі дома, ідучы ў поле.

Калі пад’ехалі да канторы, дзе іх сустрэў кіраўнік гаспадаркі разам з аграномам і брыгадзірам, самая смялейшая Алёна адразу ж папрасіла ў гаспадароў вядзерца бульбы на пячонікі. Тое «вядзерца» (паўмеха) разам з абедам з калгаснай сталоўкі пазней, услед за аўтобусам, на поле прывёз аграном. Ён жа і расклаў вогнішча, потым сачыў, каб бульба спяклася як след, не ператварылася ў вуголле ў гарачым прысаку.

Абед абедам, а печаная бульба, або — пячонікі!.. Па іх так засумавалі... Назад вярталіся таксама з песнямі. Так і ездзілі, пакуль не апрацавалі ўсе выдзеленыя дзялянкі з буракамі. І кожны дзень пяклі пячонікі, якімі ласаваліся на полі, і якія забіралі з сабой.

Працавалі жанчыны далёка ад дому, ад сваёй зямлі. Пасябравалі з мясцовымі людзьмі.

А тыя бураковыя дзялянкі, на якіх шчыравалі жанчыны з Хойніцкага раёна, празвалі «чарнобыльскімі».

## Чужакі

Радаўніца сабрала ў выселеную вёску былых яе жыхароў, расселеных па многіх раёнах рэспублікі. Ехалі на аўтобусах, на сваіх аўтамабілях, на спадарожных: і тыя, каго выселілі падчас эвакуацыі, і тыя, хто яшчэ задоўга да яе па розных прычынах паехаў жыць у іншыя месцы. Спакон веку ў гэты дзень жывыя спяшаліся да магіл родных...

Сям’я Базылёвых на ўласным «Жыгульку» пасля таго, як адведала могілкі, накіравалася да сваёй хаты. Хіба ж можна было прыехаць бог ведае адкуль і не праведаць роднае селішча?.. Гаспадыня адразу пайшла ў хату, а гаспадар застаўся на падворку, потым рушыў да гаспадарчых пабудоў. Вось ён шырэй адчыніў дзверы, дзе некалі ўтрымлівалася карова, і якія, калі пакідалі вёску ў спешцы, не зачынілі як след хлеў, толькі намерыўся ступіць усярэдзіну, ды не паспеў, адхіснуўся: чародка паласатых парасятак кінулася з-пад ног углыб будыніны, за цялячую загарадку, дзе хтосьці шумна варушыўся і парохкваў. Перасільваючы страх, гаспадар зазірнуў за загарадку і анямеў: за ёю на зляжалай саломе варушылася вялізная дзікая свіння, а да яе ціснуліся паласатыя парасяткі. Мужчына вачыма палічыў паласацікаў — сямёра. Свіння, пачуўшы чалавека, падняла галаву, навастрыла вушы і пачала неспакойна варочацца і пагрозна рохкаць. Гаспадар стрымгалоў выскачыў з хлява і кінуўся ў хату, напалохаўшы сваім выглядам жонку.

— Што здарылася? — спытала тая.

Крыху супакоіўшыся, ён расказаў, што ўбачыў у хляве. Жанчына таксама сумелася: як цяпер выбірацца з селішча? Праз нейкі час, паназіраўшы з веранды праз акно за падворкам і хлявом, не заўважыўшы нічога падазронага, гаспадары дома асцярожна, каб не грукнуць хатнімі дзвярамі, каб не рыпнуць рассохлымі маснічынамі ганка, ціха прайшлі да машыны, селі ў яе... Толькі ад’ехалі ад двара, як жонка, азірнуўшыся і паглядзеўшы на селішча, нема залямантавала:

— Вой, людзечкі!.. Вой, хутчэй!..

Гаспадар глянуў у бакавое люстэрка, пабачыў, што за іх аўтамабілем, нагнуўшы галаву, гоніцца вялізны гарбаты вяпрук. Але дзе там!..

Ужо добра ад’ехаўшы, гаспадар мовіў: «Хай, цяпер гэта яго ўладанні, тут яго сям’я. А мы, людзі, пакуль тут чужыя. Пакуль што...»

## Чарнобыльскія капцы

Капцы людзі ладзілі кожную восень, адразу пасля таго, як з поля ўбіралі ўсю бульбу. Адкрывалі вясной, перад сяўбой. Капцы былі пры кожнай хаце. Дакладней — на кожным агародзе за хатай. Без іх не абыходзіўся ніводны гаспадар. Яны былі зарукай упэўненасці ў заўтрашнім дні. Той хто меў капец, быў спакойны, што вясной будзе чым пасеяць...

Людзей і рагатую жывёлу — сваю і калгасна-саўгасную, пасля таго, як аб’явілі эвакуацыю, вывозілі некалькі дзён. Вёскі апусцелі, капцы былі раскрытыя і прыадкрытыя, ля іх стаялі, ляжалі мяшкі з бульбай, якую перад гэтым набіралі, каб пасадзіць на агародах... Стаялі, ляжалі, убіралі ў сябе нябачную воку, нячутную вуху страшэнную заразу, якая звалася нейкімі ізатопамі, а болей зразумела — радыяцыяй.

Дзікія свінні ў хуткім часе агледзелі бульбу. Спачатку яны ласаваліся той, што была ў адкрытых капцах і пры старой агароджы, якую яны лёгка трушчылі-пераадольвалі. Калі апустошылі іх, узяліся за закрытыя — лычамі разрылі іх.

Знаходкі хапіла ўсім да самых халадоў. Добра ад’еліся. Потым зноў прыйшлося вяртацца ў лес на падножны корм. А на месцы былых капцоў засталіся толькі абсыпаныя ямкі, якія з часам зраўняліся з чыстым полем.

## Дзіва на сасне

На старой сасне за пераездам аўрамаўцы прывыклі бачыць буслоў. Пасяліліся яны на ёй даўным-даўно, яшчэ да вайны. Старая Манарховічыха, каля хаты якой якраз і стаяла тая сасна, сама не ведала колькі год дрэву. Затое з маленства ад свайго бацькі ведала, як і калі на той сасне пасяліліся буслы...

Гэта было яшчэ да яе нараджэння. Калісьці яе бацька разам са сваім бацькам, а яе дзедам, з цяжкасцю зрэзалі вяршаліну сасны. Потым на доўгіх вяроўках усцягнулі на дрэва кола і замацавалі яго. Кола стала своеасаблівым адзёнкам для будучага буслінага гнязда.

Замацаваўшы як след «фундамент», мужчыны на тых жа вяроўках паднялі на кола добры абярэмак старога сухога бульбоўніку: было гэта якраз восенню, пасля таго, як выкапалі бульбу. А ўжо вясной усе вяскоўцы бачылі, як высока ў небе над сасной кружылі некалькі пар буслоў, не рашаючыся апусціцца на прыгатаванае для кагосьці з іх жыллё. Кружылі некалькі дзён і аднойчы людзі ўбачылі, як адна пара асцярожна села на кола, на зляжалы на ім за зіму бульбоўнік.

Спачатку, распавядаў бацька жанчыны, на гняздо апусціўся бусел — ён быў прыкметна большы за сваю сяброўку. Пакружыўшыся і ўпэўніўшыся, што яму нічога не пагражае, неўзабаве на кола побач з ім апусцілася бусліха. Пара доўга стаяла на коле, аглядваючы гняздо і наваколле. Мабыць, ім усё спадабалася, бо пасля буслы дзён пяць-шэсць з ранку да вечара насілі ў гняздо ў дзюбах розныя галінкі. Час ад часу рабілі перапынкі, стаялі ў гняздзе і клекаталі.

Потым людзі назіралі, як буслы жылі... Прыкмячалі: калі бусел стаяў у гняздзе на адной назе, або хаваў доўгую чырвоную дзюбу пад крыло, то трэба было чакаць непагоду... Пазней, калі вывеліся птушаняты, захапляліся, якія буслы руплівыя і клапатлівыя бацькі: з ранку і да вечара па чарзе ляталі на балота па ежу сваім буслянятам. Яе прыносілі ў сваіх доўгіх дзюбах, а, бывала, адрыгвалі ў раскрытыя раты-дзюбкі.

Птушаняты раслі, а праз нейкі час пад прыглядам бацькоў станавіліся на крыло і пакідалі гняздо.

Міналі гады, паступова аўрамаўцы, асабліва тыя, што жылі паблізу Манарховічаў, прывыклі бачыць буслоў. Велічныя, грацыёзныя птушкі таксама прывыклі да людзей, часам нават садзіліся на дахі дамоў і хлявоў.

Людзі таксама заўважылі, што буслы з году ў год прыляталі з выраю якраз на Дабравешчанне — 7 красавіка. Буслінае суседства людзям было даспадобы: гэтае карыснае божае стварэнне нішчыла жаб, змей і вужоў. А яшчэ людзі былі ўпэўнены, што там, дзе жывуць буслы, не лятаюць каршуны (яны ж знішчаюць хатнюю птушку, асабліва курэй). Жыхары станцыі добра ведалі, былі ўпэўнены і ў тым, што гэта добры знак — там, дзе пасялялася бусліная сямейка, сярод людзей будзе панаваць шчасце, паразуменне і дабрабыт. Дзеці ад сваіх бацькоў, а тыя ад сваіх цвёрда засвоілі, што буслоў патрэбна шанаваць і, не дай божа, забіць. Гэта быў страшэнны грэх. Таго, хто гэта зрабіў, чакала жорсткая кара, суцэльныя непрыемнасці. З пакалення ў пакаленне старэйшыя людзі гаварылі малодшым, што буслы разумеюць чалавечую мову, плачуць, як яны самі, сапраўднымі слязьмі і вельмі помслівыя. За парушанае гняздо могуць нарабіць вялікай шкоды — спаліць хату ці цэлую вёску, кінуўшы на дах палаючую галавешку, якую выцягнуць дзе з кастрышча.

А яшчэ казалі пра вялікую буслiную вернасць: маўляў, калі здаралася, што гінуў адзін з пары, то другі таксама не заставаўся жыць. І тады буслінае гняздо пусцела...

Даўно адышла на той свет, аджыўшы сваё, бабуля Манарховічыха... Рабочы пасёлак пры станцыі стаў называцца вёскай Партызанскай... Выбухнуў Чарнобыль, а старая сасна з буслiным гняздом на ёй як стаяла дзясяткі гадоў да гэтага здарэння, так і працягвала стаяць. З буслiным гняздом і бусламі, якія вясной прыляталі сюды з выраю. Праўда, людзей у вёсцы пасля той бяды значна паменшала: хто перасяліўся сам у больш чыстае месца рэспублікі, хто з’ехаў да дзяцей, каго завезлі на бліжэйшыя могілкі. Але на Радуніцу кожны год тыя, хто пакінуў гэтыя мясціны, вярталіся да магіл сваіх продкаў. І кожны раз тыя, хто ведаў гісторыю старой сасны і буслiнага сямейства на ёй, па даўняй звычцы ўзнімалі галовы, каб паглядзець — ці пасяліліся буслы зноў...

Праз гадоў дзесяць пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, адна сям’я, што жыла раней побач са старой Манарховічыхай, заехала праведаць сваё старое селішча і, як заўсёды, глянуць на буслоў. Але замест прывычнай галоўкі буслiхі, якая павінна была ўжо выседжваць патомства, і бусла, які павінен стаяць побач, людзі пабачылі галаву, ды не той птушкі.

— Божа, няўжо радыяцыя так змяніла бусліху?! Божа мой міласэрны, а што ж ты з ёю зрабіў, за што ты яе пакараў?.. — забожкала старая Міхаліха.

— Чакай, маці, я зараз гляну, хто ета асмеліўся пасяліцца ў чужым гняздзе? — страпянуўся яе зяць Міхась і пабег пад адрыну. З-пад страхі ён зняў драбіны, прынёс да сасны, прыставіў да камля. Потым асцярожна стаў набліжацца да гнязда. Калі ён ужо быў недалёка ад яго, з гнязда ўзнялася і ўзмыла ў неба ў напрамку балота вялікая шэрая птушка. Міхась ад нечаканасці ледзь не зваліўся. І ўсё ж, прылаўчыўшыся, неўзабаве ён заглянуў у гняздо і пабачыў, што яно ўслана пухам, а на ім шчыльненька ляжыць дзевяць даволі вялікіх яек. Ён адразу ж пазнаў чые, бо такія не раз бачыў на балоце, на купінах. Не крануўшы яйкі, Міхась пачаў паціху злазіць назад. А там, пад сасной, ужо сабраліся і іншыя былыя жыхары паселішча.

— Ну, адгадалі, хто пасяліўся ў буслінým гняздзе? Бачылі, хто зляцеў з яго? — запытаў радню і аднавяскоўцаў Міхась. Тыя стаялі моўчкі, пацiскалі плячыма. Раптам адазвалася старая Міхаліха:

— Бачылі, галубок. Разгледзелі. Дзіва ды і толькі. Гэта ж дзікая гуска. Чаго яе занесла ў буслінае гняздо? На маім вяку такога не страчалася. Праўда, было іншае. Бывала, буслы выкідалі з гнязда яйкі, або птушанят. Яйкі разбіваліся, а птушаняты — не. Тады мы падбіралі птушаня і спрабавалі вярнуць на месца, але дарма — яго зноў скідалі. Гэта было якраз у тыя гады, калі асушвалі навакольныя балоты. Мусіць жа, дарослыя буслы разумелі, што яны не выгадуюць усіх сваіх нашчадкаў, і слабейшага скідвалі... А зараз… Штосьці здарылася з нашымі буслікамі.

— Ды што там здарылася? Нічога не здарылася! Прыляцелі нашы буслікі, паглядзелі, што жыллё іхняе занята і, мабыць, не сталі ваяваць з гускай. Яна ж мо іхняя родзічка, а буслы птушкі мірныя, не ваяўнічыя, ўзялі і паляцелі шукаць іншае гняздо, — бадзёра сказаў хтосьці.

— Людзечкі, дык жа Міхась сказаў, што там ажно дзевяць яек! А гэта ж будзе прыплод у дзевяць галоў! Чакайце: а як жа яны сыдуць на зямлю з такой вышыні? Гэта ж табе не буслы, — пачуўся нечый голас.

— Ды каб жа даў Бог вывеліся, — занепакоілася Міхаліха. — Кажуць жа, што некаторыя птушкі, калі пабачаць, што нехта чужы лазіў у іхняе гняздо, могуць яго зрачыся. Хоць бы тая гуска назад вярнулася, хадземце, людцы, паехалі — не будзем пужаць яе. А маленькія падрастуць і як-небудзь пазвальваюцца на калматыя галінкі сасны, а з іх ужо на зямлю. Потым матка павядзе іх да бліжэйшага балотца. Калі ўжо ўзбілася так высака, дык пра штосьці ж думала. Няхай ужо хоць гусі пакуль тут жывуць — усё ж жывыя істоты. А буслы прыляцяць! Не старыя, дык новыя! Куды дзенуцца? Жыццё ёсць жыццё — яно павінна працягвацца! — сядаючы ў зяцеў аўтамабіль, казала Міхаліха.

Мінуў год, наступіла новая Радаўніца, і зноў да ўсіх могілак пацягнуліся людзі. Міхась з жонкаю і цешчаю, адведаўшы магілы родных, заспяшаліся да сасны. Яшчэ здалёк з акон аўтамабіля яны ўбачылі на ёй у старым гняздзе такія родныя постаці буслоў.

— Ну, во, малайцы! Першыя прыляцелі, першыя і занялі сваё законнае месца, — узрушана закрычаў Міхась.

— А можа, гэта не яны, а іх дзеткі? — засумнявалася яго жонка.

— А мая ты, донечка, дык гэта яшчэ і лепш, значыцца, дзеці запомнілі месца, дзе нарадзіліся, і вярнуліся на зямлю сваіх бацькоў. А потым ужо іх дзеці сюды прыляцяць. Слава Госпаду, што яны зноў у сябе дома. Значыць, і мы некалі вернемся, — па зморшчанай шчацэ старой Міхаліхі пакацілася сляза радасці.

## Чарнобыльскія сабакі

Яек былі поўныя кублы, іх нельга было браць, спажываць — радыяцыя!..

А куры, пакінутыя гаспадарамі каля гурбак збажыны пасярод двароў, спраўна несліся. Нясушкі ўзляталі на свае кублы, перапоўненыя яйкамі, уладкоўваліся на іх, скідаючы рэштку на зямлю. Тыя падалі, разбіваліся.

На іх пах да кублаў унадзіліся галодныя, здзічэлыя сабакі.

Гусі і індыкі таксама раскашавалі каля пакінутых горак збажыны. І таксама неслі яйкі. Іх кублы знаходзіліся бліжэй да зямлі і трапілі першымі пад разарэнне пакінутых людзьмі сабак.

Падчас эвакуацыі людзям казалі, каб яны паадвязвалі сабак з ланцугоў. Пакуль ішла эвакуацыя сабакі бегалі каля сваіх двароў, потым доўга беглі за аўтобусамі, у якіх немаведама куды везлі іх гаспадароў. Ды дзе там... Вярнуўшыся на свае падворкі, сабакі сталі іх сцерагчы і чакаць гаспадароў дамоў. А тыя ўсё не вярталіся... Спачатку сабакі жывіліся яйкамі, што падалі на зямлю з кублаў і скрынак-гнёздаў, а потым, калі скончыліся яйкі, пачалі паляваць на хатнюю птушку. Птаства было вельмі багатае: куры, цэлыя чароды гусей, качак, індыкоў. Кароў і свіней у людзей прыняла дзяржава, а куды падзяваць гэтую драбнату, уключаючы трусоў, ніхто не ведаў. Так і засталіся чароды свойскай птушкі на пакінутых людзьмі падворках. На радасць сабакам.

Адвязваючы сваіх чатырохногіх вартавых, гаспадары паадкрывалі і клеткі з трусамі. Яны разбегліся, але ўсё-такі трымаліся паблізу селішчаў. Пастунова сабакі адлавілі і з’елі іх. Урэшце, чарга дайшла і да старых індыкоў і гусакоўважакоў, што да апошняга адбіваліся ад ненажэраў. І тады сабакам давялося паляваць на розную дробязь: мышэй, дзікую птушку...

Міналі год за годам, а гаспадары так і не вярталіся ў свае дамы: людзям нельга жыць так блізка ад таго «пекла» — Чарнобыльскай АЭС. Не стала хатняй птушкі, трусоў, а з часам паздыхалі і сабакі.

Магчыма, не столькі ад голаду, колькі ад тугі па людзях...

## Яблынькі

Жывучы за сотні кіламетраў ад былога свайго селішча, калгасны заатэхнік Аляксандр Васільевіч са сваёй жонкай пасадзілі некалькі яблынек пры новай хаце, якую ім выдзеліла дзяржава як перасяленцам. Яблынькі прыняліся, год ад году станавіліся ўсё большымі, пачалі даваць першыя плады. Але праз некалькі гадоў гаспадары агледзелі, што адна з іх «сядзіць не на сваім месцы» — зацяняе граду з суніцамі, перашкаджае расці іншай садавіне-гароднiне. Яшчэ год-два і яна «заглушыць» усё навокал (яблыні былі вялікарослыя). На сямейным савеце вырашылі перасадзіць яблыню на іншае месца. Перасадзілі. Гады два яна хварэла: лісточкі па вясне выпускала пазней чым у сваіх сяброўак, была нейкая вялая, цвіла пазней і не так расна, як іншыя. Плады з’явіліся, але былі яны невялікія, чарвівыя, непаглядныя.

Гаспадар хадзіў вакол яе і казаў сваёй жонцы:

— Ну, ты бачыш якое гора?.. Паглядзі на гэтыя яблыкі, якія яны міршавыя. А я ж стараўся ўсе карані акуратненька абкапаць-выкапаць. Але крыху з каранёў прыйшлося абсекчы, немала карэньчыкаў засталося на старым месцы. Але ж гэта яблынька! Да таго ж маладзенькая. А старую вазьмі — перасадзі, лічы — прапала!..

— Не кажы, дрэва ж не расце без каранёў! — сумна казала мужу жонка, маючы на ўвазе людзей, якіх перасялялі. Маладыя сяк-так прыстасуюцца да новых мясцін, а іх бацькі, дзяды, бабулі?..

## «Бацюшка»

*Галоўная і бясцэнная заслуга інакаў для грамадства складаецца ў няспыннай, чынімай імі, малітве пра Царкву, Айчыну, жывых і памерлых. Наяўнасць у нашай краіне манастыроў ёсць выяўленне моцы і сілы рэлігійна-маральнага духу народнага.*

Протаіерэй Уладзімір КОЗАК.

— Бацюшка да нас прыехаў! Бацюшка! Значыць не пакінуў нас Бог адных з бядою! — Маланка, якую на вуліцы інакш і не звалі, як «багамолка», спяшалася апавясціць сваіх таварышак. — Царкву будаваць прыехаў! Людзечкі добрыя, царква ў нас будзе, і туляцца па хатах болей мы не будзем! Ты бачыш, што робіцца на белым свеце? Каб не той пракляты Чарнобыль, дык, можа, і не дажылі б мы да такога дня. Як кажуць: не было шчасця ды нясшчасце дапамагло. Хай Гасподзь мяне прабачыць за такое багахульства, — Маланка рупліва пачала хрысціцца, а потым прадоўжыла:

— Дарагія мае сестры, значыць не дарэмна столькі гадоў святы абраз хавалі, — на вачах ужо даволі пажылой жанчыны заблішчэлі слёзы непадробнай радасці.

— Цяпер і ў нашай іконачкі зноў дом будзе, — загаманілі, ажылі яе таварышкі, такія ж як і Маланка, у гадах жанчыны.

Навіна і сапраўды незвычайная: ажно з 1922 года ў Хойніках не было царквы, спачатку яе зачынілі, а ў 1928 годзе разбурылі зусім, нават фундамента не засталося. Тады ўсе царкоўныя каштоўнасці былі канфіскаваны ў фонд «галадаючых і бедных», іконы разрабаваны, а некаторыя выкінуты на сметнікі. Царкоўны прыслужнік Тарасій Дашук падабраў адну з іх. Гэта была незвычайная ікона — хойніцкія вернікі добра ведалі адкуль яна ўзялася на іх зямлі і былі ўпэўнены ў яе цудадзейнай сіле.

Яшчэ у 1700 годзе хойніцкая княжна, дачка ўдзельнага князя Шуйскага, выйшла замуж за прадстаўніка вядомейшага роду Трубяцкіх і паехала ў Бранскую губерню, у горад Трубчэўск. А ў Хойніках яе муж, князь Трубяцкі, у 1705 годзе пабудаваў сабор у гонар Пакрова Божай Маці і падараваў храму багацейшы іканастас. Ікона, якую знайшоў Тарасій, была аднаго пісьма з тымі, што ўваходзілі ў склад іканастаса і называлася «Жыватворнае Неба». Слуга Божы схаваў абраз у сябе дома ў вёсцы Губарэвічы. Потым ікона пераходзіла з сям'і ў сям'ю, з хаты ў хату, з вёскі ў вёску. Дзе толькі і як не хавалі ад улады сваю святыню людзі: на гарышчах, у зямлі, у лясах. Пасля Губарэвіч яна пабывала ў Веляціне, Стралічаве, зноў у Хойніках. Апошнія 15 год захавальніцай іконы была жыхарка Хойнік Аляксандра Мікалаева (у будучым манахіня Сафія).

І вось — такая ашаламляльная навіна! Пасля Чарнобыльскай трагедыі айцец Уладзімір атрымаў запрашэнне Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта і прыехаў на зямлю беларускую з суседняй — украінскай, са старадаўняга Чарнігава, спецыяльна будаваць царкву! Вестка «абляцела» ўсе навакольныя вёскі, людзі казалі, што, мабыць, Бог пачуў малітвы тых, хто з-за адсутнасці сваёй царквы вымушаны былі ездзіць да бліжэйшых — у Васілевічы, ці той жа Чарнігаў.

Хайнічане ўпершыню ўбачылі айца Уладзіміра — «бацюшку», як яны сталі яго называць у першыя ж дні, калі ён дапамагаў эвакуіраваць дзяцей з раёна. Ён снаваў сярод людзей, суцяшаў іх, а калі аўтобусы з дзецьмі кіраваліся з плошчы на выезд з горада, крыжаваў ім услед і чытаў малітвы. Ніхто не чуў, аб чым святар прасіў Госпада — на плошчы стаяў гнятлівы голас дзяцей і іх бацькоў, які перакрываў і шум заведзеных матораў, і роў сірэн міліцэйскіх машын — патрульных аўто ДАІ. У тым вэрхале ніхто асабліва не звяртаў увагі на маладога хударлявага мужчыну «ў чорным халаціку» — сутане, і такім жа чорным капялюшыку — клабуку: не да яго было.

Потым яго прыкмячалі ўсюды: на вуліцах, у дварах дамоў, у прысутных месцах, а часцей за ўсё за старымі гарадскімі могілкамі, дзе быў гушчар з груш-дзічак і шыпшыны... Гэтае месца было выдзелена пад будаўніцтва царкоўнай спаруды. Вось тут жыхары гарадка пазнаёміліся з ім бліжэй, бо

тут бацюшка і пачаў першыя богаслужэнні. Летам яшчэ сяк-так, а зімой на чатыры слупкі ён нацягваў цырату — так і служыў: свечкі людзі ставілі ў снег... Побач жа ў гонар іконы Пакрова Божай Мацеры, будавалася царква. Усёй грамадой. І іхні бацюшка разам з некалькімі бабулькамі, сярод якіх была і знаёмая нам Маланка, прымаў удзел у ачышчэнні тэрыторыі пад храм.

Хайнічане-добраахвотнікі, якія не пакінулі горад, спрыялі маладому святару ва ўсім: з ежай, прытулкам, і з самой будоўляй, дапамагалі і мясцовыя прадпрыемствы. Калі храм быў узведзены, з Санкт-Пецярбурга і Кіева прыехалі мастакі: пецярбуржцы працавалі над роспісам унутранага ўбранства храма, а кіяўляне — над іканастасам. Яго пісалі ў старажытнарускім стылі, як пісалі яшчэ ў далёкім XII стагоддзі.

Калі будаўніцтва Пакроўскай царквы завяршылася, у святую абіцель вярнулася і стала яе галоўнай святыняй ікона Божай Мацеры «Жыватворнае Неба», гісторыя якой налічвала на той момант амаль 300 гадоў.

Радасці хойніцкіх вернікаў не было мяжы — у іх цяпер быў свой храм з сямю залатымі купаламі, якія атаясамлялі сем таямніц Святой Хрыстовай Царквы. Мала хто з іх ведаў, якою цаной усё гэта рабілася: тагачасныя чыноўнікі-атэісты намагаліся падагнаць царкоўны навабуд пад свой капыл: ніякіх купалаў у золаце, ніякіх крыжоў над царквой, а дах каб руберойдам быў пакрыты! — такія «парады» атрымаў айцец Уладзімір, калі ўпершыню прадставіў свой асабісты праект новабудоўлі тым, хто даваў «дабро» на яе ўзвядзенне. Казалі, што ён тады кінуўся ў Мінск, да Мітрапаліта Філарэта. А той, выслухаўшы хойніцкага настаяцеля, наклаў сваю рэзалюцыю на яго праект: «Як на райвыканкаме павінен быць сцяг, так на царкве павінен быць крыж!»

Вось так і не інакш. Коратка і ясна! І іх «бацюшка» не адступіўся ад таго, у чым і сам быў упэўнены, хіба што галоўны купал, які па праекце павінен быў быць вышэйшым яшчэ на чатыры метры, «прысадзіў», каб не так вытыркаўся і не мазоліў вочы чыноўніцкаму люду. Ён іх не асуджаў: яны выконвалі сваю работу, верылі ў свае ідэалы, у навуковы атэізм, а зараз (у той час) укаранялі яго ў жыццё. Вольнаму воля, як кажуць. Для яго ж галоўнае быў факт, што ў той чорны час пасля асвячэння Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам Божы храм адчыніў дзверы сваім вернікам, якім так патрэбна была вера і надзея на дабро, на тое, што боская ласка вернецца на іх родную зямлю і што адчайвацца хрысціянам ніяк нельга, бо гэта для іх адзін з найвялікшых грахоў.

Дзесьці праз год пасля пачатку работы прыходу пры царкве быў створаны жаночы манашы скіт. Яшчэ праз некалькі — пабудаваны невялікі дамавы храм у гонар роўнаапостальнага князя Уладзіміра. Рашэннем Сінода Беларускай Праваслаўнай царквы скіт быў ператвораны ў жаночы манастыр, у якім пачало адбывацца кругласутачнае набажэнства. Тут жа была адкрыта дзіцячая царкоўнапрыходская Чарнобыльская нядзельная школа. Манастыр стаў служыць духоўным цэнтрам у зоне, духоўна ўзбагачаць жыхароў горада і раёна, паломнікаў з усёй Беларусі, і не толькі з яе — усіх, хто сюды прыходзіў і прыязджаў.

А потым быў пастырскі візіт у Беларусь Свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсея Русі Алексія. Ён быў прымеркаваны да дзвюх трагічных дат у гісторыі краіны: 60-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны і 15-годдзя з дня аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Свяцейшы Патрыярх не абмінуў хойніцкую царкву і яе насельнікаў. Манастыру, як найвялікшае прызнанне яе заслуг перад Богам і людзьмі, была прыпаднесена ў дар Казанская ікона Божай Мацеры

з патрыяршым блаславеннем. Хайнічане назаўсёды запамяталі яго словы, якія так неабходны былі для іх і тады, і зараз:

*«Несмотря на то, что ваша обитель находится в опасной зоне, — сказаў інакіням Святейшы Патрыярх, — несмотря на то, что многих жителей этих мест отселяли, вновь построенный Покровский храм уже в течение многих лет после Чернобыльской аварии вселяет в людей мужество, дает им духовную поддержку. Молитвенный подвиг насельниц обители помогает верующим преодолевать обрушившиеся на них трудности. Верю, что Покров Царицы Небесной простирается над этим местом, над этим храмом, над всеми, кто приходит сюда на общую церковную молитву».*

За гады паслячарнобыльскага сумеснага пражывання бацюшка з Чарнігава і жыхары маленькага гарадка на поўдні Гомельшчыны сышліся вельмі блізка. Ведаў ён не толькі многіх жыхароў горада, але і раёна. І людзі ішлі ў царкву, знаходзілі ў яго не толькі суцяшэнні ў сваіх жыццёвых бедах і непаладках, але і парады.

Калі ў Хойніках вырашалася, дзе ставіць помнік загінуўшым і пахаваным вёскам раёна, то не ў апошнюю чаргу і яго намаганнямі вызначылі: каля Пакроўскай царквы...

Праз 25 гадоў каля сваёй «Пакровачкі» і помніка Смутку, які вырас побач з царквой, айцец Уладзімір у складзе афіцыйнай дэлегацыі прыняў удзел у пасадцы 25 дрэў, якія сімвалізавалі 25-годдзе з таго жахлівага 1986 года… Тады ж ён і завяршыў сваю святую місію на шматпакутнай хойніцкай зямлі. З гэтай нагоды раённая газета «Хойніцкія навіны» пісала:

*«Пасля 25-гадовага бездакорнага служэння царкве, пераемнікам заснўніка і настаяцеля Пакроўскай царквы протаіерэя Уладзіміра Козака, змяніўшага месца жыхарства, Прэасвяшчэннейшым Стэфанам, епіскапам Тураўскім і Мозырскім, настаяцелем Пакроўскай царквы прызначаны 21 кастрычніка айцец Анатоль, у свеце Анатоль Іванавіч Кісель».*

25 гадоў таму ён дабіраўся з Украіны ў Беларусь, у Хойнікі, на пароме (тады не было мастоў цераз Прыпяць і Дняпро, як цяпер).

Свайго дарагога «бацюшку», які так шчыра і самааддана служыў ім у найцяжэйшыя для іх гады, хайнічане праводзілі, як кажуць, усім мірам і крыжавалі яму ўслед, як ён у далёкім 1986 крыжаваў аўтобусы з іх дзецьмі і ўнукамі...

Хутка у Сеціве з’явіліся паведамленні пра пачатак будаўніцтва ў Чарнігаве храма Пакрова Прасвятой Багародзіцы, настаяцелям якога прызначаны протаіерэй Уладзімір Козак.

Бацюшка зноў будуе, зноў дае праваслаўным надзею на мір, дабро, ратаванне…

Цяпер ужо ад братазабойчай вайны.





Анатоль ЗЭКАЎ

# Я НЕ ВЕРУ ГАРАСКОПАМ

## НІКОЛІ...

*Наўздагон Рыгору Барадуліну*
*і Генадзю Бураўкіну*

Усё на зямлі гэтай сконна —
імкліва жыццё пралятае.
Ніколі Вушачы й Расоны
сыноў сваіх не прычакаюць.

Каб кут свой радзінны адведаць,
Рыгор і Генадзь ужо болей
сюды, як раней, не прыедуць
адны і з сябрамі ніколі.

Ніколі, ніколі, ніколі —
а гэта вякамі ўжо, значыць,
Расонам у сэрцы жыць з болем,
жыць з болем у сэрцы Вушачам.

---

***Зэкаў Анатоль Мікалаевіч*** *нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Пасля заканчэння гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1977) працаваў карэспандэнтам гомельскай раённай газеты «Маяк», у рэдакцыях газет «Чырвоная змена», «Книга и мы», «Добры вечар», «Беларускай лясной газеты», часопісаў «Вожык», «Полымя», «Вясёлка», у выдавецтве «Мастацкая літаратура».*

*Выдаў кнігі паэзіі «Боль сумлення» (1989), «Промнік позірку твайго» (2008), «Пад кронай белых аблачын» (2013), «Белае сонца бяроз» (2016), сатыры і гумару «Дуэль» (1994), «Дуэль-2» (1995), «Кругі ў галаве» (2007), «Вінегрэт пад фуршэт» (2015), «Тары-бары» (2015), «Замарожаныя пачуцці» (2015), прозы «Вясельнае падарожжа ў Стамбул» (2000), «Генеральскі нумар» (2011), для дзяцей «Чатыры зярняткі» (2000), «На арэхавым кані» (2003), «Зязюля Гулюля» (2011), «Не казкі пра Сашку» (2013), «Безбілетны Зай» (2014), «Азбуку мядзведзь вучыў» (2015) і інш.*

* * *

Пральюць дажджы,
запахне хлебам,
і прыйдзе адчуванне  ўсё ж:
на той зямлі застацца трэба,
дзе калісь бегаў басанож.

Яно прыходзіць не адразу,
а найчасцей тады,
калі
у нас хапае толькі часу
навек застацца ў той зямлі.

## У ДЭЛЬФІНАРЫІ

Быццам нешта нам павінны,
хоць і не віноўныя ні ў чым,
спрытна гойсаюць дэльфіны —
пляскаюць у ладкі гледачы.

То ў вадзе гарэзы скачуць,
то спяваюць хорам на «ура».
Дрэсіроўшчык ім аддзячыць —
пачастуе рыбаю з вядра.

Гледачы гукаюць: «Брава!»,
а дэльфінам юркім — хоць памры:
так абрыдла гэта слава,
як і ўсе іх трукі-нумары.

Ім, рахманым і пакорным,
хоць бы ўжо на старасці гадоў
хочацца ныраць у моры
ў грамадзе сястрычак і братоў.

А яны ваду, як гліну,
у басейне месяць дзень пры дні.
Разумею я дэльфінаў,
бо іх доля і маёй зрадні.

Я таксама ў тым жа грэшны:
мару жыць па-іншаму, аднак
ад абставін так залежны,
што жыву зусім не так.

* * *

Я выйду з хаты ў ноч —
і агародам
прайдуся ў луг, дзе ў росах травы.
У цішыні свая ёсць асалода.

І на яе мы маем права.

Так, права ёсць у нас.
                                                А абавязкаў
хіба не менш перад прыродай,
каб цішыню наш грукат,
                                                    гам
                                                        і ляскат
не заглушылі назаўсёды?

* * *

І паўвека назад, і сягоння,
як жыццё б мяне ні шкуматала,
ў ім заўсёды хапала ўсяго мне, —
ды ніколі цябе не хапала.

І падзенні былі ў ім, і ўзлёты,
і шчаслівых імгненняў нямала,
бестурботна я жыў, і турботна, —
ды ніколі цябе не хапала.

Не абдзелены ўвагай жаночай
ні ў юначым узросце, ні ў сталым,
о якія былі ў мяне ночы, —
ды ніколі цябе не хапала.

Успаміны ўзвярэдзяць бяссоннем,
і ўсплыве праз іх прызму міжволі
думка, што, хоць хапала ўсяго мне, —
ды цябе не хапала ніколі.

## ЗАКАХАНЫ ТРЫПЦІХ

**1.**

Ты можаш часам уявіць,
ну хоць бы на адну хвілінку,
як мог бы я цябе любіць,
не выпускаючы з абдымкаў?

**2.**

Мне надакучыла няпэўнасць,
і ці змагу далей з ёй зладзіць,
бо гэтак боязна, што вернасць
мая
      табе аднойчы здрадзіць.

**3.**

Пасля цябе наўрад ці
змагу кахаць каго ў жыцці,

бо я такую страціў,
што лепшай болей
не знайсці.

* * *

Да вуснаў тваіх дакрануся —
і жарсцю душу спапяляе.
О, як жа цябе я
баюся!
О, як жа цябе я
жадаю!

Хоць ведаю, што немагчыма,
каб выпала доля такая,
цябе я кахаю вачыма
і вуснамі вусны кахаю.

Душою і целам гарнуся —
нішто мяне ўжо не спыняе.
Адно што —
цябе я
баюся,
баюся —
і ўсё-ткі кахаю!

## ГАРАСКОПЫ

Я не веру гараскопам —
не па іх прывык я жыць,
і мяне ніколі з тропу
гараскоп не зможа збіць.

Гараскоп наабяцае
то любоў, то грошай стос.
Дурань, можа, і чакае
абяцанага ўсур'ёз?

А мяне ён не падмане
ні на ёту, ні на грам,
бо я грошы і каханне
здабываю звеку сам.

Як-ніяк, а ў тым я вопыт
маю не абы-які
і не веру гараскопам —
хай ім верац дзівакі!



**Яўген ХВАЛЕЙ**

# НЕ ПАКІДАЙ МЯНЕ, АЛЯ...*

*Аповесць*

## Частка першая

### 1

Аліна Вітальеўна сядзела ў актавай зале разам з навучэнцамі фінансава-эканамічнага каледжа, у якім яна выкладала беларускую мову і літаратуру. Наперадзе за невялікай трыбунай стаяў лектар, кандыдат эканамічных навук дацэнт Ян Пятровіч Забярэжны. Яго запрасілі ў каледж з універсітэта, дзе ён працаваў, каб прачытаў лекцыю аб эканамічнай сітуацыі ў краіне і расказаў пра інавацыі ў народнай гаспадарцы. Аліна Вітальеўна, ідучы на працу, звярнула ўвагу на прозвішча Забярэжны на дошцы аб'яў, якая вісела ў вестыбюлі каледжа. Прачытала, падумала: «Забярэжны... Забярэжны... Няўжо ён? Але чаму эканаміст, а не біёлаг? Ён жа вучыўся на біяфаку. Усё роўна прыйду, паслухаю лекцыю і ўпэўнюся, ці той гэта Забярэжны, хоць і гадоў прайшло шмат, вельмі шмат — ажно трыццаць...»

Аліна Вітальеўна пільна глядзела на лектара, уважліва слухала — сядзела яна ў апошнім радзе — і гадала: ён гэта ці не? Сярэдняга росту мужчына з вусікамі і кароткай бародкай, крыху пасівелымі валасамі, хударлявым тварам, у зацемненых рагавых акулярах. Чорны элегантны касцюм падкрэсліваў яго стройную паставу. «У паставе і голасе нешта ёсць ад яго. Каб убачыць вочы — яны ўсё сказалі б... Але тады, студэнтам, ён зваўся Іванам, а тут Ян... Хоць гэта адно і тое ж».

---

*__Хвалей Яўген Іванавіч__ нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў вёсцы Белькаўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння Мікалаеўшчынскай сярэдняй школы імя Якуба Коласа (1965) працаваў будаўніком, у рэдакцыі стаўбцоўскай раённай газеты «Прамень». Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсіэта імя У. І. Леніна (1971). Працаваў на Беларускім радыё і тэлебачанні, у выдавецтвах «Народная асвета», «Юнацтва», «Мастацкая літаратура», у часопісах «Крыніца», «Родная прырода», у газеце «Літаратура і мастацтва».*

*Аўтар паэтычных кніг «Ярына» (1979), «Прычасце» (1983), «Зялёны прамень аеру» (1987), «Квадры памяці» (1992), «Прыстань віцінаў» (1996), «Дзе хвалі срэбна-залатыя» (2009), вершаваных казак для дзяцей і аповесцей для юнацтва.*

*Лаўрэат літаратурнай прэміі «Залаты Купідон».*

---

* Часопісны варыянт.

Забярэжны чытаў лекцыю, а яна чакала таго моманту, калі ён скончыць. «Падыду, абавязкова падыду да яго ў канцы. Глянем адно аднаму ў вочы зблізку. І, можа, без слоў усё стане ясным».

Гадзіна прабегла хутка. Лектар сабраў паперы, стаў дзякаваць прысутным. І тады Аліна Вітальеўна ўстала і рушыла наперад паміж радамі крэслаў. Яна ўжо стаяла амаль каля Забярэжнага. Яго абступілі навучэнцы з букетамі кветак, дарылі іх яму. Некалькі выкладчыкаў нешта мовілі Забярэжнаму, пэўна, выказвалі свае ўражанні ад лекцыі.

Ян Забярэжны ўзяў партфель, развітаўся і памкнуўся да дзвярэй. Пакрочыла за ім і Аліна Вітальеўна. На калідоры ўлучыла момант, калі ён застаўся адзін, ціхенька кранула яго за рукаво.

— Гэта ты? — Аліна Вітальеўна была ўжо ўпэўнена: ён.

Забярэжны павярнуўся тварам да яе — іх позіркі сышліся. Нейкі час Ян Пятровіч стаяў моўчкі і раптам амаль усклікнуў:

— Аля!

Яна падала яму руку. Ён з хваляваннем пацiснуў яе, мяккую, цёплую далонь.

Аліна Вітальеўна запрасіла госця ў кабінет беларускай мовы і літаратуры, які знаходзіўся на другім паверсе. Забярэжны ўвайшоў у яго ўслед за ёй. Кінуліся ў вочы некалькі радоў сталоў, каля іх — крэслы. Зараз кабінет быў пусты — скончыліся заняткі. Наперадзе, каля дошкі — стол выкладчыка. На сценах — партрэты беларускіх пісьменнікаў. Каля адной сцяны — шафа з вучэбнымі дапаможнікамі. Забярэжны акінуў позіркам увесь кабінет і стаў глядзець на Аліну Вітальеўну. Яна стаяла насупраць яго, абапершыся рукой на стол. Невысокага росту, крыху папаўнелая, валасы пафарбаваны ў каштанавы колер. «Стрыжка такая ж, як і ў тыя далёкія студэнцкія гады. Вось толькі вакол вачэй з'явіліся маршчынкі. А вочы — гэткія ж светлыя, блакітныя, нібыта неба ўлетку. І ўсмешка, белазубая, шырокая, непаўторная, засталася ўсё той жа». Помніцца, ён ледзь не вар'яцеў ад гэтай усмешкі, калі чарговы раз сустракаўся з Аляй.

— Процьма гадоў прайшла пасля ўніверсітэта... Расказвай, як жылося? — папрасіў Забярэжны, гледзячы ёй у вочы.

— Так, рэкі вады сцякло... Адразу ўсё і не ўспомніш. Адно скажу: я ў гэтым каледжы працую ўсё сваё жыццё. Шмат гадоў выкладаю родную мову і літаратуру. Апошнім часам — яшчэ і завуч.

— І як жа мы ні разу не сустрэліся?! — здзівіўся Ян Пятровіч. — Колькі разоў я праязджаў трамваем каля вашага каледжа!

— Дык, можа, адно аднаго і бачылі, але не пазнавалі. Ты ж ведаеш, як час мяняе чалавека... Студэнтам ты быў русявенькі, кругленькі, а сёння — які ты і хто? — Аліна Вітальеўна шырока ўсміхнулася і паказала на яго сівую, клінам, бародку.

— Каб ты так усміхнулася на прыпынку, я выбег бы з трамвая да цябе, — адказаў на яе жарт Забярэжны.

— Не будзеш жа без дай прычыны смяяцца абы-дзе, — яна паспрабавала далей жартаваць. — Падумаюць людзі: нешта з ёй не тое...

— О, як ты смяялася тады! Ні ў кога са студэнтак усяго ўніверсітэта не было такой усмешкі. З-за яе, па-сутнасці, я і закахаўся ў цябе, — Ян Пятровіч неўпрыкмет станавіўся студэнтам Іванам, якога Аля ведала каля года. — А сям'я якая ў цябе?

— У мяне адзін сын. Сама — удава.

— Як? Што здарылася з мужам? — Забярэжны бліжэй ступіў да Аліны Вітальеўны.

— Муж памёр. Хвароба веку...

— Прабач, — ціха сказаў Ян Пятровіч, шкадуючы, лёгенька абняў яе адной рукой за плечы, быццам тую далёкую юную Алю. Яна і была зараз для яго Аляй, усё роўна як не існавала гэтай прорвы гадоў.

Аліна Вітальеўна на імгненне апусціла вочы. Забярэжнаму вельмі захацелася пацалаваць яе — мацней абняў за плечы. Яна астудзіла яго памкненне, спытала:

— А ў цябе як склаўся лёс? І чаму ты — эканаміст, і Ян, а не Іван?

— Ну, як бачыш, — я дацэнт. А чаму Ян — доўга расказваць... — Памаўчаў. — Здзівілася, што я — эканаміст?

— Надта! Ты ж скончыў біялагічны факультэт. Як стаў эканамістам?

— А вельмі проста — вінаваты час перабудовы. Вось я і перабудаваўся... — скаламбурыў Забярэжны.

— Дык на гэта ж патрэбна была смеласць. Крута мяняць прафесію не кожны здольны... — Аліна Вітальеўна і Забярэжны селі за стол насупраць адно аднаго.

— А ўсё жонка «схімічыла», — усміхнуўся. — Яна ў мяне — кандыдат хімічных навук. Дачулася, што многія рванулі ў эканоміку — прэстыжна, дый час вымагаў гэтага. Трэба было па-новаму будаваць жыццё. А з чаго пачынаецца ўсё будаўніцтва? З эканомікі. «Вось тут і козыр табе», — сказала жонка. — А што, падумаў я, дай паспрабую... Амаль у сорак гадоў зрабіў круты паварот у сваім жыцці...

— А дзе ты працаваў у гэты час? — Аліна Вітальеўна пільней глянула субяседніку ў вочы.

— У Мінску, у Батанічным садзе, а да гэтага крыху настаўнічаў на радзіме, выкладаў у школе біялогію...

— Ну, вядома ж, ты жонцы-кандыдату быў не раўня. Таму яна і ўзялася за цябе...

— Ды справа нават не ў жонцы. Проста я сам адчуў, што здольны на большае. Уведаў, што ў Пецярбургскім універсітэце можна экстэрнам здаць экзамены і там жа абараніць дысертацыю. Добра падрыхтаваўся, і ўсё атрымалася. Тэму дысертацыі выбраў амаль некранутую: эканамічныя інавацыі, — у голасе Яна Пятровіча нават з'явіўся гонар за сябе. Гэта заўважыла і Аліна Вітальеўна.

— І жонка, відаць, была рада за цябе. Як-ніяк зраўняліся ў статусе — абое кандыдаты навук. Дарэчы, адкуль яна, з якой сям'і?

— Гэта асобная гаворка. Яна — мінчанка. А мы з табою — хто? Вяскоўцы. Вось тут, думаю, і ўся закавыка. А яшчэ калі дадаць, што яна з сям'і генерала.

— Ну, не вельмі... І генералы, як і ўсе людзі, рознымі бываюць. І іх дзеці — таксама. Але калі жаніўся, значыць любіў, — сказала Аліна Вітальеўна. — Студэнтам ты быў ціхмяным, сціплым хлопцам. А можа, яна цябе сілаю ў ЗАГС зацягнула?

— Я і сам не ведаю, як усё адбылося. Хадзіў у бібліятэку, у якой працаваў мой аднакласнік і сябар Алесь Машкоўскі. У яго аддзеле тэхнічнай літаратуры я і сустрэў будучую жонку Вольгу — тут яна пісала сваю кандыдацкую. Там усё і пачалося... Па сутнасці, мяне сасваталі. Супрацоўніца аддзела, Ірына, сябравала з Вольгай, яна і стала нашай сваццяй.

— І ўсё-ткі ты па каханні жаніўся, ці...

— Давай пакуль не будзем аб гэтым... Я спадзяюся, што мы цяпер не страцім адно аднаго. Тады пра ўсё і даведаешся... — Ян Пятровіч, адчувалася, нешта задумаў.

— Ты хочаш са мною сустракацца? — раптам запытала Аліна Вітальеўна. — А ці трэба?

— Аля, я не забываў, памятаў цябе ўсё жыццё... — Забярэжны пяшчотна паглядзеў на яе, назваўшы па імені. Гэта кранула Аліну Вітальеўну, і яна працягнула гаворку:

— Такога і ў неверагодным сне не ўбачыш. Дый наогул, ці ў каго-небудзь здаралася падобнае? Праз столькі гадоў прыйсці і слухаць лекцыю майго былога Іванкі... Памятаеш, я называла цябе так?

— Чаму ж не помню. Я ўсё помню, Аля, — Забярэжны зноў назваў яе так, як некалі, калі вучыліся ва ўніверсітэце, узяў за руку, горача глянуў у вочы, рашуча спытаў: — У цябе ёсць мужчына?

— Мужчына ў мяне быў. Але ён аказаўся жанатым, як і ты. Вы ж усе, як сустракаецеся з жанчынай, халастыя. Выпадкова раскрыла яго, — сказала Аліна Вітальеўна.

— Расказаў табе ўсю праўду. Раскрываць мяне не трэба, — ён адпусціў яе руку і, шчыра гледзячы ў вочы, ціха папрасіў:

— Дай свой нумар тэлефона. Нарэшце маё сэрца супакоіцца. Ты не паверыш, усе гэтыя доўгія гады яно настойліва шукала цябе... Гэтую сустрэчу падарыў нам Бог.

Аліна Вітальеўна глядзела на Забярэжнага і не верыла, што гэта адбываецца на самай справе. «Трыццаць гадоў ён кахаў мяне, маючы жонку? Няўжо такое верагодна? Але ж Іван і тады, студэнтам, быў незвычайны, чысты, да канца сумленны. Можна паверыць яму і цяпер». Яна назвала нумар свайго мабільніка. Забярэжны запісаў яго, узняўся з-за стала — патрэбна было ісці, чакалі на факультэце справы. На развітанне сказаў:

— Чакай майго званка. Дамовіліся?

Аліна Вітальеўна злёгку кіўнула галавой і таксама ўстала з крэсла. Выходзілі яны з кабінета разам, як і заходзілі. На калідоры Забярэжны моцна сціснуў яе далонь, крутнуўся, нібы ў маладыя гады, і пакрочыў па прыступках уніз. Ва ўніверсітэт ён ляцеў як на крылах — яго несла былое і новае шчасце...

...Ян Пятровіч крочыў па былым Каштанавым бульвары, на якім павінен быў стаяць сярод высокіх сучасных дамоў нізенькі, як баравік сярод соснаў, пяціпавярховы белацагляны інтэрнат універсітэта. Ён і сапраўды не ўпісваўся ў будынкі-гуліверы, што стаялі па абодва бакі. Ішлі чуткі, што яго знясуць. Але каб вось так, што на днях яго не стане, Забярэжны не мог уявіць і ў сне. Аб тым, што інтэрнат зносяць, яму паведаміў калега па працы прафесар Бароўскі. На наступны дзень Забярэжны пайшоў туды — надта ж рупіла ўбачыць, што там робіцца: на гэта ў яго былі важкія прычыны.

Ян Пятровіч мінуў гмах, у якім размяшчаліся нейкія офісы, і раптам спыніўся, уражаны: перад ім быў высокі, адзінокі, пакрамсаны блакітны падмурак — інтэрната не было. На Забярэжнага нахлынула нябесная сінеча: ён задраў галаву, нібыта хацеў убачыць белацагляную сцяну з вокнамі, як гэта рабіў усе пяць гадоў студэнцтва, але яе, сцяны, больш не было. «Колькі студэнцкіх жыццяў за ёю прайшло! Што толькі яна не хавала за сваёю шырокай спінай, што там толькі не адбывалася...»

...Іван Забярэжны першы раз увайшоў у інтэрнат з новым студэнцкім сябрам, земляком Фёдарам Бондарам. Пасябраваў з ім, калі паступаў ва ўніверсітэт — разам здавалі экзамены. Фёдару выдзелілі месца ў інтэрнаце, а яму, Івану, не. Бедаваў ён спачатку: нікога са сваякоў у горадзе не было. Куды ісці? Здымаць кватэру не выпадала: бацькі — звычайныя калгаснікі. Выручыў Фёдар:

— Ай, Іване, пажывеш спачатку «зайцам» у інтэрнаце, а спаць будзем на адным ложку валетам.

— Дзякуй, Федзя. Мне толькі б пераначаваць. А там — заняткі на факультэце, пасля — бібліятэка. Позна вечарам буду вяртацца, — павесялеў Забярэжны.

Так яны, Іван і Федзя, як родныя браты, жылі ажно да трэцяга курса, пакуль Забярэжнаму не далі месца ў інтэрнацкім пакоі.

Іван жыў у інтэрнаце на чацвёртым паверсе. Гэта быў паверх біёлагаў. А на пятым пасяліліся філолагі. Недзе ў самым пачатку верасня Іван ішоў з заняткаў, у дзвярах інтэрната дагнаў невысокую чарнявую дзяўчыну. Разам яны падышлі да стала вахцёраў. Дзяжурылі дзве студэнткі. Іван меў пропуск, а дзяўчына ішла сюды ўпершыню. Яе затрымалі. Іван заступіўся за чарняўку.

— Прапусціце, прапусціце... Яна са мною, — заўсміхаўся ён маладым дзяжурным. — Можа, да каго-небудзь тэрмінова? — мінуўшы пост, ціха, каб не чулі вахцёры, звярнуўся Забярэжны да чарняўкі.

— Да сяброўкі-аднакласніцы. Разам паступалі на філфак. Яна захварэла, ляжыць у інтэрнацкім пакоі, — адказала дзяўчына.

Прайшлі па калідоры, павярнулі на прыступкі лесвіцы, пачалі ўздымацца. Забярэжнаму адразу, з першага погляду, спадабалася гэтая дзяўчына, і ён не хацеў яе губляць. Таму прапанаваў:

— Давай пазнаёмімся, — глянуў у вочы, працягнуў руку. — Іван. Біёлаг. Чацвёрты курс. Жыву тут, у пакоі нумар 45.

— Аліна Красавіцкая, — падаючы руку, шырока заўсміхалася дзяўчына. Імя яе было такое ж мілагучнае, як і прозвішча.

— А дзе ты жывеш? — спытаў Іван.

— На кватэры.

Аля з першых дзён студэнцтва жыла на кватэры непадалёк ад аэрапорта. Бацька праз мінскага сябра зняў пакой у кватэры адзінокай бабулі. Жыла Аля разам з аднакурсніцай Алай Каптур. Ала — Аля. Нават імёны іх побач хораша гучалі.

Новыя знаёмыя падняліся разам на чацвёрты паверх. Тут Забярэжны павінен быў ісці ў свой пакой. Але вырашыў падняцца на пяты паверх, правесці дзяўчыну, паказаць патрэбны нумар. Лёгка знайшлі пакой, дзе жыла Алініна сяброўка.

— Дзякуй за дапамогу. І бывай! — прыязна глянула на Івана, зноў шырока, белазуба — сама азёрная лілея — усміхнулася Аліна.

Івану вельмі не хацелася расставацца з новай знаёмай: усё ў ёй яму падабалася, асабліва гэтая незвычайная ўсмешка. Тут жа прамовіў:

— Давай заўтра сустрэнемся. У горадзе ідзе выдатны фільм-камедыя «Каўказская палонніца». Цёпленькі яшчэ, толькі выйшаў на экраны, — увесь загарэўся Іван. Вочы яго заблішчэлі. Гэта заўважыла Аліна і згадзілася пайсці з ім у кіно. Пастаяннага хлопца зараз у яе не было.

Назаўтра глядзелі «Каўказскую палонніцу» ў кінатэатры «Беларусь». Ён стаяў непадалёк ад універсітэцкага інтэрната, на Юбілейнай плошчы. Іван на ўсё жыццё запомніў гэтую плошчу. Калі ён вучыўся недзе ў пятым класе, сюды — тут знаходзіўся гарадскі рынак — прывозілі з маці на продаж клубніцы, трускалкі, як казалі ў іх вёсцы Свірыды.

Фільм сапраўды быў незвычайны. Тры вядомыя комікі — Нікулін, Віцын, Маргуноў, — якія выконвалі галоўныя ролі, зачаравалі з першых хвілін. Забярэжны ўпершыню сядзеў так блізка каля Аліны. І хоць трымаў сябе строга, але яму вельмі хацелася дакрануцца да яе. І ўсё ж не вытрымаў, калі Ніну — Варлей укралі і ў мяшку, як палонніцу, павезлі на матацыкле тры «балбесы»,

Іван асцярожна ўзяў за руку Аліну, бліжэй падаўся да яе. Гледачы загулі ад нечаканага кінаэпізода. Ён таксама нешта выгукнуў, накшталт: «Эх, Шурык!» Падумаў: «Я так не дазволіў бы, як ён. Маю Аліну не ўкралі б».

Ішлі з кінатэатра і абмяркоўвалі фільм. Вядома, гэта камедыя — Іван разумеў, — але ўсё роўна стаяў на сваім, нават знарок казаў:

— Ну што за кавалер — Шурык? Так бяздарна аддаць прыгажуню-дзяўчыну нейкім «балбесам»...

Красавіцкая гучна смяялася: ёй падабалася такое стаўленне Івана да дзяўчат. Можа, гэта і ёсць яе шчасце? На ўсё жыццё. Хоць першыя ўражанні амаль заўсёды зманлівыя. Аліна не магла не адказаць на крытыку Забярэжнага:

— А ты быў бы лепшы? Вас, зялёных студэнтаў — мела на ўвазе Івана і камедыйнага Шурыка, — хіба цяжка абхітрыць вось такім дзядзькам-прайдохам?

За гутаркай не заўважылі, як падышлі да прыпынку, селі ў аўтобус — Іван папрасіў дазволу ў Аліны праводзіць яе — і паехалі на вуліцу Чкалава. Праз паўгадзіны яны былі каля Алінінага дома. Ля пад'езда крыху пастаялі і развіталіся. Івану хацелася пацалаваць Аліну. Але як гэта было зрабіць у першую сустрэчу? Хоць яго сябры-аднакурснікі цалаваліся ў першы ж вечар, па сутнасці, яшчэ з незнаёмкамі. Так яны расказвалі Івану і смяяліся з яго. Што зробіш, ён жыў у маленькай ціхай наднёманскай вёсцы Свірыды амаль дваццаць гадоў. Дзяўчат было мала там. І да кожнай Іван адносіўся зычліва.

## 2

Іван і Аліна дамовіліся сустрэцца: ён пазваніў ёй вечарам на кватэрны тэлефон. А дзе? Лепшага месца не прыдумаеш, як «Ленінка». Так студэнты называлі галоўную дзяржаўную бібліятэку. Алінін філфак стаяў насупраць яе, праз вуліцу. Там яна праседжвала да позняга вечара. А Забярэжны больш хадзіў ва ўніверсітэцкую бібліятэку, якая знаходзілася ў галоўным корпусе. Яго біяфак размяшчаўся побач.

Спаткаліся на прыступках бібліятэкі.

— Як справы? — павітаўшыся, спытала Аля. Яна прыйшла першай.

— Замучыла малекулярная біялогія, лабараторныя па ёй. Хадзем, можа, што тут добрае вычытаю. Ва ўніверсітэцкай бібліятэцы, здаецца, усё перачытаў па гэтай тэме...

Падняліся па прыступках у чытальную залу. Заказалі, узялі патрэбную літаратуру: яна — раман «Олівер Твіст» Дзікенса, ён — нешта па сваёй малекулярцы, як казалі студэнты. Селі за стол ва ўтульным месцы, дзе не было чытачоў. У зале сядзелі ў асноўным студэнты. Было ціха — муха не праляціць. Забярэжны і Аліна спачатку чыталі, канспектавалі. Але Івану хацелася хоць нешта шапнуць ёй.

— Ну, як твой Дзікенс?

— А ты ведаеш, ён для мяне, як для цябе твая малекулярная. Піша, здаецца, толькі для англічан. Нам мала зразумелы.

— Я ў літаратуры не вельмі — не ведаю...

— Наогул, з замежнай літаратуры я найбольш люблю французскую. З асаблівай цікавасцю чытала творы Бальзака, Стэндаля, Беранжэ, Флабэра... А «Нотр-Дам дэ Пары» Віктора Гюго «праглынула» за ноч.

— «Сабор Парыжскай Божай мацеры» і я знаю. Вучу на курсе французскую мову, хоць у школе была нямецкая. А ўрывак з гэтага твора мы нядаўна перакладалі на занятках па замежнай мове.

Іван і Аля ўжо крыху расшумеліся. Гэта заўважылі суседзі па сталах, пачалі ўздымаць галовы, глядзець на іх. Іван з Аляй змоўклі. Яшчэ пасядзелі, ужо і вечар наступіў. Вырашылі папрацаваць да закрыцця бібліятэкі: заўтра — семінарскія, практычныя заняткі ў абаіх. Урэшце сабралі кніжкі са стала, здалі іх і выйшлі з бібліятэкі. Рушылі ў напрамку праспекта праз скверык, дзе стаіць скульптура хлопчыка з лебедзем. Побач — Купалаўскі тэатр. Гэтым шляхам Аля кожны дзень хадзіла на факультэцкія заняткі. Зараз яна накіравалася на прыпынак, каб сесці на тралейбус нумар два, які ідзе да аэрапорта. Забярэжнаму не хацелася расставацца з ёй.

— Я праводжу цябе... — сказаў Іван, калі тралейбус спыніўся на прыпынку. Аліна не паспела нічога адказаць, бо за ёю ўвайшлі пасажыры. Іван у апошні момант ускочыў у салон, праціснуўся да яе на заднюю пляцоўку. Аліна толькі пахітала галавой. Ехалі моўчкі. Калі выйшлі з тралейбуса, яна пачала ўшчуваць яго:

— І чаго ты паехаў — позна ўжо. Цябе не пусцяць у інтэрнат. Пакуль вернешся, зачыняць яго.

— Пусцяць. Я папрашуся...

— Мне ўжо шкада цябе. Хоць бяры на начлег, — усміхнулася Аля. — Са мной у адным пакоі жыве мая сяброўка-аднакурсніца Ала, у другім — гаспадыня. Але на кухні стаіць невялікая канапа. Папросім бабулю Веру, можа, дазволіць табе пераначаваць...

— Я згодзен, — сказаў я, не паверыўшы яе словам.

— Ну, што ж, пайшлі, — рашуча сказала яна і накіравалася ў пад’езд. Падняліся на трэці паверх. Аля пазваніла ў кватэру. Адчыніла сяброўка. Бабуля Вера ўжо спала — пашанцавала: заўтра рана ёй уставаць на вахцёрства. Асцярожна прайшлі ў пакой.

— Знаёмся, Ала. Гэта наш універсітэцкі аднакурснік, толькі біёлаг.

— Іван, — працягнуў ён Але руку.

— Вельмі прыемна. Толькі цішэй, каб не разбудзіць бабулю Веру, — папрасіла Ала, далей адклала на стале падручнікі.

— Давайце пап’ём чаю, — Аліна паднесла кубкі і электракіпяцільнік, уключыла яго ў разетку. — Раскажы, Іван, трошкі пра сябе, потым — мы...

Ён зручней уладкаваўся ў крэсле, якое стаяла побач са сталом, пачаў расказваць: нарадзіўся на памежжы Стаўбцоўшчыны і Уздзеншчыны, на левым беразе Нёмана, амаль на радзіме Якуба Коласа.

— Дык ты мой зямляк. Я — таксама заходніца, з суседняй Нясвіжчыны, — узрадавалася Ала.

— Во, землякі сабраліся,— сказала Аля.— А я з Бярэзіншчыны. Там нарадзілася і скончыла школу, — працягвала яна. — Бацька — вясковы фельчар. Маці — настаўніца пачатковых класаў.

— І мае бацькі жывуць у вёсцы, — прамовіла Ала. — Тата — старшыня сельсавета, мама, як і твая, — настаўніца,— глянула на Аліну.

Наступіла цішыня. Іван пакуль маўчаў. Чамусьці яму стала сорамна за сваіх бацькоў. Сказаць, што бацька — апальшчык у льносушылцы, маці — палявод, і тая хворая на туберкулёз? І ён вырашыў пахваліцца дзядзькам, братам маці:

— А мой дзядзька Васіль таксама быў старшынёй сельсавета. Адразу пасля вайны. Удзельнічаў у баях за Берлін. Прыйшоў увесь параненны.

— А ў маёй маці два браты і дзевер загінулі на фронце, — уздыхнула Аля.

— У вайну ўсім хапіла, — паставіла на стол кубак з чаем Ала. — Мой стрыечны брат недзе ляжыць пад Калінінградам, былым Кёнігсбергам.

— І мой дзядзька Мікола, родны бацькаў брат, там пахаваны ў брацкай магіле. Я знайшоў яе праз ваенкамат, стаяў над ёй, — сказаў Іван. — На Калінінградчыне зараз жывуць мае стрыечныя сёстры і браты — выехалі туды пасля вайны па вярбоўцы. Гасцяваў у іх...

— Ала, нешта мы надта заглыбіліся, — звярнулася Аліна да сяброўкі. — Няхай Іван раскажа, чаму ён выбраў біяфак?

Забярэжны напружыўся, прыгладзіў рукой свае русявыя валасы:

— Школу я скончыў з сярэбраным медалём. Усе прадметы былі для мяне аднолькавыя. Толькі не любіў трыганаметрыю. Па ёй у мяне «чацвёрка». Адна ў атэстаце. Мне ўсё роўна, куды было паступаць. Выбар выпаў на біяфак выпадкова. Узяў даведнік для паступаючых. Загадаў сабе старонку. Адкрыў — там біялагічны факультэт універсітэта. Так што мог трапіць і на ваш філфак, — усміхнуўся Іван. Затым пасур'ёзнеў. — Праўда, прыроду люблю з маленства...

— А пра сваё школьнае каханне раскажы, — адпіўшы чаю, з усмешкай папрасіла Аліна.

— А што тут расказваць? — заёрзаў на крэсле Іван. — Была адна — Зоя, і тую адбіў сябар Мішка.

— Што ж так слаба?— пацвельвала Аліна. — Відаць, дзяўчына была на заглядзенне. Трэба было змагацца... Вось як за мяне. Ажно тры хлопцы за мною хадзілі. Часам насы адзін аднаму білі.

Ужо даўно было за поўнач, трэба было класціся спаць. Аліна павяла Івана на кухню.

— Зараз расцягнем канапу, дапамагай, — яна першай узялася за Іванава ложа. Хутка яны ўдваіх раскладалі канапу, стаялі блізка адно каля аднаго. Раптам Аліна спатыкнулася і нібы незнарок прытулілася да Івана. Твары іх сышліся, вусны дакрануліся вуснаў. Праўда, гэта было нейкае імгненне. Аліна хутка шмыгнула ў свой пакой, шчыльна зачыніўшы дзверы. А Іван клаўся спаць на кухоннай канапе. Ён доўга не мог заснуць: думаў пра Алю. Яе вочы, вусны глыбока запалі яму ў душу, хвалявалі.

### 3

Аліна штодзень хадзіла на свой філфак, Іван — на свой біяфак. Слухалі лекцыі, працавалі на семінарскіх, лабараторных занятках. Ужо вучыліся на чацвёртым курсе, наперадзе была зімовая сесія. Дасюль ужо здалі шмат экзаменаў, залікаў. Колькі прадметаў за тры курсы пройдзена! Аліна не магла забыць, як чытаў спецкурсы па творчасці Льва Талстога, Дастаеўскага і Кузьмы Чорнага прафесар, вядомы празаік Алесь Адамовіч. Ён прыходзіў у студэнцкую аўдыторыю з Акадэміі навук, дзе працаваў. Чарнявы прыгажун, па характары спакойны, ураўнаважаны, ён паўтары гадзіны, стоячы за сталом, час ад часу ходзячы паміж радамі студэнцкіх лавак, расказваў пра рускіх класікаў, рабіў невялікі перапынак і ў наступную палову лекцыі, перайшоўшы на беларускую мову, ужо расказваў пра творчасць Кузьмы Чорнага. Студэнты, як зачараваныя, слухалі незвычайнага для іх прафесара. Аліна, помніцца, дала сабе слова: «Калі стану настаўніцай, буду імкнуцца выкладаць свой прадмет так, як ён...»

У Івана больш прыземлена, будзённа праходзіла студэнцкая вучоба. Біялагічная навука больш практычная. У іх семінары называюцца лабараторнымі. Адзін з такіх лабараторных заняткаў па фізіялогіі чалавека яму ніколі не забыць. Дацэнт Пётр Косцікаў тэму «Рэфлекс чалавека» раскрываў на падвопытных жабах. Выкладчык літаральна прымушаў: «Не выканаеце задан-

ня — не атрымаеце залік». Дзяўчаты праз сілу рабілі гэтую непрыемную справу. А Іван зусім адмовіўся. Ён не раз у дзяцінстве сутыкаўся з жабамі. І тады, калі лавіў рыбу, купаўся ў рацэ, і калі пасвіў каровы на лузе. Іван любіў усё жывое ў прыродзе. «Не буду рабіць гэтую бесчалавечную справу». — «Не, будзеце?» — «Нізавошта!» Дорага каштаваў Івану гэты дыялог. Ён тры разы здаваў залік Косцікаву, чаго ніколі падобнага да гэтага не здаралася.

...Сёння, а дакладней, дваццатага верасня, у Івана быў дзень нараджэння. І ён вырашыў запрасіць Аліну ў свой інтэрнацкі пакой за святочны стол. Толькі ці пойдзе яна? «А, запрашу разам і яе сяброўку-філалагіню, былую аднакласніцу. Яна жыве ў нас у інтэрнаце. Можа, разам прыйдуць».

Іван раней вырваўся з заняткаў і прыйшоў на Алінін філфак. Якраз скончыліся лекцыі. Аля спускалася з прыступкаў, разам з ёю крочыла незнаёмка. Дзяўчаты накіраваліся да гардэроба. Іван стаяў, чакаў каля ўваходных дзвярэй. Студэнткі апрануліся і з сумкамі ў руках пайшлі да выхаду. Аліна заўважыла Івана.

— Прывітанне!— кінула яна. — Чаго стаіш?

— Чакаю цябе. Я табе раней не казаў: у мяне сёння дзень нараджэння. Хачу, каб ты асвятліла інтэрнацкі пакой імянінніка, — узнёсла прамовіў Іван.

— Ні разу не была ў цябе — няёмка, — засумнявалася Аліна. — Хіба запрасі во і Свету, — кіўнула на дзяўчыну, якая стаяла побач. — Памятаеш, ты вёў мяне да яе ў пакой? Пойдзем, Света, паглядзім, як халасцякі жывуць, што жуюць, — засвяцілася белазубай усмешкай Аліна.

Па дарозе ў інтэрнат ішлі ўтраіх. Размаўлялі аб сім-тым, а найбольш аб занятках.

За размовай незаўважна дайшлі да інтэрната. Увайшлі ў вестыбюль. Іван першы рынуўся да вахцёраў. Перамовіўся з імі, і тройца падымалася на верхнія паверхі. Дайшоўшы да Іванавага чацвёртага, Аліна раптам прамовіла:

— Мы са Святланай пакуль пабудзем у яе пакоі, на пятым. Распранемся, Іванка, — ці не першы раз Аліна так назвала яго. — Паклічаш, калі будзе гатовы шыкоўны стол імянінніка, — шырока заўсміхалася.

Калі ўвайшлі ў пакой, у якім нікога не было, Святлана спытала ў Аліны:

— Як хлопец, гэты твой Іван?

— Не разабралася яшчэ. Мала сустракаліся. — Пра той Іванаў начлег у доме на вуліцы Чкалава Аліна змоўчала. — Далей паглядзім, што будзе...

Неўзабаве ў дзверы пастукаў Іван. Яму адчыніла Света. Не заходзячы ў пакой, ён паклікаў дзяўчат:

— Ідземце, ужо ўсё гатова...

Аліна і Света рушылі за Іванам на чацвёрты паверх. Увайшлі ў пакой, а там ужо сядзелі тры хлопцы і дзяўчына. На стале, накрытым белым абрусам, стаялі талеркі з закуссю — каўбаса, селядзец, агуркі, памідоры. І дзве бутэлькі віна: адна — сухое, другая — партвейн.

— Знаёмцеся, — звярнуўся Іван да дзяўчат. — Стась, Алесь, Генадзь, — мае аднапакаёўцы, Жана — наша аднакурсніца, амаль ужо жонка Стася.

— Ну, так ужо і жонка, — пачаў адбівацца Стась, каля якога сядзела дзяўчына. — Ёй яшчэ патрэбна прайсці выпрабавальны тэрмін... — прыгарнуў ён Жану да сябе.

Іван пасадзіў Аліну і Свету за сталом побач. Сам сеў каля іх. Устаў, адкаркаваў бутэлькі. Дзяўчатам наліў сухога, а хлопцам — мацаванага віна.

Стась, стараста пакоя, узняў чарку, прамовіў:

— За нашага сябра, будучага свяцілу-біёлага! З днём нараджэння, аднакурснічак!

Выпілі, пачалі закусваць. Затым па чарзе хлопцы і дзяўчаты ўзнялі тосты, а неўзабаве пайшла нязмушаная гамонка...

— Нешта мы загаманіліся,— праз нейкі час сказаў Стась і звярнуўся да Генадзя:

— Сыграй што-небудзь...

Генадзь падняўся з-за стала, падышоў да шафы, дастаў гармонік, які свяціўся перламутравымі планкамі, зайграў «Амурскія хвалі».

А Іван не зводзіў вачэй з Аліны. Яна, паружавелая, была зараз вельмі прыгожай. Часта смяялася. Яе ўсмешка зачароўвала яго. «Я нікому яе не аддам. Яна будзе вечна маёй. Я столькі наперажываўся з-за няўдалага кахання, што Аля для мяне — доўгачаканае шчасце», — разважаў Іван.

Яшчэ нейкі час павесяліліся, паспявалі, і госці сталі збірацца. Івану хацелася пабыць з Алінай. На калідоры спрабаваў адвесці яе ўбок. На што яна прамовіла:

— Не трэба, Іван, ісці са мною. Я зайду яшчэ да Светы, ёсць аб чым пагутарыць. Дамоў паеду адна. А табе з хлопцамі патрэбна прыбіраць стол. І заўтра — рана заняткі.

Дзяўчаты развіталіся і пакрочылі на пяты паверх. Іван зажураны — чаму так лёгка згадзіўся з Алінай? — вярнуўся ў свой пакой. А там хлопцы спявалі песні пад Генадзеў гармонік. Да іх далучыўся Іван — гэтак лягчэй прагнаць смутак.

**4**

Непрыкметна наступіла зімовая сесія. Іван і Аліна сядзелі днямі і начамі над падручнікамі і канспектамі. Не да сустрэч і цяпер было — шмат экзаменаў і залікаў наперадзе ў абаіх.

І Новы год адзначалі паасобку: Аліна з бацькамі ў сваёй Чуі, Іван — у Свірыдах.

Івану, калі прыехаў у Мінск на сесію, вельмі хацелася ўбачыць Аліну. Аднойчы не вытрымаў і паехаў на вуліцу Чкалава. Званіў-званіў у Аліну кватэру — ніхто не адчыніў. Значыць, недзе рыхтуецца да экзамена ў іншым месцы. Іван вырашыў, што трэба ўсю энергію аддаць сесіі, каб здаць яе паспяхова, як усе папярэднія: ён заўсёды атрымліваў стыпендыю, некалькі разоў нават павышаную.

... І вось нарэшце доўгачаканыя зімовыя канікулы ў лютым пасля сесіі.

Іван і Аліна дамоў не паехалі. Адразу ж пасля сесіі іх запрасіла на сваё вяселле Ала Каптур, якая жыла на кватэры з Алінай. Яна выходзіла замуж за свайго аднакласніка Ігара, які зараз жыў у Капылі. Ала разам з Алінай прыйшлі да яго ў інтэрнат. Іван якраз быў у сваім пакоі, калі ў яго, пастукаўшыся, увайшлі дзяўчаты. Ён ад нечаканасці вельмі сумеўся: глянуў на Аліну і адчуў, як у скронях часта-часта затахкала. Слухаючы Аліна запрашэнне, заўважыў, што яго каханая глядзела на яго неяк загадкава...

Вяселле было запланавана на бліжэйшыя выхадныя. Ехалі ў Капыль аўтобусам. Ён ішоў па слуцкай шашы. Недзе каля Валяр’янаў Іван успомніў сваю вёску.

— Калі сысці з аўтобуса тут і пайсці ў напрамку вёскі Магільна, што стаіць на беразе Нёмана, то можна трапіць у мае Свірыды, — звярнуўся ён да Аліны, якая сядзела побач з ім.

— І колькі гэта было б вёрстаў? — спытала яна.

— Ну, ад сілы дваццаць пяць...

— Давай сыдзем — да вечара дойдзем да тваёй хаты, — пажартавала яна.

— А я не жартам хачу запрасіць цябе на Нёман. Гэтым летам у час канікул абавязкова з’ездзім. Ты паглядзіш, якая цудоўная ў нас прырода. Нездарма там нарадзіўся Якуб Колас.

— Лаўлю на слове, — сказала Аліна. — Дачакацца б лета. Я на захадзе Беларусі яшчэ ні разу нідзе не была.

У Капыль прыехалі недзе пасля адзінаццаці. Спыніліся каля хаты жаніха, якая стаяла на ўскрайку гарадка. З аўтобуса павысыпалі мінскія госці. Іх сустрэла Ігарава маці, адразу запрасіла ў хату. Зайшлі, там усё чысценька, прыбрана, падлога вышаравана, аж блішчыць.

Пасярэдзіне хаты стаялі ўжо накрытыя вясельныя сталы з рознай закуссю і напоямі, каля іх лавы, табурэткі.

Яшчэ заставалася ладна часу да вяселля, і Аліна сястра вырашыла паказаць гасцям гарадок. Разам з Іванам і Алінай прыехалі Аліны аднакурснікі Ірына Замошына, Соф’я Ясючыц, Ганна Скрыпач. Яны і пайшлі знаёміцца з гарадком, прыгожым, гарыстым, з нізіннымі перападамі. «Мясцовасць нашага Наднямоння роўная. Уся ў лясах, рэках і рачулках. А тут і блізка няма лесу, ракі. Адны пагоркі ды палі», — падумаў Іван, а потым сказаў Аліне.

— Наш Бярэзань крыху падобны да Капыля, — загаварыла Аліна. — Асабліва там, дзе працякае Бярэзіна. Непадалёк ад яе нямала перападаў, пагоркаў.

— Я зразумеў: тут жа па сутнасці працяг суседняй Случчыны — беларускай жытніцы. Скрозь палі і палі... — заключыў Іван..

Вярнуліся ў хату жаніха. Аліна сястра пайшла дамаўляцца да сваякоў, суседзяў, каб там прынялі на ноч гасцей.

Вяселле пачалося з убрання нявесты. Дзяўчаты-аднакурсніцы шчыравалі каля Алы, пакуль не прыехаў франтаваты малады забіраць яе ў белым вэлюме ў ЗАГС. Туды ж паехалі і сяброўкі-студэнткі.

Аліна была першай шаферкай у Алы. Яна сядзела за вясельным сталом з правага боку ад нявесты. За ёю — дзяўчаты-аднакурсніцы, Іван. Час ад часу перамаўляліся. Пачаліся тосты. Сказалі Іван і Аліна. Пачуліся словы: «Горка! Горка!» Маладыя сталі цалавацца. Вяселле гуло. Неўзабаве госці пайшлі танцаваць. Выйшлі і маладыя. За імі — Іван і Аліна. Іван не вельмі добра ўмеў танцаваць. Найбольш любіў танга. Якраз яно і гучала. Ён далікатна трымаў Алю за талію, нібыта дарагі скарб. Ды яна такой і была для яго зараз. Іван, якому дагэтуль не шанцавала з дзяўчатамі, — яны чамусьці праз некалькі сустрэч пакідалі яго — адносіўся да Алі, як да нейкага цуда, дадзенага Богам.

Ужо было далёка за поўнач, калі госці пачалі разыходзіцца. Іван і Аліна разам з аднакурсніцамі пайшлі начаваць туды, куды іх запрасілі раней. Ля веснічак, над якімі навісала разгалістая заснежаная яблыня, каля хаты, дзе павінна была начаваць Аліна, яны спынілася. Яго начлег быў у суседнім доме. Крыху захмялелы, Іван адчуваў сябе смелым. Ён шмат гаварыў, усміхаўся, успамінаў вяселле. Гуллівай была і Аліна. Яна бадзёра смяялася. Лепшага моманту, каб па-сапраўднаму пацалавацца, і не трэба было. І ён рашыўся: лёгка абняў Аліну за плечы, прытуліў да сябе, прыпаў губамі да яе вуснаў. Яна не супраціўлялася. Івану здалося, быццам перакуліўся свет: шырокая заснежаная яблыня, пад якой стаялі, загайдалася, і яны разам з ёй апынуліся на высокіх берагах аблокаў. Але раптам нехта пратупаў побач — ішлі з вяселля — і яблыня, чароўная снежная яблыня, зрынулася на зямлю, з ёю і яны. Аліна адхіснулася ад Івана і пабегла па двары. За ёю — ён. Спыніліся ў сенцах. Іван зноў прытуліў да сябе Аліну. Іхнія вусны вось-вось павінны былі зліцца. Але

дзверы з хаты ў сенцы нечакана адчыніліся: на парозе з'явілася сонная гаспадыня — пачула нейкі шоргат. Аліна адштурхнула Івана і кінулася ў хату.

Праз хвіліну Іван ішоў да суседняга дома, дзе павінен быў начаваць. На душы было адначасова і радасна, і роспачна. Ён пацалаваў Алю, ён быў шчаслівы, але ўсяго адно імгненне...

**5**

Заканчваўся чацвёрты курс як у Івана, так і ў Аліны. Не просты. Пераадолеўшы яго, можна было лічыць, што ты з дыпломам. Вось толькі для Івана летнія канікулы будуць пасля заканчэння ваенных збораў: ён жа тры гады, як і ўсе студэнты-хлопцы, хто па здароўі быў годны да службы ў войску вучыўся на ўніверсітэцкай ваеннай кафедры. А пра гэта ён і забыўся, калі казаў Аліне, што летам разам пабудуць на Нёмане. Урэшце, добра не ведаў, бо толькі нядаўна сказалі, што амаль на цэлыя тры месяцы — палова чэрвеня, ліпень, жнівень — хлопцы паедуць на зборы пад Баранавічы, пасля заканчэння якіх будуць здаваць экзамены на званне афіцэра. Але ж ёсць яшчэ май. Ён, асабліва другая яго палавіна, у Беларусі бывае вельмі цёплым. І з'ездзяць яны з Аляй на яго родную раку.

Іван жыў надзеяй, што за гэты час яны з Алінай зусім зблізяцца. Тады ён і скажа: «Любая Алечка, пасля маіх вайсковых збораў выходзь замуж за мяне». Праўда, у канцы мая яны, хлопцы, пачнуць здаваць экзамены — для іх крыху перанясуць сесію. Але ж можна і на Нёмане, дома, павучыць той ці іншы прадмет. Ён не раз гэта рабіў летам. Прыязджаў да бацькоў, браў з сабою падручнікі, канспекты і ехаў на веласіпедзе на Нёман. Там знаходзіў утульнае месца, звычайна пад магутным дубам, вакол якога раслі кусты чаромхі, вербалозу, крушыны, рассцілаў посцілку і чытаў. Час ад часу плаваў, ныраў у цёплыя нёманскія хвалі. Гэта месца было яго. Рэдка хто сюды заходзіў, хіба які-небудзь рыбак.

Красавік набіраў моц, прырода хілілася да зялёнай вясны, дні міналіся хутка. Іван забягаў на філфак, але заставаў Аліну там рэдка. Яна сыходзіла то ў бібліятэку, то яшчэ куды-небудзь.

Аднойчы Іван, каб сустрэцца з Алінай, прыйшоў на філфак раней, калі там заняткі яшчэ не закончыліся. Ён доўга стаяў, пакуль нарэшце Аліна не з'явілася на прыступках лесвіцы. «Ну, і добра, што адна, без сяброўкі» — падумаў Іван. Ён учора купіў два білеты на канцэрт Мусліма Магамаева. Па горадзе былі расклеены афішы з выявай артыста: дваццаць трэцяга красавіка ў Мінску гастралюе знакаміты на ўвесь Савецкі Саюз спявак і выступаць ён будзе ў Палацы спорту, насупраць якога стаяў інтэрнат, дзе жыў Іван. Прыгожы магутны барытон азербайджанскага спевака зачароўваў моладзь, асабліва дзяўчат. Яго слухалі з пласцінак, магнітафонаў.

— Аля, я ўзяў білеты на канцэрт Магамаева, — павітаўшыся, першае, што сказаў Іван.

— Як?! — моцна здзівілася яна. — Іх жа цяжка дастаць...

— Купіў з рук. Прадаваў каля тэатральнай касы нейкі хлопец.

— Ура-а! Ідзем, Іванка, гэта мой самы любімы спявак, — ледзьве не затанцавала Аліна, засвяцілася сваёй непаўторнай усмешкай. — Калі канцэрт?

— Заўтра.

Яны ішлі разам да праспекта. Калі апынуліся на прыпынку, Аліна прамовіла:

— Я еду дамоў, на кватэру. Там падрыхтуюся да заўтрашніх семінарскіх і да канцэрта. Ты згодзен?

— І я — гэтак. Трэба папрасаваць касцюм, — Іван дапамог Аліне ўвайсці ў тралейбус, які падышоў, калі той крануўся, крыкнуў: — Заўтра вечарам а палове сёмай чакаю каля Палаца спорту, — і хутка пакрочыў у кірунку інтэрната.

Аліна прыйшла да Палаца спорту ў прызначаны час. Іван чакаў яе. Спачатку накіраваліся ў гардэроб, скінулі модныя па тым часе балоневыя плашчы. Іван застаўся ў чорным касцюме, Аля — у прыгожай блакітнай сукенцы. Увайшлі ў вялізную залу з мноствам радоў крэслаў, якія ўздымаліся па нахільнай ледзь не да столі. Гледачы паволі запаўнялі залу. Аліна здзіўлена акінула яе вокам:

— Я тут упершыню. Якая прастора! На стадыён падобная.

— А я ўжо два канцэрты тут глядзеў: Мар’янавіча і Абадзінскага, — з гонарам прамовіў Іван.

Неўзабаве святло ў зале пагасла, расхінулася заслона, зайгралі колерамі сафіты, і на сцэне з’явіўся Муслім Магамаеў — у светлым касцюме, высокі, стройны, з чорнай кароткай прычоскай. Зала заапладзіравала, і неўзабаве артыст заспяваў «Каралеву прыгажосці».

«Узяў адразу, як кажуць, быка за рогі. Завёў публіку, — падумаў Іван. — Гэта самая папулярная песня сярод моладзі. А яе тут, у Палацы, найбольш».

Песні ліліся адна за адной — усе яны былі вядомыя, гучалі па радыё і тэлебачанні, гледачы ціхенька падпявалі ў такт спеваку. Іван глянуў на Аліну: яна таксама прыглушана падпявала. Шчочкі яе былі пунсовыя, лёгкая ўсмешка кранала вусны, вочы нагадвалі валошкі. «Я зараз кахаю яе яшчэ больш. Яна са мной, побач — якая радасць!» Хвалявалі да самазабыцця, уздымалі ўвысь песні «Мелодыя», «Чортава кола», «Дзякую табе», «Вяселле». Над апошняй Іван асабліва задумаўся. «Калі ж вяселле будзе ў нас...»

Гледачы неслі спеваку кветкі, а Іван уяўляў, як такія ж кветкі ён будзе дарыць на іх вяселлі Аліне. Увесь канцэрт ён суадносіў з ёй. Яму здавалася, што Муслім Магамаеў усе свае песні прысвячае ягонай, Іванавай, каханай. На душы было радасна — хацелася здзейсніць нешта незвычайнае, неверагоднае...

Канцэрт закончыўся. Дзве гадзіны праляцелі незаўважна.

Выходзілі з Палаца ўсе ўзрушаныя, узбуджаныя.

— Вялікі дзякуй, Іванка, за такі нечаканы падарунак, — адразу, як толькі выйшлі на вуліцу, прамовіла Аліна.

— А табе дзякуй за тое, што пайшла са мной на канцэрт, — адказаў ён. — Я хацеў, вельмі хацеў, каб менавіта ты была на гэтым канцэрце, — Іван прытуліўся да дзяўчыны.

— Не трэба, Іванка, людзі скрозь, — прыспешыла крок Аліна.

— Я цябе праваджу, — заспяшаўся і ён.

— Толькі да прыпынку тралейбуса. Позна ўжо. Заўтра рана на заняткі.

— Я паеду з табой, Аля, — настойваў Іван.

— Не, Іванка. Табе тут блізка, побач інтэрнат. А спознішся — не пусцяць вахцёры. Заначаваць жа ў мяне ўжо больш не ўдасца: гаспадыня даведалася, папярэдзіла: «Каб такое было апошні раз!»

— Ну, што ж, пераканала, — схіліў галаву Іван.

Падышоў тралейбус. Аліна лёгенька пацалавала Івана ў шчаку, ускочыла ў цесны ад людзей салон, усміхнулася, памахала на развітанне рукой. А Іван, рушыў у свой інтэрнат. Яму стала сумна і нават крыўдна: «Нешта не тое ў нас... Мы зноў не так рассталіся...»

## 6

Вясна ўладна крочыла па зямлі. Забыліся ўжо раўчукі, што яшчэ нядаўна весела звінелі па зямлі. На ўзлесках цвілі першыя вясновыя кветкі — блакітныя пралескі.

Заканчваўся красавік. Іван і Аліна рыхтаваліся да летняй сесіі. Пасля канцэрта Мусліма Магамаева яны сустрэліся разы тры. Хадзілі на мастацкую выстаўку «Галерэя Радзівілаўскіх партрэтаў», якую каментаваў беларускі пісьменнік-гісторык Уладзімір Караткевіч, на фільм «Чорная бяроза» ды адзін раз проста пагулялі ў скверы каля тэатра імя Янкі Купалы. Развітваліся на прыпынках тралейбусаў, аўтобусаў. Аліна чамусьці ніяк не хацела, каб Іван праводзіў яе на вуліцу Чкалава. Баялася, што ён можа застацца ў яе кватэры?.. Ды ён і не напрошваўся. А можа, была якая іншая прычына? Іван пакутаваў, нічога пэўнага не ведаючы. Аднойчы ў яго нават закралася думка: а раптам у яе ёсць хлопец... Падумаў: не, глупства, каб быў, дык яна не хадзіла б да яго нават на гэтыя кароткія сустрэчы... Стаяць жа ля пад’езда — тое, што і на прыпынку: усюды людзі. Пра нейкі інтым і размовы не было.

А на выхадныя Аліна ездзіла ў Чую. Іван — у Свірыды. Інакш яны жыць не маглі і разумелі адно аднаго без слоў. Пакуль ёсць бацькі, родны дом — сэрца імкнецца туды. А калі ты яшчэ малады, студэнт, то табе яшчэ хочацца сустрэцца і з вясковымі сябрамі.

Аліна прыехала дамоў на гэты раз на Вялікдзень. На яго было прызначана вяселле Алінінай аднакласніцы Наташы Зарэцкай. Яна жыла ў Мінску і выходзіла замуж за гараджаніна. А вяселле ладзілі ў Чуі. Аліна з сястрой Нінай вырашылі схадзіць у клуб на танцы, там павінны быць маладыя і госці.

Сёстры прыйшлі ў клуб, калі ўжо гучала музыка. Іграў вясковы аркестр: акардэон, дзве трубы і барабан. Пасярэдзіне залы кружыліся пары. Аліна і Ніна стаялі каля сцяны, калі да іх падышлі два хлопцы, запрасілі на вальс. Алінін партнёр — сярэдняга росту, русявы, модна апрануты. Хлопец, як толькі пачалі танцаваць, адразу загаварыў.

— Будзем знаёмы. Мяне Алегам завуць. А як вас? — ён ласкава глядзеў ёй у вочы.

— Аліна.

— Мясцовая?

— З Чуі. Вось з гэтай вёскі, дзе стаіць клуб.

— А я — родам з Мінска.

— Як сюды зазірнуў?

— З вяселлем прыехалі, разам з сябрам — шаферы ў жаніха, — хлопец кіўнуў на Нінінага партнёра.

Праз некаторы час закончыўся вальс. Алег падвёў Аліну да сцяны, дзе стаяла Ніна. Хлопцы пайшлі пакурыць, а сёстры разгаманіліся.

— Як твайго партнёра завуць? — спытала Ніна ў сястры.

— Алегам. Прызнаўся, што карэнны мінчанін. Гуляе шаферам на вяселлі.

— А майго — Віталем, як нашага тату. Таксама гараджанін. Глядзі, можа, наша шчасце з вяселлем прыехала... — Ніна злёгку ўсміхнулася.

— Так ужо і шчасце. Такога ў горадзе колькі хочаш — толькі не зявай... — Аліна прыхінулася да сцяны.

Загучала музыка, на гэты раз хуткая. Да Аліны падышоў Алег і зноў запрасіў на танец. І так некалькі разоў — відаць было, што дзяўчына яму спадабалася. У канцы Алег, Віталь і сёстры выйшлі разам з клуба, разбіліся на пары, пайшлі ў напрамку рэчкі Чуі. Алег працягваў знаёміцца з Алінай:

— І што пасля школы юная Аліна вырашыла, куды сіганула?

— Ва ўніверсітэт, на філфак. А ты? — у сваю чаргу спытала яна.

— А я — у політэхнічны, на энергафак. Пра пяць курсаў я паспеў ужо забыцца. Працую...

— Дзе? — пацікавілася Аліна.

— На маторным заводзе.

Хата Красавіцкіх стаяла на водшыбе вёскі, непадалёк ад рачулкі. За размовай з Алегам Аліна не заўважыла, як прайшлі побач з роднай хатай, ступілі на бераг Чуі. За кустамі алешніку ціха бурлілі хвалі. У небе рамантычна свяціла поўня. Алег нечакана сціснуў у абдымках Аліну, памкнуўся цалаваць. Хлопец быў узбуджаны — моцна трымаў яе. Аліна не магла вырвацца. Урэшце, крутнулася, выслізгнула з абдымкаў і пабегла ў кірунку свайго дома. Алег — за ёю:

— Па-стой, Алі-на! Прабач! Я не хацеў!

Яна спынілася каля веснічак. Алег падышоў бліжэй.

— Я хачу з табою сустрэцца ў Мінску, Аліна... — хлопец далікатна узяў яе за руку. — Ты мне падабаешся...

Яна стаяла і не ведала, што казаць... На хвіліну задумалася: «Што я раблю? Чаго я пайшла на рэчку? Можна было і ля хаты пагутарыць — яна побач...»

— Калі назад у Мінск? — перапыніў яе думкі Алег.

— Як заўсёды, заўтра, у нядзелю, вечарам.

— Мы з Віталем — таксама. Можам вас з сястрой узяць у вясельны аўтобус.

— Не, дзякуй. Мы прывыклі ездзіць рэйсавым, — Аліна адчыніла веснічкі.

— Ну, тады хоць пакінь нумарок тэлефона, — Алег замілавана глядзеў Аліне ў вочы.

Што ёй заставалася? Вядома, у душы жыў вобраз Івана Забярэжнага. Яго ўвага, дабрыня, закаханасць скарылі яе ў апошні час. Але яна ўсё-ткі вырашыла даць Алегу нумар тэлефона.

Ён падзякаваў, пажадаў Аліне «Добрай ночы!», павярнуўся і пакрочыў туды, дзе яшчэ гуло вяселле. А яна вярнулася ў хату, распранулася і кінулася ў ложак...

Назаўтра Аліна ехала ў цягніку з Барысава ў Мінск і думала пра ўчарашні вечар, пра новага знаёмага Алега. «Няўжо ён у мяне закахаўся? Што называецца, каханне з першага погляду? Можа быць... Але мне ўсё роўна: у мяне ёсць Іван».

А з Іванам Аліна сустрэлася на наступны дзень. Ён пачаў расказваць, як правёў Вялікдзень у Свірыдах:

— Пагулялі добра. Біліся ў біткі чырвонымі яйкамі з хлопцамі. А вечарам хадзілі па-валачобнаму з гармонікам. Наспяваліся з жанчынамі «Хрыстос уваскрос» пад вокнамі, назбіралі дарункаў, а пасля балявалі ўсю ноч у маёй сваячкі цёткі Соні.

— А мы з сястрой толькі пабылі на танцах у клубе. Была звычайная, як заўсёды, вечарынка... — Пра сустрэчу і знаёмства з Алегам Аліна не сказала — палічыла, што так будзе лепш.

## 7

Пачатак мая выдаўся сонечным, цёплым. Убіраліся ў цвет, як нявеста ў вэлюм, слівы, чарэшні і вішні. Быццам снежная каралева, стаяла бялюткая чаромха.

Іван збіраўся на возера Нарач, дакладней, у санаторый «Нарач». Апошнім часам у яго абвастрыўся гастрыт, прыдбаны яшчэ ў школьныя гады. Папрасіў

пуцёўку на лячэнне ва ўніверсітэцкім прафкоме. І яшчэ ён меркаваў, што там напіша курсавую. Дацягнуў да мая і амаль нічога не зрабіў — хіба толькі нейкія накіды. А там, у санаторыі, будуць усе ўмовы — адно толькі пішы.

На возера Нарач Іван прыехаў недзе пад абед. У самім санаторыі месцаў не было, і яго пасялілі побач, у тутэйшай гасцініцы. «А што? Не горш, а можа, і лепш. Нумар на дваіх чалавек, а там — на чатырох. Вось толькі хто са мной будзе жыць? Я пакуль адзін». Іван распакаваў чамадан, расклаў у тумбачцы рэчы, павесіў у шафе сарочкі. Прылёг на ложак адпачыць з дарогі. Паляжаў нядоўга — расчыніліся дзверы пакоя, увайшлі жанчына ў белым халаце і мужчына з чамаданам. Мужчыну на выгляд было гадоў пад пяцьдзесят.

— Знаёмцеся, ваш напарнік, — звярнулася жанчына да Івана.

— Пётр, — працягнуў той руку. Іван таксама назваўся.

— Распакоўвайце чамадан ды пойдзем на абед, — сказаў Іван.

Праз некалькі хвілін яны крочылі ў галоўны корпус санаторыя, дзе знаходзілася сталовая.

Івана і Пятра пасадзілі за адзін стол, за якім ужо абедалі пажылая жанчына і маладая дзяўчына-бландзінка. Іван сеў каля апошняй.

— Во, і новыя нашы трапезнікі, — прамовіла пасівелая жанчына. — Мяне завуць Сцепанідай Антонаўнай, а гэта — Оля, — паказала на суседку. — Жывём у адным пакоі.

— Іван і Пётр, — у сваю чаргу адрэкамендаваліся новыя знаёмыя. — Таксама аднапакаёўцы, — дадаў Забярэжны.

Іван час ад часу кідаў позірк на маладую суседку. Белакурая прыгажуня таксама паглядала на яго, усміхалася. І што дзіўнае, заўважыў ён, яе ўсмешка была вельмі падобная на Алініну, але яшчэ з нейкай загадкавай разыначкай. Хутка Іван даведаўся, што Оля родам са Случчыны, заканчвае дзясяты клас.

Пасля абеду новыя знаёмыя крочылі разам у гасцініцу. Оля са Сцепанідай Антонаўнай таксама жылі ў ёй, на першым паверсе. Іван з Пятром — на другім. Оля падахвоцілася паглядзець Іванаў пакой, захацела параўнаць са сваім.

Сталі падымацца па прыступках. Іван адамкнуў пакой. Оля тут жа забегала — то да люстэрка, папраўіла прычоску, то ў ванную — памыла рукі. «Адчувае сябе, як дома, — заўважыў Іван. — А можа, і трэба так: тут усе аднолькавыя, часовыя. А яна, Оля, зусім яшчэ маладая. Такім на месцы не сядзіцца».

Оля праз нейкіх хвілін дзесяць пайшла, а Іван і Пятро вырашылі пасля абеду адпачыць. Сёння працэдур не было — заездзжы дзень.

Назаўтра ўсё паўтарылася: тая ж сталовая, стол, за якім сядзелі Іван, Пятро, Сцепаніда Антонаўна і Оля. Так было некалькі дзён, пакуль пасля вячэры Оля не папрасіла:

— А давай, Іван, паглядзім возера Нарач, паходзім па беразе. Ні разу не была тут. Гэта ж наша самае вялікае возера...

— Мора беларускае, — узнёсла сказаў Іван. Ён тут ужо аднойчы быў, пасля другога курса.

Рушылі далей ад санаторыя. Ішлі па беразе, спачатку па жоўтым пляжным пяску, затым па сцежцы — праз трысцё і аер, за якімі плавалі дзікія качкі.

— Іван, глянь, які цуд! — раптам усклікнула Оля, паказаўшы на двух белых лебедзяў, якія выплылі з-за куста. Белыя птахі, горда выгнуўшы шыі, адплылі далей ад берага. Іван і Оля доўга любаваліся імі, як і самім непаўторным возерам. Не заўважылі, калі пачало змяркацца. Трэба было вяртацца ў санаторый. Назад пайшлі, здаецца, тым жа шляхам. Але прыцемак усё збы-

таў: яны ўперліся ў густы зараснік вербалозу. Сцяжынка скончылася. Што рабіць?

— Оля, ідзем напрамкі. Невядома, дзе тая сцежка, — першым пашыўся скрозь кусты Іван. За ім — яна. У нейкі момант ён запыніўся, на яго літаральна наляцела Оля, упала. Іван стаў падымаць, нізка нахіліўся над ёю. Іх твары былі побач. Оля, устаючы, абняла яго за шыю, быццам знайшла апору, затым прагна пачала цалаваць яго ў вусны. Іван гэтага не чакаў. Яму на хвілю здалося, што гэта Аліна цалуе яго, і таксама памкнуўся да Олі...

У гасцініцу прыйшлі перад самым закрыццём, ледзь не спазніліся. Усю ноч Іван амаль не спаў. Думаў: «Што я нарабіў? Я здрадзіў Алі. Гэты зараснік вербалозу, недарэчнасць, спантаннасць... І яна, Оля, яшчэ тая — дзесяцікласніца, а, відаць, з вопытам, не раз ужо цалавалася з хлопцамі».

Прачнуўся Іван з цяжкай галавой. Памыўся, пагаліўся і пайшоў з Пятром на сняданак. За сталом ужо сядзелі Оля і Сцепаніда Антонаўна. Павіталіся. Оля загадкава ўсміхнулася. Паснедалі і пайшлі, кожны на свае працэдуры. Амаль цэлы дзень адводзілася на іх. «А калі ж пісаць курсавую? Хоць бы яшчэ гэтая дзесяцікласніца не прыстала да мяне». І, як на зло, калі Забярэжны зайшоў у працэдурную, убачыў Олю, якая сядзела з маскай на твары і нешта ўдыхала. Яму таксама прызначылі ўдыхаць нейкую травяную сумесь, пасадзілі побач з Оляй. Яна раз-пораз зыркала на яго, усміхалася. Закончылі працэдуру амаль разам. Калі выйшлі на калідор, дзяўчына прапанавала:

— Іван, давай пройдземся. Надакучылі гэтыя працэдуры.

— А куды пойдзем?

— Непадалёк ад санаторыя вунь лужок. Цяпер жа май. Паглядзім, якія кветкі цвітуць. Ты ж — біёлаг. Хіба табе не цікава?

— А і сапраўды...— Іван першы, за ім Оля накіраваліся да нізінкі, парослай рэдкалессем.

Вочы асляпіла паляна залацістых дзьмухаўцоў. Оля падбегла, сарвала адзін дзьмухавец, паднесла да носа:

— Сонейка, праўда, Іван. Люблю дзьмухаўцы, — падышла бліжэй, прытулілася да яго, пакруціла перад ягонымі вачыма кветку.

Іван не хацеў, каб паўтарылася тое, што адбылося ў зарасніку вербалоззя. Пацалункаў ён больш не дапусціць. І так, што ён скажа Алі... Перад ад'ездам сюды, на Нарач, ён запэўніў яе, што час прабяжыць хутка, і яны зноў будуць разам. Іван тут жа крутнуўся ад Олі:

— Пайшлі. Нас чакаюць працэдуры...

Беглі дні. Ужо і на другую палову курортнага жыцця павярнула. Оля не адступала ад Івана. Аднойчы яна прыйшла са свайго першага паверха гасцініцы да Івана пад вечар. У пакоі ён заставаўся адзін. Была субота. Пятро на два выхадныя паехаў у Мінск да жонкі. Оля была апранута толькі ў тоненькі квяцісты халацік, на нагах — тапкі.

Іван сядзеў з ручкай за сталом. Перад ім ляжалі лісты паперы.

— Што пішаш? — адразу пацікавілася Оля.

— Курсавую.

— Якая тэма?

— «Жыццё на Марсе», — бачачы, як апранута Оля, пажартаваў Іван.

— А калі сур'ёзна?

— «Падвіды малюскаў, іх развіццё», — суха сказаў Забярэжны.

— Во, гэта па-зямному... Вечарэе, кідай гэтыя «малюскі», давай паглядзім цікавы фільм... — Оля падбегла, уключыла тэлевізар.

Івану нічога не заставалася, як згарнуць свае паперы і глядзець з Оляй тэлевізар. Якраз пачаўся фільм «Чалавек-амфібія». Іван вельмі любіў яго. Гля-

дзеў не раз. Але зноў захацелася пабачыць. Ён сеў побач з дзяўчынай. Якраз з'явіўся эпізод, калі Іхціяндр нырнуў глыбока ў мора і выратаваў галоўную гераіню, ролю якой выконвала Анастасія Вярцінская. Раптам Оля выгукнула:

— Ратуй і мяне, Іван! — і кінулася яму на шыю.

— У чым справа, Оля? — не зразумеў ён.

— Я люблю цябе... — і пачала цалаваць яго ў вусны.

Іван збянтэжыўся, не ведаў, што рабіць... Святла ў пакоі не было — яго патушыла Оля, калі ўключала тэлевізар. Раптам яна скінула тоненькі халацік і прашаптала:

— Іван, рабі са мною што хочаш...

Для Івана гэта быў ледзь не шок. Ён марыў, што гэта адбудзецца, калі яны пажэняцца з Алінай, якая будзе яго назаўсёды.

Іван раптоўна ўстаў з ложка. На ім, уткнуўшыся ў падушку, плакала Оля...

Праз некалькі дзён Іван ад'язджаў з санаторыя. Ён стаяў з чамаданам на аўтобусным прыпынку. У апошні момант, калі аўтобус вось-вось павінен быў зрушыцца з месца, каля яго раптам з'явілася Оля. Яна ўбачыла Івана ў салоне, выгукнула:

— Іван, пакінь адрас!

Ён праз акно ўсміхнуўся, памахаў рукой, не адказаў, нібы не пачуў, што яна казала. Аўтобус крануўся, стаў выкіроўваць на шашу.

## 8

Назаўтра ж Іван пайшоў на свой факультэт, хоць патрэбна было ў бібліятэку. На Нарачы ён так і не дапісаў курсавой. А здача — на носе. Але вырашыў паказацца на лекцыях. Усё ж амаль месяц адсутнічаў. Яго сустрэлі аднакурснікі.

— Ну, пакажыся, пакажыся, як ты пакруглеў, Іван, — прыставаў Сцяпан Балотны, весялун курса.

— Мабыць, дзяўчат у тым санатотрыі не было, а то схуднеў бы, — падтрымаў Сцяпана Толік Руцкі, таксама майстар на вострае слоўка.

«Не ведаеце, хлопцы, вы нічога... Каб вы зналі, што адбылося ў мяне з Оляй-случанкай, напэўна, засмяялі б. Затое я застаўся верны Алі. Хоць невядома яшчэ, як яна зрэагуе на тое, што я цалаваўся з Оляй. Урэшце, я тут мала вінаваты. І пра гэта я раскажу Алі абавязкова. Хай асуджае — я гатовы», — у думках разважаў Іван.

На філфаку ён з'явіўся, як толькі скончыліся заняткі. Студэнты, ужо лёгка апранутыя, — заканчваўся май — вясёлыя выбягалі з будынка на вуліцу. Разам з імі паказалася і Аліна. Іван з радасцю сустрэў яе, павітаўся. Яна спакойна адказала на прывітанне.

— Аля, давай пройдземся... Раскажу, як я пражыў гэты месяц у санаторыі... Пойдзем у парк Горкага. Сядзем каля Свіслачы, і я ўсё табе паведаю да драбніц...

— Як лячыўся ў санаторыі? Гэта нецікава, — суха прамовіла Аліна. Яна зараз была не падобная на тую, ранейшую — нейкая надта загадкавая.

— Не, Аля, зусім пра іншае...

Парк Горкага — блізка. Яны ішлі побач. Іван узяў Аліну за руку, але адчуў халадок...

Дацвіталі дрэвы, кусты. Шкада было бялюткіх пялёсткаў, якія, як маленькія парашуцікі, апускаліся з голля на зямлю. Парк развітваўся з чарговым чароўным маем.

Яны прыселі на лаўку пад зялёным клёнам. Іван адразу не мог казаць пра свае пачуцці да яе. Яго трывожыла іншае: як Аля ўспрыме тое, што ён зараз паведае...

— Аля, як хочаш, асуджай мяне — не асуджай: я на Нарачы цалаваўся з адной дзяўчынай. Дакладней, цалавала яна мяне...

— Гэта нічога не мяняе, — Аліна ўмомант пасур'ёзнела. У голасе з'явіліся металічныя ноткі.

— Прабач мне. Я не мог зманіць, я павінен быў сказаць табе...

— Дык вось, і ты мне прабач: я таксама цалавалася з хлопцам. А два прабачэнні, калі іх скласці, не вытрымлівае ніякае каханне, вядома, калі яно было, — Аліна агаломшыла Івана сваім прызнаннем. — Давай, Іванка, разыдземся падобраму. І табе, і мне не будзе сорамна глядзець адно аднаму ў вочы.

Іван моўчкі ўстаў з лаўкі, ціха, ледзь не мёртвымі губамі вымавіў:

— Шчасця табе!.. — і хутка пакрочыў у кірунку праспекта. Праз колькі крокаў азірнуўся: апошні раз бачыць Аліну... Яна працягвала сядзець на лаўцы пад зялёным клёнам і, здаецца, не глядзела яму ўслед.

А з Алінай, калі Іван знаходзіўся ў санаторыі, адбылося вось што...

Алег, маючы нумар Алінінага тэлефона, аднойчы пазваніў ёй і прызначыў спатканне. «Пайсці ці не?— адразу падумала яна. — А што я трачу... Хоць разведаю, што ён за хлопец. Дый мінчанін, а з гарадскімі я яшчэ не сустракалася, толькі з вясковымі. Даруй, Іванка, я пайду...»

Сустрэлася яна з Алегам каля рэстарана «Нёман», што знаходзіўся на праспекце, непадалёк ад ГУМа.

— Як ты глядзіш на тое, каб мы разам павячэралі ў рэстаране? — павітаўшыся, прапанаваў Алег.

— Я не супраць, — адказала Аліна, а сама падумала: «Пачынае з рэстарана. Гарадскі, не тое, што Іван. Той пачынаў з кіно. Дый Алег — не студэнт ужо, інжынер, грошы мае...»

Яны ўвайшлі ў «Нёман», распрануліся, селі за вольны столік у кутку пад фікусамі.

— Я ўжо пра цябе нямала ведаю, — пачаў Алег. — Пра што яшчэ ў цябе запытаць? Во, чаму ўвесь час жывеш на кватэры, а не папрасіла інтэрнат?

— А ты ведаеш, чатыры гады неяк прабеглі незаўважна. Мы з сяброўкай Алай выдатна зжыліся, разам нам так было добра, што не хацелася прасіцца ў інтэрнат. І якое там жыццё, вучоба? Больш займаюцца абы-чым, толькі не вучобай, — Аліна казала амаль праўду.

— Я некалькі разоў заходзіў у інтэрнат політэхнічнага, да сябра Віталя, — сказаў Алег. — Не спадабалася: цесна, ды і... — ён памаўчаў, потым мовіў: — Думаю, мне таксама не жылося б у інтэрнаце. Прывык да гарадской кватэры. Свой пакой маю, як маці і брат.

— А бацька дзе? — зацікавілася Аліна.

— Бацька з маці ў разводзе, — Алег пасуровеў. — Знайшоў другую ў медінстытуце, у якім працуе. Мне было дзесяць, калі яны развяліся.

Афіцыянтка паднесла віно і закусь. Алег спачатку наліў у фужэр віна Аліне, а затым — сабе. Сказаў:

— За першае спатканне ў горадзе. Вёску Чую не будзем лічыць...

Выпілі, пачалі закусваць, працягвалі весці размову.

— А твае бацькі хто? — дапытваўся Алег.

— Бацька — фельчар, маці — настаўніца пачатковых класаў.

— Адным словам, вясковая інтэлігенцыя.

Выпілі яшчэ віна. У Аліны закружылася галава.

— Цяпер сакраментальнае пытанне, — Алег станавіўся вясёлым, усмешлівым, і гэта падабалася Аліне. — У цябе ёсць хлопец?

Што ёй было рабіць? Сказаць праўду: у яе ёсць Іван? Так, больш як паўгода яны сустракаюцца, але ці было між імі сапраўднае каханне? Ды яны, калі ўжо так, толькі адзін раз па-сапраўднаму цалаваліся — на вяселлі ў Капылі, і то... Праўда, Іван вельмі прыстойны. Але, можа, і Алег гэткі ж? І Аліна прамовіла:

— Сёння я — вольная, — мела на ўвазе, перш за ўсё, адсутнасць Івана.

— А заўтра?

— І заўтра — таксама.

— Значыць, заўтра мы зноў сустракаемся, так?

Аліна няпэўна пацiснула плячамі, а потым згодна кіўнула галавой.

Алег яшчэ не раз прызначаў ёй спатканні. Яны хадзілі ў кіно і тэатр.

Аднойчы, калі выйшлі з кінатэатра, ён прапанаваў:

— Праз тры прыпынкі, калі ехаць на трамваі, — дом, у якім мая кватэра. Я вельмі прашу цябе наведаць яе. Абмяркуем фільм, паслухаем музыку, пасядзім...

Яна спачатку аднеквалася, але прыстойныя паводзіны, далікатнасць Алега, а галоўнае, яго ўсмешлівасць, абаяльнасць скарылі яе. Даехалі да патрэбнага дома, зайшлі ў кватэру, у якой нікога не было, пасля — у Алегаў пакой. На стале стаяла бутэлька «Такая». Гаспадар уключыў магнітафон. Палілася павольная музыка. Пад яе Алег разліў віно, запрасіў Аліну выпіць. Яна піла маленькімі глыткамі, спакваля. Алег — таксама. Крыху пагаварылі пра фільм. Потым Алег зноў наліў віна. Выпілі. І тады ён запрасіў яе на танец. Гучала танга. Алег асцярожна прыхінаў да сябе Аліну, закахана глядзеў ёй у вочы і ўрэшце не вытрымаў: лёгка пацалаваў яе ў губы. Затым — яшчэ і яшчэ раз, але ўжо мацней. І вось ужо ў страсным пацалунку зліліся іх вусны. «Усё... Гэта апошняе. Бывай, Іванка, і даруй...» — падумала яна, абдымаючы Алега за шыю...

А праз некалькі дзён Алег прывёў Аліну дамоў і пазнаёміў яе з маці і братам.

— Прымайце яшчэ аднаго чалавека ў нашу сям'ю: мая будучая жонка, а цяпер — пакуль нявеста, — сказаў ён, далікатна абняў і пацалаваў Аліну.

## Частка другая

### 1

Пасля такой нечаканай, можна сказаць, казачнай сустрэчы з Алінай Вітальеўнай у каледжы, — падумаць толькі: праз цэлых трыццаць гадоў! — Забярэжны жыў адным жаданнем, каб як мага хутчэй зноў спаткацца з ёю. А для гэтага былі ўсе ўмовы: жонка знаходзілася за мяжой у дачкі, якая жыла там.

Ян Пятровіч падрыхтаваўся загадзя: купіў шампанскае, бутэльку каньяку, вычысціў да бляску кватэру — выцер пыл на секцыі, з люстраў і рамаў карцін, прапыласосіў дываны, нацёр журнальны столік, заслаў яго абрусам. Засталося прызначыць дзень спаткання.

І гэты дзень надышоў. Субота. Звычайна ў Аліны Вітальеўны па суботах было мала заняткаў. Да абеду яна была ўжо вольная. Забярэжны па мабільніку патэлефанаваў ёй і, як некалі ў маладосці, хвалюючыся, спытаў: «Ці не маглі б вы сёння аддаць некалькі гадзін мне? Пры сустрэчы раскажу ўсё...» Яна нейкую хвіліну падумала і згадзілася.

Ён чакаў яе каля кінатэатра «Кастрычнік». З каледжа Аліна Вітальеўна пад'ехала да праспекта аўтобусам, сышла на прыпынку, адтуль прыйшла да кінатэатра. Блізіўся канец мая. На вуліцы было цёпла, людзі хадзілі ў лёгкім адзенні. Аліна Вітальеўна таксама была ў тонкай сіняй сукенцы. Кароткая стрыжка, падфарбаваныя вусны. У руках — чорны партфель. Выглядала яна прывабліва. У яго, як убачыў яе, ажно моцна забілася сэрца.

— Ну, і што ты мне раскажаш? — пасля прывітання запытала, неяк нават гулліва, Аліна Вітальеўна, па чым Ян Пятровіч зразумеў, што ў яе выдатны, несапсаваны навучэнцамі настрой.

— А тое, што мы едзем... — ён памаўчаў, — у Зялёны Луг. Там мая кватэра. Я хачу, каб ты сёння была маёй госцяй. Пра што мы толькі не пагутарым...

— Неяк нечакана. Як снег на галаву, — з тым жа настроем прамовіла яна. Затым пільна глянула яму ў вочы: — А дзе жонка?

— У Іспаніі. У горадзе Пальма-дэ-Маёрка гадуе ўнукаў. Я жыву адзін. Таму няма чаго доўга і думаць... — Ян Пятровіч далікатна ўзяў Аліну Вітальеўну пад руку, накіраваўся да трамвайнага прыпынку.

На вуліцы Гамарніка яны апынуліся хутка. Зайшлі ў пад'езд дома, падняліся па прыступках у кватэру — яна знаходзілася на другім паверсе. Столік Забярэжны накрыў перад сваім адыходам. Засталося скінуць абутак ды зайсці ў ванную памыць рукі. Праз некалькі хвілін Аліна Вітальеўна стаяла ў прыхожай. Ян Пятровіч тут жа запрасіў яе ў гасціную за столік. Яна села ў мяккае крэсла. Насупраць — ён.

— Што будзем піць? — Забярэжны памкнуўся да бутэлек.

— Шампанскае я не ўжываю, нават на Новы год... — Аліна Вітальеўна папра́віла прычоску.

— Тады — каньяк, — ён адкрыў прыгожую бутэльку.

Выпілі па маленькай чарачцы, закусілі, загаманілі.

— У час нашай першай сустрэчы ў каледжы я крыху расказаў пра сябе, — Ян Пятровіч падступаўся да галоўнага. — Можа, давай пачнём з таго моманту, калі мы рассталіся, здавалася, назаўсёды, у парку Горкага...

— О-го, за адзін вечар не перакажаш усё, — Аліна Вітальеўна задумалася.

— Складанае жыццё было?

— Як сказаць... Усяго хапала... Пасля чацвёртага курса я выйшла замуж за інжынера маторнага завода.

— Тады, калі я быў на вайсковых зборах... — Забярэжны нервова ўзяўся за падбародак.

— Пражыла з ім дваццаць пяць гадоў. Як пражыла? А было ўсё: і сапраўднае каханне, і сямейныя сваркі, як і ва ўсіх, — шчыра прызналася Аліна Вітальеўна. Забярэжны наліў каньяку ёй, потым — сабе.

Гэтае прызнанне Алі — ён цяпер зноў будзе называць яе так, як у студэнцкія гады — нечакана зрабіла Яна Пятровіча раскаваным. А то ўжо наважыўся паводзіць сябе, як тады, у студэнцтве: «Аля — незямная, Аля — багіня». А яна — ніякая не багіня, а як і ўсе жанчыны, са сваімі слабасцямі і недахопамі. Яны абое ўжо добра захмялелі, і Забярэжны прапанаваў каву. Пайшоў гатаваць яе на кухню. «Я не ведаю, як скончыцца гэты вечар... Але я пацалую яе, пацалую. А там — што будзе...»

Ён прынёс у джэзве каву, разліў у кубачкі, падсунуў бліжэй да Аліны Вітальеўны шакаладку, цукеркі. Яна цмокнула — кава была гарачай — і паставіла на столік, спытала:

— А як ты пражыў са сваёй жонкай? Нябось любіў і шанаваў яе... Зрэшты, так і павінна быць, а інакш навошта жыць, калі няма кахання?.. Любіў

і патанаў у яе вачах? Якога колеру яны, не забыў? — ёй хацелася параўнаць яе вочы са сваімі блакітнымі.

— Карычневыя. Яны і цяпер такія — не змяніліся. Але змяніліся ў мяне адносіны да іх...

— Чаму змяніліся? Што было не так у жыцці?

— У яе жорсткі характар. Дарэчы, як і ў яе маці. Маці кіравала ўсім у нашым жыцці.

— Во трапіў у нерат... — сказала Аліна Вітальеўна.

— Было... Некалькі разоў даходзіла да разводу...

— І чаму не развёўся?

— Шкада было дзяцей...

— Колькі ў цябе іх тады было?

— Дзве дзяўчынкі. Малыя, школьніцы. Разумныя, выдатна вучыліся. А яшчэ — і гэта галоўнае, — Ян Пятровіч бліжэй падсунуўся да яе, узяў за руку, — я не сустрэў такую жанчыну, як ты, дакладней, падобную на цябе. Я даў сабе слова, што буду ўсё жыццё шукаць... Калі не ты, то такая, як ты. А яе ўсё не было... Былі дзяўчаты пасля развітання з табой, да таго, як ажаніўся, але там не ўзнікла каханне.

— А жонка з'явілася ўсё ж, хоць і не падобная на мяне... — працягвала дапытвацца Аліна Вітальеўна.

— Так атрымалася... Мабыць, таму, што не шанцавала ў каханні. Ды і ўзрост: мне было ўжо дваццаць шэсць. Трэба было жаніцца... — крыху памаўчаў, затым дадаў: — Ведаеш, Аля, у мяне была, так бы мовіць, спецыфічная хвароба на глебе неўрозу: паталагічная сарамлівасць. Я сароміўся дзяўчат, баяўся іх пацалаваць. Ты, мабыць, гэта сама заўважала.

— Ну, гэта сапраўды хвароба. Каб ведала, я цябе сама пацалавала б, — засмяялася яна. — А як ты цяпер — вылечыўся ад яе? Двое ж дзяцей маеш...

— Цяпер яе ў мяне няма. Вылечыў я і свой неўроз.

— Значыць, жанчын зараз не баішся?

— Аля, хопіць з мяне здзекавацца, кпіць, — Забярэжны далікатна абняў яе, як тады, у студэнцкія гады, і пачаў шукаць яе вусны сваімі губамі.

— Іванка, — яна ўспомніла, як называла яго тады, даўно, — давай спынімся. Позна, дарагі, позна...

— Лепш пазней, чым ніколі... — ён загараўся, як запалка.

— Не, не... — яна вызвалілася з абдымкаў, лёгка адштурхнула яго, устала, паправіла прычоску.

Ён таксама падняўся з крэсла, пасур'ёзнеў:

— Колькі ж гадоў ты ўдава?

— Дзесяць...

— І што, за гэты час ты не магла выйсці замуж?

— Канечне, сваталіся да мяне. Адзін Карлавіч чаго значыў: сто разоў прапаноўваў руку і сэрца. Ён таксама быў удавец. Я адмовіла яму.

— Чаму?

— Ён быў на пятнаццаць гадоў старэйшы за мяне. На цяперашні розум, трэба было прыняць прапанову. Я ўжо шкадую, дакараю сябе. Карлавіч быў сур'ёзны, дзелавы мужчына. І мне было б нашмат лягчэй жыць, — Аліна Вітальеўна на вачах мянялася.

— Значыць, не пакахала яго. Каб ты моцна ўлюбілася, на ўзрост не зважала б...

— Можа, і так...

— Аля, твой лёс распарадзіўся чакаць не слугу, а караля, — Забярэжны пранікнёна глядзеў ёй у вочы..

— Караля? Мне было тады сорак з хвосцікам. У такім узросце мог бы яшчэ быць кароль. А цяпер...

— Я — зараз твой кароль, Аля. Павер, я кахаю цябе з тых студэнцкіх гадоў. Я шукаў у жанчынах *цябе* ўсё жыццё... — ён зноў памкнуўся пацалаваць яе, лёгка прыгарнуў да сябе.

— Мой дарагі кароль, — яна адвяла яго рукі, — давай пакінем нешта і на потым. Бо не цікава, думаю, і сапраўднаму каралю ўсё мець адразу: і замак, і ўладу, і жонку... з каханкай. У нас яшчэ шмат чаго не дагаворана. Трэба не раз сустрэцца, каб усё стала ясна...

— Магчыма, твая праўда. Хай будзе па-твойму, — Забярэжны стаў больш спакойным, настроіўся на цвярозы лад.

Яны выйшлі ў прыхожую. Аліна Вітальеўна рушыла ў ванную, каб прычасацца. Вярнулася яшчэ больш папрыгажэлая.

— Праводзь, — заззяла такой знаёмай, блізкай усмешкай.

— Абуваемся, ідзём... — ён замітусіўся каля шафы.

Забярэжны прапусціў Аліну Вітальеўну, і сам выйшаў з кватэры, замкнуў дзверы. Было ўжо шаравата. Мужчына і побач жанчына крочылі да трамвайнага прыпынку.

**2**

Ян Пятровіч вырашыў сустрэць Аліну Вітальеўну каля яе каледжа і схадзіць разам у Батанічны сад, дзе некалі працаваў. Ён стаяў на тратуары пад высокім дрэвам, пакуль яна не выйшла з будынка каледжа. У руках трымала белыя ружы. Павіталіся. Забярэжны кінуў позірк на кветкі, яна заўважыла:

— Першы экзамен прымала. Вось і зарабіла... — панюхала ружы.

— І ў нас, ва ўніверсітэце, пачалася сесія. Але я прымаю экзамен праз тры дні. Аля, — раптам ён змяніў тэму гаворкі, — я цябе запрашаю ў Батанічны сад. Там зараз мора кветак. Пасля экзамена якраз добра развеяцца, палюбавацца прыродай, падыхаць свежым паветрам.

— А ружы куды? — яна паказала на кветкі.

— Бяры з сабой, будзе з чым параўнаць...

Даехалі аўтобусам да Батанічнага саду і рушылі ў білетныя касы. Адтуль выйшлі за агароджу, і іх адразу запаланіла казачная прыгажосць: ад кветак стракацела наваколле. Яны хадзілі ад аднаго да другога сектара, любаваліся кветкамі і рознымі пародамі дрэў. Не спяшаючыся дайшлі да азярца, на якім не так даўно плавалі качкі і белыя лебедзі, выгнуўшы гордыя шыі. Селі на лаўку.

— Я вельмі любіў гэтае азярцо і птушак на ім, калі працаваў тут. — Забярэжны паказаў на пусты вадаём. — Бачыш, птушак зараз няма: ідзе рамонт.

— Раскажы, раскажы. Мне цікава...

— Помніш, я табе ў час нашай першай сустрэчы казаў, што выкладаў біялогію ў школе, затым працаваў у Батанічным садзе.

— Ну, так... Толькі не магу зразумець, чаму ты пакінуў такое прэстыжнае месца працы, як не разумею, чаму ты цяпер Ян, а не Іван?

— Зараз усё раскажу па парадку... — Забярэжны на хвіліну задумаўся. — Пасля ўніверсітэта — з-за хваробы бацькі, ён ляжаў паралізаваны, — мяне накіравалі на працу ў мой раён. Там у райкаме камсамола абяцалі ўзяць на пасаду загадчыка школьнага аддзела. Але не атрымалася. Нейкі час я папрацаваў у школе падменным настаўнікам. Пасля Новага года вярнулася з бальнічнага настаўніца біялогіі, і я застаўся без працы. Мы толькі што пахавалі баць-

ку. Мне далі адмацаванне. Куды паехаць? Вядома ж, хацелася назад у Мінск. Там сустрэў свайго аднакурсніка-мінчаніна, з якім мы крыху сябравалі. Ён працаваў у Інстытуце заалогіі Акадэміі навук. Андрэй, так яго завуць, параіў мне ўладкавацца ў Батанічны сад. Была вакансія. Аднакурснік прапісаў мяне да сваёй бабулі. Яна жыла ў прыватным доме на вуліцы Севастопальскай. Там пэўны час і кватараваў. — Забярэжны ўспамінаў, глядзеў на азярцо, якое было падобна на люстэрка. — А Янам стаў таму, што так у дзяцінстве, ды і потым, так мяне звала маці. Я вельмі любіў яе...

— А з будучай жонкай доўга сустракаўся?

— Пасля таго, як яе сяброўка пазнаёміла нас, мы сустракаліся нейкі час.

— Значыць, было каханне...

— Напачатку, здаецца, было. Нарадзіліся дзве дачкі. Ездзілі сям'ёй летам у час адпачынку і на Чорнае, і на Балтыйскае мора, пабылі ў Ленінградзе і Маскве, яшчэ шмат дзе. Здавалася б, жыві сабе... — Ян Пятровіч пачынаў хвалявацца, бо казаў шчырую праўду. — Але паступова мы пачалі аддаляцца адно ад аднаго. Між намі знікла ўзаемаразуменне. З гадамі жонка ўсё больш станавілася падобнай на маці: у той вельмі цяжкі характар. У нас пачаліся спрэчкі, скандалы...

— І што ты вырашыў? — Аліну Вітальеўну заінтрыгавала гэтая споведзь Забярэжнага.

— Пакуль чакаць і спадзявацца, што сустрэну жанчыну, падобную на цябе, — ён замілавана глянуў ёй у вочы. — У Маскве, дзе я быў на курсах, яна, здавалася, з'явілася. Гэта была малдаванка Тоня. Ды не лёс. Я ўжо наважыўся ляцець з ёю ў Кішынёў. Але мы спазніліся на самалёт. І я пасля перадумаў...

— А ты хацеў быць з Тоняй, скажы шчыра? — спытала Аліна Вітальеўна, нібы параўноўваючы яе з сабой.

— Хацеў... Яна мне падабалася.

— Але перамагла жонка...

— Пашкадаваў малых дачок...

Яны амаль разам усталі з лаўкі, рушылі па сцяжынцы сярод кветак і экзатычных дрэў углыб саду. Каля куста пунсовых руж спыніліся.

— У цябе — белыя, а гэта цёмна-чырвоныя ружы, — Ян Пятровіч асцярожна дакрануўся рукой да пялёсткаў. — Я недзе чытаў: калі сустракаюцца белыя ружы з пунсовымі — будзе шчасце.

— Толькі ў каго?

— У нас абаіх. Аля, вер, гэтае шчасце мы больш не ўпусцім...

### 3

Цяпер Забярэжны амаль штодзень званіў па мабільным тэлефоне Аліне Вітальеўне. Гэта для яго стала ледзь не звычкай. Не, хутчэй узлётам ад будзённых спраў. Ён пачынаў так: «Прывітанне, мая каралева!» У адказ чуў: «Дзень добры, мой кароль!» Далей ішлі навіны, розныя здарэнні. Больш расказваў ён, яна слухала. Але і ў яе часам былі вельмі цікавыя звесткі. У каледжы вучыліся падлеткі, а гэты ўзрост непрадказальны. Таму было што расказаць, хоць і каротка — мабільнік жа. А ён, Забярэжны, распавядаў пра сваіх студэнтаў, зусім непадобных на тых, якімі ў свой час былі яны.

Аднойчы Забярэжны пазваніў Аліне Вітальеўне і сказаў:

— Я ўзяў білеты на фільм, які ідзе ў кінатэатры «Беларусь». Давай сходзім. Адпачнём пасля працы.

Яна згадзілася. Дамовіліся, што сустрэнуцца каля кінатэатра.

Чакаючы яе, Забярэжны нецярпліва хадзіў па тратуары ўзад-уперад. Чамусьці баяўся, што Аліна Вітальеўна спозніцца. Але яна прыйшла ў час, і Забярэжны падарыў ёй букецік ландышаў, якія купіў у бабулькі — прадавала кветкі каля кінатэатра. Яна падзякавала, перасеклі вуліцу і хутка былі ў фае кінатэатра.

— Здаецца, мала што змянілася з тых часоў, калі мы студэнтамі прыходзілі сюды. Помніш? — Аліна Вітальеўна крочыла з Забярэжным у глядзельную залу.

— Як не помніць, Аля? Ніколі не забыць і фільм «Каўказская палонніца», які стаў класікай.

— А што мы сёння будзем глядзець?

— Беларускі фільм «На спіне ў чорнага ката». Быццам камедыя.

— Прайшло трыццаць гадоў, а здаецца, мы сядзім тут, як учора. Можа, нават на тых самых месцах, — яна зручней уладкоўвалася ў крэсле.

— Не, мы сядзім вышэй. Тады на «Каўказскую палонніцу» цяжка было ўзяць білеты. Я стаяў доўга ў чарзе. Узяў білеты, якія засталіся, — шэптам сказаў ён перад самым пачаткам сеанса.

— «Все это было, было, было... Свершился дней круговорот. Какая ложь, какая сила тебе прошедшее вернет?» — вершаванымі радкамі Аляксандра Блока прашаптала і яна.

Неўзабаве на экране з'явіліся першыя кадры. Фільм і сапраўды аказаўся вясёлым. Ён апавядаў пра тое, як два дзядулі выйгралі па латарэі вялікую суму грошай і паехалі адпачываць на мора. Іх прыгоды смяшылі гледачоў. Смяяліся і Аліна Вітальеўна, і Забярэжны.

— Ведаеш, Аля... — Забярэжны, як толькі яны выйшлі з кінатэатра, памкнуўся сказаць ёй нешта важнае... Яна перабіла яго:

— Ведаю, Яне... Ты хочаш сказаць пра тое, што час прыдумалі людзі. А для нас ён сёння не існаваў.

— Ты ўгадала мае думкі, — Забярэжны злёгку ўзяў яе за руку. — Толькі мы значна пасталелі. Я ўжо зусім не той нясмелы юнак-студэнт, які баяўся дакрануцца да дзяўчыны, а тым больш пацалаваць яе...

— І я не тая, якая баялася ступіць лішні крок убок. Усё слухалася бацькоў, зубрыла прадметы, пакуль раптоўна не выскачыла замуж.

— Дык мы квіты. А таму не грэх нам працягнуць гамонку ва ўтульным месцы, — з уздымам прамовіў ён.

— Дзе?

— Мы ўжо амаль каля яго — метраў дзвесце прайсці. Тут аднапакаёўка маёй дачкі. Кватэру перапісала на яе цешча. Дачка Святлана, ты ведаеш, зараз у Іспаніі, а да ад'езду за мяжу жыла ў ёй. Цяпер тут жыве цешча. Зараз яна на дачы. Я наглядаю за кватэрай, — тлумачыў па дарозе Забярэжны. — Во, і патрэбны дом. Толькі захопім чаго-небудзь у краме. Пастой на вуліцы, а я забягу...

Ён знік за дзвярыма магазіна, які знаходзіўся ў гэтым жа доме. Хутка вярнуўся з напоўненым поліэтыленавым пакетам. Павярнулі за вугал у двор, увайшлі ў пад'езд. Ліфтам даехалі на шосты паверх.

— Калі ласка, заходзьце, каралева, будзьце, як дома, — адчыніўшы дзверы, Забярэжны прапусціў Аліну Вітальеўну ў кватэру. — А я на кухні нешта прыгатую...

Яна агледзела пакой: сервант, шафа, канапа, журнальны столік, на ім тэлефон. Зайшла ў ванную, памыла рукі, прычасалася. Хутка з падносам у руках з'явіўся Забярэжны. На столік ён паставіў бутэльку віна, паклаў вінаград, апельсіны. Выпілі за чарговую сустрэчу. Пачалася размова.

— Гэтую кватэру я дапамагаў афармляць цешчы дзесяць гадоў назад, — Забярэжны акінуў поглядам сцены. — Бабуля расшчодрылася ці баялася, што хутка памрэ. Вось і падарыла яе любімай унучцы. Сваю генеральскую кватэру яна аддала сям'і малодшай дачкі Полі, а сама перайшла жыць у гэтую аднапакаёўку, дзе некалі мы жылі з жонкай. А незадоўга да гэтага мой цесць захварэў, і праз паўгода яго не стала. Дарэчы, было яму яшчэ няшмат — шэсцьдзясят адзін, столькі, колькі і майму бацьку, калі ён памёр, пятнаццаць гадоў таму. А колькі гадоў было твайму бацьку? (Аліна Вітальеўна неяк казала, што таты ў яе ўжо няма).

— Пяцьдзясят два гады.

— А што здарылася?

— Менавіта, здарылася. Не дай бог нікому. А было во як. У верасні бацька паехаў з трактарыстам Зміцерам у лес па бярвенні. Яны іх да гэтага нарэзалі. Тата хацеў паставіць новы хлеў. Сталі грузіць. Зміцер быў выпіўшы, задам пад'язджаў, не разлічыў, моцна газануў і наляцеў на тату. Яго давезлі да бальніцы, але ўрачам уратаваць не ўдалося.

— Страшна. Мог бы жыць ды жыць яшчэ твой бацька... — моцна пашкадаваў Ян Пятровіч..

— А так ужо ляжыць на могілках у нашай Чуі амаль трыццаць гадоў. Чакае і маму маю, ёй ужо пад восемдзесят пяць...

— І маёй маці — столькі ж. Таксама без мужа жыве ўжо даўно.

— Лёсы нашых бацькоў вельмі блізкія. Нагараваліся яны за свой век. Адна вайна чаго значыла... — У Аліны Вітальеўны падаў настрой. Гэта заўважыў Ян Пятровіч:

— Мы нешта адышлі ўбок... — ён зрабіў паўзу. — У нас яшчэ ёсць аднапакаёўка, у Малінаўцы. Чаму мы жывём з жонкай у малой кватэры? Некалі была трохпакаёвая. Калі дачцы Ксеніі споўнілася васямнаццаць, яна захацела аддзяліцца ад нас. Такім чынам, размянялі нашу вялікую кватэру на двухпакаёўку і аднапакаёвую.

— І ў нас не лепш. Жыву я з сынам і нявесткай таксама ў двух пакоях. Цесна, а што зробіш? Гэта ўнукаў яшчэ няма...

— А ў мяне, Аля, ужо тры ўнукі: два хлопчыкі і дзяўчынка, — Забярэжны зноў наліў віна.

— Багаты дзядуля. Раскажы пра іх...

— Ніхто не верыць, калі каму скажу: дзве дачкі і абедзве — за мяжой. Пры тым жывуць на адным моры: Міжземным. Першая, табе ўжо вядома, — на самым захадзе, у Іспаніі, на востраве Маёрка, другая — на востраве Крыт. Павыходзілі замуж: адна — за іспанца, другая — за грэка. Там нарадзіліся ўнукі. Жывуць на тым моры ўжо каля дзесяці гадоў.

— Як здарылася, што дочкі павыходзілі замуж за іншаземцаў? — Аліне Вітальеўне было дзіўна гэта чуць, як раней, калі Забярэжны паведаміў, што ён жаніўся на генеральскай дачцэ.

— Старэйшая, Святлана, вучылася ў інстытуце замежных моў, вазіла за мяжу на аздараўленне чарнобыльскіх дзяцей. Там і знайшла свайго іспанца. А малодшая, Ксенія, працавала ў беларуска-крыцкай фірме камп'ютаршчыцай, дзе і пазнаёмілася са сваім грэкам.

— Ну, і як яны там?

— Дочкі прывыклі. Здаецца, шчаслівыя...

— Дык і ты будзь гэткім. Прафесію ж змяніў: яна ў цябе вельмі сучасная. Едзь да адной з дачок і заставайся там назаўсёды...

— Не, Аля, гэтай чарговай ненармальнасці я не хачу. У нашай сям’і і так хапала ўсяго нязвычнага. Два мае браты, што ішлі за мной, не жаніліся, засталіся бабылямі, малодшая сястра позна выйшла замуж. Двойчы нараджала і двойчы ёй рабілі «кесарава сячэнне». А тут яшчэ — мае анамальныя дочкі, — Забярэжны цяжка ўздыхнуў. — Я не змог бы прывыкнуць жыццё на чужыне. Мне вельмі не хапала б нашай зялёна-блакітнай Беларусі: яе лясоў, рэк, азёр, шырокіх палёў.

— А я, наіўная, думала, што за мяжу ўцякаюць з радасцю...

— Моладзь яшчэ можа прывыкнуць жыць у там, а мы ўжо — ніколі.

— Каб мяне нават золатам туды заваблівалі, я не паехала б. Гэта бясспрэчна і назаўсёды. Маё павінна быць маім, якое яно не было б... Я хачу жыць у роднай Беларусі...

Было ўжо даволі позна. Паружавелая ад выпітага віна Аліна Вітальеўна выглядала яшчэ больш прывабнай. Забярэжны не зводзіў з яе вачэй. «На якую кветку яна зараз падобна? У тыя далёкія студэнцкія гады — на вясновую незабудку, цяпер — на восеньскую вяргіню». Ён прытуліўся да яе. Яна маўчала. Абняў. Затым імгненна прыпаў да яе вуснаў. Пацалунак быў доўгі... Божа, трыццаць гадоў расстання паміж імі... Якая бездань у часе! Здалося, яе можна было ліквідаваць толькі цяпер. Нарэшце Забярэжны адарваўся ад Аліны, устаў:

— Ты сёння будзеш начаваць тут... Са мной, — узбуджана і рашуча прамовіў ён.

— Вось як! — Аліна Вітальеўна здзівілася, гэтыя словы былі для яе нечаканымі.

— Гэтак, Аля... Я больш не магу... — Забярэжны зноў моцна сціснуў яе ў сваіх абдымках. Яна не вырывалася, толькі прашаптала:

— Пусці на хвілінку. Я дастану з сумачкі мабільнік, пазваню сыну, што заначую ў сяброўкі...

Уся гэтая незвычайная ноч прайшла для іх у завоблачных вышынях. Там здавалася, што ўнізе пад імі бездань, тая самая прорва гадоў, якая так доўга разлучала іх. Калі ён цалаваў яе вусны, яму ўяўлялася, што гэта сыходзяцца берагі той бездані-прорвы...

**4**

Забярэжны ніколі не быў на астравах. «Людзі жывуць сярод мора, неабсяжнага прастору вады... Неяк дзіўна!» Святлана і Ксенія не раз запрашалі бацьку ў госці, а яму ўсё не выпадала: шмат было працы ва ўніверсітэце.

Нарэшце надышла пара, калі адмаўляцца ўжо было нельга: у дачкі Ксеніі нарадзіўся сын, яго ўнук. Вырашылі ляцець удваіх з жонкай.

Крыт... Што ён чуў пра яго? «Гэта грэчаскі востраў, які знаходзіцца сярод Міжземнага мора. Блізка каля Грэцыі. Пра ўсё астатняе раскажа і пакажа дачка...» — думаў ён.

На наступны дзень, пасля таго, як прыляцелі да дачкі, Ксенія, на сваёй «Таёце» павезла бацьку на экскурсію, Вольга ж засталася ў горадзе. Яна ўжо неаднойчы была тут і добра ведала востраў. Дый і хацелася быць каля ўнучыка, які нядаўна нарадзіўся і якога назвалі Міхалісам.

Выехалі на аўтабан, паабапал якога раслі пальмы, кіпарысы, алеандры. Стракатыя кветкі і кусты ўсцілалі даліны і ўзгоркі. Усюды цвілі пладовыя і дэкаратыўныя дрэвы. Ішоў апошні месяц вясны.

Ксенія вазіла бацьку па востраве: заязджалі ў гарады Ханія, Атарамон, наведалі розныя паселішчы ў гарах, дзе бачылі, як пасуцца на горных схілах

козы і авечкі, дзівілся на крутыя марскія берагі з шыкоўнымі рэстаранамі, атэлямі, супермаркетамі і прыватнымі магазінчыкамі. Вярнуўся назад Забярэжны, напоўнены ўражаннямі ад вострава. А заўтра, у суботу, збяруцца зяцевы родзічы на народзіны Міхаліса.

Госці прыязджалі кожны паасобку. На сваёй машыне прыехала Ксеніна стрыечная сястра Даша з мужам і двума хлапчукамі. Яна была замужам за грэкам. Сям’я жыла на самым беразе мора ў трохпакаёвай кватэры. У час гамонкі за сталом Даша прапанавала Забярэжным пажыць у іх:

— Навошта вам дабірацца транспартам да пляжа, ён побач з нашым домам, выдатнае месца і з берага неглыбока.

Забярэжныя згадзіліся, бо асабняк дачкі і зяця быў далекавата ад мора. Назаўтра мінчане пасяліліся ў Дашынай кватэры. Перакусілі і пайшлі на пляж. Ян Пятровіч распрануўся да плавак і адразу сігануў у серабрыстыя салёныя хвалі мора. Заплыў далёка, аж да буйкоў. А жонка плёскалася ля берага, потым пайшла, легла на коўдру, загарала. І не заўважыла, як прыгарэла. Сонца пякло, як тая лупа. Праз некаторы час сабраліся і пайшлі на кватэру. Астатак дня правялі ля тэлевізара — ішоў любімы жончын серыял «Кармеліта», знайшлі яго на маскоўскім канале. Неўзабаве агарнула ноч. Трэба было рыхтавацца да сну. Двухспальны ложак чакаў сямейную пару. Пакуль Вольга ў ваннай мазала крэмам рукі і ногі, Забярэжны ўсё думаў, як пройдзе гэтая ноч. У Мінску яны ўжо некалькі гадоў як не спяць разам. «Мы ўжо не маладыя. Дый цесна спаць на адной канапе», — казала жонка. А што тут будзе? Ён так наплаваўся ў моры, аблашчыў цела на беразе цяплом залатых сонечных промняў, што мог бы звярнуць і горы.

Забярэжны ляжаў у ложку, жонка хутка прыйшла да яго. Першае, што спытаў у яе, ці пячэ спіна?

— Так, трошкі...

— Дык давай, можа, памажу крэмам. Павярніся... — ён дакрануўся рукой да яе спіны, пагладзіў.

— Не трэба. Адстань, — адвяла ад сябе яго руку.

— Вольга, яшчэ ў Мінску я хацеў да канца высветліць незразумелыя адносіны паміж намі...

— Што ты гэтым хочаш сказаць?

— Я хачу ведаць, ці існуюць у нас адно да аднаго сімпатыі, ці засталося ў нас каханне?

Вольга ўспыхнула:

— Каханне — для маладых. «Няма таго, што раньш было...» — помніш, спяваюць нашы «Песняры». Цяпер у нас засталася адна павага.

— О, не, ніколі не згаджуся. Каханне — рухавік жыцця, эталон адносін паміж мужчынам і жанчынай у любым узросце. Павага — смерць каханню і страсці. Гэтак казаў яшчэ Фрэйд.

— Ты думаеш так, а я — гэтак... І давай спынім гаворку, пара спаць, — яна памкнулася павярнуцца на бок.

— Не, — паспрабаваў абняць жонку Забярэжны, — я хачу яшчэ кахаць...

— А ў мяне, даражэнькі, не ўсё ў парадку са здароўем. Урачы сказалі, што мне супрацьпаказана блізкасць.

Гэтыя словы, як марская хваля, накрылі Забярэжнага з галавой. Такога прызнання ад жонкі ён не чакаў. «Верыць ёй ці не верыць? Што застаецца цяпер: шкадаваць яе? А мне хочацца яшчэ кахаць... Шкадаванне і каханне — зусім розныя рэчы». Вольга спала, а Забярэжны да раніцы не мог заснуць. Ён думаў... пра Аліну Вітальеўну, Алю, пра сваю будучыню, не забываючы і тое, што сказала яму жонка.

**5**

Думка купіць дом дзе-небудзь на прыродзе, у прыгожай мясціне, каб побач былі рэчка і лес, не давала Забярэжнаму спакою. Ён аб'ездзіў многія вёскі, але ва ўсіх штосьці было яму недаспадобы. На яго Нёмане — вельмі «кусаліся» цэны, па якіх прадаваліся апусцелыя хаты, у іншых месцах — прырода была не тая.

Аднойчы Забярэжны сказаў пра гэта Аліне.

— Я еду ў суботу ў Чую. Там прадаюць пустуючыя хаты. Паехалі, паглядзіш. За адно ацэніш нашу прыроду: упэўнена, яна не горшая за вашу, наднёманскую, — па сутнасці, яна запрасіла яго на сваю радзіму.

Стаяла снежная марозная зіма. Яны, цёпла апранутыя, — Аліна ў паліто з пясцовым каўняром, Забярэжны ў дублёнцы, — ехалі ў вёску Чую, спачатку электрычкай, а пасля аўтобусам. За Барысавам праязджалі лес, які здзіўляў сваім казачным уборам: здавалася, не белым снегам пакрыты сосны і елкі, а сапраўдным серабром. Гэта надавала настрою. Забярэжны пачынаў улюбляцца ў гэтыя мясціны: лес, як на Нёмане, высокі, густы, баравы.

Аўтобус спыніўся на прыпынку ў вёсцы Чуя. Услед за пасажырамі выйшлі Ян і Аліна.

— Вунь і наш дом, — яна паказала на будынак, які стаяў насупраць, зусім блізка ад прыпынку.

Увайшлі ў двор: злева — хата, справа — хлеўчукі, наперадзе — стопка. Пратапталі сцяжынку, змялі снег з ганка. Аліна пачала адмыкаць замкі.

— Тут ужо два тыдні ніхто не жыве. Я табе казала: маму забрала сястра ў Мінск — крыху прыхварэла. Разам з ёю зімуе ў горадзе і наша сучка Лагодка — летам вартуе тут будынкі, — яна адчыняла дзверы кухні. — Хоць пагляджу, што тут мышы нарабілі... Падкладу атруты.

Забярэжны ўпершыню знаёміўся з роднай Алінінай хатай. Першая палова — яе, другая — сястры. Аліна Вітальеўна павяла ў сваю. Кінуліся ў вочы тры высокія акны, справа — канапа, наперадзе — стол з радыёпрыёмнікам і тэлефонам, там, дзе покут, — тумбачка з тэлевізарам. Налева — перагародка: спальня. У ёй стаяў шырокі ложак, засланы пакрывалам, побач — яшчэ адзін, меншы. Каля акна — шафа.

— Жах, як холадна! Будзем паліць грубку, — Аля скінула моднае паліто, апранула цёплы кажух і выйшла за дзверы, каб узяць пад паветкай дровы.

А Забярэжны стаяў і думаў: «Мне такую б хацінку купіць. Тут, дзе-небудзь побач. Я да Алі летам прыходзіў бы кожны дзень...»

Хутка вярнулася Аліна з бярэмем дроў.

— Я буду паліць грубку. Заўсёды гэта рабіў у матчынай хаце, — сказаў Забярэжны і адчыніў юшку.

А неўзабаве ў грубцы весела гарэў агонь, паступова ў хаце станавілася цяплей. Тым часам Аліна запрасіла Забярэжнага вячэраць.

— Заўтра павяду цябе ў суседнюю вёску. Пакажу пустыя хаты. Вёска непадалёку — перайсці поле, — сказала яна, калі селі за стол.

Яшчэ крыху пасядзелі, паглядзелі тэлевізар: блізілася да поўначы. Трэба было рыхтавацца да сну. Аліна паслала Забярэжнаму на канапе ў зале, сама легла на ложку ў спальні...

Назаўтра Ян доўга думаў: «Гэта быў сон ці ява?» А сніў ён вось што...

«Яны, шэры птах і белая птушка, спусціліся з высокіх нябёс. Спусціліся ў гняздо, якое было яе. Яна сюды прылятала доўгі час са сваім нарачоным белым птахам. Але яго не стала: пры пералёце з выраю загінуў. Шэраму птаху

было няёмка — ён жа ў гэтым гняздзе ўпершыню. «Не бойся, будзь смялейшым, будзь як дома, — казала яна яму. — Мы з табой парамантуем гэтае гняздо. Ты будзеш маім найлепшым сябрам, забудзеш сваю нялюбую шэрую птушку. Ты будзеш шчаслівы са мной». Белая птушка вельмі спадабалася яму. Надышла ноч. Трэба было спаць. Шэры птах спачатку прысеў на самым ускрайку гнязда, схаваў галаву пад крыло. А мароз узмацняўся, дый завіруха пачала круціць. Ён не вытрымаў, пасунуўся бліжэй да белай птушкі, і яна гэтага жадала. Шэры птах і белая птушка моцна прыціснуліся адно да аднаго. «Мне цёпла, вельмі прыемна з табой», — прашаптала яна. «А я адчуваю сябе анёлам», — адказаў шэры птах. Іх дзюбкі зліліся ў адну...»

Ранкам Забярэжны выйшаў на ганак: на срэбнай, нібыта ў майскай квецені, заснежанай яблыні, сядзелі амаль побач шэры голуб і белабокая сарока. Падалі лёгкія сняжынкі, невялікі марозік пашчыпваў твар.

Аліна і Ян паснедалі і рушылі ў суседнюю вёску. Да яе было метраў трыста. Ішлі праз поле па ўтаптанай снежнай сцежцы. Снег парыпваў пад нагамі, нібыта качан капусты.

— А во і гэтая хата... — яна паказала на стары дом, падрубы якога патачыў шашаль. Побач стаяў хлеў, дах якога быў увалены. Выгляд будынка нагадваў заезджанага старога каня з увагнутай спінай.

Забярэжны агледзеў дом з усіх бакоў, зазірнуў праз шыбіну ў яго. «Не, не тое, чаго хацелася б...» — падумаў, сказаў гэта Аліне.

Неўзабаве з веснічак двара хаты, што была насупраць, выйшаў высокі, статны мужчына з густой барадой. Ён адразу рушыў да іх: зразумеў, што людзі хочуць купіць хату.

— Даніла, — працягнуў руку мужчына. Забярэжны таксама назваў сваё імя.

— Як жывецца, закаранелы халасцяк? — паспрабавала жартаваць Аліна, звяртаючыся да Данілы. — Калі кабету прывядзеш у хату? Жывеш адзін, нібы куст пры дарозе...

— Гэта мне не дадзена. Скора мне ўжо на пенсію, — нехаця адказаў той і працягнуў:— Вам патрэбна хата? Ідзіце за мной...

Ён падвёў іх да двух высокіх тоўстых — у тры абхваты — дубоў, непадалёк ад якіх стаяла накрытая шыферам хата. У глыбіні падворка — розныя пабудовы.

Даніла ўвайшоў у двор, за ім — Забярэжны і Аліна. Яны пачалі аглядаць пабудовы. Хата была яшчэ не надта старая, хоць фарба з шалёўкі даўно аблезла. Побач стаяла лазня са стопкай.

— А хто гэтую хату прадае? Хто мае правы на яе? — спытаў Забярэжны ў Данілы.

— У Чуі жыве жонка роднага брата гаспадара гэтай хаты. Адна яна і засталася...

— Колькі яна хоча за гэтую хату? Не чуў? — Забярэжны падступаўся да галоўнага.

— Ды, гавораць, пару тысяч долараў...

Яны пахадзілі па двары, накіраваліся назад да ўваходных веснічак. Акрамя пабудоў Забярэжнаму спадабаўся сад з яблынямі, вішнямі, слівамі. Падыходзілі да вялізных дрэў, дубоў, на адным з іх было буслінае гняздо.

Забярэжны пачаў углядацца ў вершаліны дрэў.

— Буслы тут водзяцца даўно. Значыць, харошае месца, — Даніла заўважыў, як госць цікаўна глядзеў угару.

Забярэжнаму, які вырас сярод наднёманскай прыроды, дзе шмат векавечных дубоў, буслоў, гэтыя Данілавы словы прыйшліся да сэрца. Ён глядзеў на

заснежанае гняздо і ўжо ўяўляў, як вясной, на Звеставанне, прыляціць сюды бусліная пара і пачне сваё птушынае жыццё. Яму здавалася, што Бог паслаў яму дубы з буслінымi гняздом. Толькі дзеля іх можна купляць гэты дом.

Даніла падахвоціўся паказаць яшчэ рэчку Чую. Пайшлі па кручастай сцяжыне, якая збягала ўніз да поплава. Праз нейкія дзясяткі метраў яны стаялі на беразе Чуі. Ён, круты, высокі, выгінасты, быццам лук, вельмі нагадваў нёманскія норты. А зараслі кустоў і дрэў непадалёк ад берага ўтваралі своеасаблівую палянку — нават ветрыка не было чуваць. А цяпер, зімой, уся яна бялела ад снегу, быццам на яе вылілі адпаведную фарбу.

— Гэта будзе мая рэчка. Я люблю такія... — узрушана прамовіў Забярэжны. — Як многа «плюсаў», каб набыць тут дом...

— А вунь жа за ракой які лес! — паказала рукой Аліна. — Там і ягады, і грыбы... Людзі сёння на іх робяць нават бізнес.

— Тут і дзічыны многа, — падтрымаў Аліну Даніла.

— Ну, тады хутчэй ідзём купляць хату, — сказаў Забярэжны.

Праз гадзіну, пасля размовы з даволі яшчэ рухавай бабуляй, Забярэжны ўжо лічыў сябе гаспадаром хаты, якая стаяла амаль побач з Аліціным домам.

**6**

Вярнуўшыся з вострава Крыт, жонка Забярэжнага не на жарт узялася за Святланіну аднапакаёўку. Справа ў тым, што дачка задумала купіць сабе кватэру на Маёрцы. Развёўшыся з мужам-іспанцам — запіў, — яна арандавала жыллё. У мінскай даччынай кватэры жыла ўжо дзесяць гадоў цешча Забярэжнага Аўдоцця Уласаўна. Пераважна зімой. Вясну, лета, восень яна праводзіла на дачы. Аўдоцці Уласаўне было за восемдзесят гадоў і, вядома, адной ёй жыць ужо было нялёгка, хоць і не хацелася нікога абцяжарваць.

Святлана па скайпу расказала маці, як трэба дзейнічаць, каб прадаць яе кватэру ў Мінску, а грошы, перавёўшы ў валюту, пераслаць ёй на Маёрку. Пра тое, як бабуля Аўдоцця будзе жыць і дзе, гаворка не вялася. Відаць, само сабой было зразумела: калі яна аддала кватэру ўнучцы і прапісалася ў дачкі і зяця, дык і будзе з імі. Заўпарціўся Забярэжны: з цешчай ён ніколі не ладзіў. Яна чамусьці яго проста не любіла. Лічыла, што дачка не за таго выйшла замуж. І нават калі ён стаў кандыдатам навук, і тады Аўдоцця Уласаўна не змяніла да яго сваіх адносін. Ёй куды больш падабаўся другі зяць Вітольд, муж Полі, які працаваў сантэхнікам. «О, гэта зяць: ён і дома ўсё адрамантуе, і на дачы зробіць, і вельмі ўважліва ставіцца да мяне», — хвалілася яна суседкам.

— Дык з кім будзе жыць Аўдоцця Уласаўна? — стараючыся быць спакойным, спытаў у жонкі Забярэжны, калі яна рыхтавалася ісці на сустрэчу з рыэлтарам.

— Вядома ж, з намі...

— А як ты ўяўляеш наша сумеснае жыццё: я, ты і твая мама?

— Што цябе не задавальняе?

— Ты хіба не бачыла, як яна адносілася да мяне ўсе гэтыя гады, пасля таго, як мы пажаніліся?

— А як ты паводзіў сябе? Нават ні разу не назваў яе мамай...

— Маці — адна, тая што нарадзіла і выхавала.

— А Вітольд з першага дня пачаў называць яе мамай. Праўду кажуць: «Ласкавае цялятка дзве мамкі ссе».

— Ну, і няхай... Так, Вітольду засталася машына твайго бацькі, ягоная кватэра, а зараз ён прэтэндуе яшчэ і на дачу... А мне, кажу, нічога не трэба...

— Табе проста зайздросна, вучыўся б у Вітольда...

— Чаму я павінен у яго вучыцца? Нахабнасці, няшчырасці, — не вытрымаў Забярэжны. — Ды вы ўсе сабраліся аднолькавыя: вам матэрыяльнае багацце даражэй за ўсё. З-за гэтага вы не бачыце, не адчуваеце чалавечую душу.

Вольга грэбліва махнула рукой, пайшла.

Забярэжны застаўся адзін. Ён думаў, што ж чакае яго наперадзе... «Гэта будзе не жыццё, а катарга, калі сюды яшчэ прыедзе і цешча. Эх, дзеткі, дзеткі, я гадаваў вас, выхоўваў, а вы мне такую «пілюлю» падсунулі... Не думаеце вы пра мяне...»

Праз нейкі час Вольга прадала Святланіну кватэру, перавяла дачцэ грошы. Збіралася перасяліць сваю маці ў кватэру Забярэжнага. А куды ўсю маёмасць, мэблю цешчы дзець? У ягоную двухпакаёўку яна не ўлезе. Забярэжны пазваніў у Чую гаспадыні хаты, якую купляў, але яшчэ не аформіў усе дакументы, расказаў ёй. Тая, здаецца, нават узрадавалася, сказала, каб неадкладна прывозіў мэблю.

З Калюгаў, дзе была хата, да Мінска сто кіламетраў. Забярэжны завёз мэблю, вярнуўся ў горад, калі ўжо сцямнела. А ў кватэры ўжо была Аўдоцця Уласаўна. Яе прывёз зяць Вітольд. Яна сядзела ў адведзеным ёй пакоі і на вітанне Забярэжнага ў адказ толькі нешта буркнула сабе пад нос: быццам ні ён тут гаспадар. Жонка глядзела ў сваім пакоі тэлесерыял.

Усё гэта адбывалася ў пачатку лютага, а ў канцы месяца Вольга паляцела на Маёрку да дачкі Святланы, каб дапамагчы ёй там купіць кватэру. Засталіся жыць сумесна зяць і цешча.

Спачатку Забярэжны і Аўдоцця Уласаўна неяк мірыліся, нават на кухні сустракаліся, разам варылі ежу. Але пасля таго, як да яе ледзь не штодзень пачала заходзіць сяброўка Мальвіна, банкірша, былая братава — развялася з-за п'янства і дэбошу мужа, — між зяцем і цешчай нібы чорная кошка прабегла. Мальвіна стала цешчы ледзь не роднай сястрой. Аднойчы Забярэжны прынёс дамоў усходнія прысмакі: лукум і арэхі ў цукровай пудры, — іх з Крыта праз знаёмую перадала дачка Ксенія. Ён падзяліў прысмакі паміж сабой, Аўдоццяй Уласаўнай і роднай маці Анэтай Васільеўнай, якая ляжала ў Свірыдах, прыкутая да ложка.

— А дзе доля Мальвіны? — ускіпела Аўдоцця Уласаўна.

— А пры чым тут яна, ды і якая доля? — не зразумеў ён. — Прыйдзе, пачастую...

— Мальвіна даражэй мне... за тваю маці, — злосна выгукнула цешча, калі ён прызнаўся, каму былі прызначаны астатнія ласункі.

Такое сцярпець было цяжка... Ён ледзь стрымаўся, прамаўчаў.

Праз некалькі дзён Забярэжны схадзіў на рынак, купіў садавіны і гародніны. Не забыў узяць і цешчы жоўтага вінаграду — яна яго любіла. Думаў, пачастуе яе, і забудзецца нядаўні канфлікт. Але як толькі ён паклаў вінаград на журнальным століку ў яе пакоі, сказаўшы «Частуйцеся, калі ласка», Аўдоцця Уласаўна ўсхапілася з канапы і тут жа далонямі, нібыта шуфелем, змяла вінаград на падлогу. «Не трэба ён мне. Яго прынясе Мальвіна. За мае грошы, а не за твае. У мяне іх больш, чым у цябе».

З гэтага часу зяць і цешча больш не віталіся: яна сядзела ў сваім пакоі, ён — у сваім. На кухні стараліся не сустракацца.

## 7

Зіма была на зыходзе. Снег ляжаў насычаны вільгаццю, нібы кухонная губка. Праз тыдзень — Масленіца. У горадзе былі расклеены афішы, на якіх красавалася выява маскоўскага спевака Аляксандра Сярова. Артыст меўся выступаць у Палацы рэспублікі. О, гэты Сяроў! У канцы васьмідзясятых-дзевяностых гадоў ён быў вельмі папулярны ў моладзі. А колькі дзяўчат тады вялікай краіны ледзь не вар’яцелі з-за яго... Чарнявы прыгажун, сапраўдны мачо, з магутным голасам, ён зачароўваў гледачоў адразу, як толькі выходзіў на сцэну. Яе, здавалася, не хапала яму пры выкананні песні: так шырока разводзіў рукі.

Аліна ўлюбілася ў Сярова з тых васьмідзясятых. Яна пабыла на яго канцэрце, і спявак на ўсё жыццё запаў ёй у сэрца. Забярэжны гэта ведаў.

І вось мінула шмат гадоў — і Сяроў зноў у Мінску. Забярэжны адчуваў, што Аліна хоча схадзіць на яго канцэрт, хоць не кажа пра гэта. Відаць, яе стрымлівала тое, што білеты былі вельмі дарагія. Але гэта не палохала Забярэжнага. Ён нічога не казаў ёй, а ездзіў па касах і шукаў білеты. Яму пашанцавала — у падземным пераходзе каля ГУМа бабулька-касірка нарэшце парадавала: «Апошнія два білеты. Бярыце...» Забярэжны з радасцю купіў іх. Уяўляў, як здзівіцца і парадуецца Аліна...

А які ж цяпер Сяроў? Усё-ткі прайшлі гады... Хутка яны ўбачаць яго, бо ўжо распрануліся ў гардэробе Палаца рэспублікі. Забярэжны крыху хваляваўся і нават запазніўся дапамагчы Аліне зняць паліто. Яна ўжо сама падавала яго гардэробшчыцы. Прычасаліся каля высокіх люстэркаў, выйшлі ў вестыбюль, палюбаваліся шыкоўнымі люстрамі і рушылі ў вялікую залу. Знайшлі свае месцы, селі. Гледачы прыбывалі, і хутка ўся зала была запоўнена. Неўзабаве пагасла святло, і на сцэне сярод промняў рампаў і сафітаў з’явіўся Аляксандр Сяроў. Палілася, як шмат гадоў назад, песня «Мадонна», якая была тады вельмі папулярная. Забярэжны глянуў на Аліну: твар адухоўлены, вочы гарэлі, як зоркі. І яму радасна стала на душы.

Калі канцэрт закончыўся, гледачы не хацелі разыходзіцца, неслі спеваку кветкі, бралі аўтографы. Аліна таксама хацела падацца на сцэну, але ўстрымалася, мабыць, пасаромелася Забярэжнага.

Ішлі з канцэрта ўзнёслыя, вясёлыя. Аля дзякавала Яну за гэты падарунак. Праводзіла паралель з канцэртам Мусліма Магамаева:

— Мне здаецца, што гэтых трыццаць гадоў як і не было... Я добра помню той канцэрт Магамаева. Ён таксама быў выдатны. Ты хацеў мяне тады праводзіць на маю кватэру на Чкалава. Я табе не дазволіла. Твой інтэрнат быў блізка. — Аліна на хвіліну змоўкла. Потым нечакана сказала: — Сёння ты можаш мяне праводзіць дамоў, на вуліцу Кіжаватава. Сын з нявесткай паехалі ў Бабруйск да яе мамы. Я — адна. Я запрашаю цябе да сябе...

— Дзякуй, дарагая каралева, — ён усміхнуўся ад радасці. Затым пасур’ёзнеў: — Ты не паверыш: мне не хочацца ісці ў сваю кватэру. Там цешча. Злая, як пантэра. Нядаўна я з ёю пасварыўся.

У аўтобусе Забярэжны расказаў Аліне, за што ён пасварыўся з цешчай. Настрой у Аліны сапсаваўся, і Забярэжны пашкадаваў аб гэтым.

За паўгадзіны даехалі да вуліцы Кіжаватава. Падышлі да доўгага, як расцягнуты гармонік, дома. Аліна адчыніла пад’езд, селі ў ліфт і хутка апынуліся на сёмым паверсе. Зайшлі ў кватэру, такую ж самую, як і ў яго, двухпакаёвую. Чакаючы яе, ён глядзеў тэлевізар з шырокім экранам, час ад часу акідваў позіркам памяшканне: справа пры сцяне — сучасная кампактная секцыя, устаўленая посудам, кнігамі, збоку — новая белая канапа. Побач — гэткія ж белыя два крэслы. «Цеснавата, але ўтульна», — падумаў Забярэжны. Падыш-

ла Аліна, яны разам накрылі журнальны столік абрусам, на якім, быццам у казцы, узнікалі талеркі з закускай, сухое віно — гаспадыня прыносіла ўсё з кухні. Селі за стол. Забярэжны адкаркаваў бутэльку віна, наліў у фужэры, сказаў: «Давай вып'ем за цудоўны сённяшні вечар, які падарыў нам Аляксандр Сяроў». Яна дадала: «Не толькі ён, але і ты мне падарыў». А ён прадоўжыў: «Калі так, то і ты для мяне — падарунак лёсу. Адным словам, п'ём за падарункі!» Крыху памаўчаў, а потым рашуча прамовіў:

— Аля, як толькі жонка прыляціць з Маёркі, я падам заяву на развод. Я больш не магу з імі жыць, — меў на ўвазе і цешчу. — Вольга, можа, і не згодзіцца, але няхай...

— Твая справа, даражэнькі. Мне хапае сваіх клопатаў, не вешай на мяне твае... Урэшце, ты павінен вызначыцца сам,— цвёрда сказала Аліна.

— Каб жа было ўсё так проста. Заелі гэтыя жончыны палёты за мяжу да дачок, гэтыя непаразуменні з нашымі кватэрамі, — Забярэжнаму сапраўды было нялёгка.

— Ёсць у цябе права выбару? Ёсць! Вось і карыстайся ім... — Аліна ўзнялася з-а стала. — Позна ўжо. Я зразумела, што ты начуеш у мяне? — глянула яму ў вочы.

— Дарагая, ты ж чула: дамоў мяне зусім не цягне...

Сёмы паверх Алінінага дома, на якім Ян правёў ноч, здаўся яму сёмым небам. На гэтай вышыні яны былі шчаслівымі, у парыве страсці шапталі адно аднаму пяшчотныя, чароўныя словы...

Гэтага ўсяго не было ў Яна з жонкай. «Мы канчаткова сталі з Вольгай чужымі, — разважаў Забярэжны. — Я зразумеў гэта яшчэ раней — на востраве Крыт».

## 8

Забярэжны штодзень хадзіў ва ўніверсітэт, чытаў лекцыі, праводзіў практычныя заняткі. Гэтак жа вяла свае заняткі ў каледжы і Аліна Вітальеўна. Пасля яны перазвоньваліся па мабільніках, дзяліліся навінамі, уражаннямі. Калі праз некалькі дзён сустрэліся, яна расказала пра нядаўнюю вечарыну ў каледжы, прысвечаную Якубу Коласу, — якраз ішоў ягоны юбілейны год. Аліна рыхтавала ўсё сама. Запрасіла паэтаў, землякоў народнага песняра Вікенція Камлюка і Алеся Аернага. Гучалі песні на творы паэта, якія выконвалі навучэнцы каледжа.

Надышоў май — самы любімы месяц Забярэжнага, малахітава-сярэбраны, як ён часта называў яго. Час, калі пачынаюць садзіць грады. І хоць ён яшчэ быў незаконны гаспадар хаты ў вёсцы — да канца так і не аформіў дакументы на яе,— але вырашыў тое-сёе пасеяць. Адначасова будзе з гаспадыняй афармляць дом на яго. Аб гэтым аднойчы пры сустрэчы ён сказаў Аліне.

— І правільна. Нешта вырасце, пакуль ты станеш тым гаспадаром, — падтрымала яна яго.

Прыехалі ў Чую разам. Выкарысталі тры першамайскія выхадныя дні. Адразу зайшлі ў Алінін дом. Там жыла яе маці — прывезла з Мінска сястра Ніна. Аліна, а за ёй Ян, падышлі да старэнькай жанчыны, якая сядзела на кухні за сталом. Побач стаяла яе кавенька — тонкая акораная палачка. Дачка абняла маці, пацалавала, а Забярэжны падаў руку для знаёмства:

— Ян Пятровіч...

— Соф'я Сяргееўна, — яна пільна ўглядалася ў новага знаёмага. «Вочы блакітныя, як і ў Алі. Валасы сівенькія, хударлявы твар, але вельмі выразны. Крыху падобная на маю маці», — адзначыў у думках Забярэжны.

Слова за слова, Соф'я Сяргееўна і Забярэжны ўжо гутарылі, як сябры. Аліна пайшла пераапранацца.

— А дзе ваша жонка? Чаму вы адзін прыехалі? — цікавілася Соф'я Сяргееўна, калі даведалася, што Забярэжны купляе тут дом.

— Яна ў Іспаніі, у дачкі, глядзіць унукаў. Прыедзе ў сярэдзіне мая.

Неўзабаве са спальні вярнулася Аліна, пераапранутая ў рабочае адзенне.

— Хадзем, паглядзім наша поле, — звярнулася яна да Забярэжнага.

— А там ужо Ніна з Міхасём нешта садзяць, — прамовіла Соф'я Сяргееўна, пачуўшы, што сказала дачка.

Аліна пакінула маці і разам з Забярэжным выйшла з хаты.

Адразу за калодзежам ляжаў пакуль яшчэ не засеяны агарод. З двух бакоў яго акаймлялі старыя галіністыя яблыні. У канцы поля віднеліся дзве згорбленыя постаці. Ян і Аліна падышлі бліжэй. Тыя разагнуліся, адказалі на прывітанне.

— Што сеем? — спытала Аліна.

— Буракі і моркву, — стаў заграбаць лункі мужчына.

— Знаёмцеся: Ян Пятровіч Забярэжны, купляе дом у суседняй вёсцы, у Калюгах, — паведаміла Аліна.

— Міхась і Ніна Васілёнкі, — сказаў мужчына. Ён не стаяў на месцы, а тупаў, жэстыкуляваў рукамі і гаварыў, гаварыў... Здавалася, энергіі яго хапіла б на пяцярых. Затое яго жонка стаяла і ціха маўчала. — Кінулі-рынулі зямлю перад зімой, не перааралі, вось і дзяўбі вясной рыдлёўкай глебу, — мовіў мужчына, затым спытаў у Яна. — А вам чаго прыспічыла купляць тут дом, больш як за сто кіламетраў ад Мінска? Можна і бліжэй было...

— Ведаеце, мне вельмі спадабалася гэтае месца. Яно нечым нагадвае мой Нёман, — сказаў Забярэжны. А сам падумаў: галоўная прычына Аля, хата якой стаяла паблізу.

— Дык вы родам з Нёмана? — Міхась не пераставаў гаварыць. — А я з Магілёўшчыны, з усходу. А вы ж — заходнік. Памяняеце арыенцір...

— Урэшце, усе мы з Беларусі, — Забярэжны спадзяваўся, што ён задаволіў цікавасць Міхася. Той зноў нешта хацеў сказаць, але яго перабіла жонка:

— Не надакучай чалавеку сваімі роспытамі, лепш капай зямлю...

Васілёнак узяўся за рыдлёўку, а Забярэжны і Аліна павярнуліся і пайшлі на двор, да хаты. Адтуль Ян накіраваўся ў Калюгі, на хаду кінуў Аліне:

— Вечарам прыйду глядзець тэлевізар...

У вёсцы Забярэжнага сустрэў бусліны клёкат. У гняздзе на высокім дрэве стаялі дзве птушкі. «Прыляцелі... Першы раз іх тут бачу. Кажуць, што яны вяртаюцца на радзіму ў пачатку красавіка, на Звеставанне. У наступным годзе прыеду вясной і сустрэну іх...»

Забярэжны крыху пастаяў на двары, затым рушыў да хаты. Ключы яму аддала гаспадыня, калі прывозіў мэблю. Увайшоў у веранду. Даўно нефарбаваная, яна рабіла дрэннае ўражанне. Тое ж было і з прыхожай, гасцінай, спальняй. Усё занядбанае, запушчанае. Вырашыў прапаліць грубку, якая стаяла пасярэдзіне хаты. «І навошта былы гаспадар ставіў яе так? Адно займае месца — нябачна гасцінай». Паклаў дровы, падпаліў, але дым пайшоў не ў комін, а на хату. «Значыць, недзе завалена люфта. Давядзецца разбіраць...»

**9**

Была другая палова мая. Цвіў бэз — ліловы і белы. Забярэжны любаваўся ім у горадзе: бэз рос пад самым балконам ягонай кватэры. Ад яго ішоў тонкі пах, ён зачароўваў і кружыў галаву.

Была субота. З вострава Маёрка прыляцела жонка Забярэжнага. Ён сустрэў яе на Маскоўскім вакзале ў Мінску. Яна прыехала з аэрапорта рэйсавым аўтобусам. Павіталіся, але не пацалаваліся. Пацалункі даўно яны забылі.

— Як там справы ў Святланы? — спытаў Забярэжны ў жонкі.

— Купіла кватэру. Пяціпакаёвую. Але не ў сталіцы, а ў прыгарадзе Пальмы-дэ-Маёркі. Пасёлак называецца Санта-Понса.

— А што, перанаселеная сталіца? Але цяпер лепш жыць на прыродзе, — Забярэжны рабіў намёк на сваё новае лецішча.

— Не такая ўжо перанаселеная Пальма-дэ-Маёрка: каля паўмільёна жыхароў, — было відаць, што Вольга не задаволена выбарам дачкі. — У чэрвені Святлана будзе перасяляцца. Прасіла, каб ты прыехаў дапамагчы. Там шмат будзе працы: парамантаваць новую кватэру, пераехаць са старой...

«На табе... А калі ж нам аформіць развод?» — хацеў крыкнуць Ян Пятровіч, але стрымаўся, нічога не сказаў жонцы. Ён цвёрда надумаў пасля яе прыезду развесціся з ёю. А тут зноў перашкоды.

— За паўмесяца аформіш візу — і паляціш... — сказала, нібы загадала, Вольга, калі ўвайшлі ў сваю кватэру. — Запрашэнне ад дачкі я табе прывезла.

— У чэрвені я буду прымаць у студэнтаў экзамены, — ён хацеў адцягнуць паездку на Маёрку.

— Нічога. На кафедры зразумеюць: перанясуць табе экзамены на ранейшы тэрмін. Дамовішся са студэнтамі... — Вольга пачала распакоўваць чамадан. — Святлана перадала табе спартыўны касцюм «Адзідас». Гэткія ж і красоўкі. А яшчэ — шатландскія віскі. Так што, ляці да Святланы і адпрацоўвай...

Што яму заставалася рабіць? Вядома ж, шкада было дачку: Святлану ён вельмі любіў. Трэба дапамагчы ёй — яна адна з дзецьмі... Але пажадана гэта было б зрабіць пазней. Як яму сказаць жонцы, што ў яго ёсць жанчына, любімая жанчына, і што далей так жыць, як яны жывуць, нельга? А жонка працягвала разбіраць свае пакункі і не здагадвалася аб тым, што адбываецца ў душы мужа. А ён ужо наважыўся ўсё сказаць... Утойваць больш не было сэнсу.

— Вольга, паслухай і прашу ўспрымі ўсё, што я табе скажу, спакойна: у мяне ёсць жанчына, якую я кахаю. І яна мяне — таксама. Дарэчы, мая аднакурсніца... — Забярэжны сказаў усё, аб чым думаў.

— Што, што?! — Вольга быццам вярнулася з нейкага іншага свету. — Я даглядала ўнукаў, там, за мяжой, ад стомы падала з ног, а ты тут гуляў з... — яна закрычала так, што, здаецца ажно задрыжэлі сцены кватэры. — Ідзі, падавай на развод... — Вольга кінулася на ложак і зарыдала.

— Толькі з табой. Без цябе зацягнецца працэс...

— Я не хачу гэтай ганьбы. Я — дачка генерала. Я — кандыдат навук. Хіба я думала, калі выходзіла замуж, што будзе гэткі канец пачварны? — яна крычала так, што, напэўна, чулі суседзі.

Болей трываць было немагчыма. Забярэжны ўспомніў, што недзе праз гадзіну ў напрамку Чуі ідзе электрычка. Хуценька сабраўся і кінуўся з гэтай ненавіснай яму кватэры.

Ехаў у электрычцы і ніяк не мог забыць размовы з жонкай. Адно суцяшала, што ў Чуі зараз Аля. Туды яшчэ ў пятніцу яе прывёз на машыне пляменнік Віктар. Пад вечар Ян Пятровіч быў ужо ў Калюгах.

Ён адчыніў сваю хату, пахадзіў па ёй, тое-сёе паправіў: працы тут, як кажуць, непачаты край. Затым выйшаў на падворак, падзівіўся, як буйна, прыгожа цвіце вішня. Падышоў да градаў, якія пасадзіў у мінулы прыезд. Тады не паспеў дасадзіць цыбулю. Ускапаў яшчэ адну градку, падрысаваў, зрабіў лункі і паўтыкаў у іх сявок. Потым па мабільніку пазваніўАліне: яна таксама

дасаджвала грады. «Позна вечарам буду ў цябе. Ёсць шмат аб чым пагаварыць...» — сказаў ён.

Забярэжны выйшаў за сядзібу, за якой раслі кусты белага бэзу. Яны здаліся яму серабрыстымі воблакамі, што спусціліся на зямлю. «Падару Алі букет. Яна любіць белы бэз. І разам пашукаем у бэзавых гронках пяць шчаслівых пялёсткаў...»

Ужо зусім сцямнела, калі ён ішоў з Калюгаў у Чую. Крочыў сцяжынкай праз поле. Шлях, здавалася, асвечваў букет белага бэзу, які трымаў у руках. Алю застаў у яе палавіне хаты. Падарыў ёй бэз. Яна падзякавала.

— Ведаеш што... — ставячы букет у вазу, мовіла Аліна. — Да Віктара сёння прыехалі чатыры сябры-рыбакі. Недзе на рэчцы паляць касцёр. Ды мая сястра Ніна з мужам Міхасём таксама тут, глядзяць тэлевізар... Мне не будзе месца, дзе спаць...

— Во знайшла праблему. У мяне пусты «пяцізоркавы» атэль. Збірайся, пойдзем... — жартам, а потым усур’ёз сказаў Забярэжны.

— А што ўсе падумаюць? — засумнявалася Аліна.

— А тое і падумаюць, што табе трэба было недзе спаць... — ён рашуча ўзяў яе за руку. — Ідзём...

На падворку наўздзіў, хоць іголкі збірай, было светла: з-за хмар выслізнула поўня. Па дарозе Забярэжны пачаў расказваць Алі пра сутычку з жонкай. Сёння яна прыляцела з Маёркі і сёння ж яны пасварыліся, вось і ўцёк сюды. Але галоўнае, што хацеў сказаць Алі, пакуль не сказаў, пакінуў на потым, паведаміць, калі яны прыйдуць у ягоную хату. Аля слухала яго і маўчала.

Калі зайшлі ў хату, запалілі святло і селі за стол, ён працягнуў:

— Аля, я сёння ўсё сказаў жонцы пра цябе і мяне. І пра развод.

— Не веру...

— Так і было... Праўда, не абышлося без крыку і слёз. А яшчэ яны з дачкой хочуць, каб я прыляцеў на Маёрку і дапамог Святлане пераехаць — яна купіла кватэру.

— І калі ты думаеш ляцець?

— У сярэдзіне чэрвеня пераязджае дачка. А значыць...

— Ну, тады ляці, — перабіла Аліна яго і ўздыхнула: — Ты бацька, ты павінен дапамагчы дачцэ.

— Калі я палячу, то мы з жонкай не паспеем развод аформіць.

— Ну, нічога страшнага, пачакае цябе той развод... — яна паспрабавала жартаваць.

Змоўклі, выпілі кавы, пачалі ўладкоўвацца спаць. Аліна легла на канапе каля акна ў зале. Ён — на ложку ў спальні. Сон Забярэжнага, як і Алю, не агортваў. Яны варушыліся, адчувалі на адлегласці адно аднаго. Урэшце Ян не вытрымаў, падышоў да Алі:

— Дарагая, магчыма, гэтая ноч у нас апошняя перад маім адлётам на Маёрку. Давай прысвяцім яе нашаму доўгаму расстанню, давай не будзем спаць, а гутарыць, гутарыць, гутарыць...

Яны размаўлялі, у небе свяціла круглая поўня. Здавалася, яна крадком заглядвала ў акно, імкнулася ўбачыць патаемнае, а яно ўсё не наступала. Да паловы ночы гаварылі: ён і яна будавалі планы будучага сумеснага жыцця. Нарэшце поўня, быццам засаромелася, схавалася за хмары: яго вусны і яе вусны зліліся ў доўгім і страсным пацалунку...

...Самалёт прызямліўся ў аэрапорце горада Пальма-дэ-Маёрка. Забярэжны прайшоў працэдуры пашпартнага кантролю, атрымаў чамадан і выйшаў у залу сустрэч. На шыю яму кінулася Святлана. Расцалаваліся і рушылі да стаянкі, дзе іх чакала таксі.

— Паедзем, тата, адразу ў маю новую кватэру ў пасёлак Санта-Понса, не церпіцца паказаць табе, — сказала Святлана, калі селі ў таксі.

Ехалі па міжземнаморскім беразе-падкове, у цэнтры якой стаіць Пальма-дэ-Маёрка. Праязджалі шырокія доўгія пляжы, скалістыя бухты, паабапал якіх растуць пальмы, алеандры. Тут самы вялікі порт на Міжземным моры. Забярэжны заўважыў мноства суднаў пад сцягамі розных краін. Праехалі велічны Кафедральны сабор, які нечым нагадвае Саграда Фамілія ў Барселоне. Ён навісаў над морам, адлюстроўваўся ў ім. Святлана заўважыла, што на Маёрцы любілі адпачываць польскі кампазітар Шапэн і французская пісьменніца Жорж Санд, многія іншыя славутасці.

Далей дарога бегла сярод кедраў, дрэваў фігаў, гранатаў, апельсінаў, лімонаў. Не заўважылі, калі праехалі дваццаць кіламетраў і ўехалі ў Санта-Понса, маленькі гарадок з белымі домікамі рознай канфігурацыі. Ён стаяў на беразе мора.

— Вось і мой дом... — калі выйшлі з таксі, паказала Святлана на чатырохпавярховы будынак. — Тут я, тата, купіла кватэру на першым паверсе.

Увайшлі ў пад'езд. Святлана адамкнула дзверы кватэры. Перад Забярэжным адкрыўся доўгі вузкі калідор, хоць гуляй у футбол. Дачка вяла па кватэры, паказвала:

— Зала, кухня, спальня, адзін і другі дзіцячыя пакоі, пакой для гасцей, туалет, ванная.

«Пашарпаныя сцены. Давядзецца фарбаваць па-новаму», — падумаў ён.

— Пераначуем тут. А заўтра паедзем у Пальму-дэ-Маёрка на маю старую кватэру. Будзем рыхтавацца да пераезду, — паведаміла дачка. — А Віктар, мой сябар і начальнік, — Святлана працавала пры расійскім консульстве, афармляла візы — прывязе фарбу ў Санта-Понса, пачне рамонт з хлопцамі. Ты, тата, таксама дапаможаш ім...

— А дзе твае сын, дачка?

— Сын — у бацькі, там, у сталіцы. Ён — тыдзень у мяне, тыдзень — у яго. Так вызначыў суд. А дачка — у летнім лагеры.

Святлана расказвала пра сваё жыццё на востраве, бацька — пра сваё ў Мінску. І, вядома ж, не мог ён не крануцца тэмы ўзаемаадносін з жонкай, Святланінай мамай.

— Дачка, паслухай і зразумей мяне правільна, — раптам сказаў Забярэжны, стараючыся быць далікатным.— Атрымалася так, што ў мяне жыццё з тваёй мамай ідзе да разводу. І, мабыць, мы развядземся, калі я прыеду ад цябе. Што ты мне скажаш?

— Я чакала гэтага,— неяк спакойна сказала дачка.— Мама ўжо ўсім «раструбіла», што ў цябе ёсць каханка. Ведае і Ксенія, яна званіла мне з Крыта, а ў Мінску — бабуля. Я сама два разы развялася і — што? У выніку я адна. Глядзі, каб і ў цябе так не здарылася. У старасці можаш застацца адзін. Мы, твае дочкі, да цябе жыць не прыедзем... — Святлана мянялася на вачах.

— Я раскажу, дачка, табе ўсё... І пра сваю жаніцьбу, і пра «каханку», як называе твая мама маё першае сапраўднае каханне... — Забярэжны, як на споведзі, пачаў раскрываць Святлане сваё жыццё...

— Тата, нам будзе крыўдна, калі ты кінеш маму, але... — дачка нейкі час памаўчала, потым дадала: — Думай сам... Я цябе разумею. А лепш за ўсё, каб ты застаўся жыць са мною назаўсёды. І гэтыя праблемы вырашыліся б самі...

На Маёрцы Забярэжны жыў два месяцы. Увесь гэты час яму не было спакою: душу вярэдзілі няпростыя жыццёвыя варункі.

Ён стараўся забыцца, дапамагаў рамонтнікам фарбаваць сцены новай кватэры дачкі, у выхадныя дні ездзіў са Святланаю па востраве. Дачка паказвала славутасці Маёркі, але ўсюды ў думках узнікалі вобразы то жонкі, то Аліны. Што будзе далей, ён пэўна не ведаў і сам... Адно, што б ні рабіў, дзе б ні быў, у душы жыла Аліна...

## 10

У канцы жніўня Забярэжны прыляцеў у Мінск. Жонка не сустрэла яго на аўтавакзале, як звычайна было раней. Не было яе і дома, і ён адразу ж паехаў у Калюгі. «Усё ясна. Мы аддаляемся адно ад аднаго. У душы — мы адзінотнікі...» — падумаў ён, сядаючы ў электрычку.

А ў Чуі жыла Аліна Вітальеўна. Забярэжны ведаў, што яна там усё лета — на берагах яе роднай рэчкі. Пасля доўгай ростані сустрэча была хвалюючай.

Калі ён з букетам вяргіняў прыйшоў да яе хаты, Аліна мыла на кухні посуд. Забярэжны абняў яе, пацалаваў, уручыў кветкі.

Маці адпачывала пасля абеду — ляжала на ложку ў спальні і нічога не бачыла. Сястра Ніна недзе корпалася ў агародзе. З ёю разам была, бегала па разорах яе пяцігадовая ўнучка Паўлінка.

— Ну, як ты пражыла лета... без мяне? — Забярэжны ласкава глянуў Аліне ў вочы.

— А як бачыш — зусім не пастарэла, — яна заўсміхалася.

— Нейкая ты загадкавая...

— Дый ты — гэткі ж. Апрануты, як іспанец. Можа, ужо ім і стаў? — Аліна акінула позіркам яго белую шапачку з надпісам «Пальма-дэ-Маёрка», фірмовыя сінія джынсы, імпартную светлую тэніску, замежныя красоўкі.

— Давай, Аля, сходзім заўтра ў лес. Я так засумаваў па ім... А сёння пойдзем на рэчку... — Забярэжны закахана пазіраў на яе.

— Я з сяброўкай Тасяй якраз заўтра і збіралася ў лес у брусніцы. Мы з ёю ледзь не кожны дзень хадзілі ў чарніцы. А калі ты хочаш, то пойдзем з табою. Сяброўцы дам адбой, — Аліна яшчэ не казала ёй пра свае адносіны з Янам ды і ад усіх вяскоўцаў утойвала.

Надвячоркам Ян і Аліна пабылі на рэчцы Чуі, пакупаліся. Ён расказаў ёй, як жыў на Маёрцы. А галоўнае — як сумаваў па ёй. А яна сказала яму, што доўгая ростань да дабра не даводзіць: за лета да яе заляцаліся мужчыны і ў Мінску, і тут, у Чуі. Жартам прамовіла: «А ты мне хто?» Ён усур’ёз адказаў: «Пакуль не муж».

Назаўтра раніцай у лес ішлі паасобку. Ён — з Калюгаў, яна — з Чуі. Сустрэліся на ўзлеску.

— Мы з табою, як шпіёны, усё хаваемся, — Аліна прыйшла першая, чакаючы яго, стаяла каля сасны.

— Ніхто не бачыў нас? — Забярэжны абняў, пацалаваў Алю.

— Рана яшчэ. Назад будзем ісці, вяскоўцы сустрэнуцца. Яны ўсё бачаць і чуюць. Нездарма вёска называецца Чуя...

— То давай іншым шляхам вяртацца, — Забярэжны не хацеў, каб пра Аліну пачалі пляткарыць.

— Пойдзем па загуменні, агародамі — там ёсць сцежка, — Аліна рушыла ў глыб лесу, за ёю — Ян.

Пачалі трапляцца першыя кусцікі брусніц. Яны зрывалі бурыя ягады і кідалі ў вядзерцы. Праўда, ягад тут было малавата. Заглыбіліся ў лес. У нізін-

цы сярод выносных бронзавых сосен трапілася цэлая паляна некранутых ягад. Неруш! Яны жменямі збіралі буйныя сакавітыя брусніцы. Ужо і па паўвядзерца набралі. І раптам з-за кустоў выбег невысокі шэры сабака. Падбег да іх, стаў. Знячэўку Ян і Аліна ледзь не спалохаліся: можа, малады воўк? Але тут жа з-за соснаў выйшаў з кашом у руках мужчына, высокі, на галаве шапачка, і накіраваўся ў бруснічную нізінку, дзе стаяў яго сабака. Убачыў іх, усклікнуў:

— О, Алінка, ты!.. Збіраеш брусніцы...

— Ага, як бачыш... Процьма іх тут, — яна апусціла галаву і працягвала збіраць ягады.

— Давай дапамагу...

Здаецца, мужчына не заўважаў Забярэжнага.

— Ты ж грыбы збіраеш, гляджу на твой кош...

— Ну, так... Але грыбоў няма. Пару лісічак знайшоў... — мужчына нахіліўся над бруснічнымі кусцікамі, пачаў рваць і кідаць ягады ў Алініна вядзерца.

Забярэжны моўчкі збіраў брусніцы: залез пад маладую елку. «Няхай пагамоняць, землякі, відаць, добрыя даўнія знаёмыя...»

— А хто гэта за чалавек з табой? — раптам спытаў мужчына.

— Брат мужа маёй сястры, — наўмысна адказала Аліна.

— А што ён тут робіць у нашай Чуі? — павысіў голас новенькі.

— Купіў хату ў суседняй вёсцы. Як дачу. Параіў мой дзевер.

— А сам дзе жыве? — дапытваўся мужчына.

— У Магілёве, — зманіла Аліна.

— Я то гляджу, што дасюль яго не было.

— А ў яго была дача пад Магілёвам. Прадаў. Наша цудоўная прырода спакусіла, рэчка Чуя, рыба, ягады, грыбы... Дзе яшчэ знойдзеш такую мясціну?

— А і праўда, Аліначка, хораша ў нас. Як добра, што мы тут нарадзіліся... — мужчына на хвіліну сціх.

Забярэжны вылез з-пад елкі і перайшоў на другі бок дрэўца. Гамонка была ўжо чуваць невыразна. Адно данёсся абрывак фразы грыбніка: «...прыйду да цябе вечарам...» «О, гэта цікава, — падумаў Ян і пакіраваў да іх. — Хопіць! А то гэты «новенькі» яшчэ не тое нагаворыць...» Амаль зараўнаваў. Убачыўшы Забярэжнага, мужчына клікнуў сабаку, і яны падаліся ў напрамку ляснога ўзлобка, на якім рос мох-сівец. «Збірай грыбы, чаго сунеш нос, куды не трэба», — зазлаваў Ян.

Калі знікла постаць грыбніка, Забярэжны спытаў у Аліны, хто гэта такі...

— Зямляк. Прыехаў з Мінска ў бацькоўскую хату. Маці памерла, адзін даглядае тут гаспадарку.

— Як яго завуць?

— Ігнат. На год раней за мяне заканчваў Чуйскую школу.

— Дык што, ён прыйдзе сёння вечарам да цябе? — Ян зрабіў шматзначную паўзу. — А я?

— Ты чуў? — усхапілася Аліна.

— Вядома. Вецер данёс...

— Я сказала яму, што вечарам іду на дзень нараджэння Галі з Клёнаўкі.

— Праўда? — ледзь не заззяў Забярэжны.

— І табе кажу — гэта праўда. Запрасіла даўняя сяброўка.

— Значыць, мне сёння да цябе няма ходу? Будзе вісець замок? А я хацеў табе падарункі аддаць... Купіў на Маёрцы гадзіннік і кулон. Дарэчы, дзе твая мама і твая сястра з унучкай?

— Ды іх ужо, мабыць, забраў на машыне Нінін сын Віктар у Мінск. У мужа сястры — дзень нараджэння. А я застаюся з сучачкай Лагодкай.

Ішлі з лесу з поўнымі вядзерцамі буйных сакавітых брусніц. І хоць крыху стаміліся, але на душы было прыемна. Крочылі праз іржышча ды праз высокую траву. Потым загуменнем выйшлі ён на сваю дарогу, яна — на сваю.

Вечарам дома ў Калюгах Забярэжны слухаў радыё. Тэлевізара ён яшчэ не паспеў набыць. На душы было неспакойна. Ужо калі зусім сцямнела, вырашыў схадзіць да Алінінай хаты. «А раптам яна дома? А можа, яшчэ з кім?.. Магчыма, нават з тым грыбнікам?..» Ён, узяўшы курыныя костачкі, адходы ад супа, панёс Алінінай сучцы Лагодцы. «Няхай гэта будзе прычынай наведаць Алінін двор. А заадно можна паглядзець, ці вісіць на дзвярах яе дома замок. Калі дзверы замкнуты, то Аля дакладна ў гасцях». Забярэжны падышоў да Алінінага падворка, адчыніў веснічы. З будкі насустрач яму выскачыла Лагодка. Яна ніколі не была на ланцугу. Ён кінуў ёй пачастунак. Сучка завіляла хвастом, не забрахала, прынялася есці.

Ян запаліў ліхтарык, накіраваў святло на дзверы сенцаў: на іх вісеў замок. Паспакайнела на душы. «Значыць, Аля сапраўды ў гасцях». Але заўважыў, як праз маленькую шчыліну ў дзвярах прасочвалася святло. «Не дай Бог, нешта гарыць...» — устрывожыўся ён і вырашыў абысці вакол хаты, паглядзець у вокны: што там... У вокнах з двара было цёмна. Ён падышоў з тыльнага боку і глянуў у акно: з-за запечча лілося слабое святло ад электрычнай лямпачкі. «Што за дзівосы? Аля забылася выключыць? А можа, злодзеі залезлі праз акно?» — Забярэжны ірвануў ручку тыльнай веранды — замкнёна. Моцна забілася сэрца. «А што, калі там... Аліна і той мужчына схаваліся ад яго?» Застукала ў скронях. «Няўжо, за два месяцы, што я адсутнічаў, Аля забылася мяне, знайшла іншага? Няўжо яна здольная на гэта? Урэшце, такое ўжо было, у студэнцтве, калі я паехаў у санаторый на Нарачы... Тады мы і рассталіся, а потым яна выйшла замуж...»

Забярэжны ўжо хацеў са злосцю пайсці са двара, падышоў да веснічак, але тым чысам рыпнулі дзверы веранды, адтуль выйшла Аліна.

— Гэта ты, Ян?

— Я... Я... — ледзь не крыкнуў ён.

— Чаго ты тут ходзіш? Ідзем у хату...

— Ідзем, ідзем... — паўтарыў ён без настрою.

Аліна вяла яго ў веранду, а ён не ведаў, што рабіць. Рэўнасць ахапіла ўсю яго істоту. Забярэжны агледзеў хату: акно завешана коўдрай, у самым кутку ля печы нізка вісіць лямпачка. Пад ёю стаіць вядро з брусніцамі. На дне тазіка ляжыць некалькі жменяў перабраных ягад.

— Што ты тут робіш? І навошта такая канспірацыя? — з хваляваннем спытаў Ян.

— Супакойся. Перабіраю брусніцы...

— Ад каго хаваешся? І чаму не ў гасцях у Галі? — сыпаліся пытанні.

— Я табе зманіла, як зманіла і Ігнату, якога сустрэлі ў лесе, што буду на свяце ў Галі, — працягвала перабіраць ягады Аліна.

— Навошта? А можа, Ігнат хаваецца ў тваіх пакоях? Зараз паглядзім... — Ян ледзь не вар'яцеў — такога з ім даўно не было, нават у маладыя гады.

Забярэжны кідаўся то ў адзін, то ў другі пакой — пуста. Зайшоў у баковачку каля веранды. І там нікога... Крыху палягчэла. Але ўсё роўна вярэдзіла душу.

— А можа, ты яго выправадзіла, калі аклікала мяне?

— Што ты выдумляеш? Вазьмі сябе ў рукі... — зазлавала Аліна. — Хочаш ведаць праўду? Я так хацела прасядзець да позняга вечара. Пасля табе пазваніла б... Ведаеш, што мне ў лесе сказаў Ігнат: «Я ўсё роўна, калі вернешся з гасцей, прыйду да цябе...» А табе зманіла, каб вы не сутыкнуліся. Зразумеў?

— Фу, ты, — на душы Забярэжнага адразу палягчэла. — Во, канспіратарка! Я да гэтага ніколі не дадумаўся б... Ну, фантазёрка... — ён моцна абняў Аліну.

Ян так наперажываўся за той вечар, што гэтых перажыванняў хапіла б на год. Ён раз за разам цалаваў Алю, нібыта дзякаваў, што так шчасліва ўсё скончылася...

**11**

Маці Забярэжнага Анэце Васільеўне з кожным днём станавілася ўсё горш і горш. Паўгода ляжала яна, прыкутая да ложка. Ногі пухлі, на іх з’яўляліся язвы. Забярэжны не раз прыязджаў у хату да маці, дзе яе даглядалі дачка Валя і малодшы сын Міхась. Ён глядзеў на матчыны пакуты, і сам пакутаваў. У пачатку восені Забярэжны з сястрой завезлі маці ў раённую бальніцу. Праляжала яна там два тыдні, а лепш не стала. Калі выпісвалі яе, Ян Пятровіч спытаў у доктара, які лячыў:

— Скажыце шчыра, ці ёсць якія спадзеўкі?

— Ніякіх. Дыябет і атэрасклероз... Засталося мала дзён...

Маці пржыла яшчэ два месяцы. У апошні дзень лістапада Забярэжны, як прадчуваў, зноў прыехаў у Свірыды. Маці ўжо не размаўляла. Раніцай Ян яшчэ спрабаваў карміць яе сілком, а днём яна сканала на яго руках. Позна вечарам з Фаніпаля прыехалі дачка Валя з мужам Міколам. Цэлую ноч усе прасядзелі каля труны. Назаўтра, у першы дзень снежня, маці хавалі. Снегу яшчэ не было, зямля па-восеньску прымала яе: чорныя аголеныя дрэвы, нібы сам смутак-жалоба, навісалі над магілай. А ноччу выпаў снег. Калі раніцай родзічы прыйшлі «будзіць яе», пачалі здзіўляцца пасярэбранай зямлі. Забярэжны падумаў: «Гэта ж такая, як гэты белы першынец-снег, была чыстая, светлая матчына душа. Вось чаму ён і выпаў у яе першую спачывальную ноч...»

На могілках Ян Пятровіч прачытаў вершаваныя радкі, якія склаліся ў цяжкае начное бяссонне:

Бялее снег, нібы твая хусцінка,
Якую у труне табе мы завязалі.
Бы крыжык твой, ірдзіць-блішчыць ільдзінка
На лапцы-гольцы, скутай маразамі.

Верш усіх крануў сваім болем.... «Маці мая, звычайная калгасніца, якая ўсё жыццё неймаверна цяжка працавала, а за гэта бачыла адно хіба працадні ў ведамасці. Яшчэ ў маладыя гады захварэла на сухоты. Шмат гадоў лячылася, дзесяць вёрст туды ды дзесяць назад ходзячы ў райцэнтр у бальніцу. І гадавала чацвёра дзяцей, — разважаў у думках Забярэжны. — Пакутніца... Гэта не мая цешча, якая пражыла бесклапотнае жыццё».

З цешчай пасля памінак яму трэба будзе сустрэцца. Жонка зноў пакінула яго жыць разам з ёю, а сама паляцела за мяжу, на гэты раз да малодшай дачкі Ксеніі.

Забярэжны не ўяўляў, як на гэты раз ён сустрэнецца з цешчай — не размаўляў з ёй з вясны, з таго часу, як параскідала яна яго пачастунак-вінаград. «Ці хоць выкажа спачуванне, як усе людзі? Як яна аднясецца да майго гора?»

Праз тры дні пасля пахавання маці Забярэжны прыехаў у Мінск. Стомлены, са спакутаванай душой і цяжкімі думкамі ўвайшоў у сваю кватэру. Каля ўключанага тэлевізара ў яго пакоі сядзела Аўдоцця Уласаўна. З экрана гучна ліліся песні. На зяця, хоць ён і павітаўся, яна нават не звярнула ўвагі, пра-

цягвала глядзець тэлевізар, і — ніякага намёку на спачуванне. Пра смерць сваёй сваццi яна ведала: Вольга пазваніла ёй з Крыта — Забярэжны паведаміў жонцы па мабільніку.

Ён падышоў бліжэй да цешчы, папрасіў: «Выключце, калі ласка, гэтыя песні. У мяне — жалоба...» Ніякай увагі, песні працягвалі ліцца з экрана. І тады Забярэжны сам выключыў тэлевізар. Як толькі экран пагас, Аўдоцця Уласаўна закрычала на ўсю кватэру:

— Гэта ў цябе — жалоба. У мяне яе няма. Я толькі раз тваю маці і бачыла...

— У вас нічога святога няма ў душы, — прамовіў Ян Пятровіч.

— Я ў сваім кутку, што хачу, тое раблю, — працягвала крычаць Аўдоцця Уласаўна. — А твая маці — гэта твая...

Больш цярпець было немагчыма. Забярэжны, каб супакоіцца, выйшаў на двор, пачаў хадзіць па дарожках, пратаптаных па снезе. Нервы былі напружаны, нібы струны, гатовыя вось-вось лопнуць.

«Гэта мне пасля стрэсу — смерці маці, патрэбна і яшчэ такое? Не, досыць! Прыляціць Вольга з Крыта — будзе вельмі сур’ёзная размова. І на гэтым — канец! Хопіць гэтага напышлівага хамства!»

Пакуль ён хадзіў па двары, цешча пазваніла, каму толькі магла, казала, што яе абражае зяць. Калі ён вярнуўся ў кватэру, там ужо была Мальвіна — яна жыла побліз — і параіла цешчы:

— Званіце ў міліцыю. Цяпер усіх прыструньваюць... Хочаце, я пазваню?

Забярэжны гэта чуў праз адчыненыя дзверы. Падобнае ён і прысніць не мог. Выкладчык універсітэта і такое мярзоцце... А хутка і сёстры цешчы пачалі званіць. Спачатку старэйшая цётка Ліна, а потым Зіна клікалі яго да тэлефона. Яны ў трубцы выказалі спачуванне — не ў прыклад цешчы, — а потым Зіна сказала:

— Яначак, прасі прабачэння. А не, яна пазвоніць у міліцыю — і ты будзеш мець вялікія непрыемнасці...

«Хай, — падумаў Забярэжны. — Прасіць прабачэння? За што? Ды яна зневажала мяне і маю маці столькі, колькі мы з ёй жылі...»

Ён моўчкі сеў у крэсла.

У тую ноч Забярэжны не заснуў. Ён думаў, як быць далей. Пасля разводу трэба будзе недзе жыць... І дзе? У вёсцы Калюгі дом яшчэ не гатовы для жылля. Там трэба будзе зрабіць рамонт, пафарбаваць столь, падлогу, паклеіць шпалерамі сцены. Ды ён толькі для лета, зімой жа трэба жыць і працаваць у горадзе. З Аляй яны яшчэ пра ўсё не пагаварылі... Вырашыў, што можна будзе жыць у Ксенінай кватэры, што ў Малінаўцы. Яна ж па сутнасці «асколак» яго трохпакаёўкі — падзялілі перад тым, як дачка паехала за мяжу. Падумаў, што трэба пераканаць Ксенію, каб засяліла туды яго, а не здавала кватарантам. Дзяліць двухпакаёўку няма сэнсу. Няхай застаюцца жыць у ёй Вольга ды яе маці...

Назаўтра Забярэжны пазваніў дачцы Ксеніі. Расказаў усё.

— Тата, мы тут абмяркуем. Але... не разводзься ты з мамай з-за бабулі. Мы добра ведаем, якая яна... — упрошвала Ксенія.

— Дачка, не ўгаворвай мяне. У нас і з мамай не ўсё добра... І ў мяне ёсць жанчына. Прашу цябе: аддай мне сваю кватэру, — прасіў Забярэжны.

Ксенія на гэта нічога не адказала.

Вольга прыляцела з Крыта за тры тыдні да Новага года. І адразу ледзь не з парога накінулася на Яна:

— Што, захацеў Ксеніну кватэру? А ты ведаеш, колькі яна са сваім мужам уклалі ў яе? Яна там зрабіла еўрарамонт. Дый за што я буду лятаць да дачак на

астравы, калі не стане кватарантаў? Маёй кандыдацкай зарплаты мала. Хочаш разводзіцца — дзе хочаш жыві...

— Ну, тады давядзецца дзяліць гэтую двухпакаёўку, дзе мы зараз, — Ян абвёў поглядам сцены: ён хацеў прыстрашыць жонку.

— Дзялі: кожнаму па тры метры. Во, скажуць, кандыдат навук жыве: у сабачай будцы, — вымавіла з насмешкай Вольга, пакінула Забярэжнага і пайшла ў пакой сваёй маці. Адтуль чулася ўзбуджаная гамонка цешчы і жонкі. У думках Яна круцілася, як тая доўгая змяя, пытанне: «Як развесціся: біцца за кватэру ці махнуць на ўсё, узяць партфель у руку і пайсці, куды вочы глядзяць?»

**12**

Аліна Вітальеўна гуляла на вяселлі ў свайго пляменніка Андрэя, які жыў у Барысаве, — нявеста была з Мінска. Вяселле было ў хаце Андрэевых бацькоў у вёсцы Бялевічы, што за пяць кіламетраў ад Чуі.

Гулялі два дні. Пасля вяселля яна павінна была начаваць у Чуі, у бацькоўскай хаце. Зараз, у пачатку зімы, хата апусцела: маму забрала ў горад малодшая дачка Ніна. Трэба было прапаліць хату. А ў Калюгах тым часам Ян чакаў Аліну: ён прыехаў у вёску раніцай. Кінуў гарадскую кватэру з жонкай і цешчай і прыехаў сюды. Пасля смерці маці яму неабходна было пабыць аднаму. Дый сямейныя справы... Сёння, можа, як ніколі раней, яму чамусьці вельмі хацелася бачыць Аліну. Хацелася расказаць ёй пра ўсё, што адбылося з ім за апошні час... У Мінску яны не сустракаліся.

Аліну на машыне да Чуі падвёз стрыечны брат Сцяпан, які жыў у Бабруйску. Балазе, шаша праходзіла каля самага яе дома. Яна развіталася з братам і яго жонкай і рушыла ў сваю хату. Яшчэ было не надта цёмна: Аліна дастала з сумачкі ключы, адчыніла сенцы. Неабходна было адчыніць дзверы самой хаты. Яна ўзяла другі ключ, але вісячы замок ніяк не магла адамкнуць. Яна вырашыла пазваніць Забярэжнаму, ведала, што ён тут.

Аліна набрала па мабільніку нумар Забярэжнага і адразу ж сказала, што не можа зайсці ў хату — заеў замок...

Ён, здалося, не бег, а ляцеў у Чую. Захапіў з сабой пілку па метале, сякеру, абцугі. Аліну застаў у сенцах, яна стаяла апранутая ў паліто, з ключом у руцэ.

— Што здарылася? — цмокнуў Ян у шчаку Аліну.

— Не ведаю... Я апошняй замыкала хату. Зашчоўкнула замок, узяла ключ з сабой.

Ян таксама не мог адамкнуць замок. Затым — нешта трэба было рабіць — дастаў пілку, перарэзаў вушка...

Увайшлі ў хату. Забярэжны адразу пачаў паліць печ. Неўзабаве печ крыху нагрэлася, а Ян і Аліна залезлі на цёплую чарэнь. Ён папрасіў:

— Раскажы крыху пра вяселле, а пасля я...

— Спачатку прымі маё спачуванне. Мне не давялося пабачыць тваю маму, а ты маю — бачыў... — зажурана сказала Аліна. — А на вяселлі як на вяселлі... Праўда, у мяне не абышлося без прыгод. Ноччу, калі я спала ў сваякоў пасля вясельнага застолля, раптам нехта пастукаў у шыбу. Адхінула фіранку і ўбачыла твар... Ігната. Ён ведаў, што я гуляю на вяселлі — казала яму, калі званіў па тэлефоне, — і прыехаў у Бялевічы на машыне, дазнаўся, дзе я начую. Ігнат не пераставаў стукаць у акно, і давялося мне выйсці на двор. Там я сказала яму, каб перастаў сачыць за мной: у мяне ёсць мужчына. Цяпер ты кажы пра сваё...

Ён расказаў Алі пра ўсё, што адбылося паміж ім і цешчай у ягонай кватэры пасля пахавання маці, сказаў, што прыляцела жонка з Крыта і дадаў:

— Я ўжо хацеў падаваць заяву на развод. Але слухай, Вольга сказала, што ў студзені ёй павінны зрабіць аперацыю, дык трэба пачакаць, не хваляваць яе — ці што?

Яна маўчала...

— Аля, праз месяц пасля аперацыі я развядуся. Ды яшчэ не адышоў ад матчынай смерці...

— Я разумею цябе, — сказала Аліна.

— Аля, я прашу ў цябе месяц, толькі месяц... — Ян зноў паўтарыў свае словы.

У Забярэжнага забалела сэрца, ды так, як ніколі. Аля заўважыла гэта:

— Што з табой, Яначак?

— Нічога, — сказаў ён і праз сілу ўсміхнуўся ёй.

**Замест эпілога**

Праз месяц вечарам адбылася сустрэча і кароткая размова Яна з Алінай у яе хаце ў Чуі.

— Прабач мне, Аля, — час вычарпаны, які я ў цябе прасіў...

— І што?

— Усё па-ранейшаму... У Вольгі была цяжкая паласная аперацыя — яе паслалі ў санаторый на рэабілітацыю. Давай яшчэ пачакаем...

Аліна — што рабіць было ёй? — згодна кіўнула галавой. А сама падумала: «Як жа нялёгка яму...» — пранікнёна, глыбока глянула ў яго сумныя вочы.

Назаўтра раніцай Аліна падышла да канапы, на якой спаў Ян. Ён ляжаў і не варушыўся, цяжка дыхаў. І толькі вочы нібыта прасілі: «Не пакідай мяне...» Яна дрыжачымі ад хвалявання пальцамі пачала набіраць нумар тэлефона «хуткай»...

Аліна прыехала з бальніцы, у якой паклалі Яна. Там ёй сказалі, што ў яго інфаркт: шмат болю, перажыванняў мела сэрца. Яна села на ўскрай канапы, дзе нядаўна ляжаў ён. Апанавалі думкі, затым амаль прашаптала: «Любы Яне, я зусім не здагадвалася, што можа так здарыцца... Але я веру ў цябе, веру. Дай божа табе выкараскацца...»

Забярэжны хутка папраўляўся. Вясной пасля бальніцы ён прыехаў у Калюгі, якія сталі блізкімі яго сэрцу. Аліна не пакідала яго і зараз чакала ў Чуі.

Яна Пятровіча цягнула на рэчку, яму вельмі захацелася пабыць на яе берагах. Ён стаяў з Алінай каля таго месца, дзе раней здавалася, што рэчка вось-вось перасохне — такая яна была вузенькая. Цяпер ён не пазнаў Чую — па ёй бегла паўнаводная плынь. Ён успомніў, як у дзяцінстве вясной, у паводку, стаяў на крутым беразе Нёмана, а за ім ці не на тры вярсты разлівалася рака па лузе, утвараючы неаглядную пойму.

Вада, жыватворная вада Чуі працягвала плысці ў вечнасць. Яна гатова была змыць усе перашкоды на сваім шляху.



Міхась БАШЛАКОЎ

# О ЯК ГАРЧЫЦЬ ЧЫРВОНАЯ РАБІНА...

* * *

Запунсавеюць ледзьве промні,
Праз дымку сонную праб'юцца, —
Над цішай поймы векапомнай
Ім пеўні гулка адгукнуцца.

І над кустоўем, што ў тумане,
Над берагамі і над плёсам,
Над тонкім павуковым тканнем
Узыдзе сонца шар бялёсы.

І Нёман срэбны з дзён далёкіх
Нясе чаўны сівых паданняў.
І гукі множацца навокал —
Плыве над вёскаю світанне.

І разумееш, што дзень новы
Пакіне новыя адценні…
І спеюць хмельныя ўжо словы,
Каб стаць для некага збавеннем…

---

*__Башлакоў Міхаіл Захаравіч__ нарадзіўся 27 красавіка 1951 года ў пасёлку Станцыя Церуха Гомельскага раёна. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1973). Настаўнічаў на Гомельшчыне і Браншчыне (1973—1985). Працаваў у Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі (1985—1990). З 1991 года — у Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, займаўся падрыхтоўкай і выданнем гісторыка-дакументальных хронік гарадоў і раёнаў Беларусі «Памяць». У 2006—2011 гг. — у Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар кніг паэзіі «Начны паром» (1987), «Дні мае залатыя» (1993), «Як слёзы горкія Айчыны...» (1999), «Матчыны грыбы перабіраю» (2000), «Пяро зязюлі падніму» (2001), «Нетры» (2004), «Палын. Чарнобыль» (2005), «Віно адзінокіх» (2011) і інш.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (2008), лаўрэат Міжнароднага конкурсу «100 лепшых кніг свету» (Франкфурт-на-Майне, 2005).*

* * *

Жанчыны сумна так спявалі
Вячэрняй сцішанай парой.
І промні сонца дагаралі
На травах лугу, за ракой.

Там, ля кустоўя, ўжо дыміўся
І нізам плыў сівы туман.
І тонкі месячык свяціўся,
Душу уводзячы у зман,

Што шчасце ёсць…
Ці ёсць, не знаю…
Там, дзе блукаў, — не сустракаў…
Ці доля клятая такая?
Ці я не ў тых краях блукаў?..

Ну, добра я…
А вось жанчыны…
Таксама шчасце не знайшлі,
Бо пад рабінай ля хаціны
Тужліва песню ўсё вялі…

І думаў, крочачы ўжо полем,
Чаму так роспачна жывём?
Няўжо такая наша доля,
Што песні горкія пяём?..

Гусцела шэрае змярканне.
І вечар ліпеньскі гусцеў.
І маладзік як знак пытання
Над шляхам суцемным вісеў…

* * *

Дні ціхай восені не за гарой.
Смутак разліты.
Вось і на полі за хатай маёй
Скошана жыта.

Так неўпрыкмет час зжынае гады,
Быццам калоссе.
Быў яшчэ ўчора, як май, малады.
Сёння — як восень.

Час намалоту. Што я набыў?
Славу? Багацце?

Знаю, што больш, чым набыў, разгубіў,
Многае страціў.

Як я бяздумна транжырыў душу.
Марыў — пасею,
Важнае нешта Радзіме скажу,
Цепліў надзею.

Ды не патрэбны душы маёй жар
Любай Айчыне.
Вогнішча тлее. Сэрца ліхтар
Інеем стыне.

Хіба без песні можна пражыць?
Голас нямее.
Крочу. Над шляхам дожджык імжыць.
Рунь зелянее…

* * *

Зноў неўпрыкмет настала восень…
Па нівах зжатых і гаях
Прайшоў мастак жоўтавалосы
З натхнёным пэндзлем у руках.

Ён клаў то жоўты,то чырвоны,
То залацістым маляваў,
То попельны ці то зялёны,
Ці раптам чорны колер клаў.

А над усімі — колер сіні,
Над шызай дымкаю лясоў.
То серабрысты — першы іней —
Клаў на платы каля двароў.

І кветак летніх паміранне,
Густых перастаялых траў,
І сум асенняга расстання
Мастак умела перадаў.

І крык журліва-жураўліны
Трымцеў над пожняю ў цішы.
І колер новы, той, адзіны,
Мастак знаходзіў для душы.

І так шчымліва, сіратліва
Ад гэтых фарбаў мастака…
І шлях губляецца за нівай,
І шэпт апошняга лістка…

* * *

Як ляціць пажоўклае лісцё!
Як шуміць у кронах ветравей!
Аблятае і жыццё маё:
Дні, гады і васількі надзей.

І няма вяртання ўжо назад.
Крочу, абцяжараны журбой.
І нясе, і кружыць лістапад
Лісце залатое нада мной.

Ці шкадую, што гады прайшлі?
Аб мінулым позна шкадаваць.
І ў бяздонным небе жураўлі
Горка так, пранізліва крычаць.

Думаю: ці правільна я жыў?
І куды спяшаўся і ляцеў?
Многае, на жаль, я не зрабіў,
Многае, на жаль, я не паспеў.

А над шляхам нікнуць журавы.
Я ж навекі застаюся тут.
На абрус пажухлае травы
Ліст барвовы ляжа, як ласкут.

* * *

Калючы снег… А быў у радасць,
Калі іскрыўся, зіхацеў,
Калі кружыўся, ціха падаў
І звонка раніцай рыпеў.

Быў ён, як я, такі ж наіўны,
Зусім хлапчук, той першы снег,
Павольна клаўся на яліны,
На шлях, на горкі сонных стрэх.

Ах, як ён весела смяяўся,
Калі на санках я катаўся
Ці ў снежкі з хлопцамі гуляў…
Той снег са мною сябраваў…

Дзе тыя дні дзіцячых святаў?
Гляджу на гэты стылы снег —
І на душы халаднавата,
Што не звініць той чысты смех,

Што сівізна — як срэбны іней…
Даўно той радасці няма…
І недзе там чаканнем стыне
Ужо апошняя зіма…

* * *

Не трапячы, не рыпайся,
Як у цянётах птах.
Вось і язмін асыпаўся
Пялёсткамі на шлях…

Жыццё — як міг цвіцення,
Як гэты вось язмін,
Што ўжо адлетуценіў,
Вясну сваю адсніў.

Стаіш, нібы разгублены:
Пялёсткамі гады
Рассыпаны, загублены…
І сам — не малады…

Пакуль ты ладзіў парус
І габляваў вясло,
Шляхі твае, як мары,
Снягамі замяло…

І ўсё, што меў на свеце,
Сплыло за гэты клён,
Дзе беспрытульны вецер
Пілуе рэшткі дзён…

* * *

Іграй, скрыпач! Няхай душа паплача…
Што засталося?.. Плакаць ды тужыць,
Калі няма ні шчасця ўжо, ні ўдачы,
І нават болей некага любіць…

Ні маці, ні бабулі, ні суседзяў —
На могілках даўно яны ляжаць...
І плача скрыпкай на раскрэсах вецер,
І сосны гэтак жаласна рыпяць.

Ідзеш — і страшна: вёскі апусцелі…
Нібы вайна прайшла па вёсках тых…
Радзіму зберагчы мы не сумелі —
Ляжыць яна на могілках лясных.

І ні Айчыны болей, і ні мовы…
Стаю адзін на раскрыжы дарог…
Я не збярог, Радзіма, тваё слова,
Як і цябе таксама не збярог.

Пісаў не раз… Ды толькі не чытаюць
На роднай мове вершы ўжо даўно,
Бяскроўная, нямоглая такая —
Здаецца, што памерла ўсё адно.

Няўжо настала скрушная часіна,
Калі вось-вось парвецца гэта ніць?
О як гарчыць чырвоная рабіна…
Але шчэ больш жыццё маё гарчыць…

* * *

Што, Божа, мне рабіць?
Усё часцей злуюся.
Ты кажаш мне: «Любіць…»
Любіць усіх баюся.

І як любіць мне тых,
Хто подла паступае?
Прабач, але такіх
Я сэрцам не прымаю.

Нягоднікаў любіць?
Ды гэта немагчыма!
Ці тых, хто змог забыць
І мову, і Радзіму?

Не, не магу ніяк
Любіць я прайдзісветаў.
Ты кажаш, што не так…
Прабач, Гасподзь, за гэта…

Шмат, Божа, я грашу —
І цяжка так бывае,
Але ў ламбард душу
Сваю не закладаю…

Нікога не кляну
За ўсе свае няўдачы.
Прабач маю віну…
Я знаю, ты прабачыш…

* * *

Не ламайце каліны,
Не сячыце рабіны —
Не было каб вам ліха
І ніякай бяды…
Не цурайцеся маці
І беднай Айчыны —
Маладосць і багацце
Растануць, як дым…

Не шукайце у полі
Шчаслівае долі,
Не пытайцеся ў ветру —
Долі ў полі няма…
Там птушыная воля,
Там шляхі і раздолле,
Не гукайце, не клічце —
Доля знойдзе сама…

Не ўпікайце сябе,
Што так зроблена мала,
Усміхніцеся небу
І гулкім грамам…
Калі спелася песня —
Дзень пражыты удала.
Калі ж песень няма,
То жыццё — як турма…

Не ламайце каліны…
Не сячыце рабіны…
Не кляніце Айчыну…

* * *

Шлях падымаецца  угору…
На кручы нёманскай Каложа
З сівых стагоддзяў як знак Божы.
Унізе Нёман абмялелы,
Як век наш хуткі, ўдаль імкнецца.
Стаю. Малюся.
Светлы Божа,
Пашлі, прашу, маёй Айчыне,
Стамлёнай, горкай і збалелай,
Збавенне ад грахоў бясконцых,
Ад абыякавасці нашай,
Ад чэрствасці людской і звадак,
Пашлі сумленне і спагаду.

Народ бяспамяцтвам хварэе.
Вярні майму народу памяць,
Вярні майму народу мову,
Якой ён выракся бяздумна
У гэты час бяздушна-тлумны.
Няўжо, Гасподзь, мая Радзіма
Не заслужыла ласкі Божай?
Чаму ўсе беды і нястачы
На плечы нашы ускладаеш?
Ці наша доля ўжо такая?
Народ без веры і без слова,
Вядома, грэшны…
Ды не горшы,
Не самы горшы ў свеце гэтым.
Пашлі нам, Божа, прасвятленне,
Каб мы згадалі свой пачатак
І ўсё, што мелі і што маем,
І што ў блуканнях разгубілі.
Пашлі натхнёнае маленне
Тут, пад скляпеннямі Каложы,
На кручы нёманскай высокай,
Аб долі зорнай і  шчаслівай.
Няхай наш шлях ракой шырокай
Цячэ бясконца праз стагоддзі.
І хай над шляхам вешчым птахам
Лунае вечна наша Слова —
Прыгожае, як спевы птушак,
Як песня велічных нябёсаў,
Вясны ўрачыстае цвіценне…
Як камяні святой Каложы,
Хай будзем цвёрдымі у веры
І шчырымі ў сваёй любові
Да нашай любае Айчыны…
Пашлі нам, Госпадзі, збавенне,
Пашлі нам светлую часіну,
Каб мы ўсвядомілі правіну,
Што нельга гэтак болей жыць —
Інакш загіне наша мова,
А значыцца, і мы загінем…
Я заклінаю тваім імем:
Ратуй народ мой ад маны,
Ад раўнадушша і бязвер’я.
Звіняць над Нёманам званы…
І шлях цячэ, імкне наперад…





**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

# «І ВЯСНОЙ УЗЫДУ...»

*Аповесць-эсэ*

> ***А над песняю той, недапетай,***
> ***Прагудзела труба жураўля:***
> ***«Тых,***
> ***з кім дзеліцца неба***
> ***сакрэтам,***
> ***Маладым забірае зямля».***
>
> Анатоль СЕРБАНТОВІЧ

## «На Паркавай — высокі інтэрнат...»

Недзе гады з два таму раптам патэлефанавала мне Рыма Кавалёва, дацэнт кафедры фальклору Белдзяржуніверсітэта. Падзялілася навіной: на адным з сайтаў інтэрнэта з'явілася іх праграма — літаратурна-мастацкі альманах «Дзьмухавец». Не бачыў? Аб чым ён? Расказвае пра жыццё ўніверсітэта, пра яго знакамітых выпускнікоў, і ў тым ліку — пра пісьменнікаў, якія ў розны час вучыліся ў ім.

— Ты не глядзеў нашых праграм? — пачуўшы, што я не ўмею карыстацца інтэрнэтам, гэтым сучасным цудам чалавечага розуму, абнадзеіла: — Дык будзе мажлівасць зацікавіцца, заглянуць у інтэрнэт, нават скачаць на свой камп'ютар. У нас ёсць спецыяльная рубрыка, і я хачу, каб ты паўдзельнічаў у ёй, падзяліўся ўспамінамі пра гады вучобы, жыццё ў інтэрнаце (можа ж, не забыўся яшчэ, як ладзілі танцы ў вестыбюлі?), прачытаў вершы, якія палічыш патрэбнымі. Добра, каб было нешта з напісанага ў студэнцкія гады. Не думаю, што нічога ў памяці не засталося, што нічога не напісаў пра той час.

— Канешне ж, знойдзецца, — зацікаўлены яе прапановай, доўга не раздумваючы, згадзіўся я.

---

*__Чарняўскі Мікалай Мікалаевіч__ нарадзіўся 16 студзеня 1943 года ў вёсцы Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі», на Беларускім радыё, у часопісах «Бярозка» і «Вясёлка».*

*Піша для дзяцей і дарослых. Аўтар зборнікаў лірыкі, сатыры і гумару: «Чалавечнасць» (1971), «Трывога» (1988), «Лёкса ў люксе» (1993), «У трох соснах» (1996), «Сонечны кошык» (2009) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1995), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2001), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010).*

Чаму Рыма Мадэстаўна, як яе цяпер завуць-велічаюць студэнты філфака, дзе яна выкладае (нават мая дачка Насця была слухачкай яе лекцый), не забыла нумар майго тэлефона, звярнулася да мяне? Ды таму, што я помню яе яшчэ ўчарашняй школьніцай, усмешлівым дзяўчом, калі звалі проста Рымай, і прозвішча было не такое, а больш сваё — дзявочае. Не падумайце, быццам вучыўся з ёй у адной школе, былі аднакласнікамі. Не. Зусім іншая гісторыя спадарожнічала нашай сустрэчы, нашаму не такому ўжо кароткаму знаёмству. Гэта пазней ужо даведаўся: яна мне, лічы, зямлячкаю даводзіцца — дзесяцігодку ж закончыла ў Рэчыцы, адтуль прыехала на вучобу ў Мінск.

Зусім нечакана нас звёў універсітэт, тады яшчэ адзіны ў рэспубліцы — БДУ. Хутчэй — жаданне вучыцца ў ім, стаць студэнтамі. У тым жніўні няблізкага ўжо 1960 года, калі я прыехаў у Мінск здаваць уступныя экзамены, у прыёмнай камісіі на час іх здачы мне выдалі накіраванне ў інтэрнат, што знаходзіўся, як было пазначана ў накіраванні, па вуліцы Дзімітрава. Дзе ж знаходзілася на той час сама вуліца, мусіць, патрэбна растлумачыць, асабліва маладзейшым насельнікам сталіцы: пазней яе перайменавалі ў Паркавую магістраль, потым — у праспект Машэрава, а з нейкага часу яна стала насіць назву праспекта Пераможцаў. Як абнаўляліся і знікалі назвы вуліцы, так жа нядаўняй вясною пайшоў пад знос і знік з вулічнага рэестра, але, спадзяюся, не з памяці тых, хто некалі жыў у ім, і дом пад нумарам 9: цягам доўгіх гадоў ён сціпла туліўся ў цені новаўзведзеных вышынных камяніц, нібы мазоліў ім вока, і цяпер змушаны быў «здацца», уступіць сваю надзвычай прынадную плошчу болей сучаснаму монстру — ужо не жыламу, а гандлёва-забаўляльнаму комплексу. Нічога не зробіш: ява нашых дзён. А тады была — свая, пэўна, болей зразумелая нам ява...

Трымаю ў руках накіраванне, думаю ў разгубленасці: дзе шукаць гэты інтэрнат? Бачу, я не адзін такі. Можа, пацікавіцца вунь у той дзяўчыны, якая, трымаючы такі ж лісток, як у мяне, аб чымсьці перамаўляецца з прывабнай маладжавай жанчынай, мабыць, з маці?

— Пойдзем разам шукаць! — зірнуўшы на мяне, рашуча сказала жанчына, падхопліваючы з падлогі чамадан.

Я не памыліўся: Рыма прыехала з маці. З універсітэцкага гарадка рушылі ў напрамку праспекта, які яшчэ насіў, па-мойму, імя Сталіна. Рыміна маці, як аказалася, даволі бойкая жанчына, шпарка ішла паперадзе, несучы важкі чамадан, а за ёю — ледзь паспявалі мы з Рымай. Што дзяўчыну завуць Рымай, даведаўся дарогай. Прызнаюся, мне адразу спадабалася гэта імя: такое ж было і ў маёй старэйшай сястры.

Рыме ішлося лягчэй, рукі былі нічым не заняты, а я апрача не такога і лёгкага ўжо чамаданчыка, напакаванага падручнікамі ды іншым неабходным у такой адлучцы з дому прычындаллем, нёс, трымаючы пад пахаю левай рукі, вялізны батон, які прыкупіў яшчэ раніцай, сышоўшы з цягніка, у прывакзальнай булачнай. Батон той важыў, мусіць, кілаграма пад паўтара, я аддаў за яго чатыры рублі на тыя грошы. А ўзяў вялізны, бо баяўся, што іх пэўна ж хутка разбяруць, мне потым не ўдасца на такі разбагацець. Яго ж зараз не з’ясі, каб і хацеў, на дзень ці два хопіць. Лішнія грошы траціць не трэба. А раптам на дарогу дахаты не хопіць? Як дабірацца тады? Я ж не ведаў, што нечакана ўсміхнецца шчасце: у Доме друку атрымаю ажно шаснаццаць рублёў ганарару за верш «Залатыя рукі», які быў надрукаваны ў ліпеньскім нумары «Бярозкі»! Можна было ўжо нешта смачнейшае прыкупіць...

Гэты батон я нёс, загарнуўшы ў газету, з якой ён чамусьці раз-пораз вылузваўся, быццам хацеў нагадаць і маім спадарожніцам пра сваё існаванне,

што замінала мне шыбаваць за Рымінай маці гэтак жа бойка, як і яна сама. Да таго ж, прызнаюся шчыра, у тыя хвіліны я пачуваўся трохі ніякавата перад гэтай бестурботна-смяшлівай дзяўчынай і яе засяроджанай матуляй за сваю вясковую недалужнасць: ашчасліўся, бедалага, быццам нічога гэтага раней і ў вочы не бачыў! А папраўдзе ж — дык і не бачыў! Але ж у думках я радаваўся, што пашчасціла трапіць у такую кампанію шукальнікаў невядомай нам вуліцы, таго інтэрната, дзе давядзецца жыць і рыхтавацца да ўступных экзаменаў, хадзіць адтуль на іх здачу.

Жанчына не саромелася спыняць прахожых і час ад часу перапытваць, ці не ведаюць, дзе ж знаходзіцца вуліца Дзімітрава. Апошні, да каго мы падышлі з такім пытаннем, быў міліцыянер-рэгуліроўшчык на скрыжаванні каля ГУМа. Выслухаўшы, што нам трэба, ён не вельмі ўпэўнена, як падалося, паказаў рукою, куды нам, на яго думку, ісці.

— Здаецца, там. Але вы яшчэ ў каго дарогаю перапытайце.

І мы, як тыя пілігрымы, рушылі далей. Міма дамоў, што стаялі з шыльдачкамі «Вуліца Леніна». Перайшлі трамвайныя пуці, за імі — шырокі бетонны мост, які перакінуўся цераз вуліцу, па якой там, дзесьці ўнізе, чуўся рух машын. За мостам перад намі раскінуўся пустыр, усыпаны бітай цэглай, зарослы дзядоўнікам і лебядою. Дзе-нідзе пасвіліся на прывязі козы. Чым не вясковы малюнак? Адсюль пачыналася вуліца, забудаваная мноствам драўляных дамкоў, што цесна туліліся адзін да аднаго каля прысядзібных агародчыкаў. Пазней ужо даведаўся: гэта мясціна ў сталіцы называлася Татарскай Слабадой. Убачаны намі, нязвыклы, здавалася б, для сталічнага горада пейзаж, яшчэ не адзін год будзе заставацца такім, кідацца ў вочы сваёй старасвецкасцю і ў нейкай ступені ўбоствам. Вяртаючыся сюды, Анатоль Сербантовіч напіша: «На Паркавай — прыгорблены хаты, на Паркавай — высокі інтэрнат...» Тады ён сапраўды здаваўся высокім: з белай цэглы, пяціпавярховы, ён адзін узвышаўся на той пустцы, па суседстве з драўлянымі хацінамі, і кідаўся ў вочы яшчэ здалёк.

І ў той раз, убачыўшы яго перад сабой, мы з палёгкай уздыхнулі:

— Гэта, напэўна, і ёсць інтэрнат, які мы шукаем?

Што не памыліліся, заўважылі, падышоўшы да яго бліжэй. Дворышча перад ганкам было запруджана людзьмі: такімі ж, як і я, хлопцамі і дзяўчаткамі з чамаданамі і разбухлымі сумкамі, прэтэндэнтамі на вучобу ва ўніверсітэце, на такое таямніча-рамантычнае званне студэнта.

— Чаму ўсе на вуліцы тоўпяцца, чаму ў памяшканне не пускаюць? — пацікавілася Рыміна маці ў нейкага мужчыны, які, напэўна, таксама быў адным з праважатых, уладкоўшчыкаў дачкі ці сына.

— Кажуць, камендант недзе затрымаўся. Без яго ж не могуць прымаць і размяшчаць паступаючых па пакоях. Трэба чакаць...

Адны сядзелі на высокім інтэрнацкім ганку, другія стаялі непадалёк купкамі і ў адзіночку. Хто жвава перамаўляўся, хто маўчаў. Звычайная карціна: сабралася шмат моладзі, учарашніх, лічы, школьнікаў, але ж не ўсе яшчэ паспелі пазнаёміцца, пазбавіцца ад сарамяжлівасці, асабліва ў вясковых, нават разгубленасці перад невядомасцю, што чакае іх...

Я, не выпускаючы з рук чамаданчык, і з тым жа батонам пад пахай, які ледзь хаваўся ў расшарпанай ужо газеце, адстаў ад сваіх спадарожнікаў, прабраўся бліжэй да ганка, на голас, што чуўся адтуль. З усіх, хто сядзеў на ганку і гуртаваўся наўзбоч яго, кінулася ў вочы постаць нейкага хлопца. Шчуплахударлявы, з дзіцячым выразам твару, на якім прыкметна выдзяляўся не зусім адпаведны яму нос (яго пазней сябры і знаёмыя будуць параўноўваць са знакамітым барадулінскім), ён мне, вясковаму хлопцу, у той момант нагадаў мала-

дзенькага пеўніка, які быў гатовы кукарэкнуць ці кінуцца ў бойку з-за нейкай крыўды. Гэта потым (не зважайце асабліва, што часта ўжываю слова «пазней» і «потым»: без іх ніяк нельга абысціся) старэйшы таварыш па жыцці і творчасці паэт Аляксей Пысін, складаючы прадмову да яго пасмяротнага зборніка «Пярсцёнак», параўнае Анатоля Сербантовіча з раннім вясновым жаўранкам, а тады, на ганку студэнцкага інтэрната...

Ён стаяў на ніжняй прыступцы мураванага ганка і, быццам падахвочваючы сябе ўзмахамі рук, чытаў... вершы. Ці свае, ці чужыя — не ведаю. Але ўсе, хто стаяў побач, слухалі. Адным, можа, было сапраўды цікава, а другія, можа, думалі скептычна: што за дзівак знайшоўся? А хлопец (можна сказаць нават «хлопчык») замаўчаў, акінуў «аўдыторыю» позіркам:

— Хто яшчэ хоча пачытаць вершы? Хто з вас піша?

Ахвотнікаў не знайшлося. Ды адкуль ім узяцца, калі наўкол цябе ўсё чужое і не перад сябрамі трэба слова трымаць, паказваць, што ў цябе ёсць за душою? Некаторыя тут жа, магчыма, баючыся, каб гэты бойкі «артыст» не зачапіў яго, не выцягнуў на «трыбуну», адышліся далей ад ганка. Я — таксама. Аднак падумаў: «Глядзі ты, які смелы! Адкуль ён, на якое аддзяленне прыехаў паступаць? Відаць, як і я, на беларускае?»

Не з першага разу, але пазнаёміліся ўжо на кансультацыі. Яны праводзіліся сумесна, для ўсіх абітурыентаў філфака разам. Аказалася, паступае на аддзяленне журналістыкі. Туды, куды падаваў спачатку дакументы і я, аднак мне адмовілі: не было абавязковага двухгадовага працоўнага стажу пасля школы. Калі знаёміліся, назваўся: завуць — Анатоль Сербантовіч. Прыехаў са Шклоўшчыны. І прызнаўся, што піша вершы. І ўжо друкаваўся ў «Магілёўскай праўдзе». Бываў на абласных семінарах, знаёмы з паэтамі Аляксеем Пысіным і Васілём Матэвушавым. Пазайздросціць было чаму, бо гэтых паэтаў я ведаў... толькі па іх вершах у «Піянеры Беларусі», што друкаваліся ў ім пад рубрыкай «Беларускія пісьменнікі — дзецям». Адразу кінулася ў вочы: палец яму ў рот не кладзі. Нейкія катэгарычнасць і яршыстасць чуліся ў яго размоўных інтанацыях, нейкая своя ледзь улоўная перакананасць у правільнасці таго, аб чым ён гаворыць. Нямала імпанавала такому ўяўленню празмерная Анатолева рухавасць і ўжо нейкая жыццёвая сталасць, самастойнасць. Можа, гэта тлумачылася тым, што Анатоль быў, хоць на два гады, але старэйшы за мяне, пасля школы паспеў папрацаваць грузчыкам у калгасе? Прызнаюся, у праўдзівасць апошніх слоў чамусьці не хацелася верыць: «Ці ж не надта хілы ты, хлопец, для ўвіхання грузчыкам? Ці ж мяшкі са збожжам ды бульбаю па табе?» Што я памыляўся, пераканаўся потым, у інтэрнаце: калі ўсчыналі дужацца, рэдка ўдавалася «прыпячатаць» яго руку да стала.

Раз'язджаліся з экзаменаў, лічы, сябрамі. Не я адзін. Развітваліся з надзеяй, што ў верасні, магчыма, сустрэнемся зноў. Але ўжо студэнтамі.

## «Ёсць дом на вуліцы Свярдлова...»

Для Рымы Кавалёвай я падрыхтаваў матэрыял, які яе цікавіў: нізку вершаў і празаічны абразок «Ёсць дом на вуліцы Свярдлова». Яго я закончыў запытальнымі радкамі, якія, напэўна, задаў бы кожны, хто калісьці, у няблізкай маладосці, ступаў на высокі ганак, хадзіў па яго калідорах, чуўся сваім сярод дружбакоў, знаходзіў прытулак у гаманлівых пакоях: «Як жывеш цяпер, наш інтэрнат, каго радуеш сваім цяплом і ўтульнасцю? Ці будзе што ўспомніць тым, хто ходзіць па тваіх калідорах сёння?» І самі сабой напрасіліся вершаваныя радкі:

Ёсць дом на вуліцы Свярдлова,
Які мне ўсцешвае душу,
Дзе спазнаваў таемнасць слова,
Якім жыву,
Якім дышу.

Сюды мяне вяртае памяць,
Нібы юнацкіх дзён святло.
Няўжо было ўсё гэта з намі?
Няўжо ўсё гэта адцвіло?

І сэрца згодзіцца вяснова,
Устрапянецца, як лісток...
Ёсць дом на вуліцы Свярдлова —
Майго сяброўства астравок.

Пазнаёміўшыся з маёй, запозненай, можа, споведдзю, Рыма Мадэстаўна не хавала свайго ўзрушэння: мой успамін ёй таксама навеяў нямала прыемных згадак пра незабыўныя гады студэнцтва, напоўненыя рознымі стасункамі, і вясёлымі, і сумнымі, што прайшлі пад дахам гэтага дома. Я ж, вяртаючыся ў тую няблізкую пару, не прамінуў лішні раз расказаць пра тое, як нам жылося ў студэнцкім інтэрнаце на гэтай вуліцы, як пачынаўся шлях у вялікую літаратуру маіх сяброў-равеснікаў Міколы Маляўкі, Эдуарда Зубрыцкага, Міхася Вышынскага, Алеся Масарэнкі, Міхася Зарэмбы, Рыгора Семашкевіча, Генадзя Дзмітрыева, Казіміра Камейшы, Хведара Чэрні, Іосіфа Скурко, Марыі Шаўчонак, Вольгі Іпатавай і, вядома ж, Анатоля Сербантовіча. Інтэрнат сабраў усіх нас разам, згуртаваў і зблізіў. Удалечыні ад роднага дому ніхто з нас не адчуваў сябе адзінокім, вучыўся трымацца адной дружнай сям’ёй. Што ж тычылася нас, пачаткоўцаў, шукальнікаў рыфмы, дык яшчэ — і сям’ёй літаратурнай...

Хоць у мяне, скажам шчыра, не было з Анатолем Сербантовічам такога закадычнага сяброўства, як з тым жа Міколам Маляўкам, а ў Анатоля — з Васілём Макарэвічам, але ва ўсіх нас было адно, што з першага ж знаёмства не проста зблізіла, нават у нечым зрадніла, перарасло ў творчае братэрства, не даючы хітраваць, аддаляцца адзін ад аднаго, — гэта апантанасць творчасцю, імкненне хутчэй спасцігнуць сакрэты майстэрства, паказаць, што ты невыпадкова выбіўся на гэту пакручастую сцяжыну, нечага можаш дамагчыся. У нас не было нейкіх там аўтарскіх таямніц, мы шчыра дзяліліся задумамі, тым, што зроблена, нешта падказвалі адзін аднаму, нават без аніякай там шкадобы маглі ахвяраваць удала прыдуманай рыфмай, знойдзеным вобразам, калі адчуваў, што сам не зможаш як след пакарыстацца гэткім здабыткам. Радаваліся не такім яшчэ частым удачам — надрукавацца ў недасяжных дагэтуль «Маладосці», «Беларусі», «Полымі», «Вожыку». Або ў «Дні паэзіі» ці ў той жа «Чырвонай змене», якую па справядлівасці лічылі «хроснай» і мы, навабранцы, і тыя, хто ўжо да нас прайшоў тут школу літаратурнай сталасці, і цяпер ужо нам на пасяджэннях літаб’яднання цярпліва давалі ўрокі паэтычнага майстэрства, — Рыгор Барадулін, Уладзімір Паўлаў, Іван Калеснік, Янка Сіпакоў, Юрась Свірка, Генадзь Бураўкін, Кастусь Цвірка, Сцяпан Гаўрусёў, Сымон Блатун... Яны, самі яшчэ маладыя, але з талентам ад Бога, апекавалі нас, маладзейшых, можна сказаць, «зялёных» пачаткоўцаў, бо, мусіць жа, верылі ў нашы здольнасці, спадзяваліся на творчы ўзлёт і плённыя здабыткі. І гэта, безумоўна, падахвочвала, прыдавала настрою, настойлівасці, жадання працаваць над сабою, шукаць.

Анатоль Сербантовіч якраз і быў адным з такіх няўрымсных шукальнікаў і шчыруноў, у нечым абыходзіў нас, паспяваў сказаць тое, над чым нехта яшчэ раздумваў, не баяўся трапіць у няміласць за праўдзіва выказаныя радкі і словы, быў апантаны запаветнай марай: «Я, нібы зерні, словы сёння // Хачу

пасеяць між людзей...» І ў той жа час: «Не мелка сеяць, не глыбока, // А каб у сэрцах узышлі!»

Як хто, а я веру ў праўдзівасць бібліяграфічных радкоў: «Пісаў ён шмат — часам за ноч з'яўлялася да чатырох вершаў». Ад сябе дадам: і нават больш таго! Адкуль ведаю?

«Адзайцаваўшы» тры гады ў студэнцкім інтэрнаце па вуліцы Свярдлова з добрай ласкі мясцовага студэнцкага «начальства» (таго ж старшыні прафкама ўніверсітэта Анатоля Кудраўца, так-так, выдатнага пазней празаіка, а тады — старшакурсніка аддзялення журналістыкі, такога ж «творцы», якім быў я!) мне, студэнту-вячэрніку і супрацоўніку рэспубліканскага радыё, восенню 1963 года давялося сказаць гэтаму інтэрнату: «Бывай!» Было тужліва і маркотна расставацца з тым, да чаго паспеў прыжыцца, дзе засталася часцінка душы, аднак, прыглушыўшы ў сабе часовую спустошанасць, давялося перабірацца, — як быццам з нейкай калгаснай вёскі, якая ніколі не ведала спакою і цішыні, на якісьці маласямейны хутар, у іншы свет, атулены самотай і невядомасцю. Балазе зборы былі нядоўгія: апрача кніг, на ўсялякі іншы хатні скарб на той час яшчэ не паспеў узбіцца.

## «Вуліца Грамадская, кватэра прыватная...»

Дзякуючы падказцы радыйнага журналіста Анатоля Залеўскага, які ўжо там з сям'ёю кватараваў, кватэра падшукалася даволі хутка і не зусім далёка: за чыгуначным вакзалам, на вуліцы Грамадскай. Не надта шырокая, не ўсюды забрукаваная і асфальтаваная, яна знаходзілася па суседстве са знакамітай вуліцай Прыгожай. Чаму — знакамітай? У перадваенную пару, дый пасля вайны яшчэ, там кватаравалі многія маладыя на той час літаратары. Нават натхніла некаторых, каб ёй прысвяцілі вершы. Таго ж Петруся Броўку, скажам.

Абжыўшыся там трохі, я таксама паспрабаваў «вывесці ў свет», зрабіць здабыткам паэзіі і яе, мала каму вядомую вуліцу Грамадскую. Праўда, нічога сур'ёзнага і вартага людской увагі ў мяне тады не атрымалася. Радкі, прыдуманыя мною, болей нагадвалі штосьці іранічнае, каламбур, гульню слоў: «Вуліца Грамадская, кватэра прыватная. // Домік — пагляд не адвядзеш, // Ветлівая гаспадыня хатняя // І гаспадар — не менш...»

Цяпер на яе месцы ўзвышаюцца шматпавярховыя камяніцы. Ад былой назвы і паміну не засталося. А ў той час там у зацені яблынь і вішань, груш і сліў гаспадарыў прыватны сектар. Мой новы прыстанак знаходзіўся на другім паверсе акуратнага драўлянага дамка не дужа старой яшчэ пабудовы і болей нагадваў прыбудаваную летнюю мансарду, чым жылы пакой. Але трэба аддаць належнае гаспадарам: рыхтуючы здаваць жытло кватарантам, яны ўцяплілі яго, у халады абагравалі — унізе знаходзілася невялікая кацельная, якою абаграваўся ўвесь дом.

Затое вясной і ўлетку — быў сапраўдны рай: у адно акно зазірала голле суседскага саду, у другое — гаспадарова вішня. З двух бакоў «галубятню» акаймоўваў акуратны драўляны балкон. На яго ў пагодлівы дзень можна было нават выйсці і пацешыцца ласкаю сонца, красою навакольных прысядзібных краявідаў, ясным блакітам неба. Калі наведваліся хлопцы ў госці — не маглі ўтрымацца ад спакусы працягнуць руку ў расчыненае акно, сарваць яблык ці колькі вішань. Сябры нават зайздросцілі мне: такая рамантыка, такое хараство побач! Ці трэба далёка хадзіць, каб прычасціцца глытком паэтычнага натхнення? Што ўсё гэта ўяўлялася менавіта так, праз шмат гадоў прыгадаў Казімір Камейша ў вершы «Акно», не прамінуўшы пазначыць: «Міколу Чарняўскаму»...

Акно расчынялася ў сад
І ціха ўсміхалася лету.
І, просячы мёду, аса
Кружляла над думкай паэта.

Той двор аж стагнаў ад галін.
І падаў за шыбаю яблык
У бездань шчаслівых хвілін
Пад гукі вясёлага ямба.

Быў кожны сябе маладзей,
Нібыта ляцеў па-над часам.
Смяяўся, святкаваў наш дзень,
Як яблык пад чарамі Спаса.

Хмяліў нас вясёлы той сад
Напоем і нашым, і крымскім.
І ў шклянцы купала аса
Тутэйшага гонару крыльцы.

Было маладым не да сну.
Шукаючы дзіўнага сэнсу,
У сад малады, у вясну
Само расчынялася сэрца...

Чаго ж гэта я аддаўся фантазіям, нібы зноў залез у чужы сад? Што далей?..

На той «галубятні», як мы называлі яе між сабою, я спачатку жыў са сваім земляком Валодзем — цяперашнім вучоным, доктарам гістарычных навук, прафесарам, членам-карэспандэнтам нашай Акадэміі навук. Ён быў старэйшы за мяне, ужо ў тое лета скончыў аддзяленне журналістыкі БДУ і... прыйшоў працаваць у тую ж рэдакцыю замежнага вяшчання, дзе працаваў і я. Праўда, у аддзел інфармацыі. Праз нейкі год у ваенкамаце ўспомнілі, што ён не служыў яшчэ ў арміі, і яго прызвалі на вайсковую службу. Пакой мы здымалі на двух, таму гаспадыня параіла падшукаць мне замену земляку: навошта ж пуставаць лішняму месцейку на той «галубятні» і штомесяц губляць пятнаццаць рублёў?

Даведаўшыся, што Анатоль Сербантовіч па нейкіх невядомых мне абставінах надумаў выселіцца з інтэрната і шукае прыватны прытулак, я прапанаваў яму: «Давай падсяляйся да мяне! Не дужа далёка, і гаспадары прыстойныя, ветлівыя». Анатоль нават узрадаваўся: «А чаму б і не? Паехалі дамаўляцца!»

## «Рыфмамі вершы звязваю...»

Сапраўды, гаспадары трапіліся ветлівыя, нават гасцінныя. Да таго ж у нечым па-свойму інтэлігентныя, блізкія і мне, і яму па сваім стаўленні да беларускага: гаспадар, Павел Антонавіч, галоўны бухгалтар універмага, мог па памяці расказваць вершы і байкі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Чарота, Кандрата Крапівы, якія не выветрыліся з галавы, засталіся ў ёй з маладых гадоў. Са мною стараўся размаўляць па-беларуску. Менавіта з гаспадаровай бібліятэкі, што мелася ў доме, я разжыўся двума тамамі са збору твораў Янкі Купалы, які выдаваўся ў 1928 годзе. Гаспадыня, Зінаіда Мікалаеўна, была трошкі іншага складу: літаратурай не цікавілася, але ніколі не злавала на кватарантаў, не ўмешвалася ў іх побыт, часцей лагодна ўсміхалася, чым хадзіла хмураю ды незадаволенай чымсьці. Калі здаралася якая сямейная ўрачыстасць, не цуралася запрасіць да свайго стала пачаставацца разам з гасцямі. Не кожны кватарант мог пахваліцца такой пашанай з боку гаспадароў...

Не адразу, ды ўсё ж пэўная доля гаспадароўскай прыхільнасці дасталася і яму, не заўсёды словаахвотліваму Анатолю: нейкі час ён прыглядаўся да іх, а яны — да яго. Нам жа прыглядацца, уваходзіць у давер адзін да аднаго асаблівай патрэбы не было. Як-ніяк дружбацтва наша ўжо не адзін год доўжылася, дагэтуль быццам бы не з’яўлялася падстаў сумнявацца ў яго непарушнасці і шчырасці.

Ды ўсё ж мушу прызнацца: праз нейкі час я пачаў сумнявацца ў правільнасці рашэння — прапанаваць суседства на нашай «галубятні» Анатолю. Раней я ведаў яго болей па сумесных інтэрнацкіх тусоўках, як цяпер кажуць, па зборах на літаб’яднанні ў «Чырвонцы», па рэдакцыйных стасунках у часопісе «Бярозка», па нейкіх застольных імпрэзах, а тут раптам апынуліся пад адным дахам, у адным пакоі, сталі суседзямі па тапчанах, што стаялі ў ім побач, амаль упрытык. Розныя характарам: я — спакойны, у нечым — маруда, не пазбаўлены нейкай разважнасці, ён — узрушліва-няўседлівы, гарачы, задзірыста-катэгарычны ў меркаваннях і выказваннях, можа быць, з ноткамі самаўпэўненасці ў іх. Анатоль не хаваў сваіх поглядаў, выказваў у вочы тое, што думаў, з чым не пагаджаўся, што падказваў яго прыдзірліва-крытычны розум і сумленне. Ён асабліва не разбіраў, хто перад ім: ці то пісьменнік сталага веку, з «каронаю класіка», ці то нехта з нас, ягоных сяброў-таварышаў, такіх самых, як і ён, шукальнікаў рыфмы. Хтосьці б прамаўчаў, сваю думку пакінуў пры сабе або прыхаваў бы да іншага зручнага моманту, а ён не мог — адразу «загараўся»! Адкуль гэта ўсё, адкуль у яго такі характар, Анатоль прызнаўся (і зноў жа значна пазней) у вершы пра сваю радаслоўную: «І пэўна, і мела, і мае значэнне // Тое, што каб на калені не ўпаў, // Май нарадзіў, а хрысціў мяне чэрвень // І у свінцовай купелі купаў». (Сапраўды ён нарадзіўся 13 мая (!) 1941 года, за нейкі месяц да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Таму яго зразумець можна: «Год сорак першы — нянавісць і боль».) І яшчэ не прамінуў прызнацца: «Я ўзяў у ячменю характар яршысты, // Даў мне задуменнасць задумлівы бор...» З-за гэтай «ячменнасці», мабыць, і ўсялякія непрыемнасці меў, асабліва ад тых, хто трымаўся вышэйшых пасад ці караскаўся па прыступках кар’ернай лесвіцы, каб дамагчыся свайго, хоць сам рабіў выгляд, быццам не заўважае іх, быццам яму ўсё — ні па чым, як з гуся вада. Можа, гэта проста здавалася?..

Аднак, што гэта я? Зноў загаварыўся, збочыў не на тую сцежку? Пэўна ж, трэба хутчэй патлумачыць, з-за чаго ўзніклі мае сумненні наконт нашага суседства ў пакойчыку на вуліцы Грамадскай, хоць я, не сумняваюся, быў адным з першых, хто змог прычыніцца да таямніц яго «творчай лабараторыі», убачыць, як ён шчыраваў над вершамі, тварыў. Нават зраблю папраўку: не тварыў, а чараваў. Найчасцей — у начной цішыні.

Пакуль Анатоль кватараваў побач са мною, пакойчык наш не паспяваў выветрывацца ад водару кавы. Не такой, канешне, як цяпер рэкламуюць і прадаюць, а больш простай, даступнай, якая была па кішэні тагачаснага звычайнага інтэлігента. Каб не дужа браў сон, ён звечара заварваў яе цэлую каструлю, захутваў у ручнік, каб не так хутка астывала, ставіў нанач да стала і... пачынаў пісаць. У такія хвіліны я не ўлазіў у размовы з ім, сцішваўся на тапчане, што стаяў упрытык да стала, стараўся заснуць. Мне ж трэба было рана падымацца, каб не спазніцца ў рэдакцыю радыёкамітэта, а Толя мог паспаць і пазней, нават затрымацца, калі што якое: у часопісе «Бярозка» працоўны дзень традыцыйна пачынаўся «са спазненнем», недзе ўжо апоўдні. Як і ў астатніх літаратурных выданнях. Самога потым такая «выгода» спакусіла: нядоўга раздумваў, калі запрасілі туды на працу...

Заседжваўся Толя за сталом, пакуль не пачынала днець, а на дне каструлі не заставалася адна гушча. Я часам паджартоўваў:

— Ты ведаеш, Толя, чаму твае вершы падабаюцца чытачам, асабліва дзяўчатам?

— Чаму? — не мог ён спачатку зразумець, да чаго я хілю.

— Ды таму, што яны замешаны на кафейнай гушчы. На той, на якой яны любяць варажыць.

Пачуўшы гэта, ён спачатку заходзіўся нейкім крышку ненатуральным рогатам, які быў яму ўласцівы, потым, нібы пагадзіўшыся, выказваў сваё меркаванне:

— Затое трывалейшыя будуць, не рассыпяцца адразу, як крытыкі іх тузаць ды трэсці будуць, шукаючы недахопы. Яны ж у нас такія...

Свой погляд на ўсё мела Зінаіда Мікалаеўна, наша гаспадыня.

— Ой, Анатоль, паслухай мяне! Ты ж гэтак можаш сэрца заўчасна пасадзіць, — выгаворвала яна, прымаючы з яго рук пустую каструлю, з тою чорнаю гушчаю на дне.

— Нічога, вытрымае, — не пагаджаўся з ёю Толя. — Кава ж не мяшкі з цэментам і жытам, якія я ў калгасе грузчыкам на гарбе цягаў.

— Глядзі, — папярэджвала яна, хітнуўшы галавою і зачыняючы за сабою дзверы з нашага пакоя.

Я не меў звычкі раніцай, пакуль Толя спаў, соваць нос, падглядваць у скрэмзаныя старонкі вучнёўскіх сшыткаў (чамусьці ў такіх сшытках ён любіў пісаць), што разгорнутымі бязладна ляжалі на стале. Я верыў яму, калі ён, здаралася, стомлена-задаволена прызнаваўся, нібы хацеў нечым упікнуць мяне:

— Ты спаў, як сурок, а я за ноч пяць вершаў напісаў. Не верыш? Тады паслухай, каб не сумняваўся, — паспешліва перагарнуў некалькі старонак сшытка, даўжэй затрымаў позірк на адной з іх, потым энергічна пачаў чытаць, падмахваючы ў лад радкам рукою:

Рыфмамі вершы звязваю,
Атрымлівай — што каму,
І запіраю іх, вязняў,
Ў шуфляду, нібы ў турму.

Хто меней сядзіць, хто болей,
Аж покуль не будзе указ:
І не амнісціруе волю
Начальнік няўмольны — Час.

Начальнік,
                    працуй спакойна,
Табе давяраем мы.
Толькі адных дастойных
Ты выпускай з турмы.

Скончыўшы чытаць, утаропіўся позіркам у мяне:

— Ну як табе? Не будуць чапляцца, што трохі жорстка сказана, вязняў ды турму ўплёў? У нас жа такіх слоў не любяць, стараюцца пазбягаць іх, быццам нікога за краты не садзяць, баландой не кормяць.

— А па-мойму, ніякай крамолы тут няма, — выказаў я сваю думку. — Вобразна ж сказана. Толькі паглядзі, каб у чацвёртым радку ў першай страфе пасля «у» кароткага зноў «у» не скарачалася — «ў шуфляду». Вымаўляць цяжка. І не па правілах. Гэта класікі маглі сабе такое дазволіць, той жа Максім Танк, а да цябе з-за гэтага могуць прычапіцца. Скажуць: трэба паправіць. Ці Аўрамчык, ці так хто...

Ён зноў прабег вачамі па радках, тыцнуў пальцам у сшытак:

— Няхай пакуль так застанецца, а там пагляджу...

Перачытваючы нядаўна зборнік «Жаваранак у зеніце», у раздзеле «З неапублікаванага» заўважыў: гэты верш Анатоль пакінуў у такім выглядзе, у якім чытаў мне. Магчыма, вырашыў застацца пры сваёй думцы (гэта было ў яго характары), а магчыма, не спяшаўся...

## «Голасам тужлівага адчаю...»

Наша сумеснае кватараванне працягвалася параўнаўча нядоўга. Мусіць, гады з два. Мабыць, зразумеўшы, што двум катам у адным мяшку ўжывацца не заўсёды ўдаецца (да творчых асоб, асабліва маладых паэтаў, гэта выслоўе стасуецца таксама не менш, чым да каго іншага), Анатоль аднойчы сказаў мне, што хоча падшукаць новую кватэру, лепшую, чым гэта, больш прыстасаваную для нармальнага гарадскога жылля. Няўжо ў Мінску такую знайсці немагчыма? Не ведаю, хто напытаў яму такую кватэру, але ён перабраўся неўзабаве з нашай вуліцы Грамадскай некуды ў раён Грушаўкі. Я ўжо бачыўся з ім рэдка. Пасля вулічнага здарэння, якое падсцерагло праз нейкі час, Анатоль, напэўна, і пашкадаваў, што памяняў суседства з вуліцай Прыгожай, перабраўся на жыхарства сюды, на Грушаўку.

Што з ім адбылося і як, мне Анатоль не расказваў. Ды я і не распытваў яго ні пры якой нагодзе пра тую жорсткую сутычку: а можа, яму не дужа прыемна ўспамінаць аб тым, што пакінула свой балючы след, яшчэ адну пякучую рану? Захавалася згадка Васіля Макарэвіча: як самаму блізкаму сябру, Анатоль, напэўна, расказаў яму пасля ўсяго, што здарылася з ім у той зімовы вечар, за што яго бязлітасна збіла хеўра вулічных хуліганаў. Яно і не дзіўна: Грушаўка здаўна мела славу не самага ціхага раёна сталіцы. Ад мясцовага крыміналу перападала многім. Не пашанцавала і Анатолю. Усё адбывалася па даўно вядомым, звыклым у такім выпадку, сцэнарыі.

«Яны спынілі і папрасілі ў яго прыкурыць. Анатоль сказаў, што запалак у яго няма. І па сваёй наіўнасці пахваліўся, што мае грошы і дасць ім на запалкі, і нават на цыгарэты. Ён выцягнуў з кішэні ладны жмут дзесяцірублёвак, і ў гэты час кулакі і нешта яшчэ цяжкае абрушылася на яго галаву. Апрытомнеў толькі ў бальніцы. У яго была туга забінтавана галава. Хвіліна за хвілінай, дзень за днём упарта выкараскваўся ён з кіпцюроў смерці. Нарэшце ён вярнуўся, як гаворыцца, у строй. Знешне выглядаў як быццам звычайна, унутрана — хто б падумаў? — быў надломлены. Паэт прызнаваўся: “Здаецца, столькі шчырасці і ласкі, // Здаецца, толькі з мамай гаварыў, // А ўжо, як інвалідная каляска, // Качуся па нахіленай з гары...”»

Мала хто ведаў, што гэта здарэнне, а дакладней — злачынны напад быццам знарок «сыпанулі соллю» на яго толькі збольшага загоеную былую рану, нібы сарвалі з галавы прыкарэлыя да валасоў бінты, накладзеныя дактарамі і медсёстрамі ў не такім ужо далёкім юнацтве, калі жыў у вёсцы.

Здарылася гэта на раённай велагонцы. Анатоль выступаў за свой калгас. На трасе ён апантана круціў педалі, гнаў веласіпед наперад. Адчуваў, што зможа адным з першых прыйсці да фінішу, нават стаць пераможцам гонкі. Яшчэ адзін паварот, яшчэ крышку паднаціснуць, а там... Аднак у апошні момант здарылася непрадбачанае. Робячы круты віраж, Анатоль не змог саўладаць з веласіпедам. Пярэдняе кола слізганула з каменя, на які наехаў, і ён з усяго разгону грымнуўся на брук. На імгненне, здавалася, страціў прытомнасць. Але тут жа ачомаўся, ускочыў на ногі, закінуў на плячо разбіты веласіпед і — колькі яшчэ там заставалася? — кінуўся да фінішу. Дабег і ўпаў на рукі судзейскай брыгады.

Яго адразу ж адвезлі ў бальніцу. Праз нейкі час ён падлячыўся, але з-за гэтага здарэння вымушаны быў на год адкласці сваё паступленне ў Белдзяржуніверсітэт.

Ці не адтуль яшчэ «ўсплылі» пазней ягоныя радкі: «Галоўны ўрач убок адводзіў вочы, // А рана, нібы полымя, пякла, // Калі павязку беспрытомнай ноччу // Я рваў з сябе, а кроў плыла, плыла...»?

Магу пагадзіцца з тым, што кінулася ў вочы ягонаму дружбаку Васілю Макарэвічу пасля грушаўскага здарэння. Я таксама заўважыў (ды ці толькі я?): штосьці адбылося з ім. Неяк паменела ў ім ранейшай весялосці і гарэзлівасці, болей задуменна-засмучаным стаў здавацца пагляд яго востра-праніклівых вачэй. Ён на той момант выглядаў быццам той падбіты стралой паляўнічага птах. Праўда, будзе заставацца, як і раней, энергічным, рухавым, няўрымсна-задзірыстым, але ўжо нейкім прыкметна сцішэлым, разважна-сур'ёзным, з прыхаванай некуды глыбей смяшлівасцю. Такім здаваўся з выгляду, знешне. А што рабілася там, унутры, у глыбіні душы і сэрца? Адказаць на гэта маглі хіба толькі вершы. І Анатоль не скупіўся на радкі, якія давалі яму другое дыханне і якіх чакалі ад яго патрабавальныя на той час і чытачы, і тыя ж... крытыкі. Людзі, каго кранал і яго шчырыя і пранікнёныя радкі:

Голасам тужлівага адчаю
Пра свае нялёгкія правы
Сёння з самай раніцы крычалі
У сівым тумане журавы.

Крылы, як старонкі, шалясцелі.
О, каб прачытаць мы іх маглі,
То, напэўна б, расказалі цені,
Як іх цягне да сваёй зямлі.

Я паеду.
Клясціся не стану.
Я магу шапнуць табе: «Люблю!»
А затым пайду
і зноў растану
Там, дзе неба сходзіць на зямлю.

Выйшаўшы з бальніцы, вяртацца на Грушаўку, хадзіць па яе вуліцах, дзе ў любы момант зноў магла падсцерагчы бяда, у Анатоля не было ўжо ранейшай ахвоты і жадання. Знайсці новую кватэру? Але дзе, у каго? Зноў пачаў распытваць сяброў і знаёмых, каб, прачуўшы пра якую, памяталі пра ягоны клопат. Гэта ж не ў цяперашні час, калі можна ў інтэрнэт свой запыт кінуць, і табе выдадуць дзясяткі варыянтаў, не адну паслужную прапанову: выбірай, якая больш прыдатная ды коштам не «куслівая»! А на той момант... Памятаю, знайшоўся яму ложак у нейкай камуналцы барачнага тыпу непадалёк ад Дома друку, ды ненадоўга, мусіў сысці. Бывала, заставаўся ў рэдакцыі начаваць.

Невядома, чым закончыліся б пошукі прыдатнага жылля, яго тулянне па часовых кутках, калі б не прыйшла на выручку рэдакцыя. А дакладней сказаць — сам Кастусь Кірэенка. Як я ўжо казаў, Кастусь Ціханавіч вельмі прыхільна ставіўся да свайго таленавітага супрацоўніка, быў цярплівым да яго не такіх ужо і рэдкіх правін, што часам азмрочвалі дружалюбнасць іх адносін. Праўда, не надоўга. Шэф як хутка «загараўся», так і хутка астываў. Удзячны Анатоль нават прысвяціў яму верш «На ўсходзе неба ўспыхнула экранам...» — пра садоўніка-рупліўца, які ведае, як трэба ашчадным ды пільным быць, «Каб з голых яблынь росчыркам рукі // Сукі непладаносныя — абрэзаць, // Пакінуць — пладаносныя сукі». Каго не падкупяць ды не крануць такія радкі?!

І на гэты раз галоўны рэдактар надзвычай спачувальна паставіўся да Анатоля, зрабіў усе магчымыя захады, каб вырашыць яго клопат з жыллём на ўзроўні Саюза пісьменнікаў. Правёўшы адпаведныя перамовы з кіраўніцтвам, рэдакцыя звярнулася ў Літфонд, каб той выдзеліў яму хоць якое ўласнае жыллё, дзе б ён, малады здольны паэт, мог спакойна жыць і плённа працаваць. Тым болей, для таго былі ўсе падставы: Анатоль Сербантовіч ужо знаходзіўся ў адным кроку ад прыёму ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

І яго прынялі неўзабаве. Без асаблівага вагання і прыдзірак з боку членаў прэзідыума. Адразу ж пасля выхаду першага паэтычнага зборніка «Азбука». Тады яшчэ не было тайнага галасавання, прыём у СП праводзіўся ў адкрытую, таму той, хто «стукаўся ў пісьменнікі», мог тут жа заўважыць, хто ягоны прыхільнік, а хто «вастрыў зуб» на яго, прагаласаваўшы «супроць» ці ўстрымаўшыся. Але ж апошніх чамусьці не так і шмат знаходзілася. Каму хацелася — нават прыдзірліваму ў нечым хрэстаматыйнаму старажылу СП — нажываць лішняга ворага, або, што таксама ўлічвалася, было немалаважным, пазбаўляцца запрашэння на пасляпрыёмны пачастунак у рэстаране? Іншая справа — тайнае галасаванне, якое пачало дзейнічаць у хуткім часе: можна «ў вочы — саколю, а за вочы — соллю!» Аднак жа гэта, нягледзячы на ўсе закавыкі, «грахі» і «грашкі», што вяліся за ім, Анатолю не пагражала. Ён не баяўся такога павароту ў час прыёму. Каго ж тады прымаць у саюз, за што? Можа, трохі катэгарычна, саманадзейна думалася такое таму-сяму з нас, хто яшчэ чакаў гэткага свята на сваёй вуліцы, але не беспадстаўна.

Аднак вернемся трохі назад, да жыллёвай праблемы, якая ў тыя дні, калі апынуцца на яго месцы, верагодна хвалявала Анатоля найбольш, была не меншай радасцю, чым прыём у саюз, які чакаўся наперадзе...

## «Сеў у лужу паняволі...»

Пасля бадзяння па чужых кутках, Анатолю, можна сказаць, пашанцавала: кватэра знайшлася непадалёк ад рэдакцыі. Ён атрымаў пакой у старым цагляным доме, які туліўся адразу ж за трамвайнымі пуцямі, калі сысці ўніз па Чырвонаармейскай вуліцы, бліжэй да ўзбярэжжа Свіслачы, здаецца, па вуліцы Лодачнай. Цяпер яго ўжо там няма, пайшоў пад знос. А тады... Што за «апартаменты» перапалі Анатолю, я ўбачыў зусім неспадзявана. Як ні дзіўна, пачалося ўсё з Паркавай магістралі, дзе я тады заначаваў у інтэрнаце ў Федзі Чэрні. Зноў жа трэба патлумачыць, як Чэрня апынуўся там. Усё проста, звычайна: пасля таго, як я перабраўся на кватэру, неўзабаве давялося «спраўляць наваселле» і студэнтам філфака. Іх, а таксама частку юрфакаўцаў, у нейкія дні вырашана было перасяліць з вуліцы Свярдлова на Паркавую.

Што прывяло туды тою раніцай Анатоля, ужо не магу дакладна сказаць. Можа, праведваў малодшую сястру Тамару, якая вучылася на філфаку? Але сустрэўся ён мне там, побліз інтэрната.

— Хачу купіць канапу, — выказаў свой клопат Анатоль. — Не паможаш пашукаць?

— А грошы ёсць? — неяк само сабой вырвалася ў мяне.

— Пакуль ёсць. Яшчэ ж ганарар за «Азбуку» не паспеў распусціць. Дык трэба ж купіць...

На бліжэйшай адсюль Юбілейнай плошчы, дзе, як ведалі мы, знаходзіўся магазін па продажы мэблі, пасля доўгага таптання па ім, нічога, што ўпадабалася б нам і цаною, і колерам, у вочы не кінулася. Затое там жа, на рыначку, у адной бабулі разжыліся важкім пучком зялёнай сакаўной цыбулі. (Бачыце,

быццам знарок зрыфмавалася!) Быў пачатак лета, і зялёнае пер’е не паспела прыесціся, было ў навінку.

— Закуска ўжо ёсць, — ні то жартам, ні то ўсёр’ёз выказаўся Анатоль, сунуўшы мне ў рукі загорнуты ў газету пук цыбулі. — Да сала, што ад маці прывёз, лепш не прыдумаеш. Трэба ж будзе канапу замачыць, як купім.

У мэблевым па вуліцы Карла Лібкнехта таксама не ўдалося задаволіцца выбарам тавару: то дарагавата, то глядзець няма на што. Мы ўжо трохі нават расчараваліся, спыніліся на раздарожжы.

— Ат, паедзем да мяне, — рашуча прапанаваў Анатоль. — Бачыш, з цыбулі ўжо сок паказаўся, юшку пусціла. Не прападаць жа ёй. Але ж і, нахадзіўшыся столькі, не хацелася б паражнячком вяртацца. Няўжо, маючы грошы, нельга прыдбаць тое, што табе трэба? Дый дзяруць за ўсё, як той цыган за бацьку. Думаюць, у людзей грошы самі пад ногі сыплюцца, поўныя кішэні імі напханы...

— Слухай, давай яшчэ зазірнём у мэблевы па Кірава, — прапанаваў я Анатолю. — Ты ж ведаеш яго, на пагорку стаіць. Дашчаты такі.

— Ды ведаю, — неахвотна згадзіўся Толя. — Думаеш, там што знойдзецца, выбар вялікі ёсць? Але давай заскочым, па дарозе ж якраз. Калі што — і дастаўляць блізка, за перавозку многа не возьмуць.

Тая дашчаная будыніна ў сутоцы вуліц Леніна і Кірава даўно ўжо «сышла» з пагорка, уступіла месца новым забудовам, больш прывабным і сучасным. А ў той дзень нам пашанцавала менавіта тут прыдбаць канапу для Толевага «катуха» ў ягонай камуналцы. Каб прывезці яе на грузавым аўто, трэба было пачакаць, калі яно вызваліцца. Тады самі прывязуць на патрэбны адрас за папярэднюю аплату. Была яшчэ паслуга — давезці на тачцы, сваім ходам. Тым болей, грузчык сам падахвоціўся, калі даведаўся адрас дастаўкі:

— Тут жа блізенька, давязу вам, хлопцы, як бач... А калі яшчэ падможаце трохі, то...

Акрыленыя такой нечаканай, здавалася б, удачай і нейкай хлапечай гарэзнасцю і апантанасцю, я і Толя, упрэгшыся ў тую тачку, з грукатам кацілі яе дзе па асфальце, дзе па бруку на звон трамвая ўніз, адкуль, павярнуўшы налева, праз нейкага там паўкіламетра «прышвартавацца» да патрэбнага нам дома. Што ж да гаспадара тачкі, ён асабліва не ўпіраўся, давяраючы нам свой сродак перавозкі. Ён тэпаў услед за намі, уголас падаграючы нашу апантанасць знарочыстай пахвалой за ўменне кіраваць такім нязвычным транспартам, дзе-нідзе папярэджваючы: «Асцярожней, асцярожней, а то канапка набок з’едзе».

Без яго ж, аплачанай Толем падмогі, пад позіркі цікаўных суседзяў уцягнулі канапу ў пакой, дзе апрача стала і нізкага старога ложка я тады нічога спачатку не прыкмеціў...

Як і запэўніваў Анатоль, да нашай добра падвялай цыбулі ён дастаў на стол брусок сала. Праўда, спачатку выцягнуў з-пад ложка звычайны чамаданчык. Пакуль ён не адкрыў вечка, я нават не здагадваўся, што ў ім магло быць. А чамаданчык быў да краёў напакаваны брусамі сала. Духмянага, пасыпанага нейкімі вясковымі прыправамі. Да ўсяго гэтага Анатоль, адскочыўшы ў бліжэйшую краму, прынёс бутэльку «Пярцоўкі».

Я тады яшчэ знаходзіўся ў адпачынку, які браў з нагоды напісання і абароны дыпломнай работы ва ўніверсітэце, нікуды асабліва не спяшаўся, таму мае госці ў Анатоля адным днём не скончыліся. Я стаў першым, каму давялося абжываць тую канапу, затрымаўшыся ў гасціннага гаспадара кватэры, падмацоўваючыся салам і пер’ямі цыбулі, якую з Анатолем тайком, з прыцемкамі здабывалі на градах, якія былі акуратна высаджаны і дагледжаны тут жа ў

двары і «апекаваліся» жыхарамі дома. Не ведаю, ці праўда, але Толя сказаў, што ў яго быў дазвол ад не дужа сварлівых суседак на такія «экскурсіі» ў іх агарод.

Сам Анатоль у той раз на ўмерана-мацаваную «Пярцоўку» надта не налягаў, устрымліваўся ад лішняга.

Надвячоркам трэцяга ці чацвёртага ўжо дня Анатоль сказаў мне:

— Я дамовіўся спаткацца з Анфісай. Хочаш, пойдзем разам са мною. Пазнаёмлю. Тут блізка, каля стадыёна.

— Хто такая Анфіса? Ці варта знаёміцца з ёю? — устаючы з канапы, пацікавіўся я.

— Працуе медсястрой у трэцяй бальніцы. А пасля ў гастраном забяжым, — весела ўвіхаўся Анатоль.

— Не, я ўжо дадому паеду, — я адразу ж выказаў сваю нязгоду з яго прапановай наконт гастранома.

Аднак дадому мне давялося не ехаць, а ісці пехатою. Анатоль усё ж угаварыў мяне разам схадзіць на спатканне з тою незнаёмкай Анфісай. Перачакаўшы, пакуль пройдзе навальніца, мы пашыбавалі да стадыёна, дзе-нідзе абмінаючы лужыны, што трапляліся нам па дарозе. Ужо каля самага стадыёна я, не жадаючы абыходзіць чарговую лужыну, надумаў пераскочыць яе сходу. Ці то надта паспадзяваўся на свой спрыт, ці то лужына аказалася не такой вузкай, як мне падалося на ходу, мяне падсцярог тут самы сапраўдны канфуз. Зухавата скокнуўшы цераз лужыну, я адчуў, што мая нага, апусціўшыся на размоклы пясчана-глеісты ўзбярэжак лужыны, раптам паехала, быццам лыжына па снезе, і я шлёпнуўся ў брудную ваду. Заходзячыся ад рогату, Анатоль дапамог мне выбрацца з той лужыны. Выгляд у мяне быў такі, што ў некага, мабыць, ён выклікаў бы хутчэй не смех, а спачуванне, аднак і на Толевы кепікі крыўдзіцца не было чаго: сам жа вінаваты. Хто мяне падбіваў скокнуць цераз гэту гнілую лужыну?!

Потым яны смяяліся абодва — Анатоль і Анфіса. Нізкага росту, усмешлівая з твару, ужо трохі паўнаватая, яна мне ў той момант падалася не дужа сімпатычнай і прывабнай. Падумалася: і чым ужо гэта Анфіса прыглянулася Анатолю? А можа, яна падалася мне такою ў тую хвіліну з-за майго ўпадніцкага, не надта вясёлага настрою, астуджанага непрадбачным «купаннем» у лужыне? Якім я сам здаўся ёй у тую хвіліну?..

Развітаўшыся, Анатоль з Анфісаю, якія неўзабаве, весела перамаўляючыся, зніклі з вачэй, прачакаўшы ў кустах каля стадыёна з добрую гадзіну, пакуль сцячэ макрэча і мае штаны з кашуляю трохі абсохнуць, я рушыў пешшу праз вакзал на сваю Грамадскую. Гардэроб мой тады быў не дужа багаты, асаблівага выбару не было, таму дома з добрай ласкі гаспадыні давялося пакарыстацца тазікам і пральным парашком, каб спачатку вымыць штаны і кашулю, а потым адпрасаваць, «навесці стрэлкі» — зрабіць тое, да чаго б, магчыма, не так хутка дайшлі рукі. Як бачым, і ў кожным негатыўным выпадку бывае кропля станоўчага.

Анатоль жа, калі я ўжо выйшаў на працу, аднаго дня пазваніў мне і ні то жартам, ні то іранічна-кепліва пацікавіўся:

— Адышоў ад купання? Паслухай, як табе такая прыпеўка:

На спатканне мчаўся Коля
З медсястрой Анфісаю.
Сеў у лужу паняволі,
Добра, што не пысаю.

І разрагатаўся.

— Дык гэта ж не я на тое спатканне з Анфісаю бег, а ты. Я ж яе дагэтуль ні разу ў вочы не бачыў, — выслухаўшы Анатоля, голасам пакрыўджанага, але разумеючы, што на жарт крыўдаваць няма чаго, запярэчыў я. — Дый тут можна лёгка замяніць Колю на Толю. Якая розніца?

— Як, якая розніца? — не сунімаўся пацяшацца Анатоль. — Не я ж у лужыну плюхнуўся, аж пырскі паляцелі над стадыёнам, а ты. Значыць, ты больш спяшаўся спаткацца з Анфісай. — І зноў гучна рассмяяўся ў трубку.

— Хоць і грубавата ў цябе, Толя, склалася, навыдумляў лішняга, але нічога, прымаю, — бадзёра пагадзіўся я. — Толькі паўтары яшчэ раз, каб я запомніў. А лепей — давай запішу...

Болей такіх прыгод, такіх «экстрэмальных» стасункаў з Анатолем у мяне ўжо не было ў пазнейшыя часы. Як падумаеш, дык і шкада...

## «Ты думаеш, што надта рады я...»

У рэдакцыю часопіса «Бярозка» Анатоля Сербантовіча ўзялі на працу, калі ён быў яшчэ студэнтам трэцяга курса. Застаўся там, прайшоўшы журналісцкую практыку ў ім. Яму пашанцавала, бо якраз вызвалілася месца ў літаратурным аддзеле, які дагэтуль вёў Рыгор Барадулін. Але ён сышоў, і ў рэдакцыі доўга не раздумвалі — прызначылі на пасаду літсупрацоўніка гэтага аддзела ўчарашняга практыканта Анатоля Сербантовіча. Малады, таленавіты, патрабавальна ставіцца да працы над рукапісамі аўтараў, што прыходзяць у рэдакцыю і адбіраюцца для друку ў часопісе, добра адчувае слова — хіба не здужае, прыняўшы аддзел? І, вядома ж, нямала спрыяла такому павароту ў творчым лёсе Анатоля несумненная прыхільнасць галоўнага рэдактара часопіса Кастуся Кірэенкі. Яму падабалася тое, што выходзіла з-пад пяра маладога паэта, яго задзірастасць, смеласць думкі, свежасць пошуку, і, мусіць, яшчэ ў нейкай ступені тое, што былі землякамі, абодва ж родам з Магілёўшчыны.

Ведаючы Толеў характар, яму часам дараваліся тыя «грахі», за якія маглі б каму-небудзь іншаму не адну вымову «закатаць» ці нават звольніць без размоў, а для яго часцей усё абыходзілася якраз жа размовамі ды ўшчуваннямі, абяцаннямі «штрафніка» выправіцца, трымацца працоўнай дысцыпліны. Ладзіць з гэтай дысцыплінай, выседжваць адведзеныя гадзіны за рэдакцыйным сталом, выслухваць павучанні і адбівацца ад асабліва настырных «творцаў», якім не баяўся сказаць у вочы, што ён графаман, чым далей, тым болей станавілася для яго пакутай. Яго душа рвалася на волю, яму хацелася часцей быць сярод людзей, бачыць, як яны жывуць. Толькі там, здавалася яму, можна знайсці патрэбныя для творчасці, новыя, а галоўнае — праўдзівыя тэмы і вобразы, блізкія да жыцця, да людзей. Яму не хацелася займацца гладкапісам, быць верхаглядам, «цягнуць за вушы» ў свае вершы толькі тое, што ўхвалялася тагачасным ладам і нярэдка — крытыкай.

І часта не абыходзілася без прыгод, без галаўнога болю для рэдакцыі. І ўсё таму, што Анатоль мог, не папярэдзіўшы нікога, раптам знікнуць. Узнімаўся перапалох, пачыналіся званкі сябрам і знаёмым: які ўжо дзень не паказваецца ў рэдакцыі! Куды ён знік? Што з ім здарылася? Разгневаны Кастусь Ціханавіч у каторы раз гразіўся звольніць, як толькі з’явіцца. Аднойчы з’ехаў, як выявілася пазней, у адну з раённых газет Магілёўшчыны, дзе на нейкі час уладкаваўся працаваць простым літработнікам.

Памятаю, нямала кепікаў хадзіла сярод пісьменнікаў, як стала вядома, што Толя Сербантовіч выкінуў чарговага «коніка» — пайшоў працаваць вахцёрам... на лікёра-гарэлачны завод «Крышталь». Пасміхваліся: «Пусцілі казла ў

капусту». Можа, і ў капусту. Але вось што я прачытаў пра гэты выпадак у эсэ Васіля Макарэвіча. Думаю, і вам ён будзе цікавы.

«Неяк Анатоль зайшоў да мяне і спытаў, як я пастаўлюся, калі ён пойдзе працаваць вахцёрам на адзін з мінскіх заводаў? Я паглядзеў яму ў вочы: ці не жартуе? Можа быць, гэта сяброўскі розыгрыш? За ім такое вялося. Не, на гэты раз ён казаў усур'ёз. А як будзе з працай у рэдакцыі? Возьме на некаторы час адпачынак за свой кошт... Дзесьці праз паўмесяца я заехаў да яго на працу. Ён сядзеў на прахадной Мінскага лікёра-гарэлачнага завода, сачыў, хто выходзіць і заходзіць. Пагаварылі, пажартавалі. Спытаў яго: ужывае ці не? Ён адказаў — ні кроплі! Калі ёсць жаданне, то — калі ласка! Ён адчыніў шафку — у ёй з паўдзясятка бутэлек, з этыкеткай «Урадавая», што забраў у «несуноў». З размовы я зразумеў: доўга ён тут не пратрымаецца. Не яго тут месца! Нават мне хацелася хутчэй пакінуць гэта злашчаснае памяшканне. У памяці засталіся радкі: “Ты думаеш, што надта рады я, // А ты пра гэта ці спытаў? // Я гэтай горкае «Урадавай» // Не спытаў і не паспытаў...”».

Анатоль вярнуўся на ранейшае месца, у рэдакцыю часопіса. Не ведаю, што там яшчэ адбылося, але ў кастрычніку 1966 года мне на радыё, дзе я тады працаваў у замежнай рэдакцыі, аднаго дня патэлефанавала з рэдакцыі «Бярозкі» Алена Міхайлаўна Мімрык, на той час стылістычны рэдактар, а потым — адказны сакратар часопіса: «Калі можаш, зайдзі заўтра да нас. З табой хоча пагаварыць Кастусь Ціханавіч». Я ўжо ведаў: Анатоль звольніўся «па ўласным жаданні» і, мабыць, у рэдакцыі ёсць намер пасватаць мяне на яго месца.

Я не памыліўся. Праз тыдзень, хоць было трохі ніякавата перад Анатолем, што, даўшы згоду перайсці ў «Бярозку», быццам падседзеў яго, я заняў месца за тым сталом, дзе спярша сядзеў Рыгор Барадулін, а ў апошнія гады — ён, пачаў перагляд пухлых папак з творамі пісьменнікаў і вучняў-пачаткоўцаў, якія перайшлі мне «ў спадчыну» ад іх...

Гэта «адстаўка», статус «вольнага мастака», па-мойму, не вельмі засмуцілі Анатоля. Яны і ўпраўду ў нейкай ступені, як кажуць, развязалі яму рукі, далі магчымасць пачуцца больш вольным і незалежным ад ранейшых абставін, карпення над чужымі рукапісамі. Ён мог працаваць над вершамі, не думаючы лішне, што дзесьці яго чакаюць рэдакцыйныя клопаты, вышук апавяданняў і вершаў на піянерскую тэму, здача ў нумар патрэбнай колькасці твораў, камандзіроўкі — часцей з мэтай падпіскі на часопіс. Цяпер у яго надарылася магчымасць па жаданні выбірацца ў творчыя камандзіроўкі, і не ў блізкія там Наваполацк ці Салігорск, Новалукомль ці Светлагорск, да меліяратараў Палесся, дзе шукалі герояў для сваіх раманаў, аповесцей, паэм і вершаў многія беларускія празаікі і паэты, а, лічы, за край свету — у Сібір, на Далёкі Усход... Праўда, такія камандзіроўкі выдаваліся з дазволу ваенкаматаў, і іх уладальнікі на два-тры месяцы станавіліся «ваеннаабавязанымі», прызыўнікамі-стажорамі. Анатолю ж пажадалася «вытаргаваць» вандроўку бліжэй да белых мядзведзяў, трапіць на Поўнач. Ды пра гэта трошкі пазней, бо нельга, як мне падаецца, каб не ўспомніць «першапраходцаў», з каго і з чаго пачыналіся гэтыя творчыя «ваяжы», «хаджэнні за трыдзевяць зямель» маладых беларускіх шукальнікаў сюжэтаў і прыгод.

## «Сядзелі мы ўтрох...»

Пачалося ўсё, здавалася б, з выпадковага, з фантазіі сяброўскай «тройцы» — Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Караткевіча і Генадзя Кляўко (тое-сёе пра гэта я пісаў ужо). «Завязку» гэтага сюжэта я мог бы перадаць сваімі словамі, такою, як давялося пачуць яе аднаго разу ад лёгкага на язык і скептычна-

вострага на слова Рыгора Барадуліна. Але, думаю, лепш, чым ён сам расказаў потым у кнізе эсэ і ўспамінаў «Аратай, які пасвіць аблокі», я расказаць не змагу. Магчыма, пра гэта і не варта асабліва «распісвацца» ды смакаваць, аднак жа, мне здаецца, сённяшнім чытачам цікава будзе ўсё ж даведацца, з чаго могуць завязвацца добрыя справы і нават брацца займальныя сюжэты для твораў. Тым болей, Рыгор Іванавіч не хаваецца за даўнасць часу, а прызнаецца як на духу: «Сядзелі мы ўтрох у мяне на кватэры па вуліцы Бялінскага. Калі бутэлькі на стале можна было падстаўляць ветру, каб свістаў, сумна пачалі разважаць, што хочацца паездзіць, свету пабачыць. Мне цюкнула ў галаву пазваніць генералу Аляксееву, які ўзначальваў ваенна-шэфскую камісію пры Саюзе пісьменнікаў. Генерал любіў літаратуру, сам пісаў прозу. Дужа стараўся выбіць як мага болей значкоў за культурнае шэфства над арміяй. Было ў гэтых значкоў, здаецца, тры ступені...

І пазваніў я генералу Аляксееву, каб паслаў ён нас на стажыроўку ў якую-небудзь вайсковую газету. Нас — гэта Уладзіміра Караткевіча, Генадзя Кляўко і мяне. У добрым настроі мы прасіліся паслаць як мага далей. Генерал адказаў, што далей Уладзівастока паслаць не можа. Тэлефонная просьба да генерала была глыбокай восенню, амаль зазімкам 1964 года. Дні ішлі. Пра размову мы забыліся. Настала вясна. Уладзімір сабраўся ехаць да любімага дзядзькі ў Рагачоў, дзе, у асноўным, і пісаліся “Каласы пад сярпом тваім”. Я навастрыўся да мамы ў Вушачу. І тут прыходзяць позвы ў ваенкамат усім тром. Задобрыўшы добрай чаркай, паслалі на праведзіны ў ваенкамат Кляўко. Хай усё разведае... Там і аб’явілі яму, што камандзіруецца на Далёкі Усход, у горад Уладзівасток для стажыроўкі ў акруговай газеце. Тут жа дадалі, каб перадаў гэта Караткевічу і Барадуліну...

І былі мы ў жніўні 1965 года ва Уладзівастоку. Мы з Кляўко па-журналісцку стараліся нешта злавіць у запісныя кніжкі, вывучалі жыццё, а Караткевіч падчас нашых паездак па Прымор’і толькі не выпускаў з рота цыгарэту, абавязкова чытаў нейкую кніжку і як бы драмаў. А пасля мы ахнулі, што ён убачыў і як, галоўнае, убачыў. На нейкі тыдзень з кайстраю за плячыма некуды знік. Вярнуўся, казаў пра Кедровую падзь, пра запаведнік. Нам прывёз у падарунак кедровых шышак…»

Стажыруючыся ў газеце «Боевая вахта», сябры не толькі маглі «пакрасавацца» ў форме марскіх афіцэраў, а здолелі адкрыць для сябе шмат новага, непаўторнага — таго, што ніколі б не ўбачылі дома.

След ад той вандроўкі не згубіўся ў часе і ў творчасці саміх творцаў. Хто не чытаў і не захапляўся «Чазеніяй» Уладзіміра Караткевіча, цудоўнай, багатай на нечаканыя вобразы і знаходкі, лірыкай Рыгора Барадуліна, «вылаўленай» і прывезенай з берагоў Ціхага акіяна? Памятаю, у нас, тагачасных, не сыходзілі з вуснаў радкі з верша пра ўладзівастоцкіх нявест, дзяўчат (часцей не такіх ужо прыстойных на той час паводзін!), якія сустракаюць на прычалах порта матросаў рыбалоўных суднаў з далёкага плавання і з багатым грашовым «уловам»: «Не з карабля, дык топай міма, // Хоць паравозам галасі. // Глядзяць зялёнымі вачыма, // Як не занятыя таксі». На той час гэта было сказана не проста надзвычай вобразна, паэтычна, але і да дзіўнага смела, што схіляла да роздуму: як такое маглі надрукаваць? Тым і зачапілася, мабыць, за сховы памяці…

Пераканаўшыся ў карысці часовага вайсковага прызыву, убачыўшы плён ад камандзіровак сваіх папярэднікаў, услед за імі там адбылі флоцкую «вахту» неўзабаве Уладзімір Паўлаў, Хведар Чэрня… Як вынік — цыклы новых вершаў, сапраўды цікавых твораў, што годна папоўнілі іх творчую скарбонку, нашу паэзію.

## «А ёсць, а ёсць туга па Поўначы…»

Што ж да Анатоля Сербантовіча, ён таксама спадзяваўся на прыстойны творчы «ўлоў». І ён быў. Анатоль умеў удала і з усёй прафесійнай спрактыкаванасцю закідваць «паэтычны трал» (пачынаючы з легендарнага Урала: «На беразе Урала распранаюся. // Хвіліна — і я з кручы палячу. // Ды я стаю. // Я ў хвалі углядаюся, // Нібы праз хвалі я глядзець хачу…») усюды, дзе б ні хадзіў і ездзіў, дзе б ні прычальваліся яго муза і натхненне. А пабываў ён з восені 1966 года, калі пакінуў «Бярозку», у многіх кутках былога Савецкага Саюза: у Казахстане, Сярэдняй Азіі, Запаляр'і, на Далёкім Усходзе.

Што было з ім у далёкіх ад Беларусі краях, як яму служылася падчас стажыровак, я ад яго не чуў. Але па адным ужо выпадку магу меркаваць, што і ў такіх умовах, падпарадкаваных жорсткай дысцыпліне, субардынацыі і статуту армейскага жыцця, Анатоль заставаўся «арыгіналам», чалавекам, здольным да любога дзівацтва, якое, здавалася б, не магло прыйсці ў галаву ніводнаму, нават самаму адважнаму навабранцу, тым болей, у марфлоце, дзе спакон веку існуе жалезная дысцыпліна, свая субардынацыя, ад радавога матроса да адмірала. Каму ахвота за парушэнне іх «сядзець на губе» ці суткамі драіць палубу карабля? Гэта, што тычыцца звычайнага карабельнага «салагі», а калі ў яго ролі выпала быць Анатолю Сербантовічу?..

Не выходзіць з памяці такі кур'ёзны выпадак. Заўсёды сам сабе ўсміхаюся, калі ён раптам усплывае ў ёй. А згадку пра яго з далёкага паўночнага порта Североморска прывёз і расказаў, зайшоўшы да нас у рэдакцыю, пісьменнік Васіль Хомчанка. Сам Васіль Фёдаравіч, вайсковы юрыст, у маёрскім званні, быў пераведзены туды ў апошнія гады сваёй армейскай кар'еры па службе. Мабыць, з разлікам на вышэйшую пенсію перад выхадам у запас. Праз нейкі час, прыехаўшы на пабыўку ў Мінск, ён зайшоў у «Бярозку» ў форме марскога афіцэра і ўжо з дзвюма зорачкамі на пагонах — капітанам другога рангу. Зайшоў не проста так, а прынёс новае апавяданне «Белы Патап», якое прасіў надрукаваць да яго юбілею — спаўнялася пяцьдзясят гадоў. Расказваючы, як яму жывецца і служыцца на новым месцы, удалечыні ад Беларусі, ён раптам, каб, напэўна, падвесяліць нас, якраз і прыгадаў выпадак, пра які пачуў ад калег у Североморску. І тычыўся ён (каго б вы думалі?) — Анатоля Сербантовіча, калі той знаходзіўся там у чарговай творчай камандзіроўцы, стажыраваўся на караблі.

Хто служыў, усім вядома, што адбываецца ў вайсковай часці або на ваенным караблі, калі чакаецца прыезд вышэйшага начальства. Усе ніжэйшыя чыны не ведаюць ні дня, ні ночы, усюды наводзяцца ўзорны парадак, чысціня, правяраецца гатоўнасць асабовага складу па ўсіх законах вайсковай службы. А на флоце, мабыць, з яшчэ большай прыдзірлівасцю: у марской службы нямала сваіх, толькі ёй адпаведных, асаблівасцей і абавязкаў.

Як з усмешкаю і іроніяй апавядаў Васіль Хомчанка, у той дзень на карабель, дзе ў робе радавога матроса стажыраваўся Анатоль Сербантовіч, завітаў не проста адмірал, а сам камандуючы эскадры. Само сабой зразумела, каб прывітаць высокае начальства на палубе пастроілася ўся каманда. Пачаўся абход, лічы, парадная цырымонія. Ідзе адмірал уздоўж шарэнгі матросаў, углядаецца ў іх наструненыя постаці і нерухомыя твары, кідае слова-другое афіцэрам, якія суправаджаюць яго, і раптам з маўклівай шарэнгі насустрач яму выходзіць… нейкае хлапчанё, прыбранае ў матроскую апратку, што трымалася на ім нязграбна, нават з нейкім выклікам. Камандзір карабля ад жаху скалануўся: няўжо з нейкай скаргай ці просьбай? А хлапчынё ў карабельным уборы, як бы нічога асаблівага не здарылася, у дадатак да ўсяго працягнуў адміралу руку і адрэкамендаваўся:

— Стажор Сербантовіч! — потым дадаў: — Паэт.

Камандуючы эскадры, які ішоў, прыклаўшы руку да казырка сваёй адміральскай фуражкі, ад нечаканасці спыніўся і, пастаяўшы ў разгубленасці нейкае імгненне, працягнуў нахабнаму (як іначай скажаш!) стажору руку. Парукаўшыся, стажор моўчкі вярнуўся ў строй. А адмірал зноў ускінуўшы руку да казырка, рушыў далей. Над палубай, над шарэнгамі матросаў і афіцэраў, якія парадна выстраіліся на ёй, павісла напружаная цішыня. Чым усё скончыцца?

— Адкуль на вашым караблі гэты паэт? — спытаў адмірал пасля параднай цырымоніі.

— З Беларусі, таварыш адмірал. Стажыруецца ў нас, — апраўдваўся камандзір карабля. — Камандзіроўка ў яго такая. Творчая. Вывучае флоцкае жыццё, як ён сказаў, як у ягоным прадпісанні значыцца.

— Тэрмінова адправіць на бераг, — загадаў адмірал. — Няма чаго яму рабіць на ваенным аб'екце. Няхай з рыбакамі ў мора ходзіць, там рамантыку шукае. Больш карысці будзе…

Не ведаю, ці расказваў Анатоль пра гэта свавольства (а іначай, зноў жа, напэўна, і не назавеш), і ці надоўга затрымаўся ў той «марской камандзіроўцы», але вярнуўся ён з Поўначы, як і вяртаўся адусюль, з цыклам новых вершаў: «Мора», «Мыс жадання», «Марскія кулікі», «Акіянна», «Белая кніга», «Халоднае і цёплае цячэнне», «Падлодка не ўсплыла…» Як бачым, «улоў» салідны, важкі.

Канешне, ніхто — ні суровы адмірал, ні карабельная каманда, хто быў сведкаю той безразважнай выхадкі маладога паэта ў матроскай робе, іх не чытаў, але, напэўна, надоўга запомнілі гэты не зусім статутны кур'ёз. А калі і ўспаміналі яго, то няйначай, як з цёплай усмешкай. Падумаўшы, і гэта ў жыцці — не лішняе, як і добрыя вершы. Дый сам Анатоль, калі меркаваць па ягоных радках, па шчырасці і глыбіні ў іх, да канца дзён сваіх заставаўся ўлюбёным у далёкі паўночны край, назаўсёды пакінуў у сэрцы часцінку яго непаўторнай красы, таго, чым ён жыве, кранае, прыварожвае да сябе: «А ёсць, а ёсць туга па Поўначы, // Адкуль вярнуўся без рубля, // Дзе аддаваў сябе, не помнячы, // Баркасам, чайкам, караблям…»

Не сумняваюся таксама, калі б флоцкае начальства прачытала хаця б адзін ці два вершы з яго лірычнага «арсенала», яно б, упэўнены, даравала Анатолю яго карабельны «грэх» — парушэнне статутнай субардынацыі, і ніхто не падумаў бы аддаць загад, каб паэта, няўпраўнага стажора, «сплавілі» на бераг.

А чаму Анатоль пайшоў на такое «свавольства» — не ведаю, растлумачыць цяжка. Гэта — яго ўчынак, зразумелы толькі яму аднаму, а для нас — загадка. Тым болей, не такая ўжо трагічная, а хутчэй — з падмешкам гумару, што спрыяе добраму настрою. А магчыма, усё можна вытлумачыць проста, ведаючы яго яршыстасць, і непрымальнасць штучнай парадансці, афіцыёзу, якія часам прыніжаюць чалавека, выглядаюць парадыйна-здзекліва, асабліва ў дачыненні да слабейшых і ніжэйшых чынам і званнем. Ён не любіў кланяцца, здымаць шапку перад чыноўнымі асобамі вышэйшага рангу — хто б гэта ні быў...

## Пяцьдзясят працэнтаў рызыкі

Калі верыць паданням старажытных грэкаў, вельмі любіў далёкія падарожжы, быў няўседлівага нораву антычны герой Адысей. Нібы ў яго падтрымку, Анатоль напісаў радкі: «З нас таксама, напэўна, хлопцы, // Кожны — крышачку Адысей». Цяжка сказаць, каго з хлопцаў ён меў на ўвазе, але самога цягнула ў вандроўкі. І ён ездзіў, выбіраўся ў іх. У далёкія і блізкія. Выбіраўся ціха, без такога вэрхалу і плачу, якія ўчыняла міфічнаму Адысею яго суджаная Пенелопа.

Аднак прыходзіць час, такі одум, калі хочацца адпачыць ад вандроўных дарог, засяродзіцца, глыбей асэнсаваць, даць жыццё назапашанаму і ўбачанаму сярод людзей і ў прыродзе. Штосьці такое адбылося і з Анатолем: зноў захацелася паспытаць рэдакцыйнага хлеба, паварыцца ў катле журналісцкіх турбот, прымірыцца з дысцыплінай і парадкам, якія чакалі там. Якраз вызвалілася месца супрацоўніка літаратурнага аддзела ў рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі» (пазней — «Раніца»). І Анатоля прынялі тут па-сяброўску прыхільна, цёпла: яго літаратурныя здольнасці ведалі ўсе. Рэдакцыя газеты знаходзілася побач, па адным калідоры з «Бярозкай», таму нам даводзілася сустракацца з ім амаль кожны дзень. То я заходзіў да іх, то ён заглядваў да нас. Часам з нейкай рэдакцыйнай нагоды, часам — проста пагаварыць, падзяліцца нейкімі навінамі.

Яшчэ працуючы ў «Бярозцы», Анатоль зрабіў заўважныя спробы ў дзіцячай паэзіі. Я ўпэўнены, ён мог бы стаць аўтарам цікавых кніг для дзяцей і пра дзяцей. Вобразныя і метафарычныя, у многім надзённыя і займальныя, прасветленыя цёплаю ўсмешкаю і тонкім гумарам, яго вершы лёгка запаміналіся, западалі ў памяць ад першага ж іх прачытання. Ці гэта «Звяно хуткай дапамогі», ці тая ж «Спрэчка», якую калісьці я прачытаў у зімовым нумары «Бярозкі», не падазраючы нават, што змагу паўтарыць некаторыя радкі і… праз пяцьдзясят гадоў:

Заспрачалася завея
З ветрам ганарыстым:
— Ты праехаць не здалееш
Па катку іскрыстым.
Адказаў ёй вецер дужы:
— Ды нашто сварыцца,
Пракаціся хоць на лужы,
Каб не паваліцца…

Прыйшоўшы ў «Піянер Беларусі», ён, быццам спакутаваўшыся па рэдакцыйнай працы, па дзіцячай літаратуры, з яе па-свойму таямнічым, жывым і даходлівым словам, усё часцей пачаў прапаноўваць на старонкі газеты не толькі ўласныя вершы, але і празаічныя творы. Не абыякавы да творчасці чытачоў, стаў рабіць агляды літаратурнай пошты, вельмі тактоўна даючы ўрокі паэтычнага майстэрства пачаткоўцам-школьнікам. Надрукаваў таксама раздзелы са свайго лепшага дзіцячага твора — цікава задуманай паэмы «Тэлефон».

А ў хуткім часе…

Прыйшоўшы ў рэдакцыю, Анатоль застаў там адказным сакратаром свайго нядаўняга аднакурсніка Уладзіміра Старчанку (памятаеце аднаго з «герояў» маёй нявыдуманай гісторыі «Захопнікі “Пентагона”»?). Абодва яшчэ з універсітэцкай пары былі неабыякавыя да «Дванаццаці крэслаў» і «Залатога цяля» Ільфа і Пятрова, якія ў той час набылі зайздросную «раскрутку», прыводзілі шматлікіх чытачоў у захапленне. Падахвочаныя іх вопытам, ды не абы-якім, а плённым, паспяховым, Валодзя і Анатоль (а мо і наадварот) аднаго дня вырашылі таксама стварыць творчую «арцель», свой тандэм — працуюць жа, як і тыя аўтары, у адной рэдакцыі, заўсёды разам, чаму б не паспрабаваць самім?

Задума выспела, як падалося ім, цікавая, не збітая, вартая таго, каб, доўга не адкладваючы, узяцца за яе ажыццяўленне.

Застаючыся да позняга ў рэдакцыі, разам абдумалі і склалі план будучага твора. Распрацавалі сюжэтныя хады, «далі заданні» яе дзейным асобам, а заадно — самім сабе, і ўзяліся пісаць першыя старонкі дэбютнай для абодвух дэтэктыўна-прагодніцкай аповесці «Пяцьдзясят працэнтаў рызыкі». Праца давалася не так лёгка, як задумвалася, зразумелі, што «шпіёнскія» творы

пісаць цяжэй, чым іх потым чытаць. Але ж, калі ўжо ўзяліся… Хоць памалу, ды праца пасоўвалася, рухалася…

Заўчасная смерць Анатоля толькі на кароткі час «абяззброіла» Уладзіміра Старчанку, пратрымала ў разгубленасці: «Ці працягваць, ці кінуць усё, не траціць дарэмна часу?» Павагаўшыся, ён ужо адзін закончыў працу над аповесцю «Пяцьдзясят працэнтаў рызыкі», якая апавядала пра небяспечную службу «байцоў нябачнага фронту» — савецкіх чэкістаў, пра хітрыя варункі замежных агентаў на нашай тэрыторыі. Чаму я расказваю пра яе? Ды таму, што аўтар аднойчы прынёс гэту аповесць да мяне ў «Бярозку». Вядома ж, з надзеяй — надрукаваць яе ў нас. Калі не ўсю (недзе да сотні старонак), то хаця б некалькі раздзелаў. Аўтарства Уладзімір пакінуў толькі за сабою, бо, як ён сказаў мне, не «пяцьдзясят працэнтаў» працы, а ўсе дзевяноста былі зроблены ім адным: Анатоль Сербантовіч ужо не мог памагчы. Аднак, каб усё было па справядлівасці, ён зрабіў яму прысвячэнне.

Калі не ўдавацца ў некаторыя нюансы і падрабязнасці, звязаныя з сакрэтамі прафесійнай дзейнасці спецслужбаў, аповесць атрымалася даволі займальнай. Чытаць было не сумна, яна заінтрыгоўвала ходам падзей, асобных эпізодаў. Я нават паставіў яе ў свой перспектыўны план. Аднак заўсёды ўдумлівы Кастусь Ціханавіч Кірэенка, хоць і паважліва ставіўся да аўтара, засумняваўся: «Я не ўпэўнены, што за гэту аповесць, калі яе прачытаюць тыя, пра каго ў ёй расказваецца, не пасмяюцца і не дадуць нам па шапцы. Можа, аўтар у ёй такога навыдумляў, такога накруціў, што ні ў якія вароты не лезе. Трэба паслаць аповесць у Камітэт дзяржаўнай бяспекі. Напэўна ж, там ёсць людзі, якія могуць прачытаць яе і даць нам свой кампетэнтны водгук. Будзе станоўчы адказ адтуль — тады будзем думаць, што з ёй рабіць».

Адказ прыйшоў даволі хутка, але не такі, як хацелася б і самому аўтару,і нам. Выявілася, што аўтар, мала знаёмы са спецыфікай работы гэтых органаў, таму ў творы нямала надуманага, нават наіўнага, што выклікае сумненні наконт праўдзівасці паказу падзей і некаторых учынкаў літаратурных герояў. Улічваючы ўсе заўвагі, было прапанавана ўстрымацца ад надрукавання аповесці ў рэспубліканскім дзіцячым выданні, якім з'яўляецца часопіс «Бярозка».

## «Однажды в студеную зимнюю пору…»

У тую самую камандзіроўку ў Магілёў (як аказалася, першую і апошнюю) мне і Анатолю выпала ехаць па заданні рэдакцыі не ў такую «зимнюю пору», а ўжо як трохі пацяплее, у сакавіку. Нагода? У тыя гады, непасрэдна ў час вясновых канікулаў, у абласным цэнтры праводзіліся семінары юных літаратараў Магілёўшчыны. Мне давялося пабываць на трох ці чатырох такіх семінарах. Верхаводзілі на іх звычайна мясцовыя пісьменнікі, добра вядомыя ўсім Аляксей Пысін, Васіль Матэвушаў, Пятро Шасцеракоў, Міхаіл Шумаў. Вядома ж, з абавязковай прысутнасцю «шэфаў» — прадстаўнікоў абкама камсамола і аддзела адукацыі. Але запрашалі на гэтыя літаратурныя святы і сталічных гасцей — з дзіцячых часопісаў і газет, якія, пасядзеўшы ў журы, маглі знайсці тут нешта вартае для друку ў сваіх выданнях, што было прэстыжна. І для саміх пачаткоўцаў, і, канешне ж, для арганізатараў такога мерапрыемства.

У той раз я і Анатоль Сербантовіч ехалі на чарговы такі семінар. Я — ад «Бярозкі», ён — ад «Піянера Беларусі».

Шмат і сур'ёзнага, і кур'ёзнага можна было пачуць на гэтым літаратурным зборы. Помню, як чытала верш адна дзяўчынка-дзевяцікласніца. Калі далі ёй

слова, яна, падглядваючы ў сшытак, пачала чытаць: «Однажды в студеную зимнюю пору я из дому вышла и в школу пошла…» Бачыў, як пераглянуліся між сабою і ўтупіўшы галаву ў стол, ледзьве стрымліваліся, каб не рассмяяцца ўголас, Анатоль і Аляксей Пысін, як пачалі пасміхвацца астатнія ўдзельнікі семінара, што знаходзіліся ў зале. Чым далей чытала прыдуманыя сабою радкі ў перайманне вядомага верша Някрасава тая дзяўчынка, тым гучней чуўся смех, а голас яе «спатыкаўся» і цішэў. Скончылася тым, што сканфужаная і абсмяяная ўшчэнт паэтка расплакалася ва ўсю і, абліваючыся слязамі, вярнулася на сваё месца, мабыць, рыхтуючыся сысці адсюль. Было ўжо не да смеху, у гэты момант стала шкада яе.

— Мілая дзяўчынка, — спагадліва звярнуўся да яе Аляксей Васільевіч, — супакойся, не плач. Няхай паплача твая настаўніца, якая выправіла цябе сюды, не выбрала часу прачытаць тое, што напісала ты. Не падказала, не дапамагла.

Толя таксама памкнуўся быў нешта сказаць, але ў гэты час выйшла і пачала чытаць вершы Ларыса Я. Ён навастрыў вушы, штосьці шапнуў Пысіну. А калі дзяўчынка скончыла чытаць, запляскаў у далоні, падышоў да яе, узяў з рук сшытак з вершамі.

— Вось гэта сапраўдная паэзія! Вось гэтак вам усім трэба імкнуцца пісаць вершы! — махнуў ён перад сабою разгорнутым сшыткам. — Я гэтыя вершы забіраю з сабою, буду прапаноўваць іх у якую-небудзь газету. Магчыма, нават у часопіс «Нёман».

Хоць Ларыса Я. была ўжо амаль дарослай, вучылася ў дзясятым класе, але ж у часопіс «Нёман», дзе тады гаспадарыў патрабавальны і няўступлівы Браніслаў Спрынчан, дужа маладой аўтарцы (гэта ж не тое, што цяпер), падумаўшы, паказвацца было зарана. Я таксама засумняваўся: «Вершы добрыя, але ж наўрад ці згодзіцца прыняць іх Браніслаў Спрынчан. Там масцітым — не прабіцца». «А мы гэта яшчэ пабачым!» — рашуча выказаўся Анатоль.

І ён дамогся свайго. Вершы Ларысы Я. убачылі свет. Праўда, калі яна ўжо была студэнткай журфака БДУ. Але ж перад гэтым, каб яна паступіла туды, Анатоль не адзін раз збегаў ва ўніверсітэт, каб сустрэцца са знаёмымі выкладчыкамі, «закінуць слова» за абітурыентку Ларысу Я. Тады цэнтральнага тэсціравання не было і ў паміне і гэтак падтрымаць каго са знаёмых ці землякоў хоць і не заўсёды ўдавалася, але ж часцяком спробы былі недарэмныя. І Анатолева хадайніцтва было не лішнім. І ў час вучобы ён не пераставаў цікавіцца тым, што яна піша, як піша, якая помач ёй патрэбна. І калі настаўніка не стала, Ларыса, праводзячы яго ў апошні шлях, не хавала шчырых слёз.

Ларыса стала журналісткай. Аднак, як гэта, на жаль, часта здараецца з паэткамі, жыццёвыя клопаты і няўвязкі, сямейны быт навязваюць сваё, дробязнае, адбіваюць ахвоту хаўрусаваць з натхненнем, без якога, напэўна, нельга ўявіць захапленне паэзіяй, і яны губляюцца, заўчасна змаўкаюць. Ці не штосьці такое адбылося з Ларысай Я., бо даўно ўжо не магу натрапіць на яе след…

Адчуваю, як шкадаваў бы Анатоль, бо ён заўсёды неймаверна радаваўся, калі яму трапляліся ў рукі добрыя вершы маладзейшых за яго аўтараў, у чый талент ён верыў, на каго спадзяваўся… Ці ведалі гэта яны, ці імкнуліся апраўдаць яго давер, спраўдзіць тыя спадзяванні?..

Мне ў той паслясемінарскі вечар пашанцавала яшчэ пабываць неспадзявана ў гасцях. Цягнік на Мінск адыходзіў недзе апоўначы, і Анатоль прапанаваў з’ездзіць у госці да яго сястры. Мусіць жа, стрыечнай — дакладна сказаць не магу. Разлічыліся ў гасцініцы, зайшлі ў краму і, сеўшы ў тралейбус, паехалі ў напрамку, які ведаў толькі ён. Сваячка, маладжвая і прыветлівая жанчына, сустрэўшы нас,

хуценька сабрала даволі прыстойную, як гэта вядзецца ў нашых людзей, вячэру і запрасіла за стол. Не спадзеючыся на нашу, прывезеную з сабою, паставіла на стол і сваю бутэльку. Здзівілася, як Толя адхіліў яе руку, калі яна хацела наліць у чарку, якую загадзя паставіла перад ім. «Не-не-не, — заспяшаўся ён, беручы бутэльку з яе рукі. — Я лепш сам вам налью. Калабок (такая мянушка прыстала да мяне ад Ганны Давыдаўны Краснапёркі, калі я падрабляў у «Піянеры Беларусі»), не саромейся, можаш і за мяне лішнюю чарку ўзяць», — гарэзна глянуў на мяне, капнуўшы сабе нейкага шыпучага напою.

Гаспадыня здзівілася, а для мяне гэта Толева аднекванне ў той момант не стала дзівам: ён, асабліва пасля грушаўскага здарэння, час ад часу рабіў такія «лірычныя адступленні» — па некалькі месяцаў запар нават не прыгубліваў спіртнога. А ў сяброўскіх застоллях, якія ўсё ж надараліся і ў дні атрымання ганарару (а іх, такіх дзён, было штомесяц пяць: два — у газетах і часопісах, два — на радыё, адзін — у кніжным выдавецтве), і так з якой нагоды, з выглядам бывалага застольніка, які з'еў на гэтым зубы, а цяпер адпачывае ад усяго, што зведаў, то жартуючы, то моўчкі падліваў хлопцам у шклянкі — банкаваў. Пасміхваліся хлопцы з яго, аднак ніхто не дамагаўся, каб ён «не истязал организм», парушаў свой часовы «сухі закон». Ведалі — яго не пераканаеш. Ды і навошта? Кожны ведае цану свайму здароўю, сваім мажлівасцям у змаганні з не такой ужо прывабнай, а болей — заганнай горкай спакусай. А тое, што ён быў не «святы», мог раптам разняволіцца ды «расслабіцца», як цяпер часта кажуць, Анатоль ад нікога не ўтойваў, прызнаваўся сам. З усёй адкрытасцю і шчырасцю свайго характару:

Не мог я піць — таму упарціўся,
Прасіў назад чуць-чуць адліць.
Але за дружбу піў я квартамі,
Бо нельга мне было не піць.

Пасля я піў — і ў тым не каюся, —
Калі няўрадзіцы былі,
Калі сябры мае з'язджаліся
І хлопцы ў армію ішлі.

Ды я усё чакаю раніцы,
Даўно жадаю я адно:
Няхай хутчэй знікаюць п'яніцы,
А не гарэлка і віно…

З вакзала, яшчэ на самым світальным цямочку, ехалі трамваем. Я сышоў на прыпынку «Ленінскі праспект», а Толю трамвай павёз далей, некуды за плошчу Якуба Коласа.

## «…І там яна канчаецца»

Пасля жаніцьбы Анатоль атрымаў двухпакаёвую кватэру. У мікрараёне Зялёны Луг, які толькі пачынаў забудоўвацца. Кватэра лічылася падменнай. Дагэтуль у ёй з сям'ёю жыў паэт Марк Смагаровіч. З размовы ведаў, што новае месца жыхарства яму падабалася, кватэра мела прыстойны выгляд, на дваіх з жонкай Валяй плошчы хапала. Гэта ж не былая «камуналка» на той Лодачнай, дзе, здавалася, нельга было ступіць і кроку, не адчуваючы прыгляду суседскіх вачэй!

Прызнацца, я ні разу не быў у яго ў гасцях у той зялёналужскай кватэры, не ведаю, як яму там працавалася, на чым «замешваліся» яго вершы і вянкі

санетаў, напісаныя ў гэты час. Адно вядома: тут у ноч на 21 сакавіка 1970 года зрабіла апошні круг дрыготкая, нібы ад нейкага спалоху, стрэлка яго зямнога гадзінніка, няўрымсна-хапатлівага жыцця. Заснуў і не прачнуўся, не ўбачыў святла новага вясновага дня. І не сэрца падвяло, што гэтак непакоіла калісь гаспадыню нашай здымнай з ім «галубятні», а колішняя траўма галавы. І споўнілася паэту толькі дваццаць дзевяць. «Як ён яшчэ да гэтых гадоў дажыў з такою гематомай, з такою ранай? — здзіўляўся галоўны ўрач пісьменніцкай палiклінікі Нэйфах, калі ўбачыў здымкі рэнтгену і прачытаў заключэнне медыцынскай экспертызы. — Там жа каранарныя сасуды мозга як пасклейваў нехта…»

Старыя людзі звычайна кажуць: лёгкая смерць. Магчыма, і так. А ці была яна для Анатоля лёгкай псіхалагічна, калі кожны дзень жылося адчуваннем яе немінучасці? Ды самай блізкай. А што яно было сапраўды, можна, здавалася б, меркаваць па вершы Анатоля Сербантовіча «Там пачынаецца паэзія», у якім праглядваецца намёк на сустрэчу з незямной вечнасцю:

Там пачынаецца паэзія
І там яна канчаецца,
Дзе ты ўсміхаешся гарэзліва
І цэлы свет гайдаецца.

Спяшай зрабіць са сцежкі крок,
Дзе цішыня густая,
Каб прачытаць адзін радок,
Які ніхто не знае.

Пад ім Анатоль пазначыў: «Серада. 11.03.70. Апошні мой верш». А ці такую немінучасць прадчуваў паэт, ставячы пад вершам такі подпіс? Можа, ім кіравала нешта іншае, можа, ён збіраўся, нібыта ў тую раку Урал, даць нырца ў вір новых задум, больш значных, складаных, чым звычайныя вершы, якія могуць пачакаць?

Думаю, ёсць доля праўды, і, магчыма, найбольш пераканаўчая, зноў жа ў меркаваннях Васіля Макарэвіча. Ён сцвярджае: «У апошні час у яго з’явілася грандыёзная задума: стварыць вянок вянкоў санетаў. Мне чамусьці не верылася, што гэта можна зрабіць нават з-за тэхнічнай складанасці. Ды Анатоля цяжка было пераканаць. Ён быў так упэўнены, што павінен стварыць гэты твор, што вырашыў займацца толькі ім. Таму ён напісаў дзве страфы і адзначыў, што гэта апошні яго верш. Цяжка сказаць, ці ажыццявіў бы ён сваю задуму, калі б яго жыццё не абарвалася трагічна і раптоўна, як абрываецца песня жаваранка, калі не вытрымлівае сэрца высока ўзятай ноты.

У рэцэнзіях на пасмяротныя выданні кніжак А. Сербантовіча пісалі: паэт, маўляў, прадчуваў, што заўчасна пойдзе ад нас, пакіне гэты зямны свет. Не ведаю, не бяруся ні сцвярджаць, ні абвяргаць гэтыя меркаванні і здагадкі. Мне, напрыклад, ён ні разу не гаварыў, што яму засталося мала жыць. А калі недзе ў вершах і намякаў пра смерць, дык гэта не больш чым жартачкі з чымсьці небяспечным і таямнічым, маўляў, вы баіцеся гаварыць аб гэтым, а я не баюся, і нічога са мною не здарыцца. А калі нешта і адбудзецца, то — чаму быць, таго не мінаваць. Ён быў энергічны, думаў пра жыццё, у яго было многа творчых планаў».

Я ўпэўнены: Анатоль ажыццявіў бы задуму. Ён быў настойлівы, любіў шукаць, эксперыментаваць, не зважаў на цяжкасці, якія маглі ўзнікнуць. А ў санетах цяжкасцю была сама форма, інструментоўка верша, якой патрэбна было абавязкова трымацца: усё ж класічная, не вольная. А вянок санетаў?

«Сплесці» яго па ўсіх канонах, па ўсіх правілах — звычайнага паэтычнага майстэрства мала. Але ж ён ужо зрабіў пачатак, паказаў санетам «Маўклівае трывожнае зацішша…», што змог авалодаць гэтай формай. Гэта цяпер у нашай паэзіі вянкі санетаў — не такая ўжо навінка ды дзіва. Іх сучасныя паэты стварылі дзясяткі. Напэўна, ніводная літаратура не мае іх столькі, як у нас. Ёсць і вянкі вянкоў, і не ў аднаго аўтара. Згадайма толькі Змітрака Марозава і Соф'ю Шах. А тады… А тады гэтыя «вянкі» можна было пералічыць на пальцах адной рукі. Як і саміх аўтараў: Ніл Гілевіч з яго «Нараччу», Хведар Жычка з «Абеліскам» і ён, Анатоль Сербантовіч. У Анатоля на той час ужо было напісана некалькі вянкоў санетаў: «Васілёк», «Курганы», «Салдат». Праўда, надрукаваным ён паспеў убачыць толькі адзін з іх — першы. І то карэктуру, бо да чытачоў часопіса «Маладосць» ён прыйшоў у красавіку, калі аўтар ужо ляжаў у жалобных вянках ды ў кветках на сырым пагосце Усходніх могілак.

І зноў жа не ўсё прайшло гладка, гэты «Васілёк» нарабіў лішняга клопату рэдакцыі. Не, не цэнзура ўмяшалася, як гэта часта бывала, а сам аўтар. Памятаю, пасля пахавання Уладзімір Міхайлавіч Юрэвіч — на той час адказны сакратар часопіса «Маладосць» — да глыбіні душы крануты заўчаснай смерцю Анатоля, з непрыхаваным смуткам расказваў пра чарговае, мабыць, ужо апошняе Анатолева «свавольства». Як гэта было зазвычай у рэдакцыі, яму аддалі на вычытку карэктурныя старонкі з ягоным вянком санетаў: можа, дзе са знакамі прыпынку абмылка выйшла, а карэктары маглі не заўважыць, прапусціць, ці якое слова або радок нейкі паправіць аўтару захочацца. У карэктуры гэта не позна зрабіць, дазваляецца. Праўда, чым менш знойдзеных «блох», чым карэктура чысцейшая вяртаецца, тым лепш для рэдакцыі. Не трэба перабіраць выпраўленыя радкі, менш выдаткаў, заўваг у выдаўцоў. А за ўсім жа — графік здачы ў друкарскі цэх, падпісання да друку і выхаду ў свет. Выб'ешся з вытворчага графіка — чакай непрыемнасцей. Выхад нумара можа затрымацца, што «свяціла» разборкай у адпаведных кабінетах. Нават мізэрнай, і той прэміі маглі пазбавіць. Бо выдавец сур'ёзны — друкарня ЦК КПБ!

— І што вы думаеце, — расказваў, нібы скардзіўся Уладзімір Міхайлавіч, — прыносіць Анатоль праз два дні карэктуру, аддае мне, перагарнуў я старонкі — і жахнуўся: а людцы ж вы мае, уся скрэмзана, жывога месца ў карэктуры не пакінуў, увесь вянок санетаў амаль нанава перапісаў! Гэта ж скандал для рэдакцыі! Анатоль, кажу, куды ж ты раней глядзеў, як здаваў яго нам? Апраўдваецца: дык я ж здаваў яго вам паўгода назад, а за гэты час знайшлося, што паправіць трэба. Хіба я горш зрабіў? Потым рашуча: калі не хочаце друкаваць у такім выглядзе, то здымайце тады. Ці пераносьце на пазнейшыя нумары. А як гэта вянок здымеш, калі ён звярстаны ўжо, а ўвесь нумар цалкам набраны? Трэба прыдумляць пісьмо ў друкарню, апраўдвацца, прасіць, каб перабралі выпраўленую карэктуру. Яшчэ не ведаю, чым гэта скончыцца…

## «Не думайце з трывогаю пра вечнасць...»

Пахавалі Анатоля Сербантовіча на Усходніх могілках. Гарадскія ўлады падтрымалі хадайніцтва Саюза пісьменнікаў. На той час Анатоль Сербантовіч ужо быў аўтарам двух невялічкіх зборнікаў паэзіі «Азбука» і «Міннае поле». Трэці — «Пярсцёнак» — знаходзіўся яшчэ ў выдавецтве, і выйдзе ўжо з пасмяротнай прадмовай Аляксея Пысіна.

Перакананы, што Анатолева магіла сярод тамашняга мноства гранітных ды мармуровых пліт, статуй ды барэльефаў знакамітых асоб, прымушала

кожнага, хто праходзіў міма, міжволі прыпыніцца ў пэўным недаўменні: хто ж тут, за гэтай агароджай, пахаваны? І сапраўды, яна не такая была, як усе, што побач. Яе праект, як цяпер сказалі б, задумваўся і ажыццяўляўся на маіх вачах у рэдакцыі «Бярозкі». Займаўся ім малады на той час рэдакцыйны мастак Пятро Драчоў. Працуючы ў рэдакцыі разам два ці тры гады, яны, Пятро і Анатоль, паспелі шчыра пасябраваць, стаць у многіх меркаваннях, у адносінах да творчасці і тагачасных грамадскіх стасункаў, аднадумцамі. Пятру — імпанавала паэтычная вынаходлівасць і раскаванасць, смеласць думкі і свежасць вобразаў паэта Сербантовіча, а Анатолю — імкненне да пошуку, арыгінальнасць мастацкіх прыёмаў, тонкае адчуванне прыроды, цеплыня фарбаў, цудоўнае веданне гістарычнай спадчыны свайго краю, шаноўныя адносіны да ўсяго роднага, беларускага — маладога мастака Драчова. Не каму іншаму, а менавіта Пятру Драчову ён давяраў мастацкае аздабленне дзвюх прыжыццёвых кніжак. Дамовіўся і наконт трэцяй. Пятро ўжо трымаў пад рукою рукапіс «Пярсцёнка», разам з фотамайстрам Валянцінам Ждановічам знайшоў ход, як больш выразна, блізка да зместу зборніка, выканаць задуму вокладкі. Хто бачыў кнігу, пагодзіцца са мною: як усё на дзіва арыгінальна, змястоўна і... загадкава атрымалася. Выява «пярсцёнка» на вокладцы — фрагмент-абрэзак разарванай гільзы ад снарада. Дзе Валянцін знайшоў такую — не ведаю. Магчыма, у лесе, збіраючы грыбы, ці так дзе. Ён шмат павандраваў па Беларусі з фотаапаратам. Памятаю, калі ён зайшоў з гэтай знаходкай у рэдакцыю да Пятра і паказаў яму гільзу, прызнаюся, было боязна яе ў рукі ўзяць, каб не параніцца да крыві аб яе рвана-зазубраныя «пялёсткі», што, як на сланечніку, растапырваліся кружком, нібы папярэджвалі: «Не чапай нас! Бачыш, якія мы калючыя і страшныя!»

Праўда, на вокладцы кнігі выява гэтага незвычайнага «пярсцёнка», «змастачаная» паводле фатаграфіі, выглядае не такой пагрозлівай і вастразубай, як у сапраўднасці, ды ўсё ж міжволі прымушае браць кнігу ў рукі з нейкай асцярогай і... заінтрыгаванасцю: аб чым яна, што за творы знаходзяцца пад такой стрымана-суровай аздобай вокладкі?..

Пеця (як мы часцей называлі Драчова ў рэдакцыі) надта балюча ўспрыняў раннюю смерць Анатоля. Здаўшы ў выдавецтва афармленне зборніка, ён, калі зайшла гаворка ў родных пра агародку і надмагільны помнік паэту, шчыра ўзяўся за распрацоўку праекта, зрабіў некалькі эскізаў помніка. Сам працаваў не за грошы, а заадно разлічваў, каб устаноўка надмагілля танней абышлася для Анатолевых сямейнікаў: на ганарарную падтрымку ранейшага спадзявання ўжо не было.

Пасля доўгіх разваг і прыкідак Пятро Драчоў прапанаваў такі праект помніка — не дыхтоўны, але арыгінальны па задуме і ў нечым сімвалічны: чатыры драўляныя статуі з выявай жаночых твараў, схіленых у жалобе, а паміж імі — нацягнутыя ланцугі. На самой магіле — звычайны шэры камень, з фотапартрэтам і надмагільным надпісам. Вершаваным. Доўга шукаць патрэбныя радкі не давялося, іх сам Анатоль быццам бы падрыхтаваў загадзя, змясціўшы ў зборніку «Міннае поле» і назваўшы «Запіскай, знойдзенай у кнізе»:

Не думайце з трывогаю пра вечнасць,
Забудзьце пра хвіліны забыцця:
Складаецца з трагедый чалавечых
Вялікая трагедыя жыцця.

Сваю задуму Пятро Драчоў аргументаваў так: «Я стараўся, каб ва ўсім прысутнічала сімволіка, вобразнасць. Каб хацелася задумацца, паразважаць, гледзячы на гэтыя статуі і ланцугі. Статуі засмучаных жанчын — гэта ўвасабленне маці, сясцёр і Муз, якія не хочуць адпускаць Толю ад сябе. А ланцугі

для чаго? Ён увесь час адчуваў сябе творча скаваным, яму было цесна ў тым асяроддзі, у якім знаходзіўся, ён увесь час імкнуўся вырвацца з ланцугоў розных жыццёвых стэарэатыпаў, што перашкаджалі яму чуцца вольным і самастойным у думках і ў вершах. Да таго ж Анатоль не любіў лішняй пампезнасці і забранзавеласці ва ўсім, таму сціпласць помніка выглядае натуральнай.

Яшчэ раз паўтаруся: няхай кожны, хто пройдзе міма магілы, задумаецца, чаго тут узяліся ланцугі і гэтыя засмучаныя жаночыя постаці. Не шыкоўна з выгляду, але арыгінальна. Прайдзіце па могілках — ні ў кога нічога падобнага не ўбачыце. Толя, думаю, не пакрыўдзіцца».

Сапраўды, усё было так, як прадказваў Пятро. Людзі спыняліся, дзівіліся, мабыць, моўчкі спачувалі сямейнікам пахаванага: «Напэўна, бедна жывуць, не было за што даражэйшы і лепшы помнік паставіць?» Але ж ці варта прыслухоўвацца да таго, што думаюць чужыя, зусім староннія людзі? Усё было ціха, спакойна каля Анатолевай магілы, пакуль не прыехала з вёскі маці. Убачыўшы ўпершыню, як «аздоблена» сынава магіла, яна ў роспачы апусцілася на калені перад ёю, запрычытала: «А за што ж майго Толічка, майго сыночка любага, як таго астрожніка, такімі цяжкімі ланцугамі скавалі? А што ж ён такога кепскага зрабіў вам, людцы дарагія? Як ён будзе хадзіць і дыхаць на тым свеце? Хто ж дадумаўся да такога? Няўжо табе, сыночак, вечна пакутаваць у гэтых ланцугах, пад каменем гэтым? Няўжо ты заслужыў, каб так не па-людску абышліся з табою?»

Не памятаю ўжо чаму, але я ў той дзень не быў там. Пра гэты плач над магілай сына расказваю са слоў Пятра Драчова. Дарэмна ён і нявестка Валя стараліся супакоіць узрушаную маці, пераканаць, што гэтак было задумана, што ва ўсім ёсць свая сімволіка, глыбокі сэнс і адпаведны падтэкст, што ўся справа не ў грашовых выдатках, што ўсё падкрэслівае, чым была адметнай, зразумелай і блізкай да людзей паэзія Анатоля, — усё ж не змаглі пераканаць. Маці паехала дадому з непрыхаванай крыўдай і на нявестку, і на Толевых сяброў: зрабілі помнік, як для адчэпнага. «Будзем думаць, — сказаў тады заклапочаны Пятро. — Маці хоча, каб нічога не выдумлялі, а паставілі такі помнік, як у людзей. Паабяцалі ёй, што пераробім усё..»

## «У паэтаў ёсць такое права...»

«Жывыя ідуць наперад...» Гэтыя радкі з верша Кастуся Кірэенкі ваеннага часу. На вялікі жаль, губляць сяброў і паплечнікаў, назаўсёды расставацца з імі, каму выпаў кароткі век, даводзіцца не толькі на франтах ды палях вайны. Няўмольнасць лёсу, заўчасныя расстанні з жыццём падсцерагаюць жывых ва ўсе часы, на ўсіх шляхах, што ім адведзена прайсці. Адным — больш, другім — менш, трэцім — зусім мала. І Анатоль Сербантовіч, як ні пакутна гэта ўсведамляць, — з кагорты апошніх.

Аднак жа гадзіннік зямнога жыцця не спыняецца. Жывыя ідуць наперад, каб прайсці па роднай зямлі, «каронаю снапоў каранаванай», «ад першай да апошняй паласы» і за сябе, і за тых, хто ішоў па ёй, ды не дайшоў. Спыніўся на мяжы, дзе заступілі дарогу Вечнасць і Памяць. Здавалася б, абедзве — як сёстры родныя, блізкія па сутнасці і разуменні, аднак другая з іх валодае неверагоднай здольнасцю, не заўсёды суцяшальнай і спрыяльнай — яна можа станавіцца кароткай, мімалётнай, як і тая ж слава. Да адных яна прыходзіць вельмі рана і — нярэдка здараецца — гэтак жа рана пакідае іх. Да другіх прыходзіць потым, пазней, калі нехта з іх не проста гарыць жаданнем, а прагне апынуцца ў яе навідавоку, праўдай і няпраўдай пнецца пакупацца ў яе зіхоткіх промнях, каб узвысіцца, дамагчыся з ёю таго, чаго яшчэ не змог дамагчыся.

Трэціх знаходзіць, калі яны ўжо аніяк не могуць пачуць і адчуць яе. Хоць на імгненне, ды пагрэцца ёю, атуленыя зямлёй і вечнасцю. Такое чамусьці здараецца часцей. Ды гэта ўсё залежыць ужо ад людзей, ад таго, якое ў іх сэрца і якая ў іх памяць...

Не збіраюся сцвярджаць катэгарычна, але, падумаўшы, можна пагадзіцца, што яму, Анатолю Сербантовічу, было даравана лёсам і фартунай заняць парнаскую чаргу да ранняй і прыжыццёвай славы, нават у нейкай ступені адчуць лагоду ад блізкага суседства з ёю, трапіць пад яе прамяністае крыло, хоць крышачку ды адчуць, якая яна на «смак».

Хоць сам Анатоль, у нечым паўтараючы Уладзіміра Маякоўскага («Мне наплевать на бронзы многопудье...»), у маладым запале заяўляў: «У паэтаў ёсць такое права // І яго нам нельга забываць: // Напляваць на грошы ім і славу. // І на вечнасць нават напляваць», ён усё ж адчуваў, што славаю не пакрыўджаны. Ну не славаю, калі гучыць надта высока, дык чытацкай увагай і прыхільнасцю, нават улюбёнасцю — гэта бясспрэчна! А што важней: ці прымхлівая слава, ці людское прызнанне? Ён сам спрабаваў разабрацца ў гэтым хітрасплященні ўяўнага і рэальнага, жывога. Хоць трошкі наіўна-блазнавата, як гэта мог сабе дазволіць, быццам гуляючы ў хованкі з ёю, ды дамагаўся размовы з маўклівай чамусьці славай, чакаў адказу. Хоць якога.

Дабрыдзень, слава!
Што ж маўчыш?
Ці у мяне не тыя песні,
Ці мне той груз не па плячы,
Які раней паэты неслі?..

Няўжо, скажы, і я не той,
Няўжо я з тых, якіх так многа?..
Ківае слава галавой
І не гаворыць мне нічога.

Я не крыўдую.
Будзь, як дым!
І хоць вянок прасіць твой — сорам,
Чаго ж нам сорамна дваім,
І ні аб чым мы не гаворым?

І ці не надоўга зацягнулася гэтае маўчанне?..

Як ні складвалася б жыццё, як ні змяняліся б погляды і адносіны людзей да творчых асоб і спадчыны, ёсць яшчэ адна выверанная стагоддзямі ўласцівасць: не ўсё, што створана таленавіта, з душой і любасцю да ўсяго, што натхняла майстра, было яго жыццём і прызваннем, губляецца ў часе, у цянётах памяці, у сэрцах жывых, якія ідуць следам, каб не застаўся гэты скарб забытым, не замшэў ад нашай няўвагі і абыякавасці. Ці пашанцавала Анатолю, ці не стала даўжэйшай дарога да яго і ягонай паэзіі ў нас, у сучаснікаў, хто жыве ў сённяшніх клопатах і не заўсёды прасветленых днях? Адназначна сцвярджаць таксама не адважуся. Але ж да нейкіх разваг ды высноў прыйсці можна. Як вам падаецца?..

## «І вясной узыду...»

Помніцца, ці не ў маі было гэта: аднаго дня да мяне ў рэдакцыю зайшоў маладзенькі хлопец. З выгляду — учарашні школьнік. Назваўся Сяргеем Кавалёвым. Сказаў, што вучыцца ва ўніверсітэце на беларускім аддзяленні філфака. Заканчвае першы курс.

— Мяне прыслала да вас наша выкладчыца Вольга Васільеўна Казлова. Хочам запрасіць на літаратурны вечар, прысвечаны памяці паэта Анатоля Сербантовіча. Як вы ведаеце, сёлета споўнілася сорак гадоў з дня яго нараджэння. Вольга Васільеўна сказала, што вы вучыліся з ім у адзін час, часта сустракаліся, магчыма, сябравалі, і вам, напэўна, ёсць што ўспомніць, расказаць нашым студэнтам.

— А як у вас усё задумана? — выслухаўшы Сяргея, пацікавіўся я.

— Вечар будзе весці Вольга Васільеўна. Яна сама раскажа студэнтам пра Анатоля Сербантовіча, бо вельмі любіла чытаць яго вершы, потым выступлю я, прачытаю свой даклад. Ну не даклад, у поўным сэнсе гэтага слова, а мае нататкі аб творчасці Анатоля Сербантовіча. З цікавасцю паслухаем вашы ўспаміны. Студэнты раскажуць вершы паэта, бо яны многім з нас падабаюцца. Калі прыйдзеце, самі ўбачыце, як мы падрыхтаваліся. Дык вы згодны прыйсці?

Як я мог адмовіцца? Было б сорамна перад памяццю таварыша і проста самабытнага паэта, калі б раптам знайшлася нейкая прычына адмовіць гэтаму маладзенькаму сімпатычнаму рыжавата-вяснушкаватаму студэнты-хадаку, не знайсці часу выбрацца на сустрэчу, хоць і ўяўную, з Анатолем, з яго паэзіяй, а заадно — і з нашай незваротнай маладосцю.

Студэнцкая аўдыторыя па вуліцы Чырвонаармейскай, дзе тады знаходзіўся філфак і куды сам калісьці вечарамі спяшаўся на лекцыі, у той раз выглядала цеснаватай. Па ўсім відаць, тых сталоў і крэслаў, што звычайна стаялі ў ёй, аказалася малавата, таму з паўдзясятка іх «пазычылі» ў суседніх аўдыторыях. Стаяў невялічкі стэнд з кніжкамі і часопіснымі публікацыямі Анатоля Сербантовіча. Прыцягваў увагу, наклееены на картонку, яго партрэт. Сціпла, але даволі прыстойна, наглядна, з павагай да памяці паэта, які мала пажыў, але паспеў пакінуць прыкметны след у нашай літаратуры.

Усё адбывалася так, як і распавёў мне Сяргей Кавалёў, запрашаючы на сустрэчу. Распачала вечарыну прыветлівая ў абыходжанні і любімая студэнтамі Вольга Васільеўна. Свае нататкі прачытаў Сяргей. Як высветлілася, не проста нататкі, а курсавую работу, якую напісаў па творчасці «свайго» паэта. Падзяліўся ўспамінамі я. Стараўся не крывіць душою, а расказаў пра ўсё, што праўдзіла вобраз паэта, дазваляла ўбачыць яго такім, якім ён быў у жыцці. Ну амаль усё, што расказваю вам...

Як і чакалася, вершы чыталі ў асноўным дзяўчаты. І таму, відаць, у іх дэкламацыях пераважала лірыка, найбольш блізкая іх пачуццям і настрою, якая, як мне падалося, кранала слухачоў, быццам размаўляла з намі голасам і сэрцам жывога паэта, голасам красы і маладосці, рамантычнай узнёсласці і закаханасці. Здавалася, не яны, а ён сам вымаўляў радкі, стоячы перад аўдыторыяй, як вучань перад класам, хвалюючыся і ўзважаючы кожнае слова, напаўняючы верай у сілу жыцця кожны радок:

Упаду,
Упаду
На лугу ці палетку
І вясной узыду
Самай простаю кветкай.

Будуць зоры цвісці,
Будуць пець за гарою,
Будуць людзі ісці
Ля мяне,
Нада мною...

Мяне ж самога яшчэ надзвычай здзівіў і ўразіў «даклад» Сяргея Кавалёва. Слухаў яго і не верылася, што выйшаў ён з-пад пяра зялёнага зусім першакурсніка: гэтак грунтоўна, глыбока, зацікаўлена, а галоўнае — з нейкай унутранай любоўю і цеплынёй змог расказаць ён у сваім, можна сказаць, навукова-літаратуразнаўчым даследаванні, пра жыццё і творчасць Анатоля Сербантовіча, што, напэўна, узварухнула ў тыя хвіліны не толькі мяне аднаго, наводзячы на думку: у гэтага студэнта, у Сяргея Кавалёва, таксама ёсць талент, талент філолага-навукоўца, свой творчы патэнцыял, будучыня. Ён можа вырасці ў цікавага даследчыка літаратуры.

На шчасце, я не памыліўся. Пасля вучобы ў БДУ Сяргей Кавалёў скончыў аспірантуру, абараніў кандыдацкую дысертацыю. Але гэта не ўсё, што стала яго захапленнем і творчасцю. Ён не абмежаваўся літаратуразнаўствам і крытыкай. Плённа дэбютаваўшы ў друку вершамі, з часам пачаў пісаць прозу. Казкі для дзяцей, якія выдаў зборнікам «Мэва». Потым стала перайшоў у драматургію. Хто не сустракаў яго імя на абвестках нашых тэатраў, дзе з поспехам ставяцца спектаклі па п’есах Сяргея Кавалёва? А мне яшчэ прыемна ўдвая, што я ў свой час, паверыўшы ў яго здольнасці, не адмовіў яму, калі Сяргей звярнуўся да мяне, каб даў яму рэкамендацыю для паступлення ў Саюз пісьменнікаў.

Першае юнацкае захапленне творчасцю Анатоля Сербантовіча не было ў Сяргея выпадковым і часовым. Ён не адзін год працягваў збіраць звесткі пра яго жыццё, цікавіўся спадчынай паэта. Выязджаў неаднаразова ў родныя мясціны, сустракаўся з Анатолевай маці, гутарыў з сябрамі і знаёмымі, з настаўнікамі і вяскоўцамі, якія добра ведалі Анатоля. Ён і мяне прасіў разоў колькі пісьмова, эпісталярна аформіць свае ўспаміны, аднак я, да майго сораму, абяцаючы зрабіць гэта, адкладваючы ад сустрэчы да сустрэчы, так і не сабраўся. Магчыма, гэтымі старонкамі неяк апраўдаюся перад ім?

Трэба быць удзячнымі Сяргею Кавалёву за яго пошукі і знаходкі, за яго рупнасць і самаахвярнасць: у 1989 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» (толькі праз васямнаццаць гадоў пасля выдання апошняга зборніка паэта!) выйшаў салідны томік твораў Анатоля Сербантовіча «Жаваранак у зеніце». У ім змешчаны вершы, балады, паэмы і вянкі санетаў, што друкаваліся ў ранейшых зборніках, а таксама шмат чаго з неапублікаванага, узятага з сямейнага архіва. Як вы, напэўна, здагадаліся, укладальнікам гэтай кнігі, аўтарам надзвычай глыбокай і задушэўна-пранікнёнай прадмовы стаў Сяргей Кавалёў.

Чытаючы яе, я сам неспадзявана даведаўся шмат цікавага, новага для мяне, таго, што дазволіла больш усебакова ўбачыць вытокі самабытнага таленту паэта Анатоля Сербантовіча, што спрыяла фармаванню і сталенню яго паэтычнага густу, характару і майстэрства, жыццёвых прынцыпаў, грамадзянскай пазіцыі. Адкуль у яго гэтыя яршыстасць і дзёрзкасць, непрымірымасць з тым, што ён бачыў, што лічылася правільным, нармальным, выкоўвала і выхоўвала заставацца самім сабой...

Прызнаюся, я нямала здзівіўся такому, напрыклад, адкрыццю: школьнікам паэт Сербантовіч «вершы не любіў і пазбягаў іх ажно да старэйшых класаў».

«Ён не пражыў і трыццаці гадоў, пісаў і ўвогуле толькі дзесяць, — падкрэслівае прадмоўца. — Але тое, што нарадзілася, што гарэла і білася ў сэрцы Паэта, — ніколі не згасне, не сыдзе ў нябыт». Як хочацца ў гэта верыць і спадзявацца на такое, бо пасля зборніка «Жаваранак у зеніце» дагэтуль (зноў жа!) больш нічога не выдавалася.

Дык якая ў нас памяць?..

Аднак усцешвае, што і гэта выданне не згубілася, Анатоля чытаюць маладзейшыя за нас. І не толькі чытаюць, а сёй-той спрабуе зрабіць замах на яго аўтарства і тое, што ім найбольш спадабалася з яго спадчыны, цішком «пазы-

чыць», не ўтрымаўшыся ад спакусы плагіяцтва. За дзясяткі гадоў працы ў рэдакцыях часопісаў «Бярозка» і «Вясёлка», беручы ўдзел у розных конкурсах і злётах, працуючы з юнымі літаратарамі ў гуртках, мне не адзін раз даводзілася «выводзіць на чыстую ваду» шукальнікаў удачы такога роду, змагацца з тым, чаго не мог цярпець сам Анатоль. Можа б, ён тайком і парадаваўся б, што крадуць менавіта ў яго, аднак, я ўпэўнены, наўрад ці ўтрымаўся б ад жадання сур'ёзна прысароміць «штрафніка» за такое нязначнае і бяскрыўднае, здавалася б, «злачынства».

Каб ніхто не падумаў, што займаюся пустаслоўем, раскажу пра адзін толькі выпадак.

Аднойчы на чарговыя заняткі літаратурнай суполкі «Купалінка», якою я тады кіраваў, прыехаў з Бараўлян вучань мясцовай школы, дзесяцікласнік Юрка С. У гэтай прысталічнай школе ўжо не адзін год плённа працаваў літаратурны гурток, дзясяткі юных аўтараў прайшлі вучобу ў ім, і некалькі беларускамоўных вершаў, якія навічок прачытаў нам, былі прыняты бурнымі воплескамі. Пасыпаліся пытанні: «Чаму ты, Юрка, раней не прыязджаў на пасяджэнні “Купалінкі”? У цябе ж такія цудоўныя вершы!»

Паддаўшыся настрою сяброў «Купалінкі», падкуплены спеласцю і паэтычнай свежасцю пачутых радкоў, я прапанаваў акрыленаму аўтару аддаць мне на прагляд усё, што ён прывёз з сабою. І той ахвотна перадаў мне ў рукі цэлую вязанку вершаў. Пэўна, пад пятнаццаць, не меней. Ужо чытаючы іх дома, у мяне пачало закрадвацца сумненне: а можа, не яго гэта вершы? Надта ж бездакорна выглядаюць, не па ўзросце дасканала! Але ж і Юрка не такі ўжо «зялёны», пад сямнаццаць падбіраецца. Хіба ён не можа гэтак разважаць, адчуваць слова, вобразна думаць? Прыкладаў можна знайсці шмат. Тая ж Жэня Янішчыц, тыя ж Алесь Разанаў, Валодзя Мазго, Алесь Усеня не старэйшыя былі, а такія добрыя вершы школьнікамі пісалі!

Часова адагнаўшы ад сябе свае сумненні, я вялікую нізку вершаў Юркі С. уключыў у радыёперадачу «Першыя сцяжынкі», якую ў той час рыхтаваў і вёў на рэспубліканскім радыё. Каб яшчэ больш падтрымаць і падахвоціць маладога аўтара, я ўжо меў намер перадаць іх у «Чырвоную змену», каб іх там надрукавалі. З маёй прадмоўкай. Я гэта рабіў не ўпершыню, і Алесь Бадак, які кансультаваў у газеце, таксама быў не супраць майго такога апякунства маладых паэтаў. Аднак чым далей, тым болей і болей працягваў падточваць унутранае пачуццё чарвячок сумнення, з кожным новым прачытаннем гэтых вершаў пачаў разумець: я ж іх дагэтуль ужо ў некага чытаў! Але ў каго? Ці не ў таго ж Сербантовіча? Не зусім звычайная рыфмоўка і гэтыя «у». Анатоль вельмі часта, амаль у кожным вершы рабіў такія граматычныя, здавалася б, парушэнні: дзеля захавання рытмікі радка не скарачаў «у» пасля галосных літар. І ў вершах Юркі С. — такі ж малюнак. Няўжо прыглянуліся яму Анатолевы вершы, і ён не ўтрымаўся ад спакусы стаць літаратурным злодзеем? А як яны трапілі да яго, з якога зборніка? Сумняваўся, што праз пятнаццаць гадоў мог адшукацца ў нейкай бібліятэцы, скажам, той жа зборнік лірыкі «Жаваранак у зеніце», не кажучы ўжо пра кніжкі ранейшага часу. Але чым чорт не жартуе, хіба цяжка зверыцца? Тым болей, што гэтага сіне-блакітнага «Жаваранка» доўга шукаць не трэба на кніжнай паліцы: як і «Міннае поле» з аўтографам аўтара я трымаў яго пад рукою.

Гартаючы зборнік старонку за старонкай, я спачатку не мог зачапіцца за ніводзін радок, які б выклікаў падазрэнне на плагіят. Пачало падкрадвацца сумненне: можа, я памыліўся, можа, дарэмна хачу абвінаваціць хлопца ў такім грахоўным учынку? Калі ж дачытаўся да вершаў са зборніка «Пярсцёнак» і да «З неапублікаванага» сумненні мае канчаткова рассеяліся: адсюль, з гэтай

кніжкі перапісаў Юрка С. вершы, з якімі дэбютаваў на нашай «Купалінцы» і паспеў набыць ужо, хоць толькі радыйна-эфірныя, але ж — дэвідэнды! Паспеў праславіцца! Не адзін і нават не пяць, а ўвесь той жмут вершаў, якія ён перадаў мне, былі «пазычаны» з кнігі Анатоля Сербантовіча.

Каб асабліва не раніць няўдачнага шукальніка паэтычнай славы, параіўшыся з кіраўніцай школьнага гуртка, я вырашыў не выносіць гэты ўчынак Юркі С. на разгляд чарговага пасяджэння «Купалінкі». Дамовіліся, што настаўніца пагаворыць з ім сам-насам, без лішняга розгаласу. Але ж, як кажуць, шыла ў мяшку не ўтоіш, усё нейкім чынам стала вядома купалінцам і яны перапытвалі ў мяне з недаўменнем: «Няўжо гэта праўда? Няўжо Юрка мог пайсці на такое?» Толькі сам віноўнік гэтага не чуў, ён болей не з’явіўся ў нас. Праўда, праз настаўніцу папрасіў у мяне прабачэння...

Адно парадавала ў гэтым здарэнні: відаць, моцна ўсё ж кранулі за сэрца вершы Анатоля Сербантовіча, раз малады хлопец, яшчэ школьнік, захацеў раптам прычыніцца да іх аўтарства, выдаць за свае? А я, дзякуючы Анатолю, змог прыпыніць яго на пачатку дарогі, якая, магчыма, магла б прывесці да шмат якіх непрыемнасцей у жыцці самога Юркі С., а таксама супрацоўнікам рэдакцый, хто б па недасведчанасці прапусціў «яго» вершы ў друк... Колькі на маім вяку такога здаралася!..

## «Чаму у нас паэтаў — як бяроз...»

Здаецца, толькі ўчора было: стаім над укрыжаваным жвірыстым пагоркам, які патанае ў жывых кветках ды вянках, не хаваючы слёз, развітваемся з Анатолем, а мінула ўжо... аж сорак пяць гадоў! Можа, цяжка ўжо аднавіць у сховах памяці да драбніц, якім выдаўся той сакавіцкі дзень, ці неба ў хмурынах было, ці сонца радавала, адно засталося незагойным — туга і смутак, якія не давалі прабіцца ў тыя хвіліны ў душу кожнага з нас праблескам скупога цяпла ранняй вясны. Ды пацямнелы снег, што лапікамі шарэў сярод магільных узлобкаў і крыжоў, хоць стрымана, ды слязіўся раўчучкамі, нібыта таксама плакаў, паддаўшыся смутку заўчаснага расстання з паэтам.

Жменькі жвіру перунамі
Б’юць у дамавіны дах.
Пачала расці між намі
І табою розніца ў гадах.

Горка нам — былым тваім суседзям
І сябрам тваім усім.
Ці пазнаеш, як прыедзем
Да цябе праз многа зім?

У жалобных соснах бачым,
Ручаёк, другі прабег, —
Гэта пацямнеў і плача
Твой апошні снег...

Гэта — не маё, гэта — радкі, якія ўплёў у вянок памяці нашага сябра пасля развітання з ім Мікола Маляўка. Я не чакаў, што ён, выбіраючыся са мною спахмурнелым лістападаўскім днём, якраз на Дзяды, у адведзіны да Анатоля, прыхапіў лісток з вучнёўскага сшытка (быццам ведаў яго ўлюбёнасць даверыць свае думкі і радкі вучнёўскім сшыткам!), узнавіўшы на ім радкі свайго даўняга прысвячэння, каб перадаць яго мне: «Можа, спатрэбіцца. А я там, на могілках, яго ў думках прачытаю...»

Не памыліўся: яшчэ як спатрэбіўся! Магчыма, ён не заўважыў, а мне адразу кінулася ў вочы, як хмурынка задуменнасці ўпала на бесклапотныя, здавалася б, твары маёй дачкі Насці і зяця Вячаслава, калі гэты рукапісны лісток пабываў у іх руках. У той дзень яны таксама падахвоціліся далучыцца да нашай паездкі на Усходнія могілкі, на магілу паэта, пра якога абодва пачулі ці не ўпершыню, і цяпер, па ўсім відаць, наша жаданне выбрацца туды яшчэ бліжэй перадалося і ім...

Прыкупіўшы ў прымогілкавай крамцы даволі сімпатычны букет кветак, штучных, але мала адрозных ад жывых, якімі загадзя дома запасся Мікола, крышку апярэдзіўшы маіх маладых сямейнікаў, паволі ступаем з ім нібы праз гранітны лес, прыглядваючыся да надмагільных пліт і помнікаў, сустракаючы сярод іх імёны знаёмых нам людзей, хто таксама знайшоў апошні спачын пад шатамі Усходніх могілак, — Пімен Панчанка, Кастусь Кірэенка, Уладзімір Караткевіч, Яўгенія Янішчыц, Анатоль Грачанікаў, Алесь Бачыла, Еўдакія Лось... Да магілы Анатоля Сербантовіча асфальтаваная, даўняга покрыва, дарожка вывела зусім нечакана. Думалася, што яе заўважым яшчэ здаля. Па тых жа, знаёмых мне... драўляных статуях і ланцугах, бо такою бачылі магілу яшчэ нядаўна ўсе, хто не забываў сцяжыну сюды, а тут раптам... Ні статуй, ні ланцугоў... Можа, такая нязвычная «аздоба» ўскрай самай дарожкі, побач з дыхтоўнымі помнікамі, некага бянтэжыла ці адпалохвала, і таму адпаведным службам захацелася прыбраць іх адсюль? А можа, ад няўмольнасці часу страцілі ранейшы выгляд, падгнілі і з’еліся ржою, сталі сапраўды лішнімі, непрыгоднымі? Ці хто са сваякоў распарадзіўся — былая жонка Валянціна, сёстры?..

Адкрытая з усіх бакоў, нейкай безабаронна-сціплай, нават сіратлівай, падалася нам Анатолева магіла ў той момант. Не, не закінутай і забытай асабліва, у палоне дзірвану і цырбулёў пустазелля, не. Адчувалася, нехта час ад часу прыглядае за ёй, нават пабываў тут да нашага прыходу: каля пліты з партрэтным адбіткам паэта стаяць лампадкі з запасам свечачак, прыхаваных, быў карабочак, у іх асяродку. Хтосьці прадумаў усё да дробязі. Яшчэ не паспелі збуцвець і страціць сваёй першапачатковай прывабнасці букеты штучных кветак. Зялёнымі свечкамі цягнуцца ўгору, набіраючы росту, пасаджаныя кімсьці туйкі. Дай бог ім выжыць, тады, можа, яны паўстануць тут жывой агародкай, прывабнай для людскога вока, блакіту і сонца адшуганых вёснаў, што падарылі яму, паэту, ласку зямнога жыцця і голас ранняга жаваранка. Але... Пачуццё нейкай вінаватасці раптам зварухнулася ў грудзях, застукала, нібы малаточкам, у скронях: «Прабач, Толя, за такую прыкрасць, за доўгі шлях да тваёй самоты, пакінуўшы цябе сам-насам з ёю, з гэтай саснова-хваёвай вусцішнасцю...»

Над намі, у кронах соснаў ды хваін чуецца подых ветру, таямніча шумяць разгайданыя ім кашлатыя галіны, быццам дзеляцца з нябёсамі, спавітымі ў зажураныя аблачыны асенняга дня, гаманлівай радасцю вышыні, а ўнізе, на зямлі, усё ахінула мройна-дрыготкая цішыня, такая, што чуваць, як узмоцнена затахкала сэрца, нібы загадала раптам: «Пастой, памаўчы! Не парушай сваімі крокамі і дыханнем гэтыя спакой і цішыню, іх вечны сон! Яны самі пра гэта табе ніколі не скажуць...» І мы, ужо ўчатырох, моўчкі кладзём кветкі да шэрага каменя, учытваемся ў радкі, выбітыя на ім: «Не думайце з трывогаю пра вечнасць...» Іх Анатоль склаў яшчэ пры жыцці, калі пра гэту вечнасць у яго думках-намерах і закіду не было. А сталася ж, як сталася...

Заўважыўшы россып жаўтлява-падружоўленых бярозавых лісточкаў, што, як матылькі, прыпалі да вільготнай пліты, углядаюся наўкол, шукаю вачыма постаці бяроз. Дзіўна: толькі дзве ці тры іх заўважаю недзе там, удалечыні

ад гэтага куточка, сярод зялёна-чупрынных гонкіх соснаў-старажылаў, што ўзялі пад надзейную ахову цішыню і спакой гэтага шаноўнага сталічнага пагосцішча. Па ўсім відаць, парывісты вецер, які асмельваецца парушаць іх, свавольна сарваў гэтыя лісткі з пазалочанага восенню вецця і занёс сюды, быццам ведаў, што Анатоль вельмі любіў бярозы і ў многіх вершах не хаваў сваёй жывой закаханасці ў іх. Бярозы былі для яго «як сімвал нашай чысціні», ён параўноўваў іх з дзяўчатамі з балета, з градуснікамі лесу і свечкамі. Я ж вяртаўся з Міколам Маляўкам на прыпынак, а ў галаве — і ў маёй, і ў яго, напэўна, — зноў ажылі радкі, якія калісьці прыводзілі ўсіх нас у захапленне не проста глыбінёй паэтычнага ўяўлення, незвычайнай пранікнёнасцю, але і глыбокім філасофскім зместам, зрабіўшы гэты верш ураз хрэстаматыйным: ён зачароўвае, яго хочацца паўтараць, як тую песню...

Чаму у нас паэтаў — як бяроз,
Чаму у нас бяроз — нібы паэтаў,
І цёпла сэрцу ў студзеньскі мароз,
І нават самай цёмнай ноччу светла?

І вецер мне шапнуў тады: «Бяроз
У нас так многа ў вёсках і на полі
Таму, што імі асвятлялі лёс
І цёмную цяжкую долю».

А лес трывожнай бронзай празвінеў:
«Таму так многа ў нас было паэтаў,
Каб за усіх, хто гаварыць не ўмеў,
Яны пра край наш расказалі свету».

Таму у нас паэтаў — як бяроз,
Таму у нас бяроз — нібы паэтаў,
І цёпла сэрцу ў студзеньскі мароз,
І нават самай цёмнай ноччу светла.

Толькі да крыўднага, да болю шкада, што ніхто і нішто ў гэтым жыцці не можа абараніцца, уратавацца ад немінучасці лёсу: у бяроз заўчасна забіраюць адвечную красу і жыццё бязлітасныя пілы ды сякеры, а ў паэтаў — няўмольная касінерка смерць і сырая зямля. Свая зямля, змалку родная, як хатні парог, але ж усё роўна — сырая...

За адно будзем удзячныя лёсу: з людзьмі застаюцца памяць і песні. Як і пра цябе, Анатоль, як і твая шчымліва-пранікнёная песня. «Гэта песня плыве над зямлёй, // Праплывае праз зімы і леты. // Гэта песня, якая табой // Напрадвесні была недапета». Каб ты ведаў і пачуў, каб сказаць табе гэтыя словы, мой і твой сябар Хведар Чэрня таксама ў жаўрукова-сакавіцкае ранне пайшоў услед за табою праз трынаццаць гадоў (якое нешчаслівае супадзенне, які выбрык лёсу!), не сказаўшы нам свайго развітальнага: «Бывайце!»

Ці сустрэліся там? З адказам, Толя, не спяшайся...

Не хацелася верыць у выпадковасць тваіх выпакутаваных слоў, ды, верагодна, твая праўда была, калі ты прароча сказаў: «Тых, з кім дзеліцца неба сакрэтам, // Маладым забірае зямля».

І яшчэ ў адным хачу пагадзіцца з табою, з тваёй прадбачлівасцю: «Фіміям курыць цяпер не ў модзе. // Можа, можа потым праз гады // Хтосьці назаве нас у народзе, // Як паэтаў шчасця і бяды». Гэта ўсё ж болей — пра сябе самога, пра цябе...



**Аксана ШАЛАК**

# НОВЫ СУСВЕТ НАРАДЗІЎСЯ

## НАШЫ МАЛІТВЫ ПРА САД

*З удзельніцай міжнароднай канферэнцыі ў Мінску Аксанай Шалак я сустрэўся ля помніка Францішку Скарыну, які знаходзіцца ў будынку філалагічнага факультэта БДУ. Мінаюць вёсны і восені, а незабыўны позірк вачэй паэта, навукоўцы з Кіева праяўляецца праз кожны тэкст яе верша. Украінскую фалькларыстку цікавяць праявы беларускай вуснай традыцыйнай культуры. І я ў палоне маўлення-малення прыдзвінскіх землякоў, іх песенна-абрадавай зычнасці.*

*Таму перастварацъ усплёскі натхнення Аксаны Шалак — вялікая для мяне радасць ад спрычынення з арыгінальнай творчасцю. Тым больш, што кіяўлянка ўмее падбадзёрыць незвычайным прытуленнем слова. На працягу значнага часу нашага творчага супрацоўніцтва яна пасапраўднаму прырадніла мяне, даўняга львоўскага навучэнца, да разлеглай Украіны.*

*Вось некаторыя яе выказванні з нашай багатай перапіскі: «...Вашы пераклады — глыток жывой вады, бо Вы так глыбока разумееце тое, што мне хацелася сказаць, так лёгка і натхнёна гаворыце ад майго імя».*

*Мне карысна было прачытаць пра філасофію перакладу і такое меркаванне супрацоўніцы Інстытута мастацтвазнаўства, фалькларыстыкі і этналогіі: «Перакладчык не толькі адкрывае свайму народу святло іншай літаратуры — ён фармуе бачанне, адчуванне сваёй літаратуры ў кантэксце іншых. Хай Гасподзь дае моцы і далей несці такі нялёгкі, але такі патрэбны тлумацкі крыж!»*

*Рады я, што службу тлумачыць сама Аксана нясе з высакароднай напругай.*

*Пажаданні яе клікалі мяне да новых узлётных высілкаў. І прадчуванні, патаемныя спадзяванні мае займелі новы сэнс. Кіеўская пошта ўзбуджала: «Я паставіла набор Вашых перакладаў поруч сваіх вершаў: займела надзею ўкласці вось такі сумесны зборнічак пад назваю «Малітва пра сад».*

*Задумка Аксаны незвычайная. Тут выяўляецца ўвесь яе характар апантанага творцы. Хай высокае Неба пракрэсліць новы кіева-мінскі мерыдыян!*

***Сяргей ПАНІЗНІК***

* * *

А потым і ўздыхаць забудзем,
Відзежа ўснежанай начы
Пранікне нам глыбока ў грудзі.
Мы, носьбіты святой свячы,
Уздымімся кудысьці ў неба —
На шлях дзіцячага малення.
Прасіць, наш Бог, мы будзем хлеба,
Каб колькі Ты, хоць не адразу,
Падняў з пакутлівых каленяў.
І расхінеш Ты рызы ў стэпе,
Каб анямелымі вачыма
Убачыць нам: празрысты гон
Раскрыленыя коні студзяць.
А там, дзе ўснежаны атлас,
У смутку вершнікі — не суддзі —
Шлях Продкаў згортваюць з-пад нас.

* * *

І ты заплакаў:
Адрокся тройчы.
А певень крыкам
Прызнаў бяду.
Уткнуўся камнем
У мольбы ночы,
Сляза — жарынкай
У бараду.
Ідзеш да Бога
На апазнанне,
А шлях твой — бездань
Марской вады,
Дзе з кожнай хвалі
Гучыць пытанне:
— Папраўдзе
веры
слугуеш
ты?

---

***Шалак Аксана Іванаўна*** *нарадзілася 14 снежня 1966 года на Вінніччыне ў настаўніцкай сям'і. Скончыла філалагічны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта. Працуе старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, фалькларыстыкі і этналогіі імя Максіма Рыльскага НАН Украіны. Кандыдат філалагічных навук. Удзельніца міжнародных канферэнцый і сімпозіумаў, у тым ліку і ў Мінску.*

*Сябра Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. Аўтар пяці паэтычных зборнікаў. Вершы А. Шалак перакладзены на сербскую, беларускую мовы. Перакладае творы беларускіх паэтаў.*

## НАДЗЕЯ ЎВАСКРЭСЛА

Той сувой з саламандравых нітак
Не баіцца агню і попелу…
Ты вярнуўся, вандроўны злітак, —
Хто ж чакаў цябе Пенелопаю?

Хто свячу ўскалыхнуў і слых,
Над сталом нахіліўся з любошчамі?
Ты скаціўся з аблокаў пустых,
З кім жа стаў прад святымі мошчамі?

І тады запытаў, а чаму
У вачах яе знікла здравіца?
Ціш нямая горш за турму…
І ты згледзіў, як цемра плавіцца.

## * * *

Ты ўсё маўчыш…
Напятае маўчанне!
І як яно гучыць
На ўвесь сусвет …
І час у ім загублены начамі,
Бо звяў той час, як на стале букет.
Няма ў цябе і слоў.
Дзянніцу маеш,
А з ёю дзень і ноч, і сны.
І зноў маўчыш, нібыта лёс чытаеш —
Таміну непрабачанай віны.
О, як маўчыш!
Уеднае зацішша!
Паркан сцяны — і ён стаіць зацята!
Варушыш словы — іх пустэча ліжа.
Агучыш, што між струнамі напята?

## * * *

А тут мы п’ем нектар дажджоў асенніх,
Старым тэрасам аддаем свой здзіў
Начных размоў… І жабянятак цені,
Павук, які дзень з ночкаю спавіў, —
Нам радыя. І яблык гожы
Маладзіком выглядвае з травы…
Мы маладыя. Тое, што не зможам,
Уздымем над каронай галавы.

## МАЛІТВА ПРА САД

Заплюшчыш вочы — аж мігціць,
Трывожна крыламі лапоча.

Няхай ён ціха адляціць,
Няхай пладамі ззяе, Ойча!

Яго прачысты сон — радня:
І мы не дойдзем з ім да слёзаў.
…Дзіцятка  яблык прыпадняў,
Нібы душу святых нябёсаў…

## ТВОРЦА

Уваскрашае ён кветку з попелу,
Час прыпыняе ў нязрушнасці сноў,
У лабірынтах — ад мары да  сполаху —
Губіць прыжухлай рэальнасці схоў.

А на сцяжынах з хімернай зарасцю
Ловіць няўклюдаў сваіх на адпас.
Мерзне намова яго. І зайздрасцю
З кніжных паліцаў не сыдзе да нас?

## ПАКРОВЫ

Тую тугу
Выбавіць
Зможа старэнькі лірнік.
Пад яго пасыламі
Загалосіць,
Госпадзе, аж заякоча ліра:
«Плач, душа грэшная,
Плач наўзрыд!»
І распятая на крыжы,
Зняважаная шальмаваннямі
(Ці ж не бачыць Бог здзекі?!»
Ты ўваскрэснеш.
І для ўсіх недаверкаў
Аб’явішся…
Зіркотная, як слязіна з вачэй,
Украіна…

* * *

Ноч натопчацца — і нябёсы
Асыпаюцца зоркамі сноў.
Сны мае падбіраюць росы
На сцяжынах абвугленых слоў.
Тлее попел. І галавешкі
Параскіданыя на разлог…
Толькі ў небе надзей усмешкі
Зноў з душою вядуць дыялог.

## НАРОДЗІНЫ

Воды прыроды,
Дзе неба зыркоча з плыні,
Дзе з глыбіні вяртаюцца
Забытыя праблісці шчасця, —
Воды тыя, нібыта ў паводку,
Схлынаюць…
І дзіцёначак хакае-хакае,
Напаўняючы радасцю поўны ўздых.
Новы сусвет нарадзіўся.

## СТЭП

Памеркла сонца,
Пікі вострыя навальніц
Захраслі ў грунце.
Табун адзічэлы
Стаптаў капытамі
Стэп —
І вершнікі пакалыхваюцца
У звечаровай сівізне
Тужлівай жаночай
Песні.

* * *

Усё, што знікае
За белым тым аркушам, —
Бялёсае аж занадта…
За аснежжа бялей белізна —
Бель майго белага верша.
Люстэркі вачэй памятаюць цябе —
Мілае дзеўчанё.
Калі б да зачыну вяртацца —
Ты не захочаш абновы.
Тое, што перажыта-абжыта,
За плячыма зырчыць.
Тое, што навідоку, —
Навек абазнана найменнем
Айчына.

* * *

Брама ночы — наросхрыст.
Варты не чуцен тупат.
Сціхлі абшару кросны,
Вуліц замоўклі дуплы.

Праз цішу, снягі і вечнасць
Голасам, нібы джала,
Рэжа хтось пространi вечка...
Лезе з шапочым шалам...
І з даўніны, з адчаю,
З песні, што нервы круціць, —
Крыкам змарнелай чайкі
Смелага цемень будзіць.

* * *

Скрадзены вершніка шлях,
Конь і той у нудзе.
Госпадзі, мо ў вуглях
Вочы ў гэтых людзей?
Божа, скуль насланнё
З павалокай наўскос?
Вершніку скрадзены шлях —
Конь яго ў неба ўрос.
А на зямлі пустэч —
Ні вады, ні агню.
Божы вершнік ляціць:
Гэта знаю, ці сню?
З міфаў даўніх якіх
Той ваяка-ганец?
Што з бязмерных шляхоў
Прынясе пасланец?

***Пераклад з украінскай***
***Сяргея ПАНІЗНІКА.***



Наталля ЯКАВЕНКА

# ПІСЬМЕННІЦКІ ПЕРАКЛАД ЯК МАСТАЦКАЕ МАДЭЛЯВАННЕ СВЕТУ

Кожны літаратурны твор з'яўляецца мастацкай мадэллю свету, а яна, паводле вызначэння Яўгена Гарадніцкага, «гэта найперш структурна-вобразнае ўвасабленне ў творах уяўленняў аўтара пра свет. Пры гэтым аўтар, ствараючы адпаведную мастацкую мадэль свету, выражаючы ў ёй свае ўяўленні, разуменні, адчуванні, і самога сябе ўключае ў гэту мадэль» [2, с. 17]. Адпаведна літаратурны, і асабліва пісьменніцкі пераклад, — таксама мастацкае мадэляванне свету, але больш складанае, двайное мадэляванне, бо ў ім суіснуюць дзве мадэлі свету і дзве творчыя асобы — пісьменнік-аўтар і пісьменнік-перакладчык.

Зразумела, што ствараецца гэтая мадэль паводле агульнай формулы «перакладчык — твор — чытач», але сутнасць пісьменніцкага перакладу насамрэч больш складаная, таму ўмоўна ў дачыненні да яго можна выкарыстаць формулу «пісьменнік-перакладчык — твор — чытач», якая не дазваляе абысці ўвагай асобу перакладчыка і яго манеру мастацкага мадэлявання свету, тым больш, калі перакладчыкамі з'яўляюцца такія выдатныя пісьменнікі, як Максім Гарэцкі і Максім Лужанін.

## 1. Максім Гарэцкі як перакладчык рамана Аляксандра Фадзеева «Разгром»

Таленавіты празаік, крытык, літаратуразнаўца, перакладчык, публіцыст, асветнік, выдавец, грамадскі дзеяч Максім Гарэцкі, як адзначае Тамара Тарасава, «вызначыў свой шлях экзістэнцыялізацыі рэалізму ў беларускай прозе першай трэці XX ст. Пісьменнік узняў праблемы маральных меж, грамадства без Бога, сфармуляваў канцэпцыю суадносін розуму і маралі. Прыём «раздваення душы» выступаў у М. Гарэцкага як «інструментарый» яе аналізу. Памежныя (крызісныя) сітуацыі «ваеннай» прозы беларускага мастака выяўлялі падсвядомыя глыбіні чалавечай душы. Распаўсюджаны ў М. Гарэцкага матыў пакут паглыбляў веды чалавека пра сябе і пра свет, захоўваў у ім асобасныя характарыстыкі… Беларускі пісьменнік паказаў трагічную антынамічнасць свабоды, якая паўставала адначасова як вялікі дар і як цяжар. М. Гарэцкі ўвёў у нацыянальную літаратуру сузіральны тып чалавека з «разарванай» свядомасцю. Экзістэнцыяльны вопыт пісьменніка стаў важным фактарам фарміравання трагічнага светаадчування асобы ў беларускай прозе XX ст.» [14, с. 3—4].

Аналізаваўся аўтарскі пераклад рамана Максіма Гарэцкага «Віленскія камунары», што пісаўся ў палітычнай ссылцы ў Вятцы (1931—1932 гг.), пасля якой адбыўся чарговы арышт. Пазней — у 1934 і 1937 гг. — М. Гарэцкі стварыў два варыянты рамана на рускай мове, але яны так і не выйшлі з друку. Вельмі небяспечнай была праўда, якую паказваў празаік у гэтым творы. Выдатна разумеючы гэта, ён «перастрахоўваўся» падчас аўтаперакладу на рускую мову і жорстка крэсліў свой раман — вялікая асцярожнасць М. Гарэцкага ў асвятленні гістарычных падзей выклікала значную аўтацэнзуру ў перакладзе. У выніку аўтапераклад «Віленскіх камунараў» з'яўляецца не проста рускамоўным варыянтам, а новай

рэдакцыяй твора і разам з тым — знакавым дакументам свайго часу. На падставе гэтых асаблівасцей аўтарскі пераклад «Віленскіх камунараў» смела можна назваць неардынарнай з’явай як у гісторыі беларускай літаратуры, так і ў тэорыі мастацкага перакладу [5; 20].

Аўтаперакладу папярэднічала сур’ёзная перакладчыцкая праца М. Гарэцкага з творамі іншых празаікаў: у 20-я гады ён пераклаў на беларускую мову апавяданні М. Горкага «Канавалаў», «Чалкаш», «Зброднік» і раман А. Фадзеева «Разгром», выдадзеныя ў 1930 г. пад псеўданімам А. Мсціслаўскі, аповесці Ю. Лібядзінскага «Камісары» (пераклад надрукаваны ў 1930 г. пад прозвішчам перакладчыка) і «Тыдзень» (надрукаваны ў 1930 г. без пазначэння прозвішча перакладчыка).

Навуковы аналіз створаных М. Гарэцкім перакладаў апавяданняў М. Горкага зрабіў Міхась Кенька, які акрэсліў перакладчыцкі метад пісьменніка наступным чынам: «Для перакладаў М. Гарэцкага на беларускую мову характэрна імкненне перакладаць творча, удумліва. Ён настойліва шукаў слова, якое найбольш поўна ўбірала ў сябе сэнс рускага адпаведніка, жыло адным жыццём з усёй фразай. У гэтым пераконваемся, калі супастаўляем пераклады М. Гарэцкага з арыгіналамі, з аналагічнымі перакладамі іншых аўтараў» [7, с. 246]. Здзейснены М. Кеньκам аналіз перакладаў М. Гарэцкага яскрава паказвае на выяўленне пісьменнікам-перакладчыкам поўнага спектру перакладчыцкіх здольнасцей — літаратурна-мастацкіх, навукова-даследчых, лінгвістычных і здольнасці да «пераўвасаблення ў перакладаемага аўтара» [17, с. 246]. Гэта не дзіўна, калі, акрамя мастацкага таленту, улічыць шырокае кола творчай і грамадскай дзейнасці М. Гарэцкага і такія якасці яго характару, як адказнасць, мэтанакіраванасць, тактоўнасць і інш.

Пры тым даследчык творчасці М. Гарэцкага Міхась Мушынскі справядліва і своечасова ставіць пытанні выбару ім твораў для перакладу, або перадумоў яго перакладчыцкай дзейнасці: «Якімі мастацкімі крытэрыямі кіраваўся Гарэцкі, вылучаючы з бязмежнага мора расійскага прыгожага пісьменства апавяданні М. Горкага, аповесці Ю. Лібядзінскага, раман А. Фадзеева? Чаму на месцы пералічаных празаікаў не аказаліся імёны тых, у каго ён вучыўся, чый мастацкі вопыт паспяхова засвойваў, напрыклад, Л. Талстога, І. Буніна, А. Чэхава? Ці назіраецца ў ажыццёўленым выбары пэўная заканамернасць? Ці галоўную ролю тут адыгрываў сацыяльны заказ часу, бо гаворка ішла ўсё ж пра творы, у пераважнай большасці сугучныя эпосе барацьбы за ўсталяванне рэвалюцыйных ідэалаў? Атрымаць вычарпальны адказ на пастаўленыя пытанні пакуль што не ўяўляецца магчымым, патрэбны далейшыя сур’ёзныя пошукі, у тым ліку дакументальных матэрыялаў. Але некаторыя папярэднія меркаванні выказаць можна. Так, сацыяльна-грамадская абумоўленасць звароту да твораў М. Горкага, Ю. Лібядзінскага, А. Фадзеева праглядваецца даволі выразна. Сапраўды, і Лібядзінскага, і Фадзеева крытыка 20-х гадоў ацэньвала як найбольш таленавітых, найбольш значных прадстаўнікоў маладой савецкай літаратуры. Аўтарытэт Горкага як заснавальніка гэтай літаратуры па-ранейшаму заставаўся бясспрэчным. Нельга забываць і пра тое, што перакладзеныя Гарэцкім на беларускую мову творы выйшлі з друку ў 1930 г., калі пагрозлівая атмасфера вакол пісьменніка ўвесь час згушчалася, а 18 ліпеня таго ж года ён быў арыштаваны. Гэтыя факты наводзяць на думку, што М. Гарэцкі, улічваючы ўсе акалічнасці, мог пагадзіцца з прапанаваі перакласці творы, якія, магчыма, не адпавядалі цалкам яго светапогляднай арыентацыі, але, па-першае, былі сугучныя тагачасным ідэалагічным устаноўкам. Па-другое, апавяданні Горкага, раман Фадзеева — гэта ў рэшце рэшт не павярхоўная белетрыстыка, не займальная чытаніна, а творы, прыналежныя да класікі рускай літаратуры і высока ацэненыя крытыкай і чытачом» [10, с. 405].

Акрамя таго, М. Гарэцкі — удзельнік Першай сусветнай вайны (у якасці бамбардзіра-тэлефаніста 2-й батарэі 27-й артылерыйскай брыгады прымаў удзел у зацяжных баях ва Усходняй Прусіі і за мужнасць, праяўленую ў час бою пад г. Аленбургам 27 жніўня 1914 г., узнагароджаны Георгіеўскім крыжам 4-й ступені; праз два месяцы быў цяжка паранены ў нагу і доўга лячыўся ў шпіталях),

а Ю. Лібядзінскі і А. Фадзееў — удзельнікі Грамадзянскай вайны, «і яму як аўтару «Сібірскіх абразкоў», «Люстрадзёна», — піша М. Мушынскі, — таксама пабудаваных на асабістых назіраннях, на матэрыяле бягучага жыцця, было цікава паназіраць, як непасрэдныя ўдзельнікі ўвасаблялі свае думкі, перажыванні ў мастацкім вобразе, як яны асэнсоўвалі канкрэтныя факты, з'явы і якой аказалася пабудова гэтых аповесцей і рамана. Прычым паназіраць не на чытацкім, а, як і ў выпадку з апавяданнямі Горкага, на прафесійным узроўні за трансфармацыяй разрозненых фактаў, жывой эмпірыкі ў мастацкую цэласнасць. Не менш актуальным было і другое пытанне: як маладыя савецкія пісьменнікі, носьбіты «перадавога марксісцка-ленінскага светапогляду», практычна ажыццяўлялі ідэалагічную ўстаноўку партыі на стварэнне вобраза новага чалавека, актыўнага, дзейснага, прасякнутага прагай рэвалюцыйнага абнаўлення старога свету, як яны вырашалі праблему народ і інтэлігенцыя. Ды і чыста мастакоўскія аспекты — шляхі станаўлення характару героя, суадносіны грамадскага і асабістага, маральнае аблічча рэвалюцыянера і г. д. — таксама ўяўлялі для беларускага пісьменніка жывы інтарэс.

І тут, несумненна, вопыт новай генерацыі савецкіх празаікаў для Гарэцкага аказаўся зусім не лішнім, бо і «Сібірскія абразкі», і «Люстрадзён», у якіх дзейнічалі сучасныя пісьменніку героі, яшчэ чакалі свайго працягу і завяршэння. Таксама і ў «Камароўскай хроніцы» аўтар выходзіў на актуальныя праблемы, народжаныя супярэчнасцямі новага паслярэвалюцыйнага часу.

Сапраўды, у рамане Фадзеева мы знаходзім багата жорсткай праўды пра Грамадзянскую вайну і партызанскі рух на Далёкім Усходзе. Напрыклад, галоўны герой «Разгрому» Левінсон, калі партызанскі атрад трапіў у цяжкую сітуацыю, ідзе на рабаўніцтва мясцовага насельніцтва, забірае прадукты харчавання, а цяжка параненага партызана Фралова фактычна асуджае на смерць. Быў расстраляны кулак, які выдаў белым Мяцеліцу. Як бачым, партызанская вайна не ідэалізавалася, яна была адлюстравана праўдзіва, у традыцыях рэалістычнага мастацтва. Выключная папулярнасць рамана «Разгром» у чытацкім асяроддзі і высокая ацэнка крытыкі яшчэ раз пераканалі Гарэцкага ў тым, што толькі паслядоўная арыентацыя пісьменніка на вострыя сацыяльныя супярэчнасці, па-грамадзянску смелае адлюстраванне праўды жыцця, раскрыццё канфлікту праз лёсы канкрэтных людзей можа забяспечыць твору надзейны поспех. І яшчэ для рамана Фадзеева былі характэрны адсутнасць дэкларатыўнасці, адказ ад публіцыстычна аголенага раскрыцця тэмы. Пільная ўвага да псіхалагічнага стану героя, да перажыванняў дзеючых асоб і іх асабістых стасункаў (Марозка — Вара — Мечык) таксама дапамагала пісьменніку стварыць глыбока праўдзівы мастацкі дакумент эпохі» [10, с. 408—409].

Такім чынам М. Мушынскі тлумачыць сутнасць першай перадумовы перакладчыцкай дзейнасці Максіма Гарэцкага — эмпатыі. Пры тым, у дачыненні да перакладу рамана А. Фадзеева «Разгром», варта дадаць наступнае. Тагачасныя крытыкі «Разгрому» «віталі скіраванасць пісьменніка да "заглыбленага псіхалагізму"» [15, с. 5], якім вызначаецца таксама творчасць Максіма Гарэцкага. Гэта значыць, што яго эмпатыя да рамана А. Фадзеева мае вельмі важны кампанент — блізкасць творчай манеры, што грунтуецца на блізкасці светаўспрымання і, адпаведна, на блізкасці мастацкага мадэлявання свету, пра што па сутнасці сказаў М. Мушынскі.

І ёсць яшчэ адзін эмпатычны кампанент, не ўлічаны даследчыкам, — суперажыванне М. Гарэцкага герою твора А. Фадзеева Мечыку, які атрымаў цяжкое раненне ног і ляжаў у шпіталі. Акрамя таго, вобраз партызана Фралова, несумненна, таксама быў добра «знаёмы» М. Гарэцкаму — падчас свайго лячэння ў шпіталях ён бачыў падобных людзей і глыбока суперажываў іх трагічным лёсам, што неаднойчы выразіў у арыгінальнай творчасці на ваенную тэматыку. Гэта тое самае «фонавае веданне» — жыццёвы досвед пісьменніка-перакладчыка, якое адыгрывае не апошнюю ролю пры выбары твора для перакладу і падчас працы над ім.

Аднак звернемся непасрэдна да перакладу рамана «Разгром», створанага М. Гарэцкім.

Заўважанае М. Кенькам імкненне пісьменніка-перакладчыка перастварацъ апавяданні М. Горкага «творча, удумліва» выразна выяўляецца і ў перакладзе рамана А. Фадзеева. Як і тады, М. Гарэцкі «настойліва шукаў слова, якое найбольш поўна ўбірала ў сябе сэнс рускага адпаведніка, жыло адным жыццём з усёй фразай», чаму ёсць наступныя пацвярджэнні.

Урывак з арыгінала:

*«Напевным голоском, как деревенский дьячок, Пика рассказывал о сыне — бывшем красногвардейце.*

*— Да-а… Приходит это он до меня. Я, конешно, сидю на пасеке. Ну, не видались давно, поцеловались — дело понятное. Вижу только, сумный он штой-то… «Я, говорит, батя, в Читу уезжаю». — «Почему такое?..» — «Да там, говорит, батя, чехословаки объявились». — «Ну-к что ж, говорю, чехословаки? Живи здесь; смотри, говорю, благодать-то какая?..» И верно: на пасеке у меня — только шти не рай: березка, знаишь, липа в цвету, пчелки… в-ж-ж… в-ж-ж…»* [15, с. 34—35].

Пераклад:

*«Пявучым галаском, як вясковы дзячок, Піка апавядаў пра сына — былога чырвонагвардзейца.*

*—Та-ак… Прыходзіць гэта ён да мяне. Я, канечне, сядзю на пасецы. Ну, не бачыліся даўно, пацалаваліся — справа вядомая. Бачу толькі, сумны ён штосьці… «Я, — кажа, — татуль, у Чыту выязджаю». — «Чаму гэта так?..» — «Ды там, — кажа, — татуль, чэхаславакі з'явіліся». — «Ну дык што-ж, — кажу, — чэхаславакі?.. Жыві тут; глядзі, — кажу, — дабрыня якая?..» І праўда: на пасецы ў мяне — як не рай: бярозка, ведаеш, ліпа цвіце, пчолкі… ж-ж-ж… ж-ж-ж…»* [16, с. 16].

У мастацкім творы іншамоўныя, або дыялектныя ці размоўна-бытавыя, як у дадзеным выпадку ў творы А. Фадзеева, элементы з'яўляюцца стылістычным сродкам стварэння мастацкага вобраза. Але падчас перастварэння на блізкароднасную беларускую мову, якая ў сваёй літаратурнай традыцыі мае народна-гутарковую аснову, выкарыстанне падобных тэхнічных прыёмаў або цалкам адпадае, або колькасна і якасна змяншаецца. Захаванне аўтарскага стылю ў такіх выпадках вымагае ад перакладчыка большага творчага пошуку, чым звычайна.

Падкрэсленыя фрагменты тэксту ў прыведзеных прыкладах з арыгінала і перастварэння паказваюць на тыя «падводныя камяні», з якімі сутыкнуўся М. Гарэцкі, і якія не дазволілі яму зрабіць поўнасцю рэлевантны пераклад — ёсць змястоўная і фармальная рэлевантнасць, але з мастацкага боку перастварэнне іррэлевантнае, бо мастацкі вобраз страціў частку сваёй каларытнасці. Віной таму не недахоп літаратурна-мастацкіх і лінгвістычных здольнасцей пісьменніка-перакладчыка, а, кажучы тэхнічнай мовай, супраціўленне матэрыялу.

Арыгінальная фраза «Приходит это он до меня» цалкам не адпавядае літаратурнаму стылю рускай мовы, але адпавядае яе простамоўнаму стылю, таму і была ўжытая аўтарам для характарыстыкі героя твора — вясковага дзядзькі. Аднак у падкрэсленых фрагментах выраз адпавядае і гутарковаму, і літаратурнаму стылю беларускай мовы. Яна не магла быць перакладзена іншым чынам, акрамя як «Прыходзіць гэта ён да мяне», таму страты каларытнасці і адметнасці выказвання былі непазбежныя.

Ужытае ў арыгінале слова «конешно» перадае простамоўны стыль з дапамогай адной літары — «ш» замест «ч», але змененая такім жа чынам літара ў перакладзе не адыграла б такой жа ролі, таму што беларускай мове ўласцівае вымаўленне гэтага слова менавіта як «канешне», і дапускаецца адпаведнае напісанне.

Арыгінальнае слова «сумный» з'яўляецца ўкраінізмам (утворана ад украінскага «сумний», блізкага да беларускага «сумны») і ў перакладзе на беларускую мову не можа выглядаць інакш як «сумны».

Рускае размоўнае слова «батя» таксама паходзіць ад украінскага «батько», падобнага да беларускага «бацька», якое ў адпаведнай рускаму маўленню форме — «баця» было б нязвыклым і выбівалася б з агульнага стылю выказвання. Таму М. Гарэцкаму давялося шукаць нестандартны, але арганічны для беларускай мовы адпаведнік. Выкарыстанае ім слова «татуль» мае памяншальна-ласкальнае адценне, якое не зусім адпавядае выкарыстанаму ў арыгінале слову, але «жыве адным жыццём з усёй фразай».

І, нарэшце, выказванне «только шти не рай». Яго простамоўны стыль стварае неадпаведная рускаму літаратурнаму стылю сінтаксічная канструкцыя і слова «шти», ужытае на ўкраінскі манер. Фармальна рэлевантны пераклад на беларускую мову выглядаў бы як «толькі што не рай» і не надаў бы асаблівага каларыту, зноў жа дзякуючы натуральнасці для беларускай мовы падобнага словаўжывання. Выкарыстаная М. Гарэцкім змястоўна рэлевантная, але фармальна ірэлевантная форма «як не рай» таксама не прыўносіць патрэбнага каларыту, але яна не настолькі пашыраная, як магчымая фармальна рэлевантная канструкцыя фразы.

Такім чынам, частковую рэлевантнасць перастварэння ў дадзеным выпадку вызначылі, кажучы словамі Аляксандра Лукашанца, «адрозненні гістарычных шляхоў развіцця беларускай і рускай літаратурных моў, апора на кніжную традыцыю рускай мовы і, як вынік, наяўнасць вялікага пласта старaславянізмаў, у тым ліку і словаўтваральных, з аднаго боку. А з другога боку, перапынак пісьмовай традыцыі і народна-гутарковая база новай літаратурна-пісьмовай беларускай мовы. Усё гэта прадвызначыла неаднолькавую прадуктыўнасць адных і тых жа словаўтваральных сродкаў у супастаўляльных мовах і розную лексічную спалучальнасць (словаўтваральную валентнасць)» [9, с. 308].

Выкарыстаная М. Гарэцкім у межах лінгвістычных магчымасцей беларускай мовы перакладная словаўтваральная валентнасць — «здольнасць слова ці фразеалагізма спалучацца з іншымі словамі (фразеалагізмамі)» [13, с. 41]. дапамагла стварыць яму ў цэлым адэкватны, але часткова рэлевантны пераклад, што дае падставы для адпаведных тэарэтычных развaг.

Адэкватнасць перастварэння — гэта яго стылістычная і сэнсавая адпаведнасць арыгіналу, «функцыянальная раўназначнасць элементаў арыгінала і перакладу. Замена элементаў арыгінала пры перакладзе такім спосабам, каб інварыянтнае падабенства значэнняў і іх стылістычная каштоўнасць былі ідэнтычныя» [11, с. 197].

Рэлевантнасць перастварэння — адпаведнасць перакладнога тэксту, або яго асобных элементаў, арыгінальнаму, якая разам са стылістычнай і сэнсавай эквівалентнасцю дае практычную і сацыяльную прымяняльнасць перакладу ў іншамоўным і іншакультурным асяроддзі.

Адэкватнасць з’яўляецца галоўнай праблемай і задачай перакладу. Рэлевантнасць — важны кампанент перакладу, які адыгрывае рашаючую ролю ў працэсе чытацкага ўспрымання перакладнога тэксту. Поўная ці частковая адсутнасць рэлевантнасці (ірэлевантнасць) стварае пэўную эстэтычную дыстанцыю паміж перакладным творам і чытачом, нават пры ў цэлым адэкватным перакладзе, які дазваляе мова перакладу.

Але, як відаць з разгледжанага прыкладу перастварэння, ірэлевантнасць можа быць вымушанай, абумоўленай моўнымі законамі і магчымасцямі, у прыватнасці магчымасцямі словаўтваральнай валентнасці мовы перакладу. У такім выпадку яна не з’яўляецца памылкай перакладчыка, не можа ставіцца яму ў віну і не можа быць паказчыкам яго перакладчыцкага метаду і перакладчыцкіх здольнасцей.

Прыведзены вышэй урывак з арыгінала і перакладу выключны для рамана «Разгром». Ніжэй прыводзяцца найбольш характэрныя для перакладчыцкай творчасці Максіма Гарэцкага прыклады.

Арыгінал:

*«— Свезешь в отряд Шалдыбы, — сказал Левинсон, протягивая пакет. — На словах передай… впрочем, не надо — там все написано.*

*Морозка недовольно отвернул голову, заиграл плеткой — ехать не хотелось. Надоели скучные казенные разъезды, никому не нужные пакеты, а больше всего нездешние глаза Левинсона…*

*«Жулик», — подумал ординарец, обидчиво хлопая веками…»* [15, с. 25].

Пераклад:

*«— Завязеш у Шалдыбін атрад, — сказаў Левінсон, даючы пакет. — На словах перакажы… урэшце не трэба — там усё напісана. — Марозка нездаволена адвярнуў галаву і заняўся махаць бізуном — ехаць не хацелася. Абрыдлі нудныя казённыя раз'езды, нікому непатрэбныя пакеты, а больш за ўсё — нетутэйшыя Левінсонавы вочы…*

*«Круцель, — падумаў ардынарац, крыўдна лупаючы павекамі…»* [16, с. 3].

Падкрэсленыя фрагменты тэксту паказваюць на змястоўную і мастацкую рэлевантнасць пры фармальнай ірэлевантнасці перакладу, што ўсё разам дае эфект адэкватнага і вельмі добрага з мастацкага боку перастварэння і паказвае найперш на літаратурна-мастацкія здольнасці (якія з'яўляюцца вырашальнымі, дамінуючымі ў перакладчыцкай практыцы пісьменніка), а таксама навукова-даследчыя і лінгвістычныя перакладчыцкія здольнасці М. Гарэцкага.

Разгледзім гэтыя прыклады падрабязна: «отряд Шалдыбы» — «Шалдыбін атрад», «заиграл плеткой» — «заняўся махаць бізуном» — змены сінтаксічных канструкцый у перакладзе, зробленыя, хутчэй за ўсё, з мэтаю наблізіць тэкст да характэрнага для беларусаў стылю маўлення; «надоели» — «абрыдлі», «скучные» — «нудныя» — словы не аднасэнсоўныя, але блізкія паводле сваіх канатыўных значэнняў, прычым пераклад узмацняе псіхалагічную афарбоўку слоў, ужытых у арыгінале. Падобна, што, з пункту гледжання М. Гарэцкага, літаральны пераклад («надоели» — «надакучылі», «скучные» — «сумныя») быў бы фармальна рэлевантным, але не дастаткова яркім, каб перадаць псіхалагічнае напружанне героя твора.

Трэба сказаць, што калі б у арыгінале замест слоў «надоели» і «скучные» былі ўжытыя адпаведныя беларускім «опротивили» і «нудные», псіхалагічны малюнак толькі б выйграў. Падобнае назіраецца і ў наступным прыкладзе — «жулик» — «круцель», дзе падабранае пісьменнікам-перакладчыкам слова найбольш адпавядае намаляванай аўтарам псіхалагічнай сітуацыі.

У перакладзе М. Гарэцкага сустракаюцца выпадкі, дзе ён дазваляе сабе яшчэ больш «папраўляць» А. Фадзеева, прычым, як гэта ні дзіўна, на карысць твору.

*«Он посмотрел на свои тонкие, исхудавшие пальцы, ноги под одеялом, скованные лубками, и старые, загнанные внутрь обиды вспыхнули в нем с новой силой, и душа его сжалась в смятении и боли»* [15, с. 42].

*«Ён паглядзеў на свае тонкія, схудзелыя пальцы, ногі пад коўдраю, скутыя лубкамі, і старыя, загнаныя ў нутро крыўды ўспыхнулі ў ім з новаю сілаю, і душа яго сціснулася, як паранены звярок, у балючым непакоі»* [16, с. 25].

Аўтарская фраза «и душа его сжалась в смятении и боли» лаканічна і строга, але дастаткова добра перадае псіхалагічны стан героя твора. У перакладзе — «і душа яго сціснулася, як паранены звярок, у балючым непакоі» мы бачым не проста выразны, а шчымлівы псіхалагічны малюнак, дзе прыўнесеная перакладчыкам мастацкая вобразнасць («як паранены звярок») і мастацкае пераасэнсаванне («в смятении и боли» — «у балючым непакоі») пазбаўляюць фразу «лаканічнай строгасці», паглыбляюць псіхалагізм і тым самым садзейнічаюць большаму чытацкаму суперажыванню і лепшаму ўспрыманню твора ў сістэме, вызначанай формулай «пісьменнік-перакладчык — твор — чытач».

Будучы перакладчыкам, М. Гарэцкі не перастаў быць пісьменнікам, і тут дарэчы згадаць пра сувымернасць талентаў падчас «бязлітаснай барацьбы перакладчыка з перакладаемым аўтарам» (паводле К. Чукоўскага [17]), калі «буйная індывідуальнасць» перакладчыка «сваёй велічынёй можа падавіць» аўтара (паводле І. Кашкіна [6]).

Прыведзеныя прыклады перакладу, як і ўсе наступныя, якія будуць прапаноўвацца ніжэй, сведчаць пра тое, што М. Гарэцкі ні свядома, ні падсвядома не «змагаўся» з А. Фадзеевым. Абодвум пісьменнікам уласціва рэалістычная манера пісьма і псіхалагічная заглыбленасць мастацкага адлюстравання свету, але творчасць беларускага празаіка робіць адметнай тое, чаго няма ў творчасці рускага — тонкая настраёвасць, пачуццёвасць і лірызм. І менавіта гэтыя якасці ён прыўносіць у твор А. Фадзеева, прычым робіць гэта далікатна, не «па-змагарску», а «па-сяброўску», з уласцівымі яму адказнасцю і тактоўнасцю. Такім чынам, «буйная індывідуальнасць» перакладчыка не падаўляе аўтара, але пакідае свой выразны адбітак.

Акрамя таго, гэты і прааналізаваныя вышэй прыклады перакладу сведчаць пра тое, што М. Гарэцкі не змог ці не захацеў «пераўвасобіцца ў перакладаемага аўтара», бо для гэтага неабходна было пазбавіцца ад уласнай пісьменніцкай адметнасці. Наступны прыклад паказвае, як ён «пераўвасабляецца», але не да канца, ілюструючы аксіёму К. Станіслаўскага, паводле якой «чалавек не можа пераўвасобіцца ў вобраз іншага, поўнасцю адмовіўшыся ад самога сябе, ад сваіх уласцівасцей і якасцей» [12, с. 471].

Арыгінал:

*«Вскоре недостаток продовольствия заставил их выйти в соседнюю долину. В течение нескольких дней отряд метался по улахинским притокам, изнывая в боях и мучительных переходах. Незанятых хуторов оставалось все меньше, каждая крошка хлеба, овса добывалась с боем; вновь и вновь растравлялись раны, не успевшие зажить. <u>Люди черствели, делались суше, молчаливей, злей»</u>* [15, с. 98].

Пераклад:

*«Неўзабаве недахоп харчу прымусіў іх выйсці ў суседнюю даліну. У працягу некалькіх дзён атрад кідаўся па улахінскіх прытоках, марнеючы ў баях і цяжкіх пераходах. Незанятых хутароў заставалася ўсё меней, кожная крошка хлеба, аўса здабывалася з боем, ізноў і ізноў растраўляліся раны, не паспеўшы загаіцца. <u>Людзі чарсцвелі, рабіліся няласкавыя, маўклівыя, злосныя»</u>* [16, с. 101].

На першы погляд — поўная рэлевантнасць перакладу. Перакладчык як бы ідзе ўслед за аўтарам, перастварае надзвычай блізка да арыгінальнага тэксту, але ў апошнім сказе, хутчэй за ўсё бессвядома, дапускае змястоўную ірэлевантнасць на ўзроўні тонкіх, амаль няўлоўных сэнсавых адценняў, што не ўплывае на змест і мастацкія асаблівасці прыведзенага ўрыўка ў перакладзе і на адэкватнасць перастварэння, але паказвае розніцу паміж перакладчыцкім і аўтарскім светаўспрыманнем.

У А. Фадзеева — людзі «черствели, делались суше, молчаливей, злей», г.зн. яны раней былі чэрствыя, сухія, маўклівыя і злыя, а перажытыя пакуты дадавалі ім гэтых якасцей яшчэ больш. У М. Гарэцкага — людзі «чарсцвелі, рабіліся няласкавыя, маўклівыя, злосныя», г.зн. раней яны былі ласкавыя, немаўклівыя і нязлосныя, а ваеннае ліхалецце надавала ім адмоўныя якасці і прымушала чарсцвець душой. Акрамя таго, звяртае на сябе ўвагу «замена», створаная М. Гарэцкім, — чалавечую сухасць ён «памяняў» на няласкавасць. Так у перакладзе «сустрэліся» два мастацкія стылі — бескампрамісны сацыялістычны рэалізм і гуманістычна скіраваны «экзістэнцыялізаваны рэалізм» (паводле Т. Тарасавай), а таксама дзве мастацкія мадэлі свету, адна з якіх дазваляе бачыць і адлюстроўваць або толькі чорнае, або белае, а другая дапускае рознакаляровасць, паўтоны і адценні.

Між тым, у перакладзе «Разгрому» нярэдкія выпадкі поўнай рэлевантнасці перастварэння, напрыклад:

*«Мечик не смотрел на него, даже не слушал, но с каждым его словом что-то тихо вздрагивало в нем, словно чьи-то робкие пальцы обрывали в душе с живого стебля уже завядшие листья. «Все это кончилось и никогда не вернется...» — думал Мечик, и ему жаль было своих завядших листьев»* [15, с. 103].

*«Мечык не глядзеў на яго, нават не слухаў, але з кожным яго словам нешта ціха здрыгвалася ў ім, нібы нечыя нясмелыя пальцы ірвалі ў душы з жывога яшчэ сцябла звялае ўжо лісце. «Усё гэта скончылася і ніколі не вернецца...» — думаў Мечык, і яму шкода было свайго вялага лісця»* [16, с. 107—108].

Тут поўная рэлевантнасць была «забяспечана» нячастай для А. Фадзеева і абавязковай для М. Гарэцкага яскравай мастацкай вобразнасцю. Створаны аўтарам малюнак «лёг на душу» пісьменніку-перакладчыку, цалкам супаў з яго светабачаннем і таму атрымаў абсалютна дакладнае адлюстраванне.

Вось яшчэ адно пацвярджэнне таму, што светаўспрыманне і мастацкае мадэляванне аўтара і перакладчыка ў пэўных эпізодах супадала і мела вынікам поўную рэлевантнасць перакладу:

*«Губы его дрогнули, и он заморгал быстро-быстро, удерживая слезы, но они не послушались и потекли, крупные и частые, расползаясь по лицу. Он с головой закрылся одеялом и, не сдерживаясь больше, заплакал тихо-тихо, стараясь не дрожать и не всхлипывать, чтобы никто не заметил его слабости»* [15, с. 45].

*«Вусны яго здрыгнуліся, і ён заміргаў шыбка-шыбка, устрымліваючы слёзы, але яны не слухалі і пацяклі, буйныя і частыя, распаўзаючыся па твары. Ён з галавою закрыўся коўдраю і, не стрымліваючыся болей, заплакаў ціха-ціха, намагаючыся не дрыжэць і не хліпаць, каб ніхто не заўважыў яго слабасці»* [16, с. 30].

Тое самае і ў наступным прыкладзе перастварэння партрэтнага малюнка:

*«Этот человек минуты не мог просидеть спокойно — весь был огонь и движение, и хищные его глаза всегда горели ненасытным желанием кого-то догонять и драться»* [15, с. 60].

*«Гэты чалавек хвіліны не мог прасядзець спакойна — увесь быў агонь і рух, і драпежныя вочы ў яго заўсёды гарэлі ненасытным жаданнем некага наганяць і біцца»* [16, с. 49].

Поўная рэлевантнасць перастварэння паказвае на выяўленне перакладчыцкай здольнасці да пераўвасаблення, аднак на гэту здольнасць паказваюць і выпадкі, дзе ёсць частковая рэлевантнасць — найбольш характэрнае для перакладчыцкай манеры М. Гарэцкага спалучэнне змястоўнай і мастацкай рэлевантнасці з фармальнай іррэлевантнасцю, што ілюструюць прыведзеныя вышэй прыклады.

Пры тым неабходна пакрэсліць, перафразуючы аксіёму К. Станіслаўскага, што, пісьменнік-перакладчык не можа поўнасцю пераўвасобіцца ў перакладаемага аўтара, цалкам адмовіўшыся ад самога сябе, ад сваіх творчых уласцівасцей і якасцей, а таксама ад уласнага светапогляду і манеры мастацкага мадэлявання свету.

## 2. Максім Лужанін — перакладчык рамана Міхаіла Шолахава «Яны змагаліся за Радзіму»

Нельга дакладна сказаць, чаму вядомы беларускі паэт, празаік, кінасцэнарыст, крытык, публіцыст і перакладчык Максім Лужанін узяўся за перастварэнне па-беларуску рамана «Яны змагаліся за Радзіму» праслаўленага рускага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры Міхаіла Шолахава, аднак пэўныя перадумовы яго перакладчыцкай дзейнасці вызначыць можна.

Пачаткам літаратурнай дзейнасці М. Лужаніна лічыцца 1925 г., калі ў «Маладняку» былі надрукаваны яго першыя вершы. У 1928 г. з’явіўся першы паэтычны зборнік «Крокі». Разам з тым паступова будучы пісьменнік-перакладчык набіраўся жыццёвага досведу і, трэба сказаць, дастаткова драматычнага досведу. У 1933 г. М. Лужанін быў рэпрэсіраваны і высланы ў Сібір, праз некалькі месяцаў вызвалены, а рэабілітаваны толькі ў 1956 г. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны прызваны ў Чырвоную Армію, удзельнічаў у баях пад Масквой і Сталінградам. Франтавы досвед М. Лужаніна набыў мастацкае адлюстраванне ў паэтычным зборніку «Шырокае поле вайны» (1945), вершаваных нізках «Вайсковыя сшыткі»,

«Лісткі блакнотаў франтавых» і ў шэрагу празаічных твораў: аповесці «Трое», апавяданнях «Дзівадла», «Чырвоная камяніца» і інш.

Да перастварэння рамана М. Шолахава «Яны змагаліся за Радзіму» (1975) М. Лужанін неаднойчы спрабаваў свае сілы ў перакладчыцкай працы з блізкароднасных (рускай, польскай, украінскай, чэшскай) моў. Так, яму належаць пераклады на беларускую мову твораў І. Кірыленкі «Адна эпоха: Зборнік вайсковых апавяданняў» (1931), Я. Гашака «Прыгоды ўдалага ваякі Швейка» (1932), М. Горкага «Жыццё Кліма Самгіна» (1938), А. Грыбаедава «Гора ад розуму» (1949), М. Гогаля «Вечары на хутары ля Дзіканькі» (1950), А. Фадзеева «Маладая гвардыя» (1953), а таксама І. Буніна, А. Пушкіна, М. Някрасава, У. Маякоўскага, А. Міцкевіча, Ю. Тувіма і іншых аўтараў.

Такім чынам, перадумовай перастварэння рамана Міхаіла Шолахава «Яны змагаліся за Радзіму» з’яўляецца эмпатыя, якую складаюць наступныя кампаненты:

— жыццёвы франтавы досвед, што фарміруе падсвядомае прыхільнае чытацкае ўспрыманне твора на ваенную тэматыку і суперажыванне героям твора;

— прафесійны вопыт пісьменніка-баталіста;

— перакладчыцкі вопыт;

— літаратурна-мастацкі густ, які выяўляецца ў выбары твораў для перастварэння — М. Лужанін, відавочна, перакладаў творы толькі высокапрафесійных аўтараў, шырока прызнаных мастакоў слова;

— блізкасць светаўспрымання і манеры мастацкага мадэлявання свету, пра што трэба гаварыць асобна.

Мастацкі свет М. Шолахава вельмі рэалістычны і канкрэтны, прызначаны найперш для перадачы разнастайных уражанняў ад убачанага, пачутага, фізічна і фізіялагічна адчувальнага, настраёвасці і характарыстыкі герояў твора. Пры гэтым, асабліва падчас апісання батальных карцін, пісьменнік не баіцца натуралізму, не эстэтызуе бруднае, агіднае, а наадварот старанна выпісвае яго з усімі падрабязнасцямі:

*«Вокруг Николая гремел ожесточенный бой. Из последних сил держались считанные бойцы полка; слабел их огонь — мало оставалось способных к защите людей; уже на левом фланге пошли в ход ручные гранаты; оставшиеся в живых готовились встречать немцев последним штыковым ударом. А Николай, полузасыпанный землей, все еще мешковато лежал на дне окопа и, судорожно всхлипывая, втягивал в себя воздух, при каждом выдохе касаясь щекой наваленной в окопе земли… Из носа у него шла кровь, щекочущая и теплая. Она шла, наверное, давно, так как успела наростами засохнуть на усах и склеить губы. Николай провел рукою по лицу, приподнялся. Жестокий приступ рвоты снова уложил его. Потом прошло и это. Николай привстал, осмотрелся помутневшими глазами и понял все: немцы были близко»* [19, с. 104].

Мастацкі свет М. Лужаніна не настолькі натуралістычны, але таксама канкрэтызаваны і апісальны. Як адзначае Уладзімір Гніламёдаў, пісьменнік «эпічны, аб’ектывізаваны ў сваёй лірыцы. Часцей за ўсё пераважае «аб’ектыўны» сюжэт, персанажы, рэчы. Яго паэзія — у большай ступені паэзія апісання, чым выказвання» [4, с. 18].

Прыведзены ўрывак з рамана М. Шолахава М. Лужанін перастварыў наступным чынам:

*«Вакол Мікалая грымеў зацяты бой. З астатніх сіл трымаліся лічаныя байцы палка; слабеў іх агонь — мала заставалася здольных да абароны людзей; ужо на левым флангу пайшлі ў ход ручныя гранаты, усе, хто застаўся жывы, рыхтаваліся сустракаць немцаў апошнім штыкавым ударам. А Мікалай, напаўзасыпаны зямлёю, усё яшчэ мехам ляжаў на дне акопа і, сутаргава ўсхліпваючы, уцягваў у сябе паветра, пры кожным выдыху датыкаючыся шчакою да наваленай у акопе зямлі… З носа ў яго ішла кроў, казытлівая і цёплая. Яна ішла, напэўна, ужо даўно, бо паспела нарасцямі пазасыхаць на вусах і склеіць губы. Мікалай правёў рукою па твары, крыху падняўся. Страшны прыступ ванітавання зноў*

*абваліў яго. Пасля прайшло і гэта. Мікалай прыўзняўся, агледзеўся памутнелымі вачыма і зразумеў усё — немцы былі блізка»* [18, с. 88—89].

Тут відаць як пісьменнік-перакладчык уважліва і далікатна паставіўся да аўтарскага тэксту, што немагчыма без эмпатычнага ўспрымання і падсвядомага адчування блізкасці мастацкай манеры аўтара.

Адметнай рысай творчасці Міхаіла Шолахава з’яўляецца таксама апісанне прыродных з’яў, што дапамагае раскрыць унутраны свет персанажаў, паглыбіць настраёвасць пэўных эпізодаў і падкрэсліць значнасць ілюструемых падзей, напрыклад, так:

*«Только на мгновение Звягинцев поднял прикованные к земле глаза — ничто не изменилось за последние полчаса там, вверху: небо было по-прежнему синее, безмятежное и величественно равнодушное, и так же неторопливо плыли в глубочайшей синеве редкие, словно бы опаленные солнцем и чуть задымленные по краям облака, и все тот же ровный, легкого дыхания ветер увлекал их на восток... Звягинцев увидел краешек этого голубого, осиянного солнцем мира, но все то, что успел он охватить одним безмерно жадным взглядом, разило прямо в сердце и было, как скорбная улыбка, как прощальная женская улыбка сквозь слезы…»* [19, с. 159].

Як у свой час падкрэсліў крытык Варлен Бечык, проза М. Лужаніна, «сакавітая ў мове, трапная ў назіраннях, насычаная жыццёвасцю, чуйная да людскога markdown рознагалосся» [1, с. 79], з’яўляецца значным мастацкім набыткам беларускай літаратуры. Увогуле ў беларускай крытыцы неаднойчы падкрэслівалася ўменне М. Лужаніна «з асаблівай выразнасцю ўзнавіць шматгранныя стасункі жыцця, перадаць зменлівасць ураженняў, рух, дзеянне, дынаміку, стварыць пластычнасць вобразных малюнкаў, багацце зрокава-асязальных і слыхавых асацыяцый» [3, т. 3, с. 275]. Менавіта гэта выдатнае мастакоўскае ўменне дазволіла яму не проста ўявіць і зразумець намаляваную М. Шолахавым карціну, а настолькі глыбока адчуць яе, пранікнуцца суперажываннем, каб перастварыць з усёй пластычнасцю і пранікнёнасцю, на якую быў здольны:

*«Толькі на момант Звягінцаў падняў прыкутыя да зямлі вочы — нічога не змянілася за апошнія паўгадзіны там, наверсе: неба было па-ранейшаму сіняе, безудзельнае і велічна непарушнае, так жа павольна плылі ў найглыбейшай сінізне рэдкія, быццам бы апаленыя сонцам і ледзь задымленыя з бакоў аблокі, і ўсё той жа роўны, лёгкага дыхання вецер цягнуў іх за сабою на ўсход... Звягінцаў убачыў краёчак гэтага блакітнага, залітага сонечным ззяннем свету, але ўсё тое, што паспеў ён ахапіць адным без меры прагным позіркам, трапляла проста ў сэрца і было, як тужлівая ўсмешка, як развітальная жаночая ўсмешка праз слёзы…»* [18, с. 135].

Такая мастацкая пластыка і далікатнасць перастварэння з’яўляюцца не проста выяўленнем літаратурна-мастацкіх і лінгвістычных здольнасцей пісьменніка-перакладчыка, а супадзеннем дзвюх мастацкіх мадэлей свету.

Аднак, як раней адзначалася, пісьменнік-перакладчык ніколі не перастае быць найперш пісьменнікам, а пасля перакладчыкам. Ён не можа поўнасцю пераўвасобіцца ў перакладаемага аўтара, цалкам адмовіўшыся ад уласнай творчай індывідуальнасці.

Адметнасць творчай індывідуальнасці М. Лужаніна стварае ўхваленая непераўзыдзеным майстрам слова Якубам Коласам прыгажосць, «прастата, натуральнасць, народнасць» [3, т. 3, с. 277] мовы. «Багацце і экспрэсіўнасць мастацкіх тропаў, дасціпнасць дыялогаў…, лагічная выверанасць вобразаў і сінтаксічных канструкцый, даходлівасць выкладання думкі сведчаць пра бездакорнае моўнае майстэрства М. Лужаніна. Невыпадкова яго лічаць адным з выдатных мовазнаўцаў. Агульнае прызнанне падмацоўваецца і яго тэарэтычнымі артыкуламі «Пісьменнік і мова» (1950), «Мова ў газеце» (1960—1962), «Магчымасці мовы» (1973, 1976), дзе выкладзены цікавыя патрабаванні да мовы мастацкіх твораў, якая, на думку пісьменніка, павінна быць выразнай, яркай і дакладнай. Узорам літаратурнай мовы для яго з’яўляюцца творы К. Чорнага» [3, т. 3, с. 285].

Міхаіл Шолахаў у якасці мастацкага прыёму выкарыстоўвае сакавітыя народныя выразы, выслоўі, асабліва ў дыялогах, але гэта не больш чым менавіта мастацкі прыём. Для М. Лужаніна каларытнае, адметнае і яркае слова — эстэтычны прынцып, якому павінна адпавядаць і мова персанажаў, і аўтарская мова. Паглядзім, як гэтыя два мастацкія метады спалучаюцца ў перакладзе.

Арыгінал:

*«— Чему это вы, Александр Михайлович, посмеиваетесь? — невольно краснея, спросила Серафима Петровна.*

*— Я не посмеиваюсь, а просто счастливо и, может быть, немножко глупо улыбаюсь, глядя на вас. И думаю: до чего же <u>вы смолоду были, очевидно, победительной женщиной</u>! На вас и сейчас не налюбуешься, а что же было лет двадцать назад? Мужчины, наверное, <u>падали навзничь</u>?*

*— Смолоду и вы, Александр Михайлович, были, наверное, <u>хват-парень</u>...*

*— Не пришлось, матушка, побыть хватом, не успел, <u>война все скушала</u>!»* [19, с. 30—31].

Пераклад:

*«— З чаго гэта вы, Аляксандр Міхайлавіч, падсмейваецеся? — міжволі чырванеючы, запытала Серафіма Пятроўна.*

*— Я не падсмейваюся, а проста шчаслівы і, магчыма, крышачку па-дурному ўсміхаюся, гледзячы на вас. Я думаю: да чаго ж <u>вы ззамаладу былі, як відаць, пераможлівай жанчынай</u>! На вас і зараз не налюбуешся, а што ж было год дваццаць назад? Мужчыны, напэўна, <u>падалі носам дагары</u>.*

*— Ззамаладу і вы, Аляксандр Міхайлавіч, былі, напэўна, <u>хлопец-зух</u>...*

*— Не давялося, матухна, пабыць зухам, не паспеў: <u>вайна ўсё схлэмала</u>!»* [18, с. 19].

Калі М. Гарэцкі выяўляў найперш свае літаратурна-мастацкія здольнасці і далікатна «папраўляў» А. Фадзеева падчас перакладу, паглыбляючы псіхалагізм асобных аўтарскіх выказванняў, што прыводзіла да спалучэння мастацкай і змястоўнай рэлевантнасці з фармальнай ірэлевантнасцю перастварэння, то М. Лужанін выяўляе ў большай меры лінгвістычныя здольнасці, што таксама прыводзіць да частковай рэлевантнасці, але іншага кшталту. На гэта паказваюць падкрэсленыя элементы тэксту.

Выказванне «вы смолоду были, очевидно, победительной женщиной», перакладзенае як «вы ззамаладу былі, як відаць, пераможлівай жанчынай», а таксама выслоўе «хват-парень» — «хлопец-зух» дэманструюць выдатнае адчуванне слова пісьменнікам-перакладчыкам, яго ўменне «падладзіцца» пад аўтара, інакш кажучы, пераўвасобіцца, знайсці поўнасцю рэлевантныя адпаведнікі. Аднак тут жа, у двух другіх прыкладах, відаць, як М. Лужанін, захапіўшыся падборам дасціпнага слова, надае выказванням частковую ірэлевантнасць.

Арыгінальнае выказванне «падали навзничь» мае пераклад «падалі носам дагары». Рускае слова «навзничь» дакладна перакладаецца на беларускую мову як «дагары», але М. Лужанін не абмежаваўся гэтым і дадаў выказванню каларыту, «дапісаўшы» яго. Так — «падалі носам дагары» — атрымалася насамрэч больш ярка і каларытна, чым у М. Шолахава, аднак ірэлевантна з мастацкага і фармальнага боку.

Падобнае адбылося і з другім выказваннем: «война все скушала» — «вайна ўсё схлэмала». Аўтарскае літаратурна-кніжнае слова «скушала» перададзена размоўна-бытавым «схлэмала». Не цяжка здагадацца, чаму пісьменнік-перакладчык пайшоў на такую замену. Па-першае, «кушать» у дачыненні да такой жорсткай з'явы, як вайна, гучыць занадта далікатна, а «схлэмаць», сэнсава блізкае да слова «жрать», нібыта больш падыходзіць. Па-другое, слова гэта ўжыта ў дыялогу «звычайных» персанажаў, людзей не інтэлігентнага паходжання. Аднак М. Лужанін і ў першым, і ў другім выпадку не ўлічыў, што змененыя ім выказванні прамаўляе герой твора падчас дыялогу з жанчынай, якая яму вельмі падабаецца і якой ён хоча падабацца, і таму стараецца гаварыць найбольш культурна, далікатна, у неўласцівай для сябе манеры.

Гэтыя пралікі, што прывялі да частковай ірэлевантнасці, былі дапушчаныя пісьменнікам-перакладчыкам таму, што падчас перастварэння ён у большай ступені быў заклапочаны яскравасцю і сакавітасцю мовы перакладу, чым адэкватнасцю мастацкай вобразнасці. Між тым, такія заўважныя змены ў мове героя твора вядуць да змены створанага аўтарам мастацкага вобраза-персанажа, што з'яўляецца недапушчальным у перакладзе. Як бы не хацелася перакладчыку змяніць створаны аўтарам вобраз, ён не мае на гэта права і мусіць ісці ўслед за аўтарам. М. Лужанін дапусціў гэта несвядома, але кепска тое, што падобнымі прыкладамі, дзе нараўне з рэлевантнасцю прысутнічае ірэлевантнасць, якая відазмяняе створаныя аўтарам мастацкія вобразы, насычаны ўвесь твор у перакладзе на беларускую мову. Вось толькі некаторыя з іх:

*«...язви его в печенку!»* [19, с. 25]. — у М. Шолахава,

*«...трасцу яму ў бок!»* [18, с. 14]. — у М. Лужаніна;

*«— Разыгрался, черт бы тебя!..»* [19, с. 9]. — у М. Шолахава,

*«— Узгуляўся, халера на цябе!»* [18, с. 50]. — у М. Лужаніна.

Гэта прыклады выдатнага па-мастацку і змястоўна рэлевантнага перастварэння фразеалагізмаў. Трапнае слова, фразеалагізм ажыўляюць мову, якая пры дапамозе гэтых сродкаў робіцца сакавітай, эмацыянальнай, таму фразеалагічныя спалучэнні, ідыёмы часта выкарыстоўваліся аўтарам у рамане «Яны змагаліся за Радзіму».

Пераклад фразеалагізмаў звычайна выклікае асаблівыя цяжкасці, бо, акрамя агульнага лексічнага значэння і вобразнасці, мае нацыянальную спецыфіку. Цяжкім з'яўляецца пошук адэкватных выразаў на мове перакладу. Перакладаць можна па-рознаму: дакладна слова ў слова, апісальна, іншым фразеалагізмам з тым жа самым ці блізкім значэннем, што і зрабіў М. Лужанін — удала падабраў беларускамоўныя адпаведнікі. А вось у гэтым выпадку ён выдатна пераклаў слова ў слова:

*«...и слыхом не слыхали»* [19, с. 29].

*«...і чутам не чулі»* [18, с. 17].

Паводле высноў балгарскага перакладазнаўца Іржы Левага, «часам персанаж характарызуецца цэлым комплексам сацыяльных і народных моўных прыкмет, якія з'яўляюцца вынікам асаблівага гістарычнага развіцця і сацыяльнай структуры акаляючага аўтара асяроддзя, і ўзнікаюць вялікія цяжкасці пры перакладзе ўсяго гэтага на іншую мову» [8, с. 205]. Нямногія перакладчыкі так удала, як М. Лужанін, спраўляюцца з гэтай задачай. У яго перакладзе фразеалагізмы не проста адпавядаюць тым, што ўжыў М. Шолахаў, а найлепшым чынам выкарыстоўваюць словаўтваральныя і стылістычныя магчымасці беларускай мовы, гучаць натуральна ў беларускамоўным тэксце і ствараюць адэкватны арыгіналу каларыт.

Аднак у іншых, больш простых выпадках перастварэння пісьменнік-перакладчык падбірае не настолькі рэлевантныя з мастацкага і змястоўнага боку адпаведнікі:

*«Ты <u>вздорная</u> женщина!»* [19, с. 28].

*«Ты <u>звяглівая</u> жанчына!»* [18, с. 17].

Слова «звяглівая» больш адпавядае рускаму «скандальная» або «сварливая», чым «вздорная». Любы перакладчык мог бы спатыкнуцца ў гэтым месцы, бо рускае слова «вздорная» не мае прамога адпаведніка ў беларускай мове. Аднак М. Лужанін — выдатны лінгвіст, здольны да словатворчасці, для якога пошук, а калі трэба то і стварэнне слова не з'яўляліся вялікай цяжкасцю. Чаму тады ён так пераклаў? Хутчэй за ўсё, проста не звярнуў увагу на мастацкі вобраз, які стаіць за словам.

*«— Может, ты на время закроешься со своими <u>разговорчиками</u>? — сдержанно, со зловещей вежливостью вопросил из темноты голос Лопахина»* [19, с. 170].

*«— Можа, ты на час замкнешся са сваімі <u>растабарамі</u>? — стрымана, са злавеснай ветлівасцю запытаў з цемры голас Лапахіна»* [18, с. 144].

Тут у перакладзе размоўна-бытавое з экспрэсіўнай афарбоўкай слова «растабары» не адпавядае стрыманаму і злавесна ветліваму, што падкрэсліваецца ў аўтарскім тэксце, слову «разговорчики». Зноў жа эстэтычны прынцып выразнасці і яркасці словаўжывання ў перакладзе не быў «узгоднены» з аўтарскай канцэпцыяй мастацкага мадэлявання і ў выніку атрымалася функцыянальна-стылістычнае несупадзенне аўтарскага і перакладнога тэкстаў.

Падобных прыкладаў можна прывесці нямала і ўсе яны паказваюць на немагчымасць поўнага пераўвасаблення пісьменніка-перакладчыка ў аўтара, які перакладаецца, поўнага адмаўлення ад сваёй творчай індывідуальнасці на карысць індывідуальнасці аўтара. Да гэтага неабходна дадаць яшчэ адну асаблівасць перакладчыцкай манеры М. Лужаніна — свабоднае абыходжанне з арыгіналам не толькі на ўзроўні мікра-, але і макраструктуры: падчас перастварэння ён змяніў структуру рамана — пачатковую частку твора пераставіў у сярэдзіну.

Такім чынам, у параўнанні з М. Гарэцкім, які далікатна «папраўляў» А. Фадзеева, пакідаючы свой выразны адбітак на яго творы, М. Лужанін «змяняў» раман М. Шолахава, а значыць падаўляў яго як творчую асобу. У гэтым падаўленні асноўную ролю адыгрывала прафесійнае пісьменніцкае веданне, якое выяўлялася ў часам празмерным захапленні работай са словам і з'яўлялася падмуркам для несвядомай «бязлітаснай барацьбы перакладчыка з перакладаемым аўтарам».

Матэрыял паступіў у рэдакцыю 18 студзеня 2016 года.

## Спіс літаратуры:

1. Бечык, В. Прасторы творчасці (Максім Лужанін) // Прад высокаю красою…: літ.-крыт. Артыкулы / В. Бечык. — Мінск: Мастац. літ., 1984. — С. 66—79.

2. Гарадніцкі, Я. А. Мастацкі свет беларускай літаратуры ХХ стагоддзя / Я. А. Гарадніцкі. — Мінск: Беларус. навука, 2005. — 172 с.

3. Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя: у 4 т. / НАН Беларусі. Ін-т літ. імя Я. Купалы. — Мінск: Беларус. навука., 2001—2003. — 4 т.

4. Гніламёдаў, У. Натхненне і майстэрства: Творчасць М. Лужаніна / У. Гніламёдаў // Роднае слова. — 1998. — № 5.

5. Дзянісава, Н. [Якавенка, Н.]. Аўтарскі пераклад: праблема аўтарскага перакладу прозы ў беларускай літаратуры ХХ стагоддзя / Н. Дзянісава. — Мінск: Беларус. выдав. тав-ва «Хата», 2002. — 100 с.

6. Кашкин, И. Для читателя-современника: статьи и исслед. / И. Кашкин. — М.: Сов. писатель, 1977. — 562 с.

7. Кенька, М. Пераклаў Максім Гарэцкі / М. Кенька // Братэрства'85. — 1985. — С. 244—249.

8. Левый, И. Искусство перевода / Пер. с болг. — М.: Прогресс, 1974. — 218 с.

9. Лукашанец, А. А. Праблемы сучаснага беларускага словаўтварэння / А. А. Лукашанец. — Мінск: Беларус. навука, 2013. — 315 с.

10. Мушынскі, М. І. Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі: жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага: 2-е выд., выпр. і дап. / М. І. Мушынскі. — Мінск: Беларус. навука, 2013. — 544 с.

11. Попович, А. Проблемы художественного перевода / А. Попович; под ред. П. М. Топера. — М.: Высш. шк., 1980. — 198 с.

12. Психология художественного творчества: хрестоматия / Сост. К. В. Сельченок. — Минск: Харвест, 2003. — 752 с.

13. Слоўнік лінгвастылістычных і тэксталагічных тэрмінаў [Электронны рэсурс]. — Магілёў: УА «МДУ імя А. А. Куляшова», 2012. — 1 электрон. апт. дыск (DVD-R).

14. Тарасава, Т. М. Беларуская проза XX стагоддзя ў еўрапейскім літаратурным кантэксце: экзістэнцыялізацыя духоўнага свету героя: аўтарэф. дыс. …докт. філал. навук; 10.01.01 / Т. М. Тарасава; Цэнтр даследаванняў бел. культуры, мовы і літ. Нац. акадэміі навук Беларусі. — Мінск, 2014. — 36 с.

15. Фадеев, А. Разгром / А. Фадеев // Вступ. статья И. Дубровиной. — М.: Худож. лит., 1975. — 176 с.

16. Фадзееў, А. Разгром: 2-е выд. / А. Фадзееў. — Менск: Дзяржвыд Беларусі, Сектар мастацк. літ., 1936.— 206 с.

17. Чуковский, К. Высокое искусство / К. Чуковский — М.: Советск. писатель, 1988. — 352 с.

18. Шолахаў, М. Яны змагаліся за Радзіму: раман; перакл. М. Лужаніна / М. Шолахаў. — Мінск: Мастац. літ., 1975. — 208 с.

19. Шолохов, М. Они сражались за Родину: гл. из романа; Судьба человека: повесть / М. Шолохов. — М.: Астрель, 2007. — 285 с.

20. Якавенка, Н. В. Аўтапераклад «Віленскіх камунараў» як знакавы дакумент эпохі (Да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага) / Н. В. Якавенка // Весці НАН Беларусі. Сер. гуманітар. навук. — № 4 — 2013 — С. 98—102.

## Рэзюмэ

**Наталля ЯКАВЕНКА**

### Пісьменніцкі пераклад як мастацкае мадэляванне свету

У артыкуле асвятляюцца пытанні адэкватнасці і рэлевантнасці літаратурна-мастацкага перакладу, створанага не прафесійнымі перакладчыкамі, а пісьменнікамі. У прыватнасці разглядаюцца пераклады з рускай на беларускую мову твораў Аляксандра Фадзеева «Разгром» і Міхаіла Шолахава «Яны змагаліся за Радзіму», ажыццёўленыя класікамі беларускай літаратуры Максімам Гарэцкім і Максімам Лужаніным.

**Ключавыя словы:** пісьменніцкі пераклад, пісьменнік-перакладчык, адэкватнасць, рэлевантнасць, ірэлевантнасць, М. Гарэцкі, М. Лужанін, А. Фадзееў, М. Шолахаў, «Разгром», «Яны змагаліся за Радзіму».

## Summary

**Natalla YAKAVENKA**

### Writers translation as art modeling world

The article discusses the adequacy and relevance of literary and artistic translation, created by nonprofessional translators and writers. In particular it is considered translations from Russian into Belarusian works by Alexander Fadeev «Rout» and Mikhail Sholokhov «They fought for their Country» implemented Belarusian classic Maxim Garecki and Maxim Luzhanin.

**Keywords:** writer’s translation, writer and translator, adequacy, relevance, irrelevantnasts, M. Garecki, M. Luzhanin, A. Fadeev, M. Sholokhov, «Rout», «They fought for their Country».

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# З ДУШОЮ ЧУЛАЙ, З СЭРЦАМ МУЖНЫМ

*Не ведаю, як хто, а я часта перачытваю апавяданне «Малыя дрывасекі». Яно запала ў душу яшчэ тады, калі быў школьнікам, і з таго часу ніяк не адпускае ад сябе. Таму нярэдка і цягнецца рука да Збору твораў Змітрака Бядулі. Бяру з паліцы том 2-гі, раскрываю патрэбную старонку і…*

*«Зімовы дзень блішчыць тысяччу агнёў.*

*Люты мароз. Снег пад нагамі скрыпіць, як жывы.*

*Бор атулены ў белую пушыстую світку. Ён стаіць задуменны, як сівы дзед».*

*І тут жа, адразу — прысутнасць чалавека, якому не да любавання прыродай, зімовым лесам:*

*«Грукат дрывасекаў разлягаецца па наваколіцы.*

*Трах-трах! Трах-трах!»*

*Нават дарослага пашкадуеш у такі люты мароз, а гэта ж дзеці:*

*«Яны махаюць рукамі гэтак шпарка, што іх падрапаныя лахманы расхрыстваюцца і адкрываюць голае цела… Піла ўсё глыбей ды глыбей уядаецца ў сэрца хвоі і… тра-а-х! — плазам упала шурпатае дрэва. З-пад снежнага куродыму ўзняўся працяглы стогн паваленага дрэва-асілка».*

*Старэйшаму Цішку — дзесяць гадоў, малодшаму — Халімону — восем. Іх бацька — кульгавы Цыпрук — сам працаваць не можа. Таму і выпраўляе сваіх сынкоў да купца ў лес на заработкі.*

*Быццам жывыя паўстаюць гэтыя хлапчукі пачатку XX стагоддзя. Паваліўшы некалькі хвой, яны ўзяліся есці:*

*«— Добра, што хоць на полудзень маем па кавалку хлеба… (...)*

*— Ого, есці, ого! Якая радасць!..»*

*Раптам пачалася завіруха. «Усе дрывасекі разбегліся хутка дамоў», а яны пабаяліся, «каб бацька не наракаў, што зарана прыйшлі…» Пахадзілі, паблукалі і зусім заблудзіліся. А тут ноч і снег «вышэй пояса»:*

*«— Ляжам, — сказаў меншы, Халімон.*

*— Ляжам, — сказаў большы, Цішка.*

*— І ляглі. Моцна, моцна прытуліліся адзін да аднаго.*

*— Зрабілася так цёпла…»*

*«І здаецца ім — сядзяць яны за сталом… Маці радуецца, што прыйшлі… Корміць іх цёплым праснаком… Бацька пазірае на іх добрымі вачыма і лагодна ківае галавой. Пад’елі і палеглі на палок каля печы… Котка лашчыцца да іх, і яны заснулі…»*

*Заключныя словы «Толькі на трэці дзень адкапалі замёрзлых малых дрывасекаў» болем адгукаюцца ў душы. Думаю, не ў аднаго мяне. Дый ужо не ў аднаго пакалення.*

*Дастаткова толькі апавядання «Малыя дрывасекі», каб гаварыць пра Бядулю як пра выдатнага пісьменніка. А ім жа напісана шмат іншых апавяданняў, аповесці, раман «Язэп Крушынскі». Вядомы ён і як паэт, дзіцячы пісьменнік, публіцыст, тэатральны і літаратурны крытык.*

## Маленства не такое і радаснае

Сапраўднае прозвішча яго — Плаўнік. Імя — Самуіл, па бацьку Яфімавіч. Нарадзіўся 23 красавіка 1886 годзе ў маленькім мястэчку Пасадзец Вілейскага павета Віленскай губерні (цяпер аднайменная вёска ў Лагойскім раёне Мінскай вобласці). У Пасадцы было прыкладна 18—20 двароў. Тытул мястэчка атрымаў, бадай, таму, што меўся заезджы двор, некалькі корчмаў. Дый знаходзіўся на бойкім месцы. Па ўспамінах Бядулі, «праз Пасадзец праходзіў стары тракт на Мінск. Гэта надавала маленькаму мястэчку вялікае ажыўленне. Дзень у дзень праязджалі і спыняліся ў пасадзецкіх корчмах дзясяткі фурманак».

Пра тое, як праходзіла яго маленства, Бядуля расказаў у аповесці «У дрымучых лясах»: «Бадай адзінай беззямельнай у мястэчку была наша сям'я. Дзед арандаваў старую сялянскую хатку з агародам для бульбы. Хатка стаяла на самым канцы мястэчка на нізкім месцы. Акенцы хаткі, з залатанымі лучынамі шыбамі, улезлі ў самую зямлю».

Свайму дзеду Лейзару пісьменнік застаўся ўдзячным на ўсё жыццё. Гэта ён, сапраўдны народны самародак, на фарміраванне ягонага характару аказаў ці не самы вялікі ўплыў сярод блізкіх і родных яму людзей. Як цяжка ні даводзілася, Лейзар Плаўнік заўсёды заставаўся аптымістам і жыццялюбам. З замілаваннем піша пра яго ўнук: «Дзед сінявокі, з доўгай рыжай барадой, у чорнай аксамітнай ярмолцы ды ў акулярах, прымацаваных ніткамі замест аглабелек, здаваўся мне чарадзеем. На яго горне пад попелам у вуголлях жыў вечны агонь… На палічках ляжала шмат разнастайных інструментаў: малаткоў, рознай велічыні і формы, друшлякі, свярдзёлкі, розных выглядаў абцугі, далоты. Рашпілі, напільнікі, цыркулі, ножніцы, трыкутнікі».

Дзед меў вялікае пачуццё гумару, а яшчэ захапляўся яўрэйскай даўніной, з'яўляўся вялікім кніжнікам. Бацька ж Шлёмкі — так Самуіла клікалі ў маленстве — любіў скрыпку: «(…) граў старадаўнія яўрэйскія мелодыі. Ён таропіў мройныя чорныя вочы праз акно ў лес і граў сумна-сумна… Ён часта імправізаваў мелодыі, фантазіраваў. Граў ён заўсёды ціха-ціха, нібы камусьці наігрываў сакрэт ці перад невідочным блізкім сябрам скардзіўся на сваё жыццё». Самуіл гранне гэтае «слухаў загіпнатызаваны, зачараваны». Да горла яму падступаў ком, таму «ўцякаў, каб не заплакаць».

У тыя часы яўрэі звычайна адпраўлялі сваіх дзяцей вучыцца ў шасцігадовым узросце. Але Шлёмка пайшоў у школу годам пазней, бо гадаваўся кволым і хваравітым. Бацькі хацелі бачыць сына рабінам. Для гэтага трэба было спачатку скончыць хедэр, атрымаўшы пачатковую адукацыю, а потым — ешыбот. Ешыбот — пачатковая школа рабінаў. Пра вучобу Шлёмкі таксама можна даведацца з аповесці. Асабліва запомніўся яму першы настаўнік:

«Борух — стары, нізкага росту чалавек, з вялікай галавой на шчуплых плячах — браў на вучобу трох-чатырох дзяцей… Борух займаўся тайнай навукай «кабалы». У кожную раніцу ён хадзіў на блізкае возера на абрад «святога амавення». У кожную ноч уставаў, абсыпаў галаву попелам у знак жалобы, садзіўся на зямлю і аплакваў зруйнаванне храма іерусалімскага. Часам удзень ён хадзіў у лес, дзе ў самоце вывучаў таямніцы неба і зямлі. Дзень у дзень ён пісаў нейкі філасофскі трактат. Яго ў ваколіцы лічылі святым чалавекам. Да яго да парады прыходзілі і беларусы».

З гэтага ж твора: «У сем год мяне аддалі ў навуку да Боруха. У яго вучыліся дзеці пасадзецкага багача-карчмара. Яны былі нашмат старэйшыя за мяне і вучылі Талмуд… Некалькі гадзін у дзень ён займаўся выключна мною. Раздзел за раздзелам чытаў са мной Біблію, тлумачачы бегла значэнне стараяўрэйскіх слоў. Ён мяне ніколі не біў. Апрача гэтага, ён кожны дзень аддаваў гадзіну на размову са мною (…)»

Здавалася б, бацькам толькі радавацца, што ў іх сына з'явіўся такі чулы, уважлівым і спагадлівы рэбэ — г. зн. настаўнік. Ды і, відаць, ім хацелася большай строгасці ў навучанні і выхаванні. Таму Боруха неўзлюбілі, а Шлёмку неўзабаве

перавялі ў другі хедэр. Гэты хедэр адрозніваўся ад першага, як неба ад зямлі. Адносная вольніца скончылася:

«У цесным пакоі пры адным стале сядзела каля дзесяці хлопчыкаў. Сядзелі мы безвыходна па дванаццаць гадзін. Дзень быў падзелены на чытку малітваў, Бібліі і Талмуда. Прыблізна гадзіна часу аддавалася на чыстапісанне па-яўрэйску і на вывучэнне першых чатырох правіл арыфметыкі. Вольнымі ад хедэра мы бывалі паўдня ў пятніцу і паўдня ў суботу. Два разы на год вучні хедэра мелі канікулы — месяц вясною і месяц увосені».

Вывучэнне арыфметыкі абмяжоўвалася толькі засваеннем чатырох дзеянняў. Іншыя агульнаадукацыйныя прадметы зусім не выкладаліся. Само ж навучанне было пабудавана на муштры. Тым не менш, назапашванне ведаў Самуілам адбывалася паспяхова. Але не дзякуючы хедэру, а, па сутнасці, насуперак яму. Усё кампенсавалася плённай самаадукацыяй. Не ў апошнюю чаргу таму, што ў дзеда Лейзара была неблагая хатняя бібліятэка. Для маленькага мястэчка — унікальная з'ява. Дый яшчэ таму, што Самуіл гадаваўся дапытлівым, прагным да навукі і пазнання юнаком.

Пасля хедэра вучыўся і ў ешыбоце. Спачатку ў Даўгінаве, а праз паўгода — у мястэчку Ілья. Ешыбот размяшчаўся ў вялізнай сінагозе. У ёй жа знаходзіўся пакой для навучання і нешта накшталт інтэрната, у якім вучні спалі на голых лаўках. Толькі гэта была не асноўная «нязручнасць». Ні днём, ні ноччу ім не даваў спакою інспектар, па-яўрэйку машгіях. Бязлітасна караў за любую правіннасць. У яго, канешне, разуменні. Правіннасці ж ён знаходзіў лёгка. Ператрасаў матрацы, лазіў па скрынках і куфэрках, каб толькі знайсці што-небудзь забароненае. Самае ж страшнае чакалася, калі знаходзіў якую-небудзь свецкую кнігу, а такую літаратуру ён лічыў бязбожнай.

Самуіл Плаўнік «тры гады плаваў у моры талмудычных навук». Ніхто не звяртаў увагі на тое, што падлеткам «было нудна чытаць тэксты, напісаныя дзве тысячы год таму назад на стараяўрэйскай і халдзейскай мовах». Дарэчы, па-руску чытаць-пісаць ён навучыўся толькі ў сямнаццаць гадоў, карыстаючыся самавучыцелем. Перспектыва быць рабінам яго не вабіла. Прызнаваўся: «Адно імя ўвасабляе маю новую мару — Мірыям (…)»

Хто яна, гэтая загадкавая Мірыям? Ды дзяўчына, у якую закахаўся Самуіл. Правільней, не сам ён, а Плаўнік-паэт. У гэты час ён акурат пачаў пісаць вершы па-беларуску, прысвечаныя каханню. Паколькі ж сам нікога палюбіць яшчэ не паспеў, то і прыдумаў сабе тую, без якой быццам не мог пражыць ні хвіліны. Сам жа і назваў яе Мірыям. Гэтае «каханне» яму дорага каштавала. Вершы-прысвячэнні запісваў у кніжачку, дзеля гэтага купленую ў краме. На вокладцы пазначыў і назву свайго рукапіснага зборніка: «Мірыям». Кніжачку знайшлі ў час чарговага вобыску. Абвінавачаны ў здрадзе яўрэйству, Плаўнік у 1902 годзе пакінуў сцены ешыбота.

## Благаслаўлёны «Нашай нівай»

Першыя ж са сваіх твораў ён напісаў у 10 год на старажытнаяўрэйскай мове. Аднак яны не захаваліся. Як і рукапісны зборнік «Мірыям». Таму адлік творчасці Бядулі звычайна вядзецца з 1907 года, калі ён напісаў першыя вершы па-руску. Некаторыя з іх паслаў у пецярбургскія часопісы «Аргус» і «Журнал для всех». Праўда, яны не былі надрукаваны. У друк прабіўся толькі ў 1910 годзе. Ды не ў якое-небудзь выданне, а на старонкі «Нашай нівы». З рэдакцыяй звязаўся дзякуючы свайму знаёмцу з Даўгінава В. Сосенку, які выступаў у гэтай газеце з допісамі і карэспандэнцыямі. Аднойчы даў пачытаць Самуілу некалькі нумароў «Нашай нівы». «Наша ніва» яму спадабалася. А тут яшчэ В. Сосенка паведаміў рэдакцыі, што знаёмы з маладым пісьменнікам С. Плаўнікам. У нумары 12 за 1910 год «Наша ніва» адгукнулася на гэтае паведамленне ў «Паштовай скрынцы»: «Ваш пясняр, калі можа пісаць беларускія вершы, — няхай прышле, будуць добрыя —

ахвотна надрукуем». Як быццам, да В. Сосенкі пра яго нічога не ведалі. Але ўсё не так. Яшчэ раней З. Бядуля паслаў у «Нашу ніву» некалькі сваіх вершаў, аднак яны не былі надрукаваны. Больш за тое, рэдакцыя заахвочвала яго пісаць карэспандэнцыі, артыкулы.

У 1910 годзе і дэбютаваў у «Нашай ніве» карэспандэнцыямі ў нумарах 27, 29, 32, 33, 39. Адну з карэспандэнцый падпісаў Саша Пл-к, для другой узяў псеўданім Змітро Бядуля. Астатнія падпісаны Змітраком Бядулем. Наконт выбару С. Плаўнікам менавіта гэтага псеўданіма найбольш глыбокі даследчык ягонай творчасці Іван Навуменка разважае так:

«Дарэчы, чаму Змітрок Бядуля? Што хаваецца за такім псеўданімам? Псеўданім фальклорнага паходжання. У беларускіх казках, якія пісьменнік збіраў, вывучаў усё жыццё, ёсць вобраз добрага, спагадлівага дзядка Бядулі, які ходзіць па свеце, суцяшаючы малых, пакінутых бацькамі дзяцей, розных сірот, бяздомкаў. Псеўданім, як бачым, вельмі дапасоўваецца да чуллівага, спагадлівага сэрца беларускага пісьменніка».

У далейшым выступаў таксама пад псеўданінамі Ясакар, Сымон Пустэльнік, Іскра, Святагор, Ярыла Чырвоны. Як пісьменнік дэбютаваў 10 верасня таго ж 1910 года, ва ўжо названым 39-нумары «Наша ніва» пад подпісам С. Плаўнік змясціла і яго імпрэсію «Пяюць начлежнікі». Першы ж ягоны верш «Мой спеў» быў надрукаваны 20 студзеня 1911 года ў 3-м нумары.

Карэспандэнцыя, змешчаная ў 32-м нумары, заслугоўвае таго, каб з ёй абавязкова пазнаёміцца, бо з яе добра відаць, што хвалявала тады маладога аўтара, якімі былі ягоныя памкненні, на што ён арыентаваўся:

«В. Пасадцы, Віленскай губ., Вілейскага пав. У нядзелю чытаў тутака некалькім мужыкам «Нашу ніву». Яны аж астаўбянелі ад дзіва, ды з усіх бакоў пасыпаліся зара словы: «А Бо-о-о! па-нашаму! Да душы, па-нашаму!». Праўду кажучы, ім нават і не прыснілася, каб пачуць друкаванае слова і ў зразумелай ім мове бацькоў і дзядоў… Нешта неяк быццам абцугамі ўшчаміла маё сэрца, як я зірнуў на гэтых няграматных, загарэлых, худых, з мазалістымі рукамі сыноў Беларусі. — Якія ж яны былі б, каб іх здаўна вучылі, каб не запусцілі роднай культуры? — думаў я. Вось пачаў ізноў далей чытаць — і зноў клікі: «Усё аб нас ды аб нас пішуць і кажуць! Што гэта там за людзі такія?»

Вось, браты мае, што значыць родная мова! Якую сілу мае друкаванае слова ў гэтай мове! Рупіцеся, беларусы, запаліць лучыну розуму, асвяціць нашу цемень, наша гаротнае жыццё… Будзем спадзявацца, што прачнецца і бедны наш народ ды пазнаёміцца са сваім багаццем, са здольнасцю, што схавана ў ім… Будзема спадзявацца, што падніме ён сваю галаву роўна з усімі народамі, і яны пачуюць яго моцны клік!»

Аднак на гэты час З. Бядуля яшчэ канчаткова не вырашыў, на якой мове пісаць у далейшым. Гэтым можна вытлумачыць тое, што ў і 1911, і ў 1912 гадах ён друкаваўся і па-руску. У прыватнасці, у часопісе «На берегах Невы» выступіў (подпіс С. Плаўнік) з вершам «*** Облита лунным светом круглая поляна…» Дый шэраг сваіх рускамоўных вершаў змясціў у шостым за 1912 год нумары часопіса «Молодые порывы», што выдаваўся ў Вільні. Але акурат у тым жа 1912 годзе прыехаў у Вільню. Несумненна, гэта канчаткова і вырашыла яго моўную арыентацыю на карысць беларускасці. Асабліва пасля таго, як, папрацаваўшы ў канторы лесапрамыслоўца, перайшоў у «Нашу ніву». У 1914 жа годзе, калі рэдакцыйны калектыў узначаліў Янка Купала, стаў адказным сакратаром.

З набліжэннем да горада фронту, 1 лістапада 1915 года з Вільняй развітаўся. Паехаў да бацькоў у Пасадзец, а з восені 1915-га жыў у Мінску, дзе да 1917 года працаваў у Беларускім камітэце дапамогі ахвярам вайны. Лютаўскую рэвалюцыю вітаў, а вось да Кастрычніцкай паставіўся насцярожана. Тое, што адбылося і працягвалася адбывацца, шмат у чым выклікала яго нязгоду, а то і зусім непрыманне. Відаць, у гэтым сказваўся ягоны светапогляд, калі над многім брала верх чыста эмацыянальнае ўспрыманне жыцця. Рэвалюцыя ж, як вядома, выклікала

карэнную ломку звыклага, усталяванага. Гэта не магло не выбіць яго са звыклай каляіны.

Трапна наконт гэтага выказаўся Алесь Адамовіч: «Гора — лапцюжнае, местачковае — фармавала і душу, і талент З. Бядулі. Гэта яно, бядняцкае гора, перамагло ў пісьменніку і кніжніка, і летуценніка, падпарадкавала сабе яго нястрымную фантазію. Па таленту З. Бядуля — мастак вельмі суб'ектыўны, у яго вялікая схільнасць да вобразаў незвычайных, амаль фантастычных. Па пачуццях жа ён пісьменнік вельмі зямны, надзвычай балюча ўспрымае ён гора людское, нядолю бядняцкую. З адчаем, з болем валачэ ён крылы свае фантазіі па зямлі, ламае іх да крыві, бо не можа ж ён узняцца ў свет рамантычных летуценняў, куды яго ў маладосці так цягнула, калі на зямлі, вакол яго, людское шчасце і няшчасце вымерваецца пяццю лыжкамі заціркі». Маецца, безумоўна, на ўвазе «Пяць лыжак заціркі» — адно з лепшых апавяданняў З. Бядулі.

## Проза як само жыццё

У віленскі перыяд, а гэта 1912—1915 гг., З. Бядулю працавалася плённа. Як удакладніў Алег Лойка, «(…) да трыццаці арыгінальных апавяданняў напісаў пісьменнік за гэты час, у друку з'явілася амаль столькі ж яго вершаў, а таксама публіцыстычных артыкулаў. Прычым З. Бядуля спачатку выступаў больш як празаік, а ўжо затым як паэт».

Першай кнігай З. Бядулі, як вядома, стаў зборнік яго лірычных імпрэсій «Абразкі», які ў 1913 годзе выпусціла Пецярбургская выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» лацінскімі літарамі. Правільна год выдання пазначаны на тытульным лісце, а на вокладцы кнігі стаіць 1914-ы. Дарэчы, сам пісьменнік хацеў свайго першынца назваць «Плач пралескаў» — па назве адной з імпрэсій. Выказваюцца меркаванні, што замяніў яе на «Абразкі» па падказцы Янкі Купалы, які тады быў у Пецярбургу.

«Абразкі» (іх, між іншым, перадрукаваў альманах «Маладая Беларусь», што, несумненна, сведчыць аб папулярнасці гэтых твораў) падагульнілі першы этап творчасці Бядулі-празаіка. Гэта творы, напісаныя ў 1912 годзе. Герой іх, кажучы словамі Віктара Каваленкі, «узвышаецца над асяроддзем сваім багатым духоўным зместам, імкнецца да ўнутранага ўдасканалення, гатовы да самаахвярнасці ў інтарэсах чалавецтва, але асуджаны знемагаць ад адзіноцтва і балюча перажываць сваю безнадзейнасць». Каваленка меў на ўвазе імпрэсіі «Нуда мая», «Як памру…», «Вечарам», «У заварожаных казках», «Захаваю нуду сваю…» Па невядомай прычыне першая імпрэсія Бядулі «Пяюць жаваранкі» ў кніжку не ўвайшла.

Шмат якімі сваімі творамі ён быў прывязаны да вёскі, аб чым адкрыта прызнаўся ў імпрэсіі «На што мне…»: «Кожнае слова маё — шчыры ўспамін убогай вёскі. Кожны радок маёй песні — малюнак перажыткаў гаротнага, простага беларуса».

Другі этап віленскага перыяду пазначаны апавяданнямі, напісанымі ў 1912—1915 гг. Яны — па сваім змесце сацыяльна-бытавыя. Сярод іх і ўжо згаданыя «Малыя дрывасекі» і «Пяць лыжак заціркі», што даўно сталі хрэстаматыйнымі і належаць да лепшых узораў беларускай «малой прозы». Дый і іншыя творы, якія сведчаць аб адметнасці таленту Бядулі-празаіка.

Нейк абасоблена стаіць апавяданне «Ашчасліўіла». Упершыню яно было надрукавана ў газеце «Наша ніва» ў 1913 годзе ў нумары за 12 ліпеня, а напісана годам раней. Твор гэты ў многіх выклікаў рэзкае непрыняцце. Дый пасля публікацыі ў зборніку Бядулі «На зачарованых гонях» (1929) знаходзілася нямала ахвочых абвінавачваць пісьменніка ў ачарненні вясковага жыцця, у натуралізме выкрыцця асобных непрыглядных бакоў яго.

Як быццам, усе падставы для гэтага ёсць. Адна назва населенага пункта, у якім адбываецца дзеянне, сама гаворыць за сябе: «Вёска Жаброўшчына ляжыць у адным з самых глухіх куткоў Беларусі. Гэта гняздо ўсіх жабракоў

нашай ваколіцы. Тут вядзецца іхняя адукацыя і фабрыкуюцца жабракі для ўсяе ваколіцы (…)

(…) Людзі там маюць іншы фасон, іншую фастацыю, чым усюды: розныя храмыя, крывыя, сляпыя, нямыя; калекі на ўсялякія лады, калекцыя розных калек, якія толькі могуць быць на свеце.

Кажуць, што большая частка іх нават родзіцца гэткімі. Кажуць, хто мае ў іх большае калецтва, той і фанабэрыцца гэтым і болей шчасліў бывае.

— Калецтва — наша саха і барана! — кажуць самі жаброўцы».

«(…) дурнаватая Магдуля са сляпым Сідаронкам» — бот боту пара. А тут яшчэ вырашылі сям'ю завесці. Адразу «(…) пачалі выклікаць зайздрасць у сваіх суседзяў: яны зрабіліся самымі найшчаслівейшымі ў Жаброўшчыне. Ніхто не мог так жаласна енчыць і пяяць Лазара, як Сідаронак; ніхто не мог так манточыць пад вокнамі ды прычытваць, як Магдуля. Самы найгоршы павінен быў даць ім што-колечы…»

Як і мае быць, у маладой сям'і дзіця з'явілася, дачка нарадзілася. Радавацца трэба. Толькі няма радасці ў маладой маці:

«Ніякага калецтва! — стагнала Магдуля. — Хай бы яна хоць у бацьку пайшла ды сляпой радзілася. А то з чаго яна будзе хлеб есці? А Езус, божухна родненькі!..»

Адважылася жанчына на тое, у што, калі б гэта не стала рэальнасцю, паверыць немагчыма: «(…) Магдуля пачала нешта ёй (дзяўчынцы. — **А. М.**) спрытна ў тварык саваць; дзіцянё пачало плакаць працяжным слабым галаском. Магдуля засаплася, панесла яго скора на ложак, кажучы:

— Ашчаслівіла цябе, дачушка мая, даражэнькая мая! Ашчаслівіла!

Яна асляпіла вочы дачкі іголкай…»

Страшны ў сваёй сутнасці натуралізм? Хваравітая псіхалогія душэўна і псіхічна хворай жанчыны? Усё так. Але гэта калі да таго, што расказаў у гэтым апавяданні З. Бядуля, падыходзіць толькі прытрымліваючыся самой непрыгляднасцю ўсяго, што адбылося. Праўда ўсё ж на баку Каваленкі: «Між тым, змест апавядання «Ашчаслівіла» хутчэй алегарычны, чым пабытавы. (…) Маці з вёскі Жаброўшчына — ці не абагулены гэта вобраз усёй Беларусі, якая непазбежна пазбавіць сваіх дзяцей відушчасці, гэта значыць — пазбавіць сябе будучыні, калі будзе гнацца за дробненькай выгадай, за мізэрным выйгрышам і гэтым самым змірыцца з жабрацкай доляй?»

А вось гэта ў развагах Каваленкі не менш істотна, бадай, нават больш важна: «(…) ідэя апавядання «Ашчаслівіла» — не пераходная, не вузкая, тым больш не прыземленая. Яна выказана на вякі і не страціла свайго грамадзянскага напаўнення і сёння. Бядулеўскае «сляпому не ўбачыць дарогі» гучыць гэтак жа важна, пафасна і надзённа, як і горкаўскае «рожденный ползать — летать не может».

Прыкладна ў той час, што і апавяданне «Ашчаслівіла», Бядуля напісаў і верш у прозе «Над сажалкай». Падышла дзяўчынка да сажалкі «(…) і цуда ўбачыла ў гладзі люстранай вады: купаўся там анёл з распушчанымі шаўковымі валасамі. Над галавой яго быў залаты маладзік. На грудзях блішчэлі дыяментавыя пацеркі зорак. Плоткі маленькія плылі вакол, пазіраючы яму ў ясныя блакітныя вочы…

Не разумела дзяўчынка вясковая, што яна гэты воблік свой бачыць у вадзе, і зашаптала малітву — тую самую, каторую калісьці стары дзед вучыў яе…»

То, несумненна, была малітва і за Беларусь. Дый сама «дзяўчынка вясковая» ўспрымаецца Беларуссю — той, якая — Бядуля ў гэта шчыра верыў — паўстане ў будучым, зажыве шчасліва, заквітнее ярка.

## Сэрца шмат прарочыла

Бядулеўская паэзія віленскага перыяду па сваёй настраёвасці шмат у чым блізкая «Абразкам». Па-свойму абагульнены змест яе Лойка бачыў у вершы «На горне душы»:

На горне душы я жывы верш каваў,
Мне молатам гора служыла;
Зык песні паўночнай у сэрцы хаваў.
І сэрца свой боль гаварыла…

Разам з тым у Бядулі-паэта моцнымі былі і антываенныя матывы («Арліхі», «Ад крыві чырвонай…», «Волат»). Пішучы пра гэта, ён не толькі заставаўся цвярозым рэалістам. Не адмаўляўся ён і ад фальклорных вобразаў. Гэта асабліва адчувальна ў вершы «Юда жэніцца». Ягоная «каханка» — своеасаблівая. Гэта сама Смерць.

Не абышлося, канешне, і без лірычных вершаў. Найлепшы з іх — таксама нельга не пагадзіцца з Лойкам — «Сэрца прарочa». Вабіць і сваёй танальнасцю, дый з непрыхаванай самотай, што сведчыць аб душэўнай няўтульнасці лірычнага героя, а значыць, і самога паэта:

Месяц бледны глядзіць на нямую лагчыну,
Над затокаю вольха ківае галінай,
    Пушча спіць ў зачарованым сне…
Ой, чаму гэтак боль грудзі кволыя раніць?
    Ой, чаму гэтак жудасна мне?
Сэрца нешта благое прароча,
І з грудзей яно вырвацца хоча…

Гэтым благім прадчуваннем, безумоўна, стала і Першая сусветная вайна. Але, выкрываючы ўсе яе жахі, ён хутка здолеў узняцца над імі. Насуперак усяму з'явіла-ся вера і ўпэўненасць у тым, што благое ў рэшце рэшт скончыцца. Каб жа наблізіць гэта неабходны намаганні многіх, найперш тых, хто гатовы ўзяць на сябе вялікую адказнасць. Творам-заклікам загучаў верш «***Прыйдзіце вы, добрыя…»:

Прыйдзіце вы, добрыя… Вокам праніклівым
Кіньце на нашу нядолю!
Вас люд чакае, зняволены працаю —
Босы і голы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прыйдзіце вы, моцныя, бурамі званыя,
З яснай прыйдзіце зарніцай!
З дарог-пуцявінаў вы згоніце ворага,
Хутка прыйдзіце!..

Новым дыханнем паэзія З. Бядулі напоўнілася пасля таго, як скончылася вайна, учарашнім днём сталі Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі. У пачатку 1918 года пачынае выходзіць газета «Вольная Беларусь». У першым жа нумары яе, які прыйшоў да чытача 7 студзеня, Бядуля выступіў са сваім вершам. Назва яго арыгінальнасцю не вызначаецца — «Новы год», а змест такі, што мог нарадзіцца толькі з-пад пяра паэта-грамадзяніна, які надыход чарговага года ўвязвае з найлепшымі спадзяваннямі. Не толькі для сябе, а і для ўсяго беларускага народа.

У Грамадзянскую вайну ў Бядулі нарадзіліся вершы не менш красамоўныя, чым ужо названыя. У адным з іх — «Тры сцежкі» — паэт у думках адштурхнуўся ад вядомага фальклорнага сюжэта, калі былінны волат, апынуўшыся на раздарожжы, убачыў перад сабой тры дарогі. У роздуме асілак: каторай з іх пайсці, каб выбраць правільны шлях, не заблудзіцца. У падобным становішчы апынулася і Беларусь. Толькі ў адрозненне ад быліннага волата, яна ўжо добра знаёма з дзвюма сцежкамі:

Тры сцежкі на нашай зямельцы праходзяць,
Тры сцежкі.
Адна на Заход — да Варшавы.
Другая на Ўсход — да Масквы.
А трэцяя — проста ўпярод.
Ідзе, ды ідзе —
Далёка — да самага Сонца.

Пайсці першымі дзвюма сцежкамі — паўтарыць колішнія памылкі — ці то «ў рукі паном цалаваць», ці то апынуцца там, дзе «голасная лаянка» — «ганяе ўсіх пад цар-звон на паклон». Адно застаецца — пайсці трэцяй сцежкай, сваёй, самастойнай. Да гэтага і заклікае паэт у вершы «Тры сцежкі».

## «Салавей» і яго песня

Змітрок Бядуля працаваў плённа, пісаў шмат. Але калі ў яго ўзнікала якая-небудзь новая творчая задума, не заўсёды браўся за яе ажыццяўленне. Нярэдка выношваў яе доўга. Яскравы прыклад таму — аповесць «Салавей». На напісанне яе яго яшчэ ў 1921 годзе падштурхнула камедыя Аляксандра Грыбаедава «Горе от ума». Перачытваючы гэты твор, запыніўся на маналогу Чацкага:

На бале, помните, открыли мы вдвоем,
За ширмами, в одной из комнат
посекретней
Был спрятан человек и щелкал соловьем,
Певец зимой погоды летней.

Аднак не толькі Грыбаедаў, умоўна кажучы, суаўтар гэтай аповесці. Крытык і літаратуразнаўца Янка Казека прыгадваў: «Памятаю, расказваў Змітрок Бядуля пра славуты ў свой час шклоўскі тэатр, які належаў графу Сямёну Зорычу. Артыстамі балета, хору і аркестра былі прыгонныя з маёнткаў графа. Сялянскіх хлопцаў і дзяўчат сілком разлучалі з сем'ямі. Запрошаныя з-за мяжы педагогі вучылі іх артыстычнаму мастацтву, каб маглі яны пацяшаць магната і яго гасцей».

Важна і такое сведчанне Казекі: «Недалёка ад Пасадца, у Плешчаніцах, быў таксама прыгонны тэатр. Змітрок Бядуля казаў, што ў Пасадцы доўга бытавалі вусныя народныя апавяданні пра жахлівы лёс прыгонных артыстаў гэтага тэатра».

Істотны момант у разуменні задумы аповесці «Салавей» даюць меркаванні крытыка Антона Адамовіча ў яго артыкуле «Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша». Ан. Адамовіч пасля Вялікай Айчыннай вайны падаўся ў эміграцыю, таму ягонае імя сённяшняму чытачу мала вядома. У канцы ж 20-х да сярэдзіны 30-х гадоў мінулага стагоддзя яно было на слыху. На гэта звяртае ўвагу і Уладзімір Конан, уступнае слова якога папярэднічала публікацыі згаданага артыкула (гісторыка-літаратурны зборнік «Шляхам гадоў», 1993): «Быў час і была «эпоха», калі яго (Ан. Адамовіча. — **А. М.**) заганялі ў адну абойму з імёнамі іншых узвышэнцаў — Адама Бабарэкі, Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Язэпа Пушчы, Васіля Шашалевіча — каб зганіць, апляваць, а пасля і зусім выкрасліць са старонак гісторыі літаратуры».

Безумоўна, Ан. Адамовіч, тут праўда на баку Конана, «… занадта палітызуе літаратурны рух 20-х гадоў, калі пераносіць ягоныя трагічныя вынікі на яго вытокі і станаўленне. Сувязі паміж рэвалюцыяй і беларускай літаратурай больш складаныя, чым гэта здавалася ахвярам сталінскай дыктатуры (…) Аднак (…) самыя спрэчнасці і нават суб'ектыўнасць агульнай канцэпцыі Адамовіча, яго ацэнка «маладнякізму», «ажыўленства» (Ан. Адамовіч «узвышанскую плынь у беларускай літаратуры называў «ажыўленскай». — **А. М.**) і «нацыянал-камунізму» Ц. Гартнага паспрыяюць плённым навуковым дыскусіям з мэтай распрацоўкі шматмернай, комплекснай гісторыка-літаратурнай канцэпцыі трагічных паслярэвалюцыйных дзесяцігоддзяў».

Шмат у чым суб'ектыўнае меркаванне Ан. Адамовіча і адносна «Салаўя» Бядулі. Аднак… Цытуем, захоўваючы адметнасць арыгінала: «(…) Бядуля выкарыстаў гістарычны сюжэт з часоў прыгону для «пераапрананьня» сучасных яму падзеяў: у эпізодах зь гісторыі прыгоннага тэатру «перапраналася» зьмена дачыненьня бальшавікоў да беларускага тэатру, мастацтва й нацыянальнага разьвіцьця наагул (…)». Далейшыя сцвярджэнні Ан. Адамовіча выглядаюць зусім

нечаканымі: «Бядуля пашырыў мэтад «гістарычнага перапрананьня» ўлучэньнем партрэтаў сваіх сучасьнікаў пад выглядам гістарычных асобаў (…). Гэтак, у прыгонным пану Вашамірскім чытач лёгка пазнаваў Крыніцкага, тагачаснага першага сакратара ЦК КП(б)Б; у каталіцкім сьвятару Курачковічу — прафэсара Піятуховіча, аднаго з найбольш бліскучых і апартуністычных марксысцкіх навукоўцаў; у купцу Вольскім — маладнякоўскага паэту Анатоля Вольнага, які намагаўся пралезьці ў кола «прыдворных» панэгірыстычных і одапісцаў; у шляхціцу Завішу — Ігната Шыпілу, рэдактара афіцыёзу «Савецкая Беларусь». І г. д. Як у жыцьцяпісных дадзеных, так і ў фізычным выглядзе гэтыя «партрэты» былі намаляваны вельмі акуратна й навочна: яны дапамагалі чытачу зразумець аповесьць «гістарычна».

Прыкмеціў Ан. Адамовіч і тое, што «ўзвышэнскі крытык Адам Бабарэка адзначыў гэтае «пераапрананьне» ў сваёй рэцэнзіі на «Салаўя», асьцярожна назваўшы ягоны гістарычны аспэкт да некаторай ступені «дэкаратыўным». Ан. Адамовіч меў на ўвазе рэцэнзію А. Бабарэкі «Пра Бядулеву аповесць «Салавей» («Узвышша», 1925, № 2). Не абмінуў Ан. Адамовіч увагай і Тодара Глыбоцкага: «Крытык з варожага маладнякоўскага лягеру назваў аповесьць не аўтэнтычна гістарычнай і заявіў, што аўтар не зрабіў ніякага намаганьня зрабіць яе такой». Псеўданімам Т. Глыбоцкі свае літаратурна-крытычныя матэрыялы падпісваў, як вядома, паэт Алесь Дудар. Аповесці «Салавей» ён прысвяціў дзве публікацыі: «Пад шыльдай пралетарскай літаратуры» («Полымя», 1927, № 4) і «Літаратурнае балота» (тамсама, 1928, № 1).

Адам Бабарэка не проста ўважліва прачытаў гэты твор, а і здолеў у сваіх развагах, па сутнасці, выйсці за межы яго, паразважаўшы пра тое, што ўжо бліжэй да нашых дзён адзін з крытыкаў з іншай нагоды сфарміраваў так: «Талент, што з табой рабіць?» А. Бабарэка пісаў: «У абсягу псіхалагічным аповесць «Салавей» прадстаўляе сабой талент высокага тэмпераменту, талент захаплення вобразамі, створанымі вабражэннем. Гэта талент, у якім стыхійная актыўнасць пераважае над творчай…» На думку А. Бабарэкі, «у аповесці асабліва яскрава выяўляецца гэта старана таленту яго аўтара, а менавіта шуканне абсалютнай каштоўнасці (…) Таленты, што прадстаўлены аповесцю «Салавей», больш песняры, якія твораць чуццём, інтуіцыяй, ніж паэты-майстры, што могуць дасягаць пэўных мэт паэзіі сваім умельствам і майстэрствам».

Вытокі ж агрэсіўнасці Глыбоцкага трэба бачыць у тым, што сам ён працягваў знаходзіцца ў згуртаванні «Маладняк», а Бядуля парваў з гэтай творчай суполкай, стаў «узвышанцам». Глыбоцкі быў упэўнены, што тыя, хто ўваходзіць ва «Узвышша», «выяўляюць сабою прадстаўнікоў (…) упадніцтва, расслабленасці, містыцызму». Таму і не прамінуў у артыкуле «Пад шыльдай пралетарскай літаратуры» «праехацца» па Бядулю: «Аўтар узяў на сябе задачу даць гістарычны малюнак прыгоннага тэатру на агульным фоне прыгнёту. Але ўзяўшыся за гэтую справу, ён не паклапаціўся азнаёміцца з навуковымі матэрыяламі, а карыстаецца ў большасці выпадкаў матэрыяламі інтуітыўнага парадку (што бог на душу паложыць). Гэта часамі прыводзіць аўтара да трафарэтных прыймаў агіткі і гэтым самым паніжае мастацкую вартасць твору».

Прадузятасць у ацэнцы відавочная. Тым не менш, у пэўнай ступені праўда і на баку Глыбіннага. У тым сэнсе, што Бядуля не мог пісаць, як хацеў рабіць гэта. Не мог выказваць тое, што яму жадалася выказваць. Як і іншыя пісьменнікі таго часу, ён нярэдка мусіў, кажучы словамі Уладзіміра Маякоўскага, наступаць на горла сваёй песні. Тонка прыкмеціў гэта зноў жа Бабарэка. Гэтым разам у артыкуле «Пералом у станаўленні нацыянальнай культуры ў творчасці З. Бядулі» («Узвышша», 1928, № 3). Гэта відаць, у прыватнасці, з такога меркавання: «На з'явы рэвалюцыі паэт глянуў праз тое ж шкло містычнага прыняцця свету, праз якое дзівіўся ён на гэты свет і да з'яўлення новых падзей. Ён прыняў гэтыя падзеі, як праявы ўсё той жа адзінай тайны жыцця, якое было для паэта і законам, і душою, і рэлігіяй, і богам (…)».

Адам Бабарэка, як няцяжка заўважыць, найперш меў на ўвазе Бядулю-паэта, але гэта правільна і ў дачыненні да Бядулі-празаіка, бо ён заўсёды быў і заставаўся ў душы паэтам. Нават у шмат якіх сваіх празаічных творах. Ці не таму, для прыкладу, у аповесці «Салавей», моцныя мясціны, дзе расказваецца пра захопленасць галоўнага героя музыкай, тэатрам, усім тым, што патрапляе пад вызначэнне прыгажосць. У той жа час у тых эпізодах, дзе Бядуля, скажам так, «выкрывае эксплуатататараў», нярэдка страчвае пачуццё меры, чаго, праўда, не скажаш пра вобраз пані Вашамірскай, выпісаны праўдзіва, па-майстэрску. Дый сама аповесць у цэлым атрымалася.

На вартасць твора, канешне, не магло не паўплываць і тое, што Бядуля не задаволіўся першапачатковым варыянтам і працягваў удасканальваць «Салаўя». Але і на трох рэдакцыях не спыніўся. Увогуле, аповесць значна перапісаў, пашырыўшы яе сюжэтныя межы. Сымон Салавей, застаўшыся прыхільнікам свайго ж крэда: «Не хачу быць панскім салаўём!», перайшоў і да актыўных дзеянняў. Па волі аўтара ён разам з капельмайстрам Антонам Мурашкам пайшоў у партызанскі атрад, што дзейнічаў у наваколлі. Разам з паўстанцамі напаў на палац пана Вашамірскага.

Пашырыліся не толькі сюжэтныя абсягі аповесці, адбыліся і змены сацыяльна-тэматычнага плана. Галоўны герой, тым самым, стаў на шлях барацьбы з прыгнятальнікамі. Праўда, такое «ўдасканаленне» не ва ўсім пайшло на карысць мастацкім вартасцям. Аднак відавочна адно: твор гэты — значная веха ў мастакоўскай біяграфіі пісьменніка. Дый у гісторыі беларускай літаратуры. Бачачы цікавасць да аповесці, Бядуля напісаў аднайменную п’есу. Звярнуў увагу на гэты твор Бядулі і кампазітар Міхаіл Крошнер. У выніку з’явіўся першы беларускі нацыянальны балет «Салавей», пастаўлены ў 1939 годзе ў тэатры оперы і балета ў Мінску. Набыў гэты балет сцэнічнае жыццё і ў Адэсе. Адметнасць балета «Салавей» у тым, што ў музыкальнай драматургіі яго вялікую ролю адыгрывае народны танец.

## Крушынскі як сын свайго часу

Паступова падступаўся Бядуля і да рамана «Язэп Крушынскі». Дакладней, з жанрам будучага твора ён вызначыўся не адразу. Калі і была ў яго пэўнасць, дык толькі наконт таго, што, між іншым,  хацеў расказаць і пра тое, як кантрабандысты, выкарыстоўваючы няпэўнасць першых гадоў савецкай улады, імкнуцца нажыцца. З імі ж, паводле аўтарскай задумы, будзе звязаны і галоўны герой будучага рамана. Прынамсі, два апавяданні, літаратурнымі героямі якіх з’яўляюцца гэтыя авантурысты, ёсць у кнізе Бядулі «Дэлегатка» (1928). Гэтыя творы Навуменка, не без падстаў на тое, называе «эскізамі да рамана «Язэп Крушынскі».

Адно з іх «Як я зрабіўся кантрабандыстам», па сутнасці, падштурхоўвае хутчэй даведацца пра «кухню» гэтых лаўцоў удачы. Напаткоўваеш у творы і гераіню, шмат у чым падобную на Соньку-кантрабандыстку з «Язэпа Крушынскага». У апавяданні ж «На варце» раскрываецца і адзін з «метадаў» работы гэтых прайдзісветаў. Каб падмануць пагранічнікаў, яны кантрабандныя сукно, шоўк схавалі ў дамавіне. Ступілі на шлях святатацтва, абы толькі ўзбагаціцца. Апавяданне ж «Воўк» з кнігі «На зачарованых гонях» (1923) — як бы біяграфія аднаго з кантрабандыстаў, свайго роду кардыяграма ягонай душы.

Што Бядуля добра ведаў жыццё кантрабандыстаў, здзіўляцца не трэба. Мінск у пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя з’яўляўся прыгранічным горадам. Пра кантрабандыстаў нямала расказваў пісьменніку і яго бацька, які, працуючы канторшчыкам на сплаве лесу, неаднойчы сутыкаўся з імі. Аднак успрымаць Крушынскага толькі кантрабандыстам, — значна звужаць сутнасць гэтага вобраза. Канешне, можна яго параўнаць і са знакамітым Астапам Бэндарам і ў гэтым вялікай нацяжкі не будзе. Ды толькі Крушынскі — фігура куды больш каларытная.

Ён, безумоўна, як і герой Ільфа і Пятрова, дзіця свайго неспакойнага і непрадказальнага часу, але дзіця гэтае, калі можа так сказаць, куды больш таленавітае. Таму і размах яго дзейнасці шырэйшы.

Язэп Крушынскі, безумоўна, прагавіты да грошай, нажывы не менш, чым яго рускі «сваяк». Так, ён — прайдзісвет, авантурыст, але такі, які надта ўмее прыстасоўвацца да абставін. Таму многія і ўспрымаюць яго ў вёсцы сваім чалавекам. Дый як не паважаць, калі нават падносіць сябе барацьбітом за савецкую ўладу. Хоць, зразумела, ніякім змаганцам за яе не быў. Толькі арыштоўваўся белапалякамі за тое, што раздаў сялянам частку прыдбанай у памешчыка зямлі. Гераізму ніякага, заслуг — таксама, затое столькі шуму.

Язэп Крушынскі — сацыяльны тып новых абставін, калі ж казаць канкрэтна, то эпохі нэпа. Гэткага наўрад ці прыдумаеш. Нават маючы такую багатую мастакоўскую фантазію, якая была ў Бядулі. Значыць, малюючы ягоны вобраз, аўтар рамана меў прататыпа. Толькі каго?

Паводле меркавання краязнаўцы Франца Гінтаўта, правобразам Крушынскага быў швагер Купалы Юліян Раманоўскі. На першы погляд, у такую версію можна паверыць. У Акопах жыла маці Купалы, да якой ён часта наведваўся. З ім прыязджаў і Бядуля. У Акопах жыў і Раманоўскі. Сядзіба бацькі Гінтаўта размяшчалася поруч, таму ён добра ведаў Раманоўскага: «Раманоўскі паходзіў з беззямельных сялян, ад прыроды быў чалавекам здольным, прагным да валодвання розным рамяством. Нейкім чынам, можа, ад суседзяў навучыўся цяслярству, сталярству, таленавітым быў у кавальстве, разбіраўся ў сельскагаспадарчых машынах».

Але ж Крушынскі, як відаць з рамана, зусім іншы чалавек. Дый нельга не прыслухацца да меркавання Навуменкі: «Ніводны пісьменнік, малюючы героя па вобразу прататыпа, не можа перарабіць чорнае ў белае і наадварот». Пагадзіцца са знакамітым літаратуразнаўцам і празаікам трэба і ў іншым: «(…) прататыпа Язэпа Крушынскага трэба шукаць у іншым месцы — а менавіта ў махлярскім асяроддзі, дзе працаваў бацька Бядулі ды і значны час сам будучы пісьменнік».

Калі і ёсць рацыянальнае зерне ў развагах Гінтаўта, дык у гэтых: «Бядуля раней за Купалу і Коласа распачаў публікаваць свой раман, своеасаблівую індульгенцыю, каб адчапіцца ад інквізітараў-«бэндаўцаў», бо іх прычэпы былі даволі пагрозныя. Яго абвінавачвалі ў тым, што ён быў носьбітам і выразнікам дробнабуржуазнай ідэалогіі, а ў часы рэвалюцыі нібы злучаўся з беларускім контррэвалюцыйным нацыяналізмам». Несумненна, Бядуля, як і многія іншыя пісьменнікі тады, баяўся «бэндэўцаў» розных масцей.

Пацвярджэнне гэтаму ёсць ва ўспамінах паэта і празаіка Рыгора Рэлеса:

«У канцы трыццатых гадоў я некаторы час працаваў у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі». Супрацоўнікамі гэтай газеты былі Мікола Аўрамчык, Генадзь Шведзік і Мікола Лупсякоў.

І вось аднойчы, я і Шведзік вярталіся ў рэдакцыю з абедзеннага перапынку. Падыходзім да будынка, дзе размяшчаўся Саюз пісьменнікаў, і сустракаем Бядулю. Ён яўна ўсхваляваны.

— Маладыя людзі, — звяртаецца ён да нас, — пастойце! Ух, дайце апрытомнець!

— Самуіл Яфімавіч, што здарылася? — звяртаецца да яго Шведзік.

— Ах, не кажыце! Я ледзь прытомнасць не страціў. — І пасля некаторай паўзы дадаў: — Спускаюся з лесвіцы і тварам у твар сутыкаюся са страшным чалавекам, — і тут жа ён назваў прозвішча аднаго дубіннага крытыка, як такіх называлі ў той час.

Гэты крытык толькі тым і займаўся, што граміў пісьменнікаў, прышываючы ім незаслужаныя палітычныя ярлыкі. Не мінуў ён і заснавальнікаў беларускай літаратуры. І Бядулю ад яго даставалася. Будучы выкладчыкам навучальнай установы НКУС, гэты крытык карыстаўся правам нашэння формы і зброі, нідзе не расставаўся са сваім наганам, які насіў у кабуры.

— А гаварылі, што ён ужо дзесьці ў Ленінградзе жыве, — са смуткам сказаў Бядуля. — Быццам і там ужо ўцёрся ў літаратурныя будуары… Няўжо зноў вярнуўся сюды?

— Не можа быць, — супакойваў яго Генадзь, — напэўна, па асабістых справах прыехаў.

— Добра, калі так. Між іншым, ліха яго матары! Пажывём — пабачым (…)».

Напалохаў Бядулю ніхто іншы, а Лукаш Бэндэ. Гэта на ягоным сумленні (хоць ці ёсць сумленне ў такіх людзей?!) дзясяткі зламаных пісьменніцкіх лёсаў, а многія былі і расстраляны па ягоных ілжывых даносах. Безумоўна, падобныя людзі не маглі не выклікаць у Бядулі агіды. Як скажам, яшчэ адзін крытык — Якаў Браништэйн. У артыкуле «Пытанні тэорыі і крытыкі літаратурнага метаду» («Полымя рэвалюцыі», 1935, № 2) ён называў Бядулю «тыповым пісьменнікам «нашаніўскай» фармацыі, г. зн. рэакцыйным, буржуазна-нацыяналістычным, упадніцкім пісьменнікам». Не абмінуў Браништэйн і аповесць «Салавей», убачыўшы ў гэтым творы «рамантычнае перавелічэнне ролі «стыхійнай артыстычнай душы», што, на яго думку, стала «данінай рэштакам беларускага нацыянал-рамантызму і славутым нацыяналістычным вобразам «баянаў» і «дудароў».

Па меры магчымасці, Бядуля стараўся даваць адпор падобным вульгарызатарам. Але рабіў гэта не адкрыта, а завуаліравана, як, пра што ўжо гаварылася, у той жа аповесці «Салавей». Выкарыстаў такую магчымасць і ў другой кнізе рамана «Язэп Крушынскі». На жаль, пры гэтым і сам страціў пачуццё меры. Сваіх апанентаў не толькі паказаў у непрыглядным выглядзе (зразумела, не пад іх сапраўднымі прозвішчамі), а, па сутнасці, прад'явіў ім тое, што пазней дазволіла нкусаўцам несправядліва абвінаваціць іх у нацыяналізме. Таму рэдкалегія Збору твораў Змітрака Бядулі ў пяці тамах паступіла правільна, зрабіўшы ў тэксце другой кнігі «Язэпа Крушынскага» нязначныя купюры.

Першая ж кніга рамана сведчыць аб глыбокім псіхалагізме аўтара ў раскрыцці характараў персанажаў. У цэлым удаўся галоўны герой, цікавым атрымаўся аграном Іван Шапавалаў. Але найбольш каларытны селянін Мірон Гарбочык, якога з-за яго пышнай барады і лысіны празвалі Львом Талстым. З рамана невядома, ці чытаў ён творы гэтага выдатнейшага рускага пісьменніка. А тое, што Мірон добра ведае людзей, разбіраецца ў іхняй псіхалогіі, гэта дакладна. Як праўдзіва і тое, што ён адчувае сябе патрэбным аднавяскоўцам. На такіх, як Гарбочык, і вёска трымаецца.

Калі Лойка, не без падстаў на тое, вызначыў два этапы ў віленскім перыядзе Бядулі, дык Уладзімір Казбярук, зыходзячы з канкрэтных рэалій, гэтаксама сказаў пра ўсю ягоную творчасць:

«У творчасці Змітрака Бядулі выразна вызначаюцца два асноўныя этапы, абумоўленыя гістарычнымі абставінамі. У нашаніўскі перыяд, затым у час першай сусветнай і грамадзянскай вайны ён усімі сваімі сіламі змагаўся за адраджэнне Беларусі, за вызваленне ад нацыянальнага і сацыяльнага бяспраўя.

Ва ўмовах Савецкай Беларусі пісьменніку давялося мяняць арыенціры. Але пераход на пазіцыі сацыялістычнага рэалізму адбываўся без кардынальнай ломкі жыццёвых норм і перакананняў. Гэтаму ў значнай ступені садзейнічала палітыка беларусізацыі, якая ажыццяўлялася ў 20-я гады. Яна дазволіла пісьменніку паступова прыстасоўвацца да новых абставін і падрыхтавацца да «вялікага пералому», які афіцыйна ў канцы 20-х гадоў звязаны быў з жыццём вёскі ў перыяд калектывізацыі, а на самай справе захапіў і іншыя сферы грамадска-палітычнага жыцця краіны. Бо тады разгарнулася барацьба з так званай нацдэмаўшчынай, пачаліся маштабныя палітычныя рэпрэсіі, кульмінацыя якіх прыпала на 1937 г. Змітрок Бядуля вымушаны быў прыстасавацца да новай сітуацыі, але ў творчасці звярнуўся да такой тэматыкі, якая дазволіла яму зберагчы вернасць жыццёвай праўдзе і пакінуць нашчадкам творы, што не страцілі сваёй мастацкай каштоўнасці і сёння».

Хоць нельга не сказаць, што і ў яго ёсць творы, занадта прывязаныя да свайго часу. Сярод іх і тыя, што трапілі ў кнігі «Апавяданні» (1926), «Дэлегатка» (1928), «Дзесяць» (1930), «Незвычайныя гісторыі» (1931) і іншыя. Няроўнымі атрымаліся і аповесці «Год за годам», «Тры пальцы» (абедзве 1927), «Таварыш Мінкін» (1930), таксама прысвечаныя сучаснасці. Месцамі згаданыя творы залішне палітызаваныя, іх героі празмерна правільныя. Але гэта бяда не аднаго Бядулі. Іншыя пісьменнікі таксама мусілі трымаць сваё пяро на пульсе часу. Зразумела, што Бядуля выключэннем не стаў. Дый не трэба забываць, што ён працаваў у рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь», рэдагаваў дзіцячы часопіс «Зоркі» і краязнаўчы «Наш край». Не толькі пісьменнікам быў, а і, можна сказаць, з’яўляўся чалавекам дзяржаўным, таму проста не мог заставацца ў баку ад надзённых праблем.

## Не забываў і пра дзяцей

Важкі ўклад унёс Бядуля і ў развіццё беларускай дзіцячай літаратуры. Апавяданні «Малыя дрывасекі» і «Пяць лыжак заціркі» — таксама з тых, якія трэба прапаноўваць для чытання дзецям. Але, засяроджваючы ўвагу толькі на гэтых творах, значыць (магчыма, у нечым і падсвядома), звужаць набыткі Бядулі ў згаданым кірунку. Ім для малых і юных чытачоў напісана нямала.

Паказам таго, як дзіця імкнецца спасцігнуць навакольны свет, да ўсяго дайсці самому, вылучаецца апавяданне «Дзе канец свету?». Сямігадовы хлопчык Янка даўно задумваецца над гэтым пытаннем і гатовы з ім звярнуцца да дарослых. Ды старэйшыя не ўспрымаюць ягоную цікаўнасць усур’ёз: «… бабка Аўдоцця гэтага не ведае. А дзядзька Арцём робіць тое, што смяецца з яго». У бацькі ж Янка запытацца баіцца, бо «бацька вечна працуе, часу не мае». Вырашае хлопчык пра ўсё даведацца сам і бяжыць услед за сонцам. Аж пакуль сонца не зайшло: «Змрокі паплылі па лагчынах… Сівы туман узнімаецца над рэчкай. Паказаліся зоркі ў небе, заміргалі агенькі на зямлі:

— Дзе канец свету?»

Янка як быццам і не атрымлівае адказу. Ды не расчароўваецца, упэўнены — калі-небудзь абавязкова знойдзе яго. «Пэўна, у кнігах аб гэтым напісана, — падумаў Янка. — Увосені ў школу пайду, вучыцца буду і аб усім даведаюся».

У апавяданні «Туляга» раскрываецца лёс вясковай дзяўчынкі Ганулькі, якая, працуючы ў багатага гаспадара, «восенню пры малацьбе прастудзілася і захварэла», а пасля памерла. Ды каб жа такі трагічны лёс напаткаў адну Ганульку! Не лепшая доля і ў іншых дзяцей Арцёміхі. А які лёс, «гэта ведаюць старыя сумныя могілкі за вёскай. Гэта ведаюць там разнарослыя крыжы і крыжыкі яе дзяцей: Юзя ўтапіўся, Марылю кабыла забіла, Агатку яна сама прыспала на ложку. Сцёпка так памёр ад нейкага безгалоўя — мала ж ёсць напасцей у няшчасных, бедных вёсках?»

Такім было некалі сялянскае жыццё. Смерць блізкіх, родных людзей у абяздоленых сем’ях часта ўспрымалася, як штосьці заканамернае. А яшчэ людзі азлабляліся і гэтую ненавісць пераносілі на дзяцей. Чалавечая асоба падаўлялася ў тым узросце, калі душа прагне ўзаемаразумення, чысціні, адкрытасці. Самае страшнае, што найбольш не зразумелымі грамадствам станавіліся асабліва таленавітыя. Так адбылося і з васьмігадовым Сцяпанкам, героем апавядання «Вялікодныя яйкі».

Гэта кранальная гісторыя хлапчука, які мае талент, у якога ёсць задаткі да малявання. Але ўсе, у тым ліку і родная маці, глядзяць на яго, як на дзівака, ягонае захапленне ніхто ўсур’ёз не ўспрымае. Маці ў роспачы кідае сыну: «Табе ў галаве цацачкі, конікі, чалавечкі, сабачкі, дрэўцы і іншыя трасцы. Апрача гэтага безгалоўя нічога ведаць не хочаш. Невядома, як твой тата гаротны тамака на вайне, ці жыў яшчэ, ці здароў, а ты ў хаце дурнотамі бавішся». Хоць Сцяпанкаву маці і зразумець можна. Голад, нястача ў сям’і, а ў сына з чатырохгадовага ўзросту

пачалося дзіўнае захапленне. Нездарма ўсе празвалі яго Сцяпанка Пяцкун. Чаму так здарылася, пісьменнік вытлумачвае ў невялікім адступленні: «Проза жыцця з паэзіяй не можа ўжыцца разам у гаротнай сялянскай хатцы. Паміж імі адбываюцца пастаянна балючыя сутычкі. Гэтыя дзве супраціўніцы чалавечага характару рэдка ўступаюць месца адна адной, і чалавек, які радзіўся пад апекай муз, вельмі шмат церпіць ад акружаючых абставін. Яго ўсе выкпіваюць, лічаць недарэкай».

Змітрок Бядуля напісаў шмат і казак. З празаічных — «Скарб», «Музыка», «Бліночак з неба», «Іван-працячок», «Сіла ў грамадстве». Творча асэнсоўваючы фальклорныя матывы, ён ва ўласных творах дасягаў большай выразнасці, узмацняў выхаваўчыя аспекты. Акрамя таго, калі-нікалі сюжэт увязваў з блізкай яму рэчаіснасцю, як у казцы «Іванка-прасцячок». Ёсць у яго і вершаваная паэма-казка «Мурашка-Палашка».

Перад самай вайной закончыў аповесць-казку «Сярэбраная табакерка». У канцы твора пазначана: «Пухавічы — Мінск, 1940 г.». Урыўкі з яе былі змешчаны ў газетах «Звязда», «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена». Здавалася б, чаму б не апублікаваць «Сярэбраную табакерку» цалкам. Але Бядуля гэтага чамусьці не зрабіў. Чаму? Бадай, блізкі да ісціны Навуменка: « (…) у аповесці ў завуаліраванай форме адлюстраваны сталінскі дэспатызм, жорсткія, бесчалавечныя рэпрэсіі 1937—1938 гг. З. Бядуля ўмее ў вобразах, здавалася б, далёкіх ад сучаснасці, паказаць сучаснасць. Гэта мы бачылі ў аповесці «Салавей», тое ж самае і ў «Сярэбранай табакерцы»: за зайцам, пераможцам смерці, дарэчы, самым палахлівым з лясных звяроў, можна без асаблівага намагання ўбачыць забіты, затурканы народ, над якім стаіць папа Кій X, яго намеснік кардынал Баніфацый, кароль уяўнай краіны Пінг-Понг і іншыя ліхвяры-захрыбетнікі. Сёй-той мог сябе пазнаць. І не мінаваць бы пісьменніку ліха, хоць яшчэ ў трыццаць дзевятым годзе ён быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, а масавыя рэпрэсіі да часу напісання аповесці нібыта спыніліся».

Ствараючы «Сярэбраную табакерку», Бядуля ішоў ад фальклору. Дарэчы, яшчэ ў 1922 годзе ён апублікаваў у сваім зборніку вершаў «Пад родным небам» «Палескія байкі». У адным з раздзелаў прыгадаў гісторыю, як паляшук неяк злавіў смерць. Падобная сітуацыя пакладзена і ў аснову аповесці-казкі. Смерці, аднак, удалося вырвацца на волю, яна гатова працягваць рабіць зло. Тое, што адбываецца, хоць сюжэт твора і казачны, фантастычны, разам з тым, у сваіх асноватворных момантах набліжаецца да рэальнасці. Пачынаючы з таго, што сям'я зайца, ад якога і вядзецца аповед у казцы, шмат у чым падобна на звычайную сялянскую сям'ю. Больш за тое, асмелюся сказаць, што гэта як быццам і сям'я саміх Плаўнікаў, у якой прайшло маленства будучага пісьменніка: «У маленькай хацінцы, вокны якой былі расчынены, мірна вячэрала сям'я. У гліняных місачках дымілася на стале малочная зацірка. Бацькі клапатліва назіралі за тым, каб хлопчык і дзяўчынка не абліваліся ежай, каб пад сталом не малацілі адно аднаго драўлянымі лыжкамі. Малыя былі непаседлівыя, імпэтныя і вясёлыя і любілі забаўляцца заўсёды — трэба ці не трэба. Сядзець спакойна было для іх пакутай!»

Перад сном дзеці вельмі любілі слухаць гісторыі, якія расказваў ім дзядуля. Паколькі ж гэтая сям'я заячая, то, зразумела, і дзед быў заяц. Аднак расказваў ён не пра свае прыгоды, якіх у яго таксама ставала, а пра тое, што даўным-даўно адбылося з яго прапрадзедам Дзіда-дзедам. Гэтаму Дзіду-дзеду ўдалося некалі злавіць самую смерць. Зачыніў яе ў сваёй сярэбранай табакерцы, каб не магла больш нікому рабіць зла. Пасля гэтага пачалося неверагоднае. Перайначыўся навакольны свет. Не пазнаць яго, зусім змяніўся: «Беласнежная авечка ляжыць на воўчай спіне, гойдаецца як на пярыне, і зусім не баіцца. Вочы яе лагодныя. Яна не блее, а пазірае з цікавасцю на белагрудыя бярозкі, колеру яе шэрсці.

Вочы ў ваўка, спачатку злыя, з драпежніцкім жоўтым бляскам, пакрысе робяцца добрымі, спакойнымі, бадай што такімі, як у авечкі. Нібы нутро звера пачынае астываць ад таго страшнага пекла і смагі крыві, якое паліла яго самога, яго бацькоў і дзядоў».

У «Сярэбранай табакерцы» шмат персанажаў. Як станоўчых, так і адмоўных. Гэта не толькі зайцы, а і людзі, але зайцы — усё ж галоўныя. Але паводзяць яны сябе, дый увогуле жывуць так, як і людзі. Дый гэткія дасціпныя, як і яны. Найперш, Дзіда-дзед. Слухаеш яго і адчуванне такое, што перад табой знаходзіцца ўмудроны жыццёвым вопытам стары. Шмат пражыў ён, многае ведае. З гадамі набраўся досціпу, таму так любіць прыказкі, прымаўкі. Сыпле імі нібы з чароўнага рога: «Пайшоўшы ў драку, не шкадуй хахла», «Якія мы самі, такія і нашы сані», «Папрасіліся злыдні на тры дні, а цяпер іх ніяк не выганіш»… Гэта, безумоўна, сведчыць і на карысць таго, што З. Бядуля з'яўляўся тонкім знаўцам беларускай мовы.

Адбываецца барацьба Дабра і Зла. У гэтае змаганне ўключаюцца самыя розныя сілы. Бядуля далёкі ад традыцыйнага шчаслівага завяршэння сутычкі. Смерці ўсё ж удаецца вырвацца на волю. Тым самым, пісьменнік прытрымліваўся жыццёвых рэалій. Калі твор пісаўся, пачалася ўжо Другая сусветная вайна. Не толькі дзед-апавядальнік звяртаўся да ўнукаў, якім паведаў гэтую дзіўную гісторыю. Да наступнікаў звяртаўся і сам Бядуля, задумваючыся над складаным і супярэчлівым часам: «Ці скора спыняцца войны? Ці скора працоўны народ знішчыць рыцараў Смерці? Калі вы, дарагія ўнукі, зловіце Смерць у няволю, дык моцна трымайце і ніколі з рук не выпускайце. А я ўпэўнены, што зловіце, бо, як кажуць: прыйдзе люты мароз і на мухамораў, і на змеяў, і на іншых ліхадзеяў. Яны адмарозяць рукі і ногі, нос і вушы, і ўсё-ўсё. Трэба толькі знішчыць раней прыслужнікаў Смерці, у якіх вочы завідушчыя і рукі заграбушчыя».

## Публіцыст, крытык, даследчык…

Змітрок Бядуля быў не толькі самабытным паэтам, празаікам, дзіцячым пісьменнікам. Да ўсяго ён з'яўляўся і палымяным публіцыстам, заклапочаным будучыняй Беларусі. Ці не таму найбольш яркія яго артыкулы былі напісаны тады, калі вырашалася, якім шляхам Беларусі ісці ў заўтрашні дзень. А гэта паслярэвалюцыйны час, калі наконт гэтага не было яшчэ пэўнасці. Хаця, гледзячы ў каго. Творцы, падобныя Бядулі, не хісталіся з боку ў бок. Яны адразу вызначылі для сябе адзіны, правільны арыенцір: добра тое, што добра для Беларусі, для беларускага народа. Гэта выразна відаць і з верша «Прысяга» — таксама адраджэнцкага зместу. Але твор гэты — не столькі канстатацыя неабходнасці змагацца за беларускую ідэю, колькі заклік да згуртавання нацыянальна свядомых сіл. Больш за тое, гэта і свайго роду праграма далейшых дзеянняў. Без гучных слоў Бядуля выказвае вельмі і вельмі важнае. Ён сам прысягае на вернасць Бацькаўшчыне, але адначасова запрашае і іншых пайсці гэткім жа шляхам:

Да апошняй кроплі сілы
Біцца з ворагам жадаем,
Бараніці край свой мілы
Прысягаем! Прысягаем!
Родну мову шанаваці, —
Скарб багаты, што мы маем, —
Ратаваці зямлю-маці
Прысягаем! Прысягаем!

У гэты лёсавызначальны для Беларусі час публіцыстыка Бядулі стала працягам ягонай паэзіі. Голас Бядулі-публіцыста загучаў ва ўнісон з голасам Бядулі-паэта. Прынамсі, гэта выразна адчуваецца ў артыкуле «Хрыстос васкрос!». Каб давесці свае думкі да як мага большасці людзей, ён знайшоў надта падыходзячы момант — хрысціянскае свята Уваскрэсення Госпада Бога, калі ўсе веруючыя напаўняюцца самымі светлымі сваімі помысламі. То чаму ж у такі дзень, напоў-

нены Хрыстовай благадаццю, не пагаварыць і аб уваскрэсенні зямлі роднай, аб адраджэнні Беларусі.

Пісьменнік не хаваў сваёй радасці, што, нарэшце, «паўстала к жыццю і наша айчына, наша бацькаўшчына Беларусь», што « (…) жыватворны дух адвечнага жыцця завітаў і над ёю. Белая Русь уваскрэсла і цвёрда стала на грунт дзяржаўнай незалежнасці (…). Сам быў у гэтым перакана্ны і іншым даводзіў: «Толькі дзяржаўная незалежнасць прынясе нам збавенне ад гістарычных мук і нацыянальнага здзеку. Толькі ў пяшчотах нацыянальнай культуры мы атрымаем магчымасць стаць поплеч з асвечанымі народамі З. Еўропы».

Не адзін дзясятак гадоў таму пісаў, а ўсё настолькі выверана, актуальна, нібыта сёння прамоўлена: «Нацыянальнасць — рэч неўміручая, нацыянальнасць — гэта крыніца жыцця, пачатак поступу, культуры і бязмежнага развіцця. Нацыянальнасць — само жыццё і яго несмяртэльнасць у межах нашага ўяўлення. Жыве нацыя — жыве і чалавецтва».

Каб быць больш пераканаўчым, Бядуля пры неабходнасці зазіраў у мінуўшчыну, у часы Вялікага Княства Літоўскага. Гэта, у прыватнасці, відаць у артыкуле «Адносіны Беларусі да суседніх народаў»: «У свой час аблічча беларускай нацыі — уладарніцы гэтай зямлі — вельмі ярка вызначалася: мовайураднай у Бел.-Літоўскім Княстве была беларуская; вялікія князі і вышэйшыя станы гаварылі па-беларуску». Пасля чаго канстатаваў: «Цяпер зноў будуецца на нашай зямлі беларуская дзяржаўнасць, беларуская асвядомленая нацыянальная сіла хоча заняць належачае ёй месца». Надаваў вялікае значэнне культурнаму адраджэнню Бацькаўшчыны («Не адным хлебам…»):

«Хто мае святы агонь у сэрцы сваім, хай не стаіць збоку, а хай бярэцца горача за працу над пазнаннем характва нашай старонкі, нашага народа. Няхай прытуліцца гарачым сэрцам да зямелькі-маткі роднай і вокам загляне глыбока-глыбока ў жыццё: у зямлю аж да дзедаўскіх костачак, у людзей — да бяздоні душ, у край — праз усе яго долі, да першых дзён і спазнае душу сваёй зямлі, душу народа ў найцікавейшых, у характэрных праявах, каторыя выліваюцца ў песнях, казках, звычаях.

Трэба ўсе песні, звычаі і ўсё іншае, у чым праяўляецца душа нашага народа, збіраць, запісваць, зарысоўваць, фатаграфаваць, бо ва ўсім гэтым крыецца характэрная, — наша частка, — агульналюдскога характва».

Творчая дзейнасць З. Бядулі неадлучна і ад тэатра, які ён палюбіў з юнацтва. Прыхільна ставіўся да дзейнасці трупы Ігната Буйніцкага. У Вільні прымаў актыўны ўдзел у беларускіх вечарынах, якія арганізоўвалі прыхільнікі беларушчыны, а ў 1915 годзе нават выйшаў на сцэну. Выканаў ролю яўрэя Мордка ў спектаклі па п’есе Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча «Залёты», якую паставіў Алесь Бурбіс у Віленскім музычна-драматычным гуртку. Жывучы ж у Мінску, па падказцы Купалы, напісаў невялікі драматычны абразок «Смерць пастушка», які быў пастаўлены ў маладзёжным камароўскім клубе «Беларуская хатка». Гэта кранальная гісторыя пра хворага хлопчыка, які канае, уцёкшы ад вясковага крывасмока.

Пісаў таксама рэцэнзіі на спектаклі, артыкулы, прысвечаныя, як гісторыі нацыянальнага сцэнічнага мастацтва, так і яго сучаснаму стану. Тым самым закладваў  той падмурак, на якім у далейшым развівалася беларускае тэатразнаўства. Гэта тычыцца і літаратуразнаўчай дзейнасці Бядулі: таксама выступаў з артыкуламі і рэцэнзіямі. Пакінуў цікавыя ўспаміны пра Максіма Багдановіча, з якім сябраваў. Значныя сваім пазнавальным зместам яго даследчыцкія працы «Жыды на Беларусі» і «Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных песнях і казках».

Займаўся і перакладамі. У прыватнасці, з ідыш пераклаў аповесць класіка яўрэйскай літаратуры Шолам-Алейхема «Хлопчык Мотка».

* * *

«Сярэбранай табакерцы» наканавана было стаць апошнім вялікім творам З. Бядулі. Пачалася Вялікая Айчынная вайна. Яна заспела пісьменніка ў Хойніках, дзе ён заходзіўся ў камандзіроўцы. Жонка ж яго з дзецьмі ў гэты час адпачывала ў Доме творчасці пісьменнікаў у Пухавічах. Не дачакаўшыся яго, яны падаліся ў эвакуацыю. Вярнуўшыся ў Мінск, Бядуля ўбачыў, што кватэра згарэла. Загінула і яго бібліятэка разам з неапублікаванымі рукапісамі. Сярод іх была і незакончаная аповесць пра вайну ў Іспаніі.

Мінск З. Бядуля пакінуў са сваёй маці. Пешшу дабраліся да Барысава. Адтуль цягніком даехалі да горада Піжма Горкаўскай вобласці. Уладкаваўся працаваць у рэдакцыі, для жылля яму выдзелілі асобны пакойчык. Даведаўся, што сям'я знаходзіцца ў горадзе Новыя Бурасы, гэта Саратаўская вобласць. Звязаўшыся з жонкай, паехаў да яе. Месяцы з два працаваў у планавым аддзеле райвыканкама. Але хутка вайна дакацілася і да Новых Бурасаў. Тады з сем'ямі іншых беларускіх пісьменнікаў, якія жылі там, з надыходам восені падаўся ў Алма-Ату.

Пра тое, што было далей, падрабязна расказаў Віталь Вольскі, сям'я якога ехала з Бядулем у адным вагоне:

«Цягнік спыніўся недалёка ад горада Уральска. Вакол, куды ні глянь, адзін толькі шырокі бязмежны стэп.

Бядуля выйшаў з вагона. Калі адышоў трохі ўбок, здалося яму, што цягнік раптам крануўся з месца. Змітрок кінуўся даганяць свой вагон. І тут выявілася, што адышоў другі цягнік, а яго стаіць на месцы.

Цяжка дыхаючы, Бядуля падняўся ў свой вагон, схапіўся за нары… Кучаравая галава знясілена схілілася.

— Маша, дай мне апошнюю папяросу, — звярнуўся ён да жонкі, бо ведаў, што ў пачку засталася толькі адна папяроса.

Папяросе гэтай суджана было стаць сапраўды апошняй у яго жыцці. Зацягнуўшыся, ён раптам упаў на падлогу. Хворае сэрца не вытрымала.

Гэта было 3 лістапада 1945 года».

Свой вечны спакой Бядуля знайшоў на могілках Уральска, на высокім беразе ракі Урал.

Хочацца яшчэ раз працытаваць Віктара Каваленку:

«Ідуць гады. Беларуская літаратура ўзнялася на новы эстэтычны ўзровень. Яна развілася ў літаратуру, пра якую чутна ва ўсім свеце. На фоне яе сучасных дасягненняў яшчэ больш велічна бачацца фігуры пісьменнікаў, якія некалі стаялі ля яе ранніх вытокаў. Без вялікай адукацыі, жывучы на грашы, не маючы амаль ніякай матэрыяльнай узнагароды за сваю працу, трымаючыся на велізарным асабістым энтузіязме і любві, яны стварылі на беларускай мове мастацкія рэчы, якія набылі вялікае значэнне ў гісторыі нацыянальнай літаратуры і надоўга прадвызначылі яе галоўныя шляхі. Шырокую плынь сённяшняй беларускай літаратуры таксама багата жывіць і зырка падсвечвае з глыбіні празрысты прамень творчасці Змітрака Бядулі».

Застаецца дадаць толькі адно. Далёка нямногія пісьменнікі так глыбока спасціглі душу беларускага народа, як Бядуля, яўрэй па нацыянальнасці. Чалавек з адкрытай душой і з хворым, але мужным сэрцам, Бядуля належыць да той слаўнай кагорты, якую ўзначальваюць Янка Купала, Якуб Колас, Цётка, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі. Ягоны заклік: «Будзь сам сабою, беларус…» блізкі ўсім, хто ўспрымае сябе сапраўдным сынам Бацькаўшчыны.



**Уладзімір САЛАМАХА**

# ПРА ЎСЁ, ЧЫМ ТРЭБА ДАРАЖЫЦЬ...

## 1

Тры кнігі для юных чытачоў слыннага беларускага пісьменніка, выдатнага майстра роднага слова Міхася Пазнякова вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Гэта — «У родным краі» (2009), «Гульня слоў» (2011) і «Серабрыстыя чайкі» (2013). Усе яны выдадзены, падкрэслю, у дзяржаўным выдавецтве, якое спачатку называлася «Літаратура і Мастацтва» (дзве першыя), трэцяя — у «Выдавецкім доме «Звязда», у якое пазней яно было перайменавана.

Хлопчыкам і дзяўчынкам, каго мы называем юнымі чытачамі, а таксама іх бацькам, бабулям і дзядулям гэтага пісьменніка асабліва прадстаўляць не трэба: яны ведаюць яго па шматлікіх кнігах і для самага маленькага чытача, і для дарослых. Больш за тое, Міхаіл Паўлавіч пастаянна сустракаецца са сваімі чытачамі ў дзіцячых садках, школах, у ВНУ, на прадпрыемствах не толькі ў Мінску, дзе жыве і працуе, а па ўсёй краіне. Ён знаёміць іх са сваімі творамі, з сучасным літаратурным працэсам і, як публіцыст, адказвае на шматлікія пытанні пра сённяшняе жыццё краіны.

Многія яго паэтычныя і празаічныя творы даўно ўжо з'яўляюцца хрэстаматыйнымі, яны ўключаны ў дзетсадаўскія праграмы, у школьныя чытанкі, перакладзены амаль на два дзясяткі моў, знаходзяцца ва ўсіх бібліятэках без выключэння. Так што пры жаданні, калі ў каго няма ў асабістай бібліятэцы, знайсці іх для сваіх унукаў і дзяцей ды пачытаць тым, хто яшчэ не ўмее, або даць на самастойнае прачытанне тым, хто сам чытае, не складана.

Увогуле ж творы гэтага самабытнага пісьменніка ніякім чынам не губляюцца сярод соцень і тысяч кніг, ужо выдадзеных для юнага чытача, і тых, што сёння выдаюцца. І сярод усіх гэтых выданняў, адрасаваных нашым юным грамадзянам, як сведчыць статыстыка, а такая ёсць у Саюзе пісьменнікаў Беларусі, кнігі Міхася Пазнякова запатрабаваны…

Так, такая колькасць кніг для дзяцей і юнацтва, якая сёння выдаецца ў нас дзяржаўнымі і прыватнымі выдавецтвамі, раней ніколі не выдавалася. А калі сюды дадаць «кніжную прадукцыю», што паступае да нас на рускай мове з Расіі, дык, здавалася б, такое трэба толькі вітаць ды радавацца… І, здараецца, вітаем, радуемся… Часам проста так, маўляў, якое дасягненне: толькі б чыталі!.. Але ж, калі прааналізаваць хаця б частку такой «прадукцыі», то выяўляецца, што значная колькасць кніг, адрасаваных дзецям, як нашых, так і з суседняй краіны напісаны на такім, з дазволу сказаць, літаратурна-мастацкім узроўні, «вызначаюцца» такой пісьменнасцю іх аўтараў, мае такую ідэйную накіраванасць, што не трэба ніякай цэнзуры, каб сказаць рашучае: «Не!»

Калі такія кнігі нашы, дык гэта ў пераважнай большасці «кніжная прадукцыя» прыватных выдаўцоў, хаця апошнім часам не-не ды і «праскоквае» нешта падобнае і ў дзяржаўных. (Пра гэта — артыкул асобны, на канкрэтных прыкладах.)

Прычыны? Ды іх шмат, іх усе ведаюць, але… І яшчэ не сакрэт, што для многіх прыват-выдаўцоў наогул не існуе такога паняцця, як літаратурна-мастацкія якасці твора, а пра кваліфікаваную рэдактуру і карэктуру і гаварыць не прыходзіцца. Іншыя выдаўцы не ведаюць не тое, што дасканала, а нават збольшага, між іншым, як і іхнія аўтары, нормаў нашых дзвюх дзяржаўных моў, правапісу, законаў стылістыкі, а часам і самага простага, і ў той жа час самага складанага: як будуецца сказ…

Часам даходзіць да крыўдна-вычварнага: каб падлесціць аўтару і не страціць яго — ён жа сваім глупствам, якое шкодзіць нармальнаму здароваму развіццю светапогляду нашых юных грамадзян, узбагачае выдаўцоў — яны параўноўваюць яго з Пушкіным, Талстым, з Багдановічам, Купалам і Коласам — з выдатнымі нашымі пісьменнікамі, якія пішуць для дзяцей. І ідуць новаспечаныя «класікі» і «клясікі» ўжо ў дзяржаўныя выдавецтвы, патрабуюць друкаваць іх «тварэнні» і «творения» за дзяржаўны кошт, а не — пішуць скаргі, перашкаджаючы сумленным людзям працаваць…

Больш за тое, сёння, як і ўчора, многія шкодныя, інакш не назавеш, кнігі такіх аўтараў стаяць на паліцах кніжных магазінаў поруч з класікай, а іх «тварцы» часам паважна крочаць у дзіцячыя садкі і школы (хто іх туды запрашае?) і вучаць юных… Толькі чаму?.. А пасля бацькі (і такое здараецца), прысутнічаючы пры гэтым, абураюцца, маўляў, я не хачу, каб такі непісьменны «пісьменнік» уздзейнічаў на маё дзіця…

Праблема? Так, ды яшчэ якая: для дзяцей павінны пісаць людзі, якія ад прыроды надзелены літаратурнымі здольнасцямі (узрост значэння не мае). Да ўсяго яны павінны быць высокаадукаванымі. Канешне, паўтараю простую і даўно вядомую ісціну: пісаць для дзяцей — найвялікшая адказнасць для кожнага, хто бярэцца за гэтую надзвычай нялёгкую і пачэсную справу.

І калі ўжо так, то адказнасць павінна быць аднолькавая і для неадукаванага графамана, якому наогул супрацьпаказана займацца літаратурнай творчасцю, і для, скажам, якога-небудзь іншага аўтара, які, займаючы сякую-такую пасаду, лічыць, што гэта дае яму прывілею ісці да юнага чытача са сваім, часам вельмі слабенькім, бездапаможным тварэннем. (Аб гэтым — таксама ў асобным артыкуле.)

І так, «стоп» мусіць быць для ўсіх аднолькавы, бо кніга, адрасаваная юным, павінна быць паўнавартаснай па ўсіх адзнаках, тым больш недапушчальна навязваць яе ў садкі, школы і бібліятэкі, што таксама здараецца: духоўны спажытак нашых дзяцей ва ўсіх адносінах павінен быць якасным…

Толькі такое наўрад ці хутка будзе, бо кніга для юных заўсёды з'яўлялася і з'яўляецца вельмі хадавой «прадукцыяй». І калі раней яе якасць даволі дакладна вызначалі ў дзяржвыдавецтвах, то сёння прыватнік вызначае, што і як яму выдаваць, а рэкамендацыі, якія яму даюць тыя, да каго ён звяртаецца, часта нічога не вырашаюць…

У сувязі з гэтым, напрыклад, асабіста ў мяне, як дзядулі, унукі якога таксама чытаюць дзіцячыя кнігі, спадзяванні на адно: на дзяржаўныя выдавецтвы з іх кваліфікаванымі кадрамі, сярод якіх нямала таленавітых пісьменнікаў…

Прашу прабачэння ў чытача за такія адступленні ад уласна кніг для дзяцей пісьменніка Міхася Пазнякова, пра якія хачу выказаць некаторыя свае меркаванні, як дзядуля, які іх чытае сваім унукам, і як дзядуля, якому яны чытаюць услых, але яно неабходна: мы не маем права выхоўваць юных на тым, што супярэчыць нашым паняццям маралі, дабрыні, чалавечнасці, братэрства, імкненню да прыгажосці... У рэшце рэшт, не маем права выхоўваць напісаным проста непісьменна. Адступленні мае такія яшчэ і таму, што і я, як многія бацькі і дзядулі-бабулі, не хачу, каб мае ўнукі выхоўваліся і ў садзіку, і ў школе (дома існуе адбор) на тым, скажам так, няякасным духоўным прадукце, які часам усё ж туды трапляе, і які, мякка кажучы, можа скажаць дзіцячае ўяўленне пра наш народ, Айчыну, краіну,

пра нашу гісторыю, дзень сённяшні, навакольны свет, жыццё наогул… Але нішто так не дазваляе (канешне ж, пасля прыкладу адносін у сям'і, паводзін) фарміраваць светапогляд юных, як кніга: магія слова, а ў друкаванага яна своеасаблівая, падштурхоўвае душу да стваральнай працы. І, вядома, толькі высокаадукаваны і таленавіты пісьменнік, да ўсяго асоба са стваральнай грамадзянскай пазіцыяй, праз кнігу, праз свае творы, можа весці шчырую гаворку з юнымі чытачамі пра складаны вялікі свет жыцця, у які яны толькі-толькі ўступаюць, у якім трэба будзе жыць і дзейнічаць па спрадвечных законах быцця, у аснове якіх дабрыня і чалавечнасць…

Міхась Пазнякоў — адзін з такіх літаратараў: таленавітых, адукаваных, з непахіснай грамадзянскай пазіцыяй. І такіх, між іншым, у нас, у нашай літаратуры дзіцячых пісьменнікаў, а зараз размова пра іх, нямала. Усе яны стварылі шмат выдатных твораў, на якіх выхоўваліся і выхоўваюцца пакаленні людзей. Як паказвае жыццё, гэтыя творы не падуладны часу. (Вядома, першынство тут за класікай і класікамі.) Думаю, што такія творы і называць не трэба: выдаюцца і перавыдаюцца дзяржавай… Ад Багдановіча, Купалы, Коласа, Лынькова, Маўра… да нашых сучаснікаў. Сярод старэйшага і сярэдняга пакаленняў паэтаў і празаікаў, якія плённа працавалі і працуюць для юнага чытача, варта назваць, напрыклад, Ніну Галіноўскую, Уладзіміра Мацвеенку, Міколу Чарняўскага, Уладзіміра Ліпскага, Раісу Баравікову, Міколу Маляўку, Казіміра Камейшу, Віктара Гардзея, Таццяну Мушынскую, многіх іншых, і вядома ж, зноў жа — Міхася Пазнякова… (Маладзейшых, і зусім маладых у гэтым артыкуле знарок не называю: пачакаем...)

Не хацелася б адных супрацьпастаўляць другім. Тым больш, што за апошнія гады ў нас з'явілася цэлая плеяда маладых таленавітых дзіцячых літаратараў, якія «па-за абоймамі». Яны працуюць удумліва, адчуваючы сваю пісьменніцкую і грамадзянскую адказнасць за тое слова, з якім ідуць да юнага чытача. Але заўважу, што нямала каму з іх увайсці ў літаратуру дапамог і дапамагае як старэйшы калега і Міхась Пазнякоў: наогул у пісьменніцкім асяродку заўсёды так было прынята, што старэйшы таварыш, прызнаны майстра слова, павінен дапамагаць юным талентам. Тым больш, калі ў самога такія выдатныя літаратурныя набыткі, як у Міхаіла Паўлавіча…

Увогуле ж у М. Пазнякова кніг шмат: дзясяткі. І для дзяцей — таксама. І хоць асабіста я лічу, што вартасць дасягненняў пісьменніка не ў колькасці выдадзенага, а ў літаратурна-мастацкай вартасці створанага ім, дык, што датычыць кніг для юных, у Міхаіла Паўлавіча няма, як кажуць, прахадных: усе без выключэння пазначаны сапраўдным пісьменніцкім талентам аўтара. І гэтыя тры, вылучаныя на Дзяржаўную прэмію, — асаблівыя. Як, напрыклад, «Гульня слоў».

Гэтую кнігу можна разглядаць, як своеасаблівы падручнік. Аўтар і выдаўцы адрасуюць яго вучням пачатковых класаў, настаўнікам, бацькам, выхавальнікам груп падоўжанага дня, і — бабулям і дзядулям, бо апошнія часта дапамагаюць сваім унукам працаваць з кнігай. Напрыклад, у мяне, дзядулі, няма сумненняў, што для некага з юных «Гульня слоў» стане першым падручнікам у жыцці…

**2**

Расказваць пра дзіцячыя кнігі Міхася Пазнякова, вылучаныя на атрыманне Дзяржаўнай прэміі, я знарок пачаў з другой па спісе, з «Гульні слоў», бо яна — сапраўды своеасаблівы падручнік, якога ў нас, без перабольшання, яшчэ не было. Гэта падручнік, які многаму вучыць хлопчыкаў і дзяўчынак, а найперш — чытаць. Вядома ж, не навучыўшыся як след чытаць, не зможаш самастойна працаваць з кнігай. Не толькі з гэтай, а з любой. Скажам, з той жа, што першая ў спісе — «У родным краі». А паводле анатацыі, уключаныя ў яе «…творы маюць не толькі пазнавальнае і навучальнае значэнне». А што яшчэ? Аказваецца: «Яны таксама садзейнічаюць выхаванню дабрыні, кемлівасці, чуйнасці да роднага слова». А яе «склалі вершы, лічылкі, калыханкі, небыліцы, смяшынкі, скорагаворкі, шарады,

а таксамка загадкі». І далей: «…загадкі на антонімы (Ого! Ды далёка не ўсе дарослыя, хіба што філолагі, ведаюць што гэта такое! — *У. С.*) створаны ў беларускай літаратуры ўпершыню».

Тут ужо сапраўды: не навучыўшыся чытаць па «Гульні слоў», ды не даведаўшыся, што такое амонімы і антонімы, а таксама каламбуры, скорагаворкі і інш., мудрагелістыя і для дарослых моўныя паняцці, — «У родным краі» — адкладзі яе!..

І тут на дапамогу дапытлівым дзяўчынкам і хлопчыкам прыходзіць «Азбука-дабаўлянка» з «Гульні слоў». Праўда, пісьменнік разумее, што амаль усе нашы дзеткі ў 5—6 гадоў азбуку ведаюць: дзіцячы садок вучыць, бацькі, бабулі-дзядулі… А хто яшчэ не ведае — дапамогуць старэйшыя. І таму варта адразу ж пазнаёміць будучых школьнікаў з галоснымі гукамі, ды так, каб яны іх адразу запомнілі. Як, праз што?.. Ды, канешне ж, дзеці лепш за ўсё запамінаюць праз верш:

Гукі галосныя, гукі вячыстыя,
Матчынай мовы чароўныя,
Мілыя, дзіўныя, светлыя, чыстыя,
Рады прызнацца сягоння я:
Песняй у сэрцы маім назаўжды —
*А, і, о, у, э* дый *ы.*

І адразу, таксама праз вершаваныя радкі, праз загадкі — гукі з зычных і галосных…

Прызнаюся, пакуль з унучкай і яе равесніцай, шасцігадовай сяброўкай, гарадскімі жыхаркамі, не прачыталі гэта, быў насцярожаны, пазнаёміўшыся з анатацыямі дзвюх кніг: ці зразумеюць, калі ажно — антонімы… А пачалі чытаць — як усё лёгка, захапляльна і проста!.. Тут хоць ты «эўрыка» крычы: дык жа Міхась Пазнякоў — па сваёй універсітэцкай адукацыі філолаг, педагог!.. Аказваецца, і дзіцячую псіхалогію вывучаў, чаго між іншым, не хапае тамусяму, хто піша для дзяцей.

Затым ён некалькі гадоў выкладаў у школе родную мову і літаратуру. Потым вучыўся ў аспірантуры і браў урокі роднай мовы ў самаго Кандрата Кандратавіча Крапівы!.. А Кандрат Крапіва, не толькі класік нашай літаратуры, а яшчэ — акадэмік, пад рэдакцыяй якога ў свой час выйшаў шматтомны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы»!.. А далей Міхась Пазнякоў доўгі час узначальваў выдавецтва «Юнацтва» (было такое), дзе тады выйшла амаль уся і наша, і руская класіка для дзяцей і юнацтва, а таксама шмат чаго з сусветнай!.. І ў рэшце рэшт, ён сам выдаў грунтоўную працу па роднай мове «Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы», якая вытрымала некалькі выданняў!.. А яшчэ ён, слынны паэт і празаік, лаўрэат многіх літаратурных прэмій. Ёсць падставы давяраць такому дзіцячаму пісьменніку?.. Вядома ж… І мы даверыліся з першай старонкі ягонай «Гульні слоў».

Даведаўшыся, што такое галосныя і зычныя гукі, якія яны, колькі іх, склаўшы склады, адгадаўшы загадкі, азнаёміўшыся з азбукай-дабаўлянкай, затым склаўшы з літар першыя словы, юны чытач пачынае працаваць, думаць, яго захапляе гульня, праз якую ён ненавязліва пазнае таямніцы роднай мовы. І так ад старонкі да старонкі, перагарнуўшы адну за адной, (папрацаваўшы на іх), ён не толькі растлумачыць вам, што такое антонімы і амонімы, а таксама, што такое шарады, анаграмы і іншыя невядомыя вам моўныя паняцці, але і растлумачыць, чым, напрыклад, адрозніваюцца беларускія і тыя ж спярша надта загадкавыя амонімы, ад рускіх.

Цуд дый толькі… І ніякага прымусу ў працэсе навучання, што дзеці надта ж не любяць…

У творчасці Міхася Пазнякова, для дзяцей таксама, ёсць адна акалічнасць, якую вось ужо два дзясяткі гадоў, з часу так званай перабудовы, калі бяздумна, а можа, і мэтанакіравана ламаліся некаторыя жыццядайныя асновы нашага быцця, «выкаранялася», ганьбавалася асобнымі нібыта надта «прасунутымі» дамарослымі «інтэлектуаламі» — грамадзянскасць… Як жа «прасунутыя», не любяць гэтага слова, і як толькі яны не абражалі пісьменнікаў, найперш класікаў, за

«грамадзянскую» накіраванасць іх твораў, тым больш для дзяцей! А чаму? Ды таму, што за гэтым значыцца шчырая любоў да сваёй зямлі, свайго народа, які яны называлі «хворым» (не пад іх дудку скача), за яго жаданне зрабіць сваю краіну шчаслівай, за гонар за нашых дзядоў і бацькоў, за пяпярэднія пакаленні, якія не скараліся чужынцам, за павагу да нястомных стваральнікаў літаральна ва ўсіх жыццёвых сферах (і духоўнай — таксама), якія працуюць не толькі на сваю карысць, а і на карысць усяго грамадства, за ўсё тое, што зрабілі нашы прашчуры, урэшце за тое, што гэты народ на сваёй зямлі жыве ў ладзе і згодзе з прадстаўнікамі многіх народаў…

Гаворачы пра грамадзянскасць, не трэба разглядаць яе як нейкія лозунгі і заклікі, або адносіцца да яе літаральна так, як некалі патрабавалі афіцыйныя падручнікі і г. д. Увогуле, гэта стан душы, з якога пачынаецца свядомае, мэтанакіраванае імкненне чалавека цаніць і любіць усё, што цэніць і любіць народ і дзейнічаць на карысць народу, Айчыне… І, напэўна, яна зараджаецца (або не зараджаецца) тады, калі маленькі чалавек толькі-толькі пачынае ўсведамляць сябе грамадзянінам. У гэты час архіважна дапамагчы яму зразумець, на якой зямлі ён нарадзіўся, у якой сям'і, краіне, якія людзі яго акружаюць, на якой мове, або мовах яны гавораць, а таксама, што ён, як вырасце, будзе такім, як яго дзядулі і бабулі, бацькі…

Міхась Пазнякоў цудоўна гэта разумее. І асабіста мяне захапляе, як ён тонка, непрымусова, здавалася б, нават у такой спецыфічнай кнізе-падручніку, як «Гульня слоў», знаходзіць моўныя сродкі, літаратурныя прыёмы, каб, напрыклад, паказаць невычэрпныя багацці роднай мовы, сказаць, што гэта мова яго народа, мова яго краіны, якую некалі баранілі ад ворагаў прадзеды і дзяды, якую ствараюць бацькі.

Адразу ж узнікаюць некаторыя, так бы мовіць, далікатныя пытанні, адно з іх — моўнае, маўляў, хто так гаворыць, хто гэтак, але пісьменнік і тут знаходзіць далікатны ход: не супрацьстаўляючы мовы прапануе проста засяродзіцца на значэнні беларускіх і рускіх амонімаў (юны чытач ужо ведае, што гэта такое). І калі, напрыклад, *лік* і *лик*, або *кроў* і *кров* маюць рознае значэнне, дык чым адрозніваюцца іншыя словы нашых дзвюх дзяржаўных моў?..

Мовы нельга супрацьстаўляць. Іх можна параўноўваць. Іх трэба вывучаць, інакш не будзеш адукаваным чалавекам. Але пры гэтым нельга цурацца сваёй роднай, яе трэба шанаваць і берагчы — і прэч дыдактыку!.. І тут, як сведчыць М. Пазнякоў, не трэба выпінаць як лозунг нязгасны запавет пра родную мову класіка нашай літаратуры XIX стагоддзя Францішка Багушэвіча: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» Яго, запавет гэты, трэба памяркоўна зразумець, успрыняць усім сэрцам, адчуць асабістую адказнасць за сваю мову: інакш народа твайго не будзе, і ты будзеш — ніхто…

Вядома, асабістае разуменне адказнасці за ўсё, што будзе рабіцца на тваёй зямлі, у тваёй краіне з'явіцца пазней, калі сённяшнія юныя чытачы (у даным выпадку Міхася Пазнякова) пройдуць шляхамі свайго ўласнага чалавечага станаўлення. Вось тады і ўзнікне ў кожнага ўжо дарослага пытанне, які ён грамадзянін сваёй краіны… І ад яго таксама, як ад людзей усяго ягонага пакалення, залежыць, ці будзе гучаць у той краіне мова маці. Вось і заканчваецца вершам «Родная мова» кніга «Гульня слоў», якая па сваёй сутнасці не такая ўжо і гульня:

У горадзе,
між ніў жытнёвых,
У важным доме,
сціплай хаце
Не забывайце
роднай мовы —
Для нас навек яна,
як маці.
Каб свет
чароўнай прыгажосцю

Вас ні на момант
не пакінуў,
Шануйце мову
не як госцю,
А як матулю,
гаспадыню.

**3**

…І так, хлопчыкі і дзяўчынкі, якія навучыліся чытаць па падручніку «Гульня слоў», і тыя, хто да гэтага ўмеў чытаць, даведаўшыся з кнігі нямала чаго пра родную мову, свой народ, сваю зямлю, яе гарады і вёскі, ужо ў кнізе «У родным краі» знаёмяцца з лірычным героем пісьменніка, сваім равеснікам, які выступае тут як … асоба.

Канечне ж, маючы адпаведныя веды пра жыццё наогул, разумеючы, дзе дабро, а дзе не яно, а таксама, што і ты (яшчэ не дарослы) ужо можаш дзейнічаць: нешта ствараць сваё, дапамагаць і меншым, і старэйшым — і гэта ўсё, што робіш, аказваецца патрэбна не толькі табе, а і іншым, акрыляе на многае. І калі раптам захочацца сказаць іншым нешта дужа для цябе важнае, што не адчуваў раней, дык шчырасць тут бязмежная. Як, напрыклад, у вершы «Малюнак», у якім юны персанаж кнігі засведчвае, што і ў яго ёсць уласнае пачуццё радзімы. І яно можа не вельмі адрозніваца ад пачуцця дарослых, якія пра яе іншы раз гавораць у тэлеперадачах, у кінафільмах, або кажа родны дзядуля, збіраючыся паехаць у тое месца, дзе нарадзіўся: «З’езджу я, дзеці, на радзіму»…

І тады юны грамадзянін, які ведае, што менавіта тут, дзе жыве, дзе нарадзіўся — яго радзіма. І ён малюе яе:

Я намалюю хату, сад,
І жаўрука, што ў бомы звоніць,
І ліпы, што пасталі ў рад,
І ў агародчыку півоні,
Сцяжынку, рэчку між кустоў,
Валун агромністы…
Магчыма,
Камусьці гэта і нішто,
А для мяне —
Мая радзіма.

Здавалася б, надзвычай просты верш: звычайны вясковы краявід… І яшчэ, як на малюнку да твора выдатнага мастака Сяргея Волкава, які, дарэчы, цудоўна праілюстраваў кнігу, — за гэтым краявідам — гарызонт, які пакуль быццам скрывае ад хлопчыка абсягі ягонай вялікай Радзімы… І чамусьці адразу ўспамінаецца выдатная песня «С чего начинается Родина…» на верш Міхаіла Матусоўскага (муз. Веньяміна Баснера) у выкананні Марка Бернеса. Памятаеце, з чаго там пачынаецца радзіма для дарослага чалавека, які нямала пазнаў у жыцці?.. Так, «с картинки в твоем букваре»… І далей — з харошых і верных таварышаў, … з песні маці, … з прасёлкавай дарогі, … з усяго, што ты запомніў з дзяцінства і беражліва пасёс у сваім сэрцы па ўсіх сваіх жыццёвых дарогах…

У лірычнага героя Міхася Пазнякова, хлапчука, як бачам, радзіма таксама пачынаецца з таго, што найбольш яму блізка: з роднай хаты, з роднага саду, з песні жаўрука, з півоняў у агародчыку, з ліп на вясковай вуліцы… Верыш, юны чытач, прачытаўшы гэты верш, захоча намаляваць свой вобраз сваёй радзімы: сваю бацькоўскую хату, свой сад, сваё поле з жаўруком у небе… А гарадскі — сваю кватэру, свой дом, сваю вуліцу — таксама ўсё сваё: спрацоўваюць асацыяцыі.

Што гэта так, праверана мною на шасцігадовай унучцы Ксеніі і яе равесніцы, сяброўцы Весце, гарадскіх дзяўчынках, якія ўмеюць аднолькава добра чытаць і на беларускай, і рускай мове і разумеюць іх так, як і павінны разумець нашы дзеці і ўнукі.

Гэтая кніга, як ужо казаў, складаецца не толькі з вершаў, але зноў нагадаю, з твораў розных жанраў.

І тут варта зрабіць яшчэ адно невялікае адступленне: у нас чамусьці з'явілася тэндэнцыя, і ў літаратуры — таксама, у прыватнасці і ў дзіцячай — іншы раз адкідваць створанае папярэднікамі. Маўляў, прыйшлі мы, калі створым, дык такое, што ўвесь свет ахне!..

І ламаюць з маўклівага назірання тых, хто сапраўды ведае ўсяму вартасць, хто нешта стварыў годнае…

Спрабуюць (нават забываючы, што павінна быць пачуццё звычайнага такту, як ва ўсіх выхаваных людзей) паламаць (разбурыць) літаратурныя школы, у тым ліку і ў дзіцячай… Пачынаецца нібыта з непрыкметнага: ігнаруючы жанры. Жанраў прытрымліваліся класікі — рускія, нашы, сусветныя… А далей — не існуюць знакі прыпынку, рыфма, рытм, у рэшце рэшт, не існуе і такога паняцця, як пісьменнасць… І калі, скажам, літаратар, як М. Пазнякоў, годна працуе, абапіраючыся на традыцыі папярэднікаў (а як вядома няма нічога больш трывалага ў жыцці, як традыцыя, якая з'яўляецца асновай для развіцця нейкай справы, праўда, у тым выпадку, калі ёй займаецца сапраўдны творца) з яго нават пасміхваюцца.

Любая традыцыя разбураецца не проста так: тым больш, калі яна кранае духоўнасць, фарміраванне светапогляду чалавека, яго адносіны да людзей, сям'і…

Ёсць грамадствы, і недалёка ад нас, дзе мы бачам да чаго прыводзіць, напрыклад, паступовае разбурэнне сямейных традыцый: не будзем спяшацца ім апладзіраваць…

Пісьменнік і педагог Міхась Пазнякоў усё гэта разумее не горш за нас. Ён працаваў і працуе ў тых лепшых літаратурных і чалавечых традыцыях, у якіх працавалі Багдановіч, Купала, Колас, Бядуля, Лынькоў, Танк і іншыя нашы класікі, выдатныя майстры роднага слова, проста добрыя пісьменнікі, калі пісалі і для дзяцей.

Традыцыі гэтыя вывучаліся на журфаку і філфаках у ВНУ. Пра іх гаварылі такія велічыні, як Ніл Сымонавіч Гілевіч, Вольга Васільеўна Казлова, Алег Антонавіч Лойка, Алесь Міхайлавіч Адамовіч, Міхаіл Яўгенавіч Цікоцкі, Рыгор Міхайлавіч Семашкевіч, Барыс Васільевіч Стральцоў, іншыя выкладчыкі, якія мелі неаспрэчныя дасягненні кожны ў сваёй галіне творчай дзейнасці — чыталі там лекцыі… Пра гэта пераканаўча таксама гаварылі пісьменнікі, журналісты, вучоныя, каго запрашалі на сустрэчы са студэнтамі… І іх слухалі.

Мабыць, традыцыі ў літаратурнай творчасці, у тым ліку і для дзяцей, там вывучаюцца і зараз. Тады тым больш не зразумела, чаму імі грэбуюць не нейкія там невукі, нездары, а часам і той-сёй з таленавітых…

У лепшых класічных традыцыях напісаны амаль усе разнажанравыя творы кнігі Міхася Пазнякова «У родным краі». Напрыклад, у «чыста» паэтычным раздзеле такіх вершаў добрыя два дзясяткі, сярод якіх «Заўжды вярнуся», «Радзіма», «Сны маленства», «Героі», «Бярозка», «Маміны рукі», «Пра імёны», «Мой сябрук» і іншыя. І яны таксама, як і верш «Малюнак», ствараюць канкрэтны вобраз спачатку, як мы кажам, малой радзімы юнага героя кнігі, а потым — вялікай, імя якой — Беларусь… Гэта і наша радзіма, і радзіма пісьменніка Міхася Пазнякова.

А малая яго радзіма — вёска Заброддзе ў Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці. Там ён нарадзіўся ў 1951 годзе, там правёў дзіцячыя і юначыя гады, там вучыўся ў школе, адтуль пайшоў, як кажуць, у вялікі свет, стаўшы слынным літаратарам. Сюды ён часта вяртаецца, сустракаецца з землякамі, у тым ліку і з хлопчыкамі і дзяўчынкамі, якія таксама, як і дарослыя, з'яўляюцца яго чытачамі…

Тут жывуць прататыпы многіх яго герояў, па прызнанні пісьменніка, найперш юных: самыя яркія жыццёвыя ўражанні — з дзяцінства. А таксама тут ён чэрпае тэмы і сюжэты для сваіх твораў. Пра гэта яскрава сведчыць кніга «Серабрыстыя чайкі», у якой, дарэчы, ёсць раздзел, які называецца «З маміных аповедаў» — чатыры апавяданні (пра іх пасля).

Гэтая кніга, як ужо заўважыў чытач, выйшла на некалькі гадоў пазней, чым дзве першыя. Значыць, яе чытачы — хлопчыкі і дзяўчынкі пасталелі ўжо даволі прыкметна, веды іхнія абагаціліся, кругагляд значна пашырыўся. У прыватнасці, яны ўжо ведаюць шмат чаго не толькі з гісторыі сваёй вёскі, або горада, а краіны наогул.

Ведаюць, што жыццё людзей на нашай зямлі не заўсёды было шчаслівым: нашэсці, прыгнёты, войны… І апошняя, якая яшчэ ў памяці дзядуль і бабуль, якую яны перажылі дзецьмі, і ў якую прадзеды мужна змагаліся з ворагам — Вялікая Айчынная…

Міхась Пазнякоў у гэтай кнізе імкнецца пашырыць веды сваіх юных чытачоў аб нашай краіне, паказаць якая багатая ў яе прырода, якія ў ёй мужныя, шчодрыя, добрыя і працавітыя людзі.

Пачынае ён з казак з мінулага. Надаючы ім вялікую ўвагу, а таксама паданням і легендам, (некаторыя з якіх ужо выкарыстоўваліся літаратарамі ў сваёй творчасці), малавядомым, або амаль не вядомым аповедам, што, скажам так, «жывуць» пакуль толькі ў нейкай адной мясцовасці, пісьменнік адносіцца да іх, як да сапраўдных народных скарбніц, жыватворных крыніц, што ўзбагачаюць ягоную творчасць. І выкарыстоўваючы іх з пункту гледжання сучаснасці (што яны даюць для духоўнага развіцця нашым дзецям і ўнукам), ён стварае свой яркі паэтычны або празаічны малюнак, які «змывае» часавую прастору — заўсёды актуальна.

Здавалася б, далёкія сучаснаму юнаму чытачу паняцці (пан — бядняк), адносіны між імі, як, скажам, у вершаванай казцы «Бядняк і багацей», але даўняя простая гісторыя, калі пан хоча нажыцца хітрасцю і падманам, становіцца павучальнай і сёння. І як вывад: сапраўдную вартасць мае толькі тое, што здабыта сумленнай уласнай працай.

Гэта вершаваная невялікая казка напісаная лёгка, вобразна, цудоўнай літаратурнай мовай, дзе трапная рыфма. Твор на дзіва лёгка завучваецца. Сітуацыя ў ім такая… Бядняк ля рэчкі нарыхтоўваў дровы, ды нечакана сякера сарвалася з тапарышча і патанула… Бяда! Не дастанеш, сям’я застанецца без хлеба. І як бывае ў казках, з’яўляецца добры чараўнік, які хоча дапамагчы, але перш за ўсё яму трэба даведацца, ці варты гэтага чалавек. І пачынаецца выпрабаванне: чараўнік дастае з ракі спачатку залатую сякеру — бядняк не бярэ — не яго, потым сярэбраную — таксама не бярэ, а вось сваю, жалезную: «…мая сякера!» А калі так, калі ты «праўдзівы», дык вазьмі і залатую, і сярэбраную… І, вядома ж, шчыры бядняк не ўтаіў ад людзей нічога. А тут — і багаты сусед!.. Ён жа свайго не ўпусціць: бяжыць да ракі. А там з ім усё паўтараецца, як з бедняком, толькі з адной розніцай, што чараўнік адразу дастае яго жалезную сякеру, якую той не прызнае, як сваю: яму залатая трэба!..

Усё ж, пабачыў ён залатую сякеру, але толькі пабачыў, хаця:

І сягоння ён не верыць,
Што дзядок не прыплыве.
Аб брыльянтавай сякеры
Тоіць думкі ў галаве.

Можна запярэчыць, маўляў, сучасныя дзеці настолькі развітыя, што дзея, якая адбываецца ў казцы, ім нецікавая. Тады зноў жа праверце твор на іх — прачытайце, ці хай самі прачытаюць яго. І, як я пераканаўся, правёўшы такі вопыт, аказваецца, гэтая казка яшчэ як іх цікавіць!.. Можа, не менш, як мультфільмаўскія казкі пра Смяшарыкі, Губку Боба, Піглі, або Светлячок і Расінку, космас і цывілізацыі, і шмат іншыя падобныя на іх. А таксама — пра Ямелю, і пра Пана і Жорава (толькі перад гэтым трэба крышачку расказаць, хто такі Пан), і пра Несцерку, і пра Ката ў ботах, і пра Залатую рыбку… Але юных заўсёды цікавяць захапляльныя гісторыі, з кім бы яны ні адбываліся і ў які час, калі ёсць захапляльнае дзеянне, калі ўсё проста і зразумела, але пры гэтым калі ёсць над чым падумаць, а іншы раз паставіць сябе на месца персанажаў: а што б зрабіў я… І вядома ж, калі напісана лёгка, як у Міхася Пазнякова, хоць спявай, як тут!..

Без перабольшання: паэтычныя казкі Міхася Пазнякова, кожная, — маленькі цуд для юнага чытача. І — новая старонка пазнання свету. А калі яшчэ, зноў жа падкрэслю, казка тая — з народнага (народнае — вечнае), дык тут ужо смела можна адрасаваць хлопчыкам і дзяўчынкам.

Гаворачы пра казкі Міхася Пазнякова, зноў жа трэба нагадаць, што па адукацыі ён філолаг, настаўнік-практык. А настаўніцкі вопыт для паэта і празаіка, які піша для дзяцей — бясцэнны. Як вядома, дзеці заўсёды вельмі лёгка, інтуітыўна, а можа, і на генетычным узроўні, распазнавалі, дзе фальш, а дзе шчырасць, і калі ім нешта не падабаецца, дык звярнуць на такое іх увагу вельмі і вельмі цяжка. Але прымусіць дзіця завучваць, тое, што «не вучыцца» — значыць, асуджаць яго на пакуты.

Вершы Міхася Пазнякова, напісаныя для дзяцей, завучваюцца імі лёгка, без усялякага прымусу. Дарэчы, у нашай дзіцячай літаратуры, у даным выпадку і сённяшняй, нямала аўтараў розных пакаленняў, творы якіх падабаюцца дзецям, і якія лёгка «вучацца» на памяць. І тут не важна, на якую яны тэматыку, пра якія часы: галоўнае, проста і цікава. А яшчэ — мова, пабудова сказа. Слова або вабіць, або адштурхоўвае. Калі мова простая, вобразная, тая, якую хлопчыкі і дзяўчынкі чуюць кожны дзень, размаўляюць на ёй — твор будзе чытацца. Калі ж мова спецыфічная, скажам, як здараецца, ледзь не мова армейскага страявога Статута, або неапраўданага сюсюкання — не!.. Так-так, і такое ў нас выдаецца, і такое падаецца, навязваецца дзецям…

Але зноў вернемся да зборніка «Серабрыстыя чайкі». У ім, гэтаксама як і ў казцы, з вялікай цікаўнасцю чытаюцца апавяданні пра родны край, нашу зямлю, яе жывёльны і раслінны свет, пра людзей — маленькіх і дарослых. І — нашу мінуўшчыну.

Несумненна, юных зацікавіць усё ў гэтай кнізе. Але, думаю, што чытачы, асабліва хлопчыкі, якім гадоў дзевяць-дзесяць, ці крыху больш, асаблівую ўвагу звернуць на цыкл твораў «З маміных аповедаў»…

Міхась Пазнякоў, паказаўшы сваім маленькім чытачам прыгажосць роднага краю, наогул нашай зямлі, на якой мы жывём і працуем і на якой растуць, ходзяць у дзіцячыя садкі і школы нашы дзеці і ўнукі, расказаўшы ім тое-сёе з нашай, а значыць, і іхняй гісторыі, адкрыўшы юным абсягі Айчыны, сённяшні воблік нашай краіны, палічыў, што варта сказаць ім і пра тое, якая страшэнная небяспека некалі навісала над усім гэтым, нават над самім паняццем — жыццё… І гаворыць ён пра гэта не канстатуючы падзею, як такую: канстатацыю дзеці не ўспрымаюць, даказана даўно і не намі… Гаворыць ён аб мінулым у невялікіх апавяданнях, здавалася б, праз звычайныя з'явы, якія адбываюцца з яго юнымі персанажамі. Але за гэтай звычайнасцю пісьменнік адкрывае такія зрухі дзіцячай душы, якія дазваляюць дакладна ўявіць, якім чалавекам вырасце, напрыклад, хлопчык Сашка, герой апавядання «Партрэт на сцяне».

Дзея твора наступная… Сашка, гарадскі ўнук вясковых жыхароў бабы Машы і дзеда Паўла, мяркуючы па ўсім, вучань малодшых класаў, прыязджае да іх на канікулы…

Здавалася б, што тут такога… Ды многія гарадскія хлопчыкі і дзяўчынкі канікулы праводзяць у вёсцы ў бабуль і дзядуль. Дзеці знаёмяцца тут з такімі ж, як і самі, вясковымі хлапчукамі і дзяўчынкамі, сябруюць з імі, гойсаюць па вуліцах, па лугах, купаюцца ў рэках і азёрах (вядома, гэта трэба рабіць пад наглядам старэйшых), збіраюць грыбы і ягады і дапамагаюць па гаспадарцы бабулям і дзядулям, і не толькі сваім, а і суседскім...

Напэўна, так будзе рабіць і Сашка. Больш таго, магчыма ён будзе маляваць сваім новым сябрам вясковыя краявіды, усё, што бачыць, а то і іх саміх: Сашка ж вельмі добра малюе! Праўда, дома, у гарадской кватэры мама не дазваляе яму вешаць на сцены яго любімыя паштоўкі, рэпрадукцыі карцін і ўласныя малюнкі. І зразумела чаму: там усё выштукавана, пафарбавана, абклеена… А вось тут, у простай дзядулевай хаце — калі ласка! Тут звычайныя сцены. І неўзабаве некаль-

кі Сашкавых малюнкаў ужо віселі побач з фотапартрэтамі, карцінамі і фотаздымкамі ў рамках яго родзічаў, што «ўпрыгожвалі» гэтыя сцены: звычайныя выявы людзей, ды, толькі, хто яны, Сашка не ведае…

Ды вось бяда: вешаючы свой малюнак, Сашка незнарок зачапіў адзін з партрэтаў, ён упаў на падлогу, шкло разбілася… Што рабіць?.. Нядоўга думаючы, Сашка схаваў партрэт пад канапу, змёў шкло і… пабег гуляць, хутка забыўшыся пра недарэчнасць.

Здавалася б, пісьменнік пачне ўшчуваць малога, ды павучаць: маўляў, хіба так можна?!. Але ж — не…

Нагуляўшыся, Сашка прыбег у хату і ўбачыў, што дзядуля заняты незвычайнай работай. Ён, выразаўшы з вялікага шклянога ліста шкло, устаўляе ў рамку, якую Сашка схаваў пад канапу, партрэт… Дзіўна, але дзядуля не ўшчувае хлопчыка. Адно сказаў: «Ну, сядай, мастак... Раскажу табе пра аднаго героя…»

Дзядуля расказвае, як у вайну ён, тады яшчэ падлетак, разам з многімі аднавяскоўцамі быў у партызанах. Ён хадзіў у разведку, выконваў іншыя даручэнні народных мсціўцаў. Аднойчы бачыў, як адзін наш самалёт у няроўным баі змагаўся з фашысцкімі самалётамі: яго падбілі…

Дык вось чый партрэт, аказваецца, скінуў Сашка: нашага збітага лётчыка, які потым змагаўся з ворагам у партызанах і па-геройску загінуў… Зрэшты, Саша даведаўся шмат з таго, што адбывалася ў гады вайны на нашай зямлі. А яшчэ — што лётчык-герой, затым бясстрашны народны мсцівец Васіль Зыкаў — родны брат Сашавай бабулі, а значыць, і яго стрыечны дзядуля… Вось толькі Сашку пра гэта раней не расказвалі: быў яшчэ маленькі…

Мушу зазначыць, што гэтае дзіцячае апавяданне потым перарасло ў дакументальную аповесць «Выйсце заўсёды ёсць...», якую друкаваў часопіс «Полымя» ў нумары 9 за 2015 год. Твор чытаюць і сталыя чытачы, і падлеткі — часопіс ідзе ў школы і ВНУ...

Увогуле ж, у кнізе таксама вельмі цікавыя і хвалюючыя творы пра ваенны час, пра мужнасць нашых людзей, надрукаваныя ў раздзеле «З маміных успамінаў». Гэта: «Хлеб для партызанаў», «Зычлівы немец», «Вінтоўкі», «Дабрата». І варта адзначыць, што пісьменнік у згаданых аповедах узнаўляе тыя падзеі ваенных гадоў, якія адбываліся на яго малой радзіме і якія так або інакш уздзейнічалі на лёс краіны, калі на барацьбу з ворагам узняўся ўвесь народ, які тады называўся — савецкі.

Гэтыя аповеды ўвайшлі ў памяць хлапчука, будучага пісьменніка Міхася Пазнякова, не давалі і не даюць яму спакою і зараз, пра іх ён расказвае сваім юным чытачам. Ён таксама заклікае людзей старэйшага пакалення расказваць сваім дзецям і ўнукам тое, што было ў часы ліхалецця з людзьмі іхняга роду, сябрамі, суседзямі, такім чынам, з усім нашым народам, тым народам, які перамог, згуртаваўшыся на любові да Айчыны. І калі ўжо гаворка, у прыватнасці, пра род кожнага з нас, дык заўважу, што апавяданне «Партрэт на сцяне» — біяграфічнае: лётчык Васіль Зыкаў з яго, Міхася Пазнякова, роду.

Наогул, пра што б пісьменнік ні пісаў для дзяцей, ён піша пра нашу Радзіму. Радзіма для яго — гэта ўсё, сярод чаго мы жывём, што нас акружае: пачынаючы з нашага першага ўсведамлення ласкавай усмешкі маці, моцных бацькавых рук, маснічын роднай хаты, сонечнага зайчыка на сцяне вясковай хаты або гарадской кватэры… і заканчваючы ўсім тым, што ў нас ёсць сёння — малых ці дарослых…

А ёсць у нас усё, што патрэбна людзям. І гэтым трэба даражыць, як даражаць нашы дзядулі і бабулі. Як даражылі прашчуры, як даражаць бацькі…

Несумненна, кнігі Міхася Пазнякова для дзяцей «У родным краі», «Гульня слоў», «Серабрыстыя чайкі» вартыя быць удастоенымі Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

Барыс КРЭПАК

# ЖЫВАЯ ПОВЯЗЬ ЧАСУ



*Барыс Аракчэеў.*
*«Аўтапартрэт». 1980-я гг.*

Да свайго 87-годдзя ён не дажыў месяц і дзевяць дзён. Не ведаю — многа гэта ці мала для мастака, але ён пражыў жыццё вельмі дастойна: і ў творчым плане, і ў сямейна-бытавым, і ў шчаслівых узаемаадносінах з людзьмі і Яе Вялікасцю прыродай. А яго шматлікія вучні па Мінскім мастацкім вучылішчы і Беларускай акадэміі мастацтваў і сёння ўспамінаюць гэтага таленавітага настаўніка, яркага жывапісца, дзівоснага чалавека і грамадзяніна толькі з вялікай літары.

Я ўспомніў словы Юрыя Дамброўскага з кнігі «Факел»: «Ці хіба шлях сапраўднага мастака заканчваецца нейкай датай, нават датай смерці?! Нічога канчатковага, дазволенага ў мастацтве няма і быць не можа. Творчасць сапраўднага мастака — з'ява, якая вечна развіваецца і маладзее».

Залатыя словы! Складанае духоўнае жыццё твораў таленавітага чалавека пасля яго фізічнай смерці і ёсць працяг ягонай біяграфіі. Так, падзей і фактаў у яе не будзе ў чыста жыццёвым сэнсе, але яна, біяграфія, ні ў якім разе не аказваецца закрытай. Наадварот, расхінаецца з новай сілай і далёка выходзіць за межы часу і невялічкай прасторы, адпушчанай лёсам мастаку.

Калісьці мне пашчаслівілася шмат разоў бываць у гэтага выдатнага чалавека ў яго мінскай утульнай майстэрні на сёмым паверсе дома на рагу вуліц Леніна і Інтэрнацыянальнай, адкуль з вокнаў добра праглядвалася плошча Свабоды з усёй яе цудоўнай архітэктурна-эстэтычнай «інфраструктурай», пачатак Парка-вай магістралі (цяпер праспект Пераможцаў), Дом фізкультуры, інтэрнат БДУ, тадышняя аўтастанцыя на плошчы 8 Сакавіка, шматярусныя вежы Свята-Духава кафедральнага праваслаўнага сабора, яшчэ не адноўленая гарадская Ратуша і ўдалечыні — берагі Нямігі. Цудоўная «ўрбаністычная» панарама — толькі маляваць! На першам паверсе дома — ці не самы папулярны ў мінчан рэстаран «Патсдам»…

У гэтай майстэрні, якую мастак атрымаў у першай палове 1960-х, мы з ім за кубачкам гарбаты ці бакалам сухога віна правялі шмат часоў у размовах «пра час і пра сябе». Тут, на маіх вачах, нараджаліся палотны «На сплаве» і «У родным краі», «Жніво» і «Ішлі эшалоны», «Вясна ідзе» і «Вяртанне»… Тут ён шмат чаго расказваў і пра сваю «малую радзіму» дзяцінства і юнацтва — прыволжскую

вёску Турбанава, якую ніколі не забываў. Дарэчы, пазней, у пачатку 1980-х, па выніках паездкі ў родную Яраслаўшчыну, стварыў шмат мемарыяльных палотнаў, прысвечаных месцам, звязаным з «яраслаўскім» перыядам жыцця і вучобы Максіма Багдановіча. І, канешне, успамінаў пра тое, як сінявокая Беларусь стала навекі яго другой маці-радзімай.

Аднойчы ён раптам сказаў мне, што калі прыйдзе апошні час, то хацеў бы быць пахаваным менавіта ў Беларусі. Я тады замахаў рукамі: навошта такія журботныя думкі, калі ўсё жыццё наперадзе! А ён мякка ўсміхнуўся: ты, маўляў, занадта малады, каб гэта разумець. «Жыццё — такая дзіўнаватая штуковіна, — прадоўжыў ён, — што не ведаеш, што з табой здарыцца заўтра. Асабліва гэта востра мне адчувалася ў канцы вайны. Да што далёка хадзіць? Вось Максім Багдановіч. Чалавек, які пражыў у Яраслаўлі амаль восем гадоў, дзе, па сутнасці, стаў нацыянальным беларускім паэтам, і яго папросту маглі там бачыць мае бацькі. Уяўляеш сабе? Хіба думаў ён, што пражыве ўсяго 25 гадкоў? Так, бывае, што і цяпер, у хвіліны дэпрэсіі, не-не дый і прыходзяць у маю турботную галаву невясёлыя думкі. Праўда, пра такія мінорныя моманты нікому, нават любімай жонцы Галі, імкнуўся не выкладваць. Вось толькі з табой чамусьці падзяліўся…»

Падкрэслю, такая размова адбылася прыкладна ў сярэдзіне 1970-х, калі майму візаві было гадоў 50, а мне — каля 35… З той пары прайшоў доўгі час. І — вясной 2013 года так і здарылася: майго сябра прыняла зямля беларуская, якая толькі-толькі пачала скідваць апошні снег…

Канешне, гаворка ідзе пра Барыса Уладзіміравіча Аракчэева, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, кавалера ордэна Францыска Скарыны, і проста пра цудоўнага жывапісца ласкаю Божай і добрага, мудрага, камунікабельнага чалавека. На жаль, такіх асоб, цалкам аддадзеных мастацтву, шчырых, чыстасардэчных, наўздзіў сціплых, у нашым сённяшнім мастакоўскім племені застаецца ўсё менш і менш…

Ён быў не падобны па сваёй творчай індывідуальнасці ні на кога са сваіх калег па пэндзлі. Прайшоў складаны шлях у мастацтве, як кажуць, «ад сахі» да аднага з лепшых майстроў-жывапісцаў Беларусі, і на гэтым шляху ні ў чым ніколі душой не крывіў. Дадамо, што па сваёй чалавечай сутнасці, якая так моцна адлюстравалася ў яго творах, Барыс Уладзіміравіч быў далёкі ад якога б там ні было прыстасавальніцтва, што да жыцця і любой справы адносіўся з глыбокай сур'ёзнасцю і захапленнем, а задачы сабе як мастаку ставіў зусім не простыя, дык стане зразумелым, якая цяжкая, цярністая была тая дарога, якую прайшоў хлапчуком ад прыволжскіх прастораў праз метамарфозы салдацкага быцця, каб у выніку сваё шчодрае сэрца, свой іскрысты талент цалкам аддаць беларускай зямлі. А гэта, пагадзіцеся, подзвіг.

…Вялікая Айчынная напаткала яго, сялянскага хлопчыка-сямікласніка, на радзіме, у прыволжскай вёскі Турбанава, калі яму ішоў пятнаццаты год. Бацькі ўжо не было ў жывых, маці — інвалід, два малодшыя браты і дзве сястры. Па сутнасці, ён — галоўны карміцель. Каб пракарміць сям'ю, давялося два гады працаваць у калгасе імя Жданава, даглядаць табуны. І толькі ў самам канцы сорак трэцяга ўсё ж дамогся, каб прызвалі ў Чырвоную Армію. Спачатку аказаўся ў вучэбным запасным палку пад горадам Кіравам, дзе, будучы сяржантам, камандаваў аддзяленнем. А потым было, як у тых вершах Міхаіла Кульчыцкага: «Война ж совсем не фейерверк, / А просто трудная работа. / Когда — черна от пота — вверх / Скользит по пахоте пехота…» Пасля Перамогі яшчэ цэлую пяцігодку прыйшлося Аракчэеву «отпахать» у арміі, спачатку ў Бабруйску, потым — у Мінску, з іх тры гады — чарцёжнікам аператыўнага ўпраўлення штаба Беларускай ваеннай акругі.

Вось з чаго пачалася яго Беларусь! Нарэшце — дэмабілізацыя, паступленне ў Мінскае мастацкае вучылішча адразу на другі курс: выявілася дастойная «самаадукацыя» ў падрыхтоўцы па жывапісе і малюнку. Барыс Уладзіміравіч успамінаў, што яшчэ да школы ён за грошы, якія даваў яму бацька на хлеб надзённы, на свой

страх купляў акварэльныя фарбы і каляровыя алоўкі, за што часцяком атрымліваў наганяй. А калі пайшоў у школу, ад малявання яго ўжо нельга было адарваць. Утаймаваліся бацькі — куды ж падзецца, хай малюе, хай дзіця цешыцца…

Пасля паспяховага заканчэння вучылішча і вячэрняй дзесяцігодкі ў 1953-м адразу ж, без усякіх праблем, паступіў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Гэта быў першы набор на мастацкі факультэт. Група будучых жывапісцаў, вучняў выдатнага педагога і пейзажыста Віталя Канстанцінавіча Цвіркі, была ў вышэйшэй ступені цікавая і «шматгалосная» з вялікімі патэнцыяльнымі магчымасцямі. Побач з Аракчэевым — Леанід Шчамялёў, Віктар Грамыка, Мікалай Залозны, Іван Ціханаў, Алег Цалкоў (так, той самы, які стаў у эміграцыі знакамітым на ўвесь свет), Міхаіл Казанскі (будучы маскоўскі авангардыст), Юзаф Пучынскі, Фёдар Бараноўскі, Барыс Няпомняшчы, Ірына Саковіч (Глазава), Іван Рэй, Аляксандр Сямілетаў, Васіль Ярмоленка, Ала Замай. Вось такі быў самы першы інстытуцкі, «цвіркоўскі», выпуск жывапісцаў. Акрамя Цвіркі, выкладалі ў Аракчэева і іншыя добрыя педагогі: Аляксандр Мазалёў, Хаім Ліўшыц і Валянцін Волкаў, які ў гэты ж час выпусціў другую, паралельную, групу будучых мастакоў.

І вось прыйшоў час работы над дыпломам. Барыс распрацоўваў эскіз карціны «Этапы вялікага шляху» ў студэнцкай вучэбнай майстэрні на шостам паверсе дома № 18 па тагачасным Сталінскім праспекце. Побач у поце чала працавалі Леанід Шчамялёў над палатном «Вяселле», Фёдар Бараноўскі над «Выхадам з блакады» і Мікалай Залозны над «Капітуляцыяй». Зараз такія цікавыя дэталі мала каму вядомыя і таму мяркую, што яны павінны заставацца ў творчых біяграфіях нашых мастакоў. Бо ў такіх дэталях, на мой погляд, — істотная сутнасць таго, што часта ў мастацтвазнаўцаў застаецца за мяжой духоўнага творчага жыцця.

Работа над дыпломам працягвалася ў Аракчэева амаль цэлы год: многае мянялася ў працэсе пісьма, знікалі нейкія дэталі, з’яўляліся новыя, недзе ўзмацняліся колеравыя акорды, недзе мікшыраваліся, пакуль па кампазіцыі і вобразах не знашліся тры галоўныя персанажы: радавыя героі Грамадзянскай вайны, якія спыніліся разам з баявымі коньмі на кароткі адпачынак у нейкай вазоўні. Словам, ішоў звычайны працаёмкі мастакоўскі працэс, і заўваг з боку Віталя Цвіркі і яго асістэнта Уладзіміра Стальмашонка практычна не было.

У лістападзе 1959 года адбылася абарона дыпломных работ «піянераў» мастацкага факультэта БДТМІ. У якасці старшыні дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі быў запрошаны народны мастак СССР, прэзідэнт Акадэміі мастацтваў СССР, прафесар Барыс Уладзіміравіч Іагансон. Вось як — поўны цёзка Аракчэева! Усё ішло, так бы мовіць, па плане. Студэнты ўносілі ў залу карціны і ўстанаўлівалі на мальберты. Першым (па алфавіце) трапіў «на дыван» Аракчэеў. На мальберце палатно «Этапы вялікага шляху» (200 × 140). Менавіта пра такіх камсамольцаў і «комиссаров в пыльных шлемах» спяваў Булат Акуджава. Выслухалі аўтара, які перад высокай камісіяй (туды ўваходзілі Аскар Марыкс, Валянцін Волкаў, Заір Азгур, Андрэй Бембель, Віталь Цвірка і інш.) растлумачыў сваю задуму. Потым выступілі «адвакат» — кіраўнік дыплома і рэцэнзент. Пасля нядоўгага абмеркавання члены камісіі аднагалосна вынеслі вердыкт: «Выдатна!» А «галоўны пракурор» Барыс Іагансон усхапіўся і сказаў прыкладна так (на жаль, тады не было дыктафонаў): «З гэтага маладога чалавека вырасце вельмі добры жывапісец. Ён цудоўна адчувае каларыт, выдатна кампануе, і, галоўнае, яму ўдалося ў простым будзённым факце надзвычай дакладна знайсці яркі песенна-паэтычны вобраз часу, які сугучны сваёй рамантыкай сённяшнім дням…»

Невыпадкова, што на Усесаюзнай выстаўцы дыпломных работ у Маскве, гэта карціна карысталася вялікім поспехам у гледачоў і прэсы, бо ўжо даволі-такі збітая ў савецкім мастацтве тэма Грамадзянскай вайны тут набыла нейкі свежы і арыгінальны ракурс яе ўспрымання. Бадай, гэты быў адзіны твор мастака, прысвечаны нараджэнню маладой Савецкай улады. Але ён стаў пралогам да распрацоўкі тэмы, сацыяльна і маральна звязанай з рэвалюцыяй — тэмы Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху. Таму я так падрабязна расказваю пра гэты твор. А яшчэ таму, что менавіта з гэтай карціны пачынаецца той самы «фак-

турны», «пастозны» жывапісец, класічны рысавальшчык і тонкі «кампазітар» (у сэнсе пабудовы кампазіцыі) Барыс Аракчэеў, які назаўсёды і ўвайшоў у гісторыю выяўленчай культуры Беларусі. Праўда, да гэтай тэмы праз два дзясяткі гадоў ён паспрабаваў звярнуцца яшчэ раз — у карціне «На Заходні фронт», але, на мой погляд, яна лепшай за дыпломную не стала: атрымалася занадта «шматслоўнай» па кампазіцыі і перанасычанасці фрагментаў і дэталяў.

Праз два гады пасля заканчэння інстытута Барыса Уладзіміравіча прынялі кандыдатам у члены Саюза мастакоў БССР (тады існавала такое ўстаўное правіла: спачатку двухгадовы кандыдацкі стаж, потым, абавязкова па творчых выніках, — паўнапраўнае членства). Рэкамендацыі далі Віталь Цвірка, Андрэй Бембель і Мікалай Гуціеў, а яшчэ праз два гады аднагалосна зацвердзілі членам творчага саюза. На гэты раз яго рэкамендавалі Аляксей Глебаў, Уладзімір Сухаверхаў і Валянцін Волкаў. Усе адзначылі яго «спелы талент», «выдатны дар жывапісца», «шчырасць» і «адданасць традыцыям рэалістычнага мастацтва».

Калі я пазнаёміўся з мастаком, за яго плячыма былі ўжо карціны «Медсястра. Брэст. 1941 год», два варыянты «Партызанскага дазору», мемарыяльныя пейзажы Брэсцкай крэпасці, шмат пленэрных эцюдаў, напісаных ля вёскі Павязень, і ішла работа над «Даяркамі». Таксама, помню, рыхтаваліся першыя штрыхі эскіза да будучага палатна «Партызанскія завеі». Мала хто сёння ведае, але ў тыя гады Аракчэеў паспяхова займаўся і кніжнай ілюстрацыяй. Менавіта тады ён падараваў мне сваю цудоўна афармленую кнігу «Гераічная абарона» (пра герояў Брэста). І я бачыў яшчэ адну яго ілюстраваную кнігу ўспамінаў партызанскага камандзіра атрада асобага назначэння, разведчыка Станіслава Ваўпшасава пад назвай, калі не памыляюся, «На раз’юшанай зямлі».

Значыць, усё гэта адбывалася прыкладна ў 1966 годзе. З той пары між намі ўстанавіліся добрыя сяброўскія і творчыя адносіны, які працягваліся некалькі дзесяцігодзяў. Толькі ў апошнія гады жыцця мастака, калі ён трывала асталяваўся на летні перыяд у вясковым доміку цешчы Праскоў’і Пятроўны Перасецкай у вёсцы Мар’іна Чашніцкага раёна на Віцебшчыне, мы сталі сустракацца радзей. Мабыць, як і многіх, у тыя «ліхія» часы вельмі заядала жыццёвая мітусня, беганіна і іншая марнасць. У асноўным, бачыліся на розных вернісажах, у Нацыянальным мастацкім музеі і на нейкіх іншых культурных акцыях.

Хаця за творчасцю мастака заўсёды імкнуўся ўважліва сачыць. Як і за тымі пасмяротнымі выстаўкамі Барыса Уладзіміравіча, якія рэгулярна налажвае па ўсёй Беларусі і за яе межамі апантаная, бязмежна любячая бацьку, яго дачка, таленавітая мастачка Аксана Аракчэева. Дарэчы, менавіта яе намаганнямі вясной 2015 года на доме № 2 па вуліцы Леніна, дзе паўстагоддзя тварыў яе тата, была ўстаноўлена цудоўная мемарыяльная дашка з барэльефам мастака разца Яўгена Колчава. Дапоўню, што і дзве другія, старэйшыя дачкі Аракчэева, — Алёна і Марына — пайшлі па слядах таты: сталі мастачкамі…

…Што найбольш характэрна для творчасці Барыса Аракчэева? Ну, вось, скажам, ваенныя палотны: «На абпаленай зямлі», «Партызанскія завеі», «Партызанская сям’я», «Партызанскі дазор», «На заданне. Апошні наказ на дарогу», «З вайной пакончылі…», «Казематы мужнасці», «Памяці антыфашыста, Героя Савецкага Саюза Фрыца Шменкеля», «Ішлі эшалоны…» Усе гэтыя карціны перакідваюць нас у розны час, у розныя месцы, яны закранаюць розныя сферы пачуццяў. Але сюжэтная разнастайнасць твораў па меры іх уважлівага разгляду зліваецца ў адзінае рэчышча. Не, гэта не цэласная мазаіка, заключаная ў адну плоскасць, гэта хутчэй цэласнасць быцця, цэласнасць аўтарскай натуры, якая прагне знайсці і перанесці на палатно сваё разуменне вытокаў, характару і сутнасці нашай вялікай і цяжкай перамогі, цэласнасць маляўніча-пластычных мелодый.

Таму ўсё ў гэтых карцінах — стрыманая энергія фарбаў і ліній, пластычная выразнасць формы, канструктыўная яснасць кампазіцыі — накіравана на тое, каб выклікаць у гледача хваляванне, дапамагчы зразумець і ацаніць прыгажосць, мужнасць чалавека. Для гэтага Аракчэеў даследаваў, асэнсоўваў гісторыю зноў і зноў, спрабаваў розныя мастацкія сродкі, якія вялі да адкрыцця новага. Мастак



*«Хлеб». 1969 г.*

ведаў, што без гэтага немагчымы рух мастацтва наперад. Гэта і быў той самы творчы пошук, якія б ні надараліся на гэтым шляху няўдачы.

У тыя гады — у пачатку 1970-х — мне асабіста запомнілася вялікая карціна «Брэсцкая крэпасць. Раненыя байцы». Нібы кінакамера «выхоплівае» адзін з эпізодаў неўміручай эпапеі. Кампазіцыйным і сэнсавым цэнтрам карціны з'яўляецца фігура параненага байца з аўтаматам. Вобраз поўны ўнутранай сілы: ён гатовы весці барацьбу да апошняга патрона. Ад яго погляд пераводзіш на фігуру артылерыста з перавязанай галавой, затым на маладзенькую санітарку. І далей — на ляжачых у глыбіні каземата салдат. Яснасць кампазіцыі, псіхалагізм і вострая экспрэсія асобных вобразаў, напружаная чырвона-охрыстая колерная гама надаюць карціне настрой не трагічнай безвыхаднасці, а мужнасці. Аракчэева хвалюе не падзея сама па сабе, а яе дыялектыка, складаныя ўнутраныя сувязі, закладзеныя ў яе вытоках. Адсюль і «псіхалагізацыя» сюжэта, і буйныя планы адлюстравання. Таму ў вобразах абаронцаў мастак знайшоў тую ўнутраную высакароднасць, пры якой гераізм становіцца звычайнай справай. Углядаючыся ў гэтыя твары, думаеш не толькі аб трагедыі першых дзён вайны, але і верыш, што дні гэтыя сталі першымі днямі, якія наблізілі нас да 9-га мая сорак пятага і да светлых дзён сённяшніх. Я гэтае палатно яшчэ раз успомніў, калі не так даўно праглядваў мастацкі расійскі-беларускі фільм-драму «Брэсцкая крэпасць». Уражанне было такое, што рэжысёр Аляксандр Кот бачыў гэтую аракчэўскую карціну, калі здымаў у казематах эпізоды з раненымі абаронцамі…

Такая жывая повязь часу. Яна вельмі дапамагла Аракчэеву глыбока асэнсаваць сучаснае. Лепшыя яго творы, прысвечаныя сучаснай Беларусі, раскрываюць думкі і пачуцці аўтара. Свет творчасці жывапісца населены шчырымі людзьмі, надзеленымі сардэчнай прастатой і жыццёвай энергіяй. Вось паэтычныя «Даяркі», напісаныя ў выніку творчай паездкі на Віцебшчыну. Вось «Хлеб», таксама — па матэрыяле, сабраным у вёсцы Чашнікі. Класічная работа, гэты якраз той выпадак, калі мастак праз простае і звычайнае далучае нас да вечных духоўных каштоўнасцей. Мне гэты твор заўсёды падабаўся. Паглядзіце, як мастак уважліва прыглядаецца да твараў і рук гераінь-сялянак, да іх музыкальна-плаўных па абрысе фігур, да пласцікі «планетарнай» зямлі. Няма тут выпадковасцей, усё прадумана, лагічна асэнсавана — і ў выніку атрымалася манументальная кампазіцыя.

Той жа складаны сімбіёз паэзіі і праўды і ў карцінах «На сплаве», «Вечар на ферме», «Жніво», «У родным краі», «Дарога дамоў», «Вяртанне», «Адроджаны край», «Гарачая пара»… Але што цікава: жыццё асобных людзей прыцягвае ўвагу мастака як невялікі, але значны фрагмент вялікага быцця, а вясковы пейзаж — як фрагмент Светабудовы. Збіраючы, разглядваючы і асэнсоўваючы гэтыя фрагменты, Аракчэеў у сваіх карцінах выбудоўвае з іх маштабнае і складаназлучанае палатно свету. Дакладная ўвага да асобнай, выключнай дэталі пры пераканаўчым напаўненні абагульненай метафары; моцная эмацыянальная насычанасць пры прыстойнай стрыманасці лаканічнай формы; найбольшая мастакоўская шчырасць без патэтыкі і афектацыі, якія іншы раз раздражнялі ў жывапісе некаторых

мастакоў тых часоў; максімальная адлучанасць ад партыйнай ідэалогіі пры бескампраміснай сумленнасці і непазбежнай у савецкі перыяд грамадскай актыўнасці, — вось асноўныя якасці мастацтва і асобы, якія вывелі героя майго эсэ ў першы легіён самых яркіх творцаў таго часу. І якія, па вялікім рахунку, вызначылі актуальнасць яго творчасці і сёння. Думаю, і ў тым часе, што прыйдзе пасля нас.

Дастаткова прыглядзецца да такіх па-пластаўску «песенных», чароўных па настроі кампазіцый, як «Сенажаць», «Лета. Купанне коней» ці «Легендарнае возера», як дыптых «Раны» (асабліва левая частка). У гэтым шэрагу і вельмі ўдалае палатно «Працаўнікі зямлі» — своеасаблівы працяг вечнай тэмы: «Зямля і на ёй Чалавек», якая раней атрымала падобнае ўвасабленне (асабліва, у кампазіцыйным плане), напрыклад, у Міхаіла Савіцкага («У полі») ці ў нашага другога выдатнага земляка Яўсея Майсеенкі («Зямля»).

Самае цікавае, што ва ўсіх кампазіцыйных фігуратыўных творах Аракчэева значную ролю выконвае адлюстраванне прыроды. А ў палотнах — «Апошні снег», «Бярозавы гай», «Працоўная восень», «Зіма ў Мінску», «Возера Нарач», «Восеньскі кліч», «Час адлёту птушак», «Апускаецца ночы крыло», «Летні дзень у Мар'іна», «Аранжавы захад сонца», «Зямля Заслаўская», «Раніца на возеры Чарэйскім», «Мар'іна ў вячэрніх праменнях» — прырода наогул галоўны «герой».

Адно з найлепшых палотнаў у гэтым шэрагу — «Вясновыя вятры». Гэта работа майстра з вялікім прафесійным вопытам, які здольны бачыць у жыцці нешта вельмі важнае, у простым, паўсядзённым адкрываць значнае. Палатно напоўнена промнямі вясновага святла, радасцю і чалавечай цеплынёй. Тут усё знаёма з дзяцінства: і паваленыя ветрам белыя вясковыя штыкеты, і аблокі ў небе, і пяшчотная нявеста-бярозка, і густая вада, што яшчэ не вызвалена ад лёду, і хата, якую талакой будуюць сяляне. Паўсюль — веснавое абуджэнне...

Асаблівасцю пейзажных кампазіцый Аракчэева з'яўляецца моцная пабудова: у іх выразна акрэслены планы. Здаецца, гэтыя пейзажы чакаюць дзеяння, яны напоўнены душэўным хваляваннем, дынамікай, экспрэсіяй, жыццём. Карціны, як правіла, разлічаны не нетаропкую ўвагу гледача, на даверлівую размову з ім. Адсюль і імкненне аўтара да стараннай закончанасці твора, да любоўнай адпрацоўкі дэталяў, кампазіцыі, фактуры палатна.

У яго была ясная і дакладная сістэма поглядаў на творчасць і мастацтва, на традыцыі і сучаснасць. Гэтыя погляды ён і ўвасабляў у сваіх карцінах. Так, бывала, што яго не разумелі, асабліва сярод калег, папракалі ў «залішне дзёрзка-нядбайным» ці «бравурна-размашыстым» жывапісным пісьме, а ён быў перакананы ў правільнасці сваіх прынцыпаў і заўсёды стаяў на цвёрдай глебе.

…Аднойчы ў гарачы дзень 13 чэрвеня 1993 года мы хавалі народнага мастака Віталя Цвірку, любімага жывапісца і педагога Аракчэева і майго, нягледзячы на вялікую розніцу ва ўзросце, сябра. «Вось як бывае, — сказаў мне тады на Усходніх могілках Барыс Уладзіміравіч, — адыходзяць самыя лепшыя, блізкія, сумленныя. Не магу паверыць, што Віталя Канстанцінавіча няма, што не сустрэну яго на выстаўцы, не пабачу яго новых шэдэўраў, не пачую яго размову, поўную добрага, часам саланаватага гумару. Не верыцца…» Праз пару дзён Аракчэеў запрасіў мяне ў сваю майстэрню. Сядзелі дапазна. Гаварылі па душах. І тады мастак адкрыўся новай для мяне рысай як чалавек, прасякнуты вялікай любоўю да свайго Настаўніка — нябожчыка. «Ты ведаеш, — казаў ён, — вось зараз я нібы нанава пабачыў Цвірку, адхінуў нейкую блакітнаватую заслону туману, увайшоў у яго свет. Хаця пазнаёміўся з мэтрам яшчэ ў пару свайго далёкага юнацтва — у мастацкім вучылішчы. Як усё проста у гэтага генія! Зямля і на ёй чалавек, жыццё і сусвет, адушаўлёная прастора і натхнёная прырода… Я вось думаю, чым глыбей мастак, тым складаней увайсці ў яго свет, тым цяжэй адкрываць гэтыя дзверы. Затое калі яны адкрываюцца, душа чалавека набывае зусім іншы маральны і эстэтычны ракурс…» Гэтыя словы з поўным правам сёння можна адрасаваць і самому іх аўтару…

Уся яго творчасць — гэта калейдаскоп такіх тэм і сюжэтаў, якія, нягледзячы на знешнюю «звычайнасць», здзіўляюць сваёй навізной, эмацыянальна-пластычнай пераканаўчасцю і свежым аўтарскім позіркам на навакольны свет. Працаўнікі палёў. Жыхары гарадоў і вёсак. Памяць гісторыі. Салдаты і партызаны Вялікай Айчыннай. І свежасць пейзажаў — лірычных і эпічных. І душэўнасць нацюрмортаў. І настальгічная песня пра Яраслаўшчыну. І душэўныя мясціны другой радзімы — Беларусі: зямля Заслаўская, Жыровічы, Маньковічы, Бярэзіна і Свіслач, Нёман і Днепр, возера Свіцязь, канешне, любімы шматаблічны, разнастайны Мінск, Ракаў, Лагойск, Полацк, Брэст; розныя поры года, калі адлятаюць птушкі, альбо «апускаецца ночы крыло»; гарачыя дні жніва альбо зімовыя карункі на дрэвах Віцебшчыны…

Карацей кажучы, ён прысвячае свае творы прыгажосці жыцця і побыту, каб паведаміць нам пра «норавы ды характары» таго, што мы звычайна не заўважаем. Сфарміраваны свет карцін мастака — апірышча надзейнасці, трываласці, дзе прывольна і дрэвам, і травам, і нябёсам, дзе ўтульна «жывецца» і кветкам, і садавіне, і прадметам хатняга ўжытку, і гарадской архітэктуры. Позірк гледача не спатыкаецца тут на кожным кроку з-за вострых вуглоў запазычаных ці спісаных з рэпрадукцый форм, не блукае ў стракатасці ды ў нагрувашчванні прадметаў і рэчаў. Гэта асабісты, «выпакутаваны» ў шматлікіх пленэрах ды вандроўках па Беларусі, мікракосмас мастака, дзе немагчыма «праверыць алгебрай гармонію». Увесь сакрэт аракчэеўскіх пошукоў і «штудый» вось у чым: наколькі, часам да наіўнага, спрошчана схема канструкцыі, настолькі ж неэлементарны змест вобраза, адчувальны багаты рытмічны і колеравы пачатак.

Здаецца, адбылося неверагоднае, немагчымае: сама прырода за ўчэпістасць позірку паднесла Аркчэеву падарунак — «арганізаваную» плоскасць і глыбіню, «гатовыя» згоды рытмаў, плям і колеравыя тэмы з варыяцыямі. Але як адбіліся, выявіліся інтуітыўная кампазіцыйнасць, здольнасць бачыць гармонію ў пабудове прыроды і рэчаў — гэта таямніца аўтара, яго «востраў скарбаў», і не будзем спрабаваць яго адкрыць. Урэшце, усё сапраўднае мастацтва — таямніца. Тут для нас важны вынік — арганічнасць твора, дзе прыём не аголены, «зробленасць» адыходзіць углыб, і захопліваюць толькі адкрытая эмацыянальнасць, пачуцці мастака ды жыццё, што цячэ ў, здавалася б, вельмі асабістых, але такіх значных сусветах...

У апошняе дзесяцігоддзе свайго жыцця Барыс Уладзіміравіч працаваў, галоўным чынам, у жанрах лірычнага пейзажа і нацюрморта, радзей — партрэта. Летам, як правіла, на летніку ў вёсцы Мар'іна, дзе побач жывапісны лес, азёры Чарэйскае і Чамярыца, далей — Лукомльская ГРЭС, пасёлак «Піянерскі», дзе шматлікая «натура» сама прасілася на палатно. Ну а зімою — зноў утульная мінская майстэрня, дзе таксама — «ні дня без пэндзля».

Асобная старонка яго творчасці — акварэльны жывапіс, на які чамусьці мала хто з крытыкаў звяртаў увагу. А між тым яго акварэлі — гэта лірычныя, яскравыя, як маджары-віно з маладога вінаграду, настальгічныя лісты-дзённікі. Пра апошнія прамяні сонца над ціхім возерам, пра густыя барвы восені, пра цвіценне палявых кветак, пра сіні зімовы вечар, пра белыя бярозы і старыя беларускія млыны, летнія навальніцы і спякоту, калі душа разнявольваецца ў цені разгалістых яблыневых галінак у садзе; пра мар'інскія краявіды, пра пасляваенныя і новыя вуліцы і плошчы роднага Мінска — пра ўсё тое, што ў Боскай прыродзе саграває душу, напаўняючы яе пяшчотай і дабрынёй. Паглядзіце, які колер! Інтэнсіўны, свежы, пачуццёвы, арганізаваны рытмічна і «лінеарна». І ў той жа час, у некаторых творах часам адчуваецца дзіўны стан светлай журбы (помніце ў Пушкіна: «Печаль моя светла…»), якая знаёмая кожнаму, хто без шчырай прыроды Радзімы — нікуды, хто без яе не ўяўляе сваё жыццё, таму і ў акварэльных работах Аракчэева шмат сінявокай Белай Русі, якая падаравала яму такое невымоўнае, невыказнае творчае натхненне...

А яшчэ я помню, як у пачатку 1992 года, менавіта ў студзені, ён у гэтай жа майстэрні заканчваў вялікае гістарычнае палатно «Генерал Кульнеў і гродзенскія гусары ў бітве пад Клясціцамі. 1812 год». Якаў Кульнеў, храбры і харызматычны камандзір Гродзенскага гусарскага палка, наш зямляк, загінуў у баі з часцямі 2-га армейскага корпуса напалеонаўскага маршала Ніколя Шарля Удзіно 1 жніўня 1812 года каля вёскі Клясціцы (цяпер Расонскі раён Віцебскай вобласці). Дарэчы, бывае ж такое, Кульнеў паблізу гэтага месца і нарадзіўся!

Барыс Уладзіміравіч расказаў, што быццам сам Напалеон Банапарт так напісаў у лісце да сваёй жонцы Жазэфіны: «Учора загінуў Кульнеў, лепшы афіцэр кавалерыі». Так, ён быў першым з рускіх генералаў 1812 года, які загінуў у баі: яму ядром адарвала абедзве нагі… У 2005 годзе гэтае палатно (разам з дзясяткам іншых) жывапісец падарыў мастацкай галерэі ў горадзе Крупкі Мінскай вобласці.



*«Бэз ля студні». 1960 г.*

Гэта галерэя з'яўляецца філіялам Дзяржаўнай установы культуры «Крупскі гісторыка-краязнаўчы музей», і з 2 красавіка 2015 года носіць імя Барыса Аракчэева. Манументальная кампазіцыя, прысвечаная генералу Кульневу, у гістарычным аспекце не выпадковая ў фігуратыўным жывапісе мастака. Гэты складаны жанр даўно прыцягваў яго ўвагу, пачынаючы яшчэ з той самай дыпломнай работы: бо Грамадзянская вайна, нарэшце, як і Вялікая Айчынная, — таксама ўжо стала гісторыяй, асабліва для маладога пакалення.

Але мала хто ведае, што Барыс Уладзіміравіч хацеў намаляваць карціну і пра бітву на рацэ Сіць (на яго малой радзіме) вясной 1238 года паміж войскамі ўладзімірскага князя Юрыя Усеваладавіча і конным корпусам мангольскага хана Бурундая. Гэта была ключавая бітва ў час паходу Батыя на Паўночны ўсход Русі. Але такі «праект» так і застаўся ў марах мастака ды ў невялічкіх алоўкавых накідах.

А яшчэ ён хацеў напісаць, але не паспеў, палатно пра фінал Вялікай Айчыннай: да берага родных мясцін прыстае параход, і на ім — бывалы салдат, які выжыў на фронце, і цяпер вяртаецца дадому, да родных, да тых, хто яго чакаў, нягледзячы ні на што. Аднак, на мой погляд, усё ж яго душа цягнулася больш да паэзіі, лірыкі, да святла быцця, да таго, калі, па М. Багдановічу, «белым кветам адзета каліна…», і калі «краса цудоўная поруч з намі…» Вось такая «краса цудоўная» — у яго шматлікіх чароўных нацюрмортах з валошкамі і півонямі, макамі і хрызантэмамі! Але асабліва — з бэзам. Калі я бачу гэтыя жамчужыны, тут жа міжвольна параўноўваю іх з «бэзам» М. Урубеля, І. Грабара, П. Канчалоўскага, К. Каровіна, і, мне здаецца, што аракчэеўскі «бэз» па жывапіснай мове ні ў чым не ўступае знакамітым класікам. Дарэчы, адна з аракчэеўскіх карцін — «Бэз на фоне габелена» сёння ўпрыгожвае Тобольскі гісторыка-архітэктурны музей-запаведнік. А колькі яго твораў знаходзяцца ў розных беларускіх музеях — не пералічыць…

Аднойчы Барыс Уладзіміравіч сказаў такую фразу: «Цудоўнае заключана ў прыродзе. Нават у малым. Які змест не зрабі, калі няма дасканалай формы, ён не «працуе». Значыць, гэты змест паўторны, другім наваротам. Ведаеш, дасканалы «пусты» нацюрморт лепш, чым недасканалая сюжэтна-тэматычная карціна…» Адчуваецца, што мастак як жывапісец без памяці быў улюбёны ў жывую плоць усяго зямнога. Ён не «спісваў» натуру па прынцыпе «поўнага падабенства». Яму ўласціва натуральнае, арганічнае праламленне натуры (кветак ці дароў зямлі) скрозь прызму корпуснага, шматслойнага жывапісу, але праламленне, якое не выходзіць за тыя межы, за якімі жыццё пазнаецца і адчуваецца праз складаныя асацыяцыі. Але ніколі натурныя ўражання не засланялі ў мастака галоўнага — імкнення абагульніць, апаэтызаваць, знайсці сінтэтычнае шматслойнае рашэнне.

«И если кого впущу я в душу, то сначала поярче ее освещу...» — нібы казаў Аракчэеў словамі паэта і выліваў свае фарбы на чароўныя ружы і бэз... Чыстымі, светлымі думкамі жыў мастак, заняты пошукамі свайго зямнога раю, сваёй краіны вясновай квецені садоў, блакітных азёр, бэзавых тумано — краіны шчаслівай, цудоўнай, што праўслаўляе шчодрасцю жывых фарбаў, ліній, гармоній.

Помню яго апошнюю рэтравыстаўку ў Палацы мастацтваў. Барыс Уладзіміравіч адкрыў яе асабіста 2 лютага 2011 года, за два месяцы да свайго 85-гадовага святочнага дня. Яму было што паказаць гледачу: цягам больш чым паўстагоддзя стварыў сотні цудоўных палотнаў, многія з якіх увайшлі ў «залаты» летапіс беларускага жывапісу. Я тады падумаў, што вельмі цікава ў такіх буйных экспазіцыях прасочваць шлях мастака па прыступках творчасці: ты бачыш пры гэтым напружанасць ніці, што працягнута ад яго жыцця да палатна, паглыбляешся ў свет, адноўлены яго пэндзлем, — жывы, аб'ёмны, шматаблічны, эмацыянальны. Яшчэ раз углядаешся ў яго асобыя прыёмы вобразна-пластычнай выразнасці і асаблівую «фактурную», корпусную экспрэсію, якая, аднак, ніколі не перарывала сувязі з рэальнасцю. У гэтым сэнсе ў жывапісца было «звярынае чуццё»: адчуваць тую мяжу, за якой, вольна ці нявольна, можа пачацца «гульня ў абстракцыю». А гэта не для яго…

Час і чалавечыя лёсы — вось той галоўны стрыжань, на якім моцна грунтавалася ўсё мастацтва Аракчэева — ад першага, юнацкага палатна да самага апошняга ў жыцці. І гэта апошняе — так і засталася незакончаным: карціна «Янка Купала ў гады вайны»…

Думаю, што да пачатку новага XXI стагоддзя Барыс Аракчэеў дасягнуў, здаецца, дасканаласці ў авалоданні ўсімі даступнымі яму сродкамі адлюстравання. Ясны, дакладны, выразны малюнак, чараўніцтва каларыту, здольнага перадаць адчуванне лёгкасці асяроддзя, і гаму тонкіх чалавечых пачуццяў, глыбіня перспектывы, законы якой не засталіся таямніцай для яго, якія ён мог «ламаць» па сваім меркаванні, свабоднае прасторавае мысленне, гармонія ў дакладным узаемадзеянні аб'ёмаў і ліній, максімальная выразная адчувальнасць і матэрыяльнасць вобразаў, — вось сродкі, якія зрабілі магчымым тое свята харавства бачнага свету, які з'яўляюць нам лепшыя творы гэтага цудоўнага мастака.

Дык што ж такое для Барыса Аракчэева было мастацтва? Французы б сказалі: le comble honheur! Быць на вяршыні шчасця! Я ўдакладніў бы: верх цяжкага шчасця! Дзякуй богу, яно заўсёды спадарожнічала мастаку, які абраў для сябе нялёгкі жыццёвы шлях: як казалі нашы продкі, per aspera ad astra… У «Ладдзі роспачы» Уладзіміра Караткевіча ёсць такія красамоўныя радкі: «Чалавек носіць сваё неба з сабою…» Барыс Уладзіміравіч натхнёна таксама насіў сваё неба з сабою — у прасторах жывапісных палотнаў і ў прасторах шчодрай ды адкрытай усяму свету душы…

Зоя МАТУСЕВІЧ

# УСЁ БОЛЬШ ТЭАТРАЎ У ГОСЦІ ДА НАС...

На працягу шасці апошніх сезонаў Беларускі акадэмічны музычны тэатр вылучаецца сярод іншых тым, што рэгулярна праводзіць абменныя гастролі з многімі тэатрамі Расіі і краін Балтыі. Яго сцэна стала той міжнароднай пляцоўкай, на якой могуць быць прадстаўлены практычна ўсе тэатральныя жанры, і ў мінскай публікі цяпер ёсць унікальная магчымасць, нікуды не выязджаючы, знаёміцца і з новымі калектывамі, і з новымі пастаноўкамі.

У сакавіку на сцэне Беларускага музычнага са сваімі спектаклямі пабывала аж тры прыезджыя тэатры. Гонар адкрыць гэтыя маштабныя гастролі выпаў на долю Тульскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра драмы імя Максіма Горкага.

Першай была паказана музычная камедыя **«За двума зайцамі»** ў пастаноўцы рэжысёра Дзмітрыя Краснова. Яшчэ да прагляду спектакля ўзнікла пытанне аб яго жанравай вызначанасці: калі гэта музычная камедыя, то хто аўтар музыкі? На афішы ўказаны толькі аўтар п’есы — Міхаіл Старыцкі. У прынцыпе, твор напісаны як вадэвіль, таму найбольш лагічна было б і ставіць яго ў гэтым жанры. Аб музычным афармленні спектакля будзе сказана ніжэй, а спачатку ўсё ж мэтазгодна пагаварыць аб яго літаратурнай аснове.

Як вядома, Міхаіл Старыцкі — класік украінскай літаратуры і заснавальнік украінскага прафесійнага тэатра. П’еса «За двума зайцамі» ім была напісана ў 1873 годзе па матывах п’есы «На Кожум’яках» Івана Нячуй-Лявіцкага. Тэатральная дзейнасць Старыцкага прыцягнула ўвагу выдатнага рускага драматурга Аляксандра Астроўскага, з творчасці якога, па сутнасці, пачынаўся рускі прафесійны тэатр. І атрымалася так, што мэтр рускага тэатра, ацаніўшы дзейнасць мэтра ўкраінскага тэатра, зрабіў пераклад яго п’есы «За двума зайцамі» на рускую мову, якім у Расіі карыстаюцца да гэтага часу.

Нельга не сказаць пра кінематаграфічнае ўвасабленне гэтага твора. Іх некалькі, але шырокаму гледачу вядомы стаўшы ўжо класікай жанру фільм «За двума зайцамі» рэжысёра Віктара Іванова, зняты на Кінастудыі імя Даўжэнкі ў 1961 годзе. Менавіта дзякуючы гэтаму фільму мільёны гледачоў, нават далёкія ад тэатра, пазнаёміліся з гісторыяй сватаўства банкрута-цырульніка Галахвостага, першага ў Кіеве модніка і небывалага ветрагона, да непрыгожай і нязграбнай Проні, дачкі ўладальніка крамы, які дае за ёй багаты пасаг, а таксама палюбілі выканаўцаў гэтых роляў — Алега Барысава і Маргарыту Крыніцыну. У 1999 годзе фільм быў удастоены Дзяржаўнай прэміі Украіны імя Аляксандра Даўжэнкі. Больш за тое, у гэтым жа годзе, як знак усенароднай любові да герояў кінастужкі, каля высокіх прыступак знакамітай Андрэеўскай царквы быў устаноўлены помнік Проні і Галахвостаму — менавіта тут адбылася драма іх нязздзейсненага вянчання.

У спектаклі Тульскага тэатра работа мастака-пастаноўшчыка Аляксандра Дубровіна, выкананая ў стылістыцы лубка, робіць неадназначнае ўражанне. Панарама задніка дае абагуленую ілюстрацыю правага, высокага берага Дняпра з яго велічнымі сямю ўзгоркамі, якія кіяўляне горда называюць гарамі. На самай высокай з іх — Андрэеўскай — узвышаецца знакамітая Андрэеўская царква. Ад яе ўніз да Падола ўецца Андрэеўскі спуск, які ў той час выглядаў як звычайная пакручастая дарога, паабапал якой стаялі рэдкія невялікія пабудовы.



«За двума зайцамі».

У цэлым панарама прыгожая, дастаткова ілюстратыўная і галоўнае — выглядае як завершанае жывапіснае палатно. Але сцэнограф, відаць, палічыў, што тульскаму гледачу дадаткова патрэбен нейкі знакавы ўкраінскі сімвал, і ў ніжняй частцы панарамы зрабіў як бы ўрэзкупано, дзе размясціў яшчэ адну маштабную карціну — з выявай трох вусатых і чубатых запарожцаў-кабзароў. А каб канчаткова замацаваць уяўленне, што дзеянне адбываецца менавіта ва Украіне, па перыметры дэкарацый былі размешчаны велічэзныя сланечнікі.

У водгуках на спектакль «За двума зайцамі» іншага расійскага тэатра давялося сустрэць наступнае: «На сцене яркие декорации в украинском стиле. Есть и хата, и тын…» І калі праглядзець яшчэ некалькі расійскіх пастановак, то абавязкова выявіцца падобная заканамернасць: усімі сродкамі падкрэсліваецца ўкраінскі каларыт, прытым у яго фальклорных формах. Але ж у п’есе Старыцкага расказваецца не пра ўкраінскае сяло, а пра стольны Кіеў, і дзеючыя асобы ў ёй не ўкраінскія сяляне, а кіеўскія мяшчане. У аўтара так і пазначана ў падзагалоўку п’есы: «Комедия из мещанского быта».

Абагулена-сімвалічны падыход з крэнам у бок фальклору праяўляецца і ў музычным афармленні спектакля. На сцэну перыядычна выходзіць жаночы вакальны ансамбль — прыгожыя дзяўчаты, апранутыя ва ўкраінскія нацыянальныя строі, у вяночках са стужкамі і чырвоных чаравічках, у выкананні якіх гучаць *«Черемшина», «Несе Галя воду…»* і іншыя да болю знаёмыя ўкраінскія песні, нават *«Рідна маты моя…»* А апафеозам гэтага музычнага калейдаскопа стала экспрэсіўна-танцавальная *«Ти ж мене підманула…»* Зразумела, разам з дзяўчатамі на сцэне танчылі і парубкі, апранутыя як удзельнікі ўкраінскага ансамбля народнага танца.

А між тым у тэксце п’есы ёсць яўныя падказкі пастаноўшчыкам, які з музычных жанраў можа быць выкарыстаны ў спектаклі для характарыстыкі эпохі і месца дзеяння. Трэба мець на ўвазе, што ў XIX стагоддзі па ўсёй Украіне, а тым больш у Кіеве, шырокае развіццё атрымалі прафесійныя харавыя спевы, і гэта знайшло сваё адлюстраванне ў п’есе. У першай ужо карціне ёсць аўтарская рэмарка: *«Издалека слышна хоровая песня»* і прыводзіцца тэкст гэтай песні на ўкраінскай мове. Далей па ходзе дзеяння гучыць ужо некалькі песень у выкананні некалькіх харавых груп. І ўслед за гэтым узнікае своеасаблівы дыспут гараджан: *«А какой теперь хор самый лучший — семинарский или братский? — Известно, братский. — А я говорю — семинарский. — Ан брешешь. — Ан не брешу. В семинарском хоре один Тарас как попрет верхами, так о-го-го! Либо Орест — как двинет октавой ур-р-р, аж горы дрожат…»* Потым дыспут накіроўваецца ў іншае русла: *«А кто, по-вашему, господа, всех умнее в Киеве: семинарист, или академист, или университант? — Голохвостый!.. Говорит по-ученому, что и не поймешь ничего!»* І гэты самы Галахвосты, між іншым, сцвярджае, што сярод яго прыяцеляў *«охвицера, митрополичьи басы, маркелы…»* — вось што значыла ў той час быць харыстам у Кіеве.

Нельга сказаць, што спектакль атрымаўся дрэнным ці нецікавым. Проста па сваёй форме і духу ён аказаўся далёкім ад першакрыніцы. Але ў ім захавалася галоўнае — тыпы і характары персанажаў.

Вобраз Галахвостага атрымаўся такім, якім ён і выпісаны ў п’есе і якім мы яго бычылі ў фільме. Для гэтага франта самае галоўнае — яго знешні выгляд і ўяўная «адукаванасць». Ён проста віртуоз у сваім уменні пускаць пыл у вочы: «*Теперь, следственно, меня везде и всюду первым хвасоном принимают, а почему? Потому, что я умею, как соблюсти свой тип, по-благороднему говорить понимаю!.. У меня в голове завсегда такой водеволь, что только мерси, потому — образованный человек*». Малады артыст Сяргей Сяргееў проста беспадобны ў гэтай ролі, без ніякіх нацяжак — сапраўдны Галахвостаў ва ўсім, і ў першую чаргу ў дэманстрацыі *«хвасонистой моды»,* што з’яўляецца яго галоўнай знешняй характарыстыкай: *«От возьмем, примером, бруки: трубою стоят как вылиты, чисто аглицький хвасон! А чего-нибудь не додай, и уже хвизиномии не имеют!... Я уж не говорю про пиньжак, потому что пиньжак — это первая хворма: как только хвормы нету, так и никоторого шику!»* Ну і касцюмчык на ім адпаведны — чаго толькі варты «бруки» канарэечнага колеру. А паходачка, манеры… Артыст умела карыстаецца цэлым арсеналам камічных выразных сродкаў, ствараючы прыцягальны вобраз адмоўнай абаяльнасці.

Аднойчы шпацыраваў Галахвосты з «*хвасонистым*» выглядам па Уладзімірскай горцы ды нечакана каля помніка Уладзіміру ўбачыў сціпла апранутую, але вельмі прыгожую дзяўчыну і адразу ж зацікавіўся ёю. Але тая, збянтэжыўшыся ад аднаго яго выгляду (паніч!), вокамгненна кудысьці знікла. З таго часу пачаў Галахвосты шукаць паўсюль гэтую красуню. І разам з тым збіраўся, не адкладваючы, абваражыць непрыгожую, але багатую Проню. *«Одна надежда на ее приданое, потому иначе не могу поправить своих делов… Только ж Проня и дурна, как жаба... Да если запустить руку в ее сундук, так мы на стороне заведем такое монпасье!.. От бы, примером, ту дивчину, что я за ней возле Владимира гонялся!»*

І яму раптам пашанцавала: сустрэў вечарам на вуліцы тую самую красуню! Падляцеў да яе, абхапіў рукамі і заспяваў салаўём: *«Серденько, буколька моя! Влюбись в меня, потому, ей-богу, застрелюсь вот тут перед тобою!..»* А ў гэты час вярталася з рынку Лымарыха і ўбачыла сваю дачку ў абдымках нейкага паніча. Вось так і пачалася ў Галахвостага пагоня за двума зайцамі: бажыўся і кляўся Лымарысе, што ажэніцца з Галяй, і адначасова думаў, як заўтра заявіцца да Проні на заручыны. І заявіўся, і канчаткова зачараваў не толькі Проню, але і яе бацькоў. А потым аказаўся на імянінах у Лымарыхі, якая аб’явіла сваім гасцям, што Галахвостаў — Галін жаніх. І ён не паспеў апомніцца, як імяніны плаўна перайшлі ў заручыны.

Але ўсе заляцанні да Галі так і абмежаваліся той выпадковай сустрэчай. На працягу спектакля Галахвосты пра яе ў асноўным толькі гаворыць, і дзейсных сцэн з удзелам гэтых двух персанажаў, можна сказаць, няма, таму вобраз Галі ў спектаклі атрымаўся амаль што схематычным, таксама як і вобраз яе сапраўднага жаніха Сцяпана. Затое вобраз Галінай маці — вострахарактарны і вельмі каларытны — займае ў пастаноўцы значнае месца. Менавіта дзякуючы ёй развіваецца паралельная лінія жаніхоўства Галахвостага і менавіта яна разбурыла яго шлюб з Проняй, калі тыя ўжо збіраліся пад вянец. Ролю Лымарыхі выконвае заслужаная артыстка Расіі Наталля Саўчанка. Яе работа таксама — трапнае пападанне ў вобраз, усе асноўныя рысы гэтага персанажа перададзены так, як і выпісаны.

Аднак асноўная інтрыга твора развіваецца паміж Галахвостым і Проняй, таму гэты вобраз падаецца амаль так жа дэталёва, як і вобраз асноўнага героя. *«Они на барышню повёрнуты»,* — гаворыць пра Проню яе маці. А ўсё пачалося з таго, што бацькі аддалі яе ў *«Пансион благородных манер»*. І наперад заплацілі за ўвесь навучальны год, але *«мадама»* выперла Проню адтуль праз тры месяцы, якіх, аднак, ёй хапіла, каб лічыць сябе адукаванай: *«Другим, может, необразованным, что угодно с губы плюнь, потому понятия никакого не имеют, а я в пенционе все науки произошла»*. Усе яе паводзіны вызначаліся адной галоўнай рысай — манернічаннем, якое больш нагадвала крыўлянне, а мяшчанская гаворка перасыпалася бясконцымі *«бонджур»*і *«мерси»*. Ну а дарагія ўборы новаспечанай паненкі ўражвалі рэдкай безгустоўнасцю, і тут ужо здзіўляла іншае: адкуль у яе столькі дзікай фантазіі? А як жа яна рыхтавалася да першага прыходу Гала-

хвостага ў іх дом, перабіраючы свае ўборы! *«По-модному ли? Ой, мама моя, брансолета забыла надеть! Шалю или мантилю? Не знаю, что мне больше до лица?.. Или, может, и то и другое? Да! Пущай видит!»* Думаецца, што мастаку па касцюмах давялося нямала паламаць галаву ў вынаходжанні ўсіх дэталей знешняга выгляду гэтага гратэскавага вобраза. А сыграць такі персанаж тым больш нялёгка. І артыстка Марыя Салаўёва ні ў чым не расчаравала гледачоў — на сцэне была сапраўдная Проня! Прытым не адназначна смешная няўклюдзіна… Па прастаце сваёй душэўнай яна адразу пакахала Галохвостага, а калі яны ўжо збіраліся пад вянец і на вачах усіх адкрылася яго сапраўдная сутнасць, яна перажыла калі не трагедыю, то цяжкую жыццёвую драму: *«Я... вас любила... а вы надсмеялись, осрамили на весь Подол... на весь Киев! Вон! Ой, смерть моя!..»* І ўжо не ўяўна, а па-сапраўднаму абамлела.

І нарэшце, бацькі Проні: Пракоп Свірыдавіч і Яўдакія Піліпаўна — камічна-драматычная пажылая пара. Камічнымі яны выглядаюць з-за сваёй дачкі, якая трымае іх у чорным целе і пастаянна ставіць у няёмкае становішча, патрабуючы выглядаць і паводзіць сябе па-сучаснаму. Чакаючы прыходу Галахвостага, Проня патрабуе ад маці: *«Этот мещанский платок с рожками скиньте!»* і прымушае яе начапіць модны чапец з чырвонымі стужкамі, а бацьку — уздзябурыць на галаву цыліндр і на сарочку-вышыванку завязаць бант у крапінку. Але выйсці да шыкарнага госця яны змогуць толькі тады, калі Проня ім дазволіць. Гэтыя ролі выконваюць народны артыст Расіі Барыс Завалокін і заслужаная артыстка Расіі Ірына Фядотава і выглядаюць у іх вельмі арганічна.

Яшчэ раз хочацца падкрэсліць: усе галоўныя персанажы спектакля ў асноўных сваіх рысах адпавядаюць задуме драматурга. Але чамусьці дыяметральна процілеглымі аказаліся дзве невялічкія ролі, якія, тым не менш, нясуць на сабе вялікую сэнсавую нагрузку. У п'есе жаніх-Галахвостаў з'яўляецца ў доме Проні ў фраку, цыліндры, белых пальчатках і прадстаўляе нявесце двух шафераў, апранутых такім жа чынам: *«Дозвольте отрикамендовать вам моих шахверов: Орест — знаменитый бас митрополичий и не меньше знаменитая октава митрополичья — Кирило».* Такім жа чынам выглядаюць яго шаферы і ў фільме. Але ў спектаклі мы бачым дзіўныя метамарфозы, якія ламаюць усякую логіку ў дачыненні да характарыстыкі персоны Галахвостага: у якасці шафераў ён прадстаўляе Проні двух парубкоў, апранутых у нацыянальныя ўкраінскія касцюмы. Няўжо ён пачаў вадзіць дружбу з тымі, каго называў не інакш, як *«мужичьё необразованное»* і *«невежество неумытое».* Ці, можа, ён усё ж схапіў двух зайцоў — ды не тых?..

Наступны спектакль **«Як багі»** — ужо сучасная драматургія. Пастаўлены ён па аднайменнай п'есе расійскага празаіка і драматурга Юрыя Палякова, галоўнага рэдактара «Литературной газеты». Рэжысёрам гэтага чыста драматычнага спектакля з'яўляецца таксама Дзмітрый Красноў, і ў гледача была магчымасць пазнаёміцца з яго іншай па жанры пастаноўкай і ўбачыць яго самога ў адной з роляў.

П'есы Палякова пазнавальныя па сваіх характэрных прыкметах: яны напісаны па класічных канонах драматургіі, і ў той жа час маюць вельмі сучаснае гучанне. І ў гэтай, адной з апошніх яго работ, якую можна аднесці да жанру «гратэскнага рэалізму», адлюстроўваецца яго востра сацыяльны погляд на сённяшнюю рэчаіснасць.

Дзеянне п'есы адбываецца ў Маскве, як пазначае аўтар, у недалёкім мінулым. А яе дзеючыя асобы — людзі з розных сацыяльных слаёў, нават антыподы, жыццё і лёс якіх сплятаюцца ў такі тугі клубок, што разматаць яго ўжо немагчыма. І сюжэт пабудаваны так, што немагчыма прадугадаць, як будуць развівацца падзеі далей і чым усё закончыцца. Нават немагчыма адназначна сказаць, хто з персанажаў станоўчы, а хто адмоўны. Тут пераплецена ўсё: і камедыя, і драма, і трагедыя.

Падзеі і пачынаюцца, і заканчваюцца ў кватэры адстаўнога дыпламата Гаўрушына, ролю якога выконвае заслужаны артыст Расіі Віктар Ананьін. Хатнія паставілі яму дыягназ: фуршэтны алкагалізм. Але не па такой банальнай прычыне п'е Гаўрушын — яго дыпламатычная кар'ера паляцела з-за яго ж неасцярожных выказванняў. І зараз, седзячы дома, ён займаецца перакладамі вялікіх кітайскіх

паэтаў. Інтэр’ер яго кватэры выкананы ў кітайскім стылі: старажытныя гравюры, бронзавыя сасуды, бясцэнныя ахвярнікі *«Эпохи Троецарствия»*… Сцэнаграфія прадумана адмыслова, яна адначасова і лаканічная, і шматфункцыянальная, напрыклад, шырмы могуць трансфармавацца ў своеасаблівы экран, на якім узнікаюць то сілуэты тэатра ценяў, то радкі перакладаў старажытных аўтараў, якія ажываюць у гуках і лунаюць над сцэнай.

Жонка Гаўрушына Вера Мікалаеўна (заслужаная артыстка Расіі Любоў Спірыхіна), шмат маладзейшая за яго, раней працавала ў службе пратаколу, а цяпер дае ўрокі этыкету новаспечаным бізнесменам. Адзін з іх, Непачаты (Дзмітрый Красноў), які ўжо прайшоў школу Веры Мікалаеўны, раз-пораз прапаноўвае ёй стаць яго жонкай ці ў крайнім выпадку палюбоўніцай (тое, што яна замужам, а ён жанаты, не мае для яго ніякага значэння).

Аднойчы Непачаты прыводзіць да Веры Мікалаеўны маладога пачынаючага бізнесмена Бударына — самародка з Сібіры, якога тэрмінова трэба акультурыць. Непачаты збіраецца зрабіць яго сваёй левай рукой (правая павінна быць заўсёды пры ім самім). Насуперак чаканням Веры Мікалаеўны, Бударын аказаўся зусім не таежным мядзведзем: спакойны, але самаўпэўнены, з пачуццём уласнай сілы — служыў у «спецназе», ваяваў у Чачні… У гэтай ролі было вельмі цікава ўбачыць Сяргея Сяргеева (які ў папярэднім спектаклі іграў Галахвостага) — процілеглы жанр пастаноўкі, процілеглае амплуа; там ён паказаў свой камедыйны дар і ўсе якасці сінтэтычнага акцёра, добрую вакальную і харэаграфічную падрыхтоўку, а тут — вельмі моцныя якасці драматычнага акцёра.

У Бударына з першага погляду закахалася дачка Гаўрушыных Алёна, якая толькі тым і займаецца, што цягаецца па начных клубах. А сам ён закахаўся адразу і не зразумееш у каго, як высветлілася пазней — у Веру Мікалаеўну, якая адказала яму ўзаемнасцю. І Алёна, і Вера Мікалаеўна ведаюць, што з усіх кніг, прачытаных Бударыным у дзяцінстве, яму найбольш запомніліся міфы Старажытнай Грэцыі, а з усіх багоў найбольш падабаецца Гермес: *«Во-первых, у него были крылатые сандалии и он мог летать, как истребитель пятого поколения. Во-вторых, Гермес мог выпутаться из любого положения и всегда добивался своего. Я читал эту книжку и думал: когда вырасту — буду жить, как боги… Хочешь — сделай. Нужно — возьми. Боишься — преодолей себя или умри. Мешают — отодвинь. Сопротивляются — победи. Любишь — обними и не думай о том, что будет потом. В общем, живи как душа просит!»* І ён імкнецца так жыць: абстаўляе у справах свайго боса, прапануе Веры Мікалаеўне кінуць усё і паехаць з ім невядома куды, дзе яны будуць жыць «*как боги*» — грошай хопіць. Можа б, яна і паехала з ім, але не ў якасці шчаслівай саперніцы сваёй дачкі…

Непачаты сваім дзікім чуццём адчувае ў маладым кампаньёне небяспечнага саперніка — і ў бізнесе, і ў дачыненні да Веры Мікалаеўны. А філосаф Гаўрушын, які дзякуючы сваёй прафесіі даўно навучыўся заўважаць патаемныя плыні, на ўсё глядзіць па-канфуцыянску.

З гэтай драматычнай лініяй пераплятаецца камедыйная з двума гратэскавымі персанажамі: першай жонкай Гаўрушына, якая ў юнацтве даіла кароў на ферме дзесьці ў разанскай глыбінцы, а цяпер з’яўляецца падданай англійскай каралевы, і іх бесталковым сынам, які прыдумвае дзікія бізнес-праекты і правальвае іх адзін за адным, на што ідуць грошы ад продажу бясцэнных ахвярнікаў «*Эпохи Троецарствия*». Як і сам Гаўрушын, яго першая жонка разумее, што адбываецца з другой, і дае ёй каштоўныя жыццёвыя парады…

Але падзеі развіваюцца так, што заводзяць іх удзельнікаў у безвыходны тупік. Адвергнуты Верай Мікалаеўнай Бударын тут жа жэніцца з Алёнай, і яны збіраюцца ў падарожжа па Еўропе. Перад ад’ездам маладыя заязджаюць да Алёніных бацькоў, каб развітацца, і там, робячы на памяць фотаздымкі, Алёна «выпадкова» ўбачыла ў камеры доказы любоўнай сувязі яе мужа з яе маці (гэта Непачаты пастараўся). Яна ў адчаі выбягае з дому, за ёю — Бударын, і праз момант раздаецца ўзрыў «Ягуара», на якім яны прыехалі. Застаецца толькі здагадвацца, хто падстроіў трагедыю…



*«Пікавы валет».*

У эпілогу з цемнаты высвечваецца знаёмы пакой, дзе за сталом сядзяць трое: Гаўрушын з жонкай, а паміж імі дзяўчынка. Зразумела, гэта дачка Веры Мікалаеўны ад Бударына. Яны моўчкі п'юць чай. Жыццё працягваецца.

Спектакль **«Пікавы валет»** пастаўлены па аднайменнай аповесці папулярнага расійскага пісьменніка Барыса Акуніна, якая ўваходзіць ў серыю «Прыгоды Эраста Фандорына». Многія творы гэтага аўтара паспяхова экранізуюцца, а вось у тэатры яго паставілі ўпершыню. Інсцэніроўку аповесці ажыццявіў рэжысёр-пастаноўшчык спектакля Уладзімір Ветрагонаў, а гэта справа не з лёгкіх: у творах Акуніна шмат філасофскіх разважанняў, лірычных адступленняў, разнастайных рэмарак, і перакласці такі тэкст на мову дыялогаў складана.

Жанр спектакля — крымінальная камедыя. Дзеянне адбываецца ў Маскве ў другой палове XIX стагоддзя. Эраст Фандорын — рускі Шэрлак Холмс. Ён з'яўляецца чыноўнікам па асобых даручэннях пры губернатары Масквы і яму трэба раскрыць вельмі неардынарную справу, дакладней, серыю дзёрзкіх злачынстваў, якія здзяйсняе няўлоўная шайка махляроў, пакідаючы кожны раз пасля сябе свой фірменны знак — карту *«Пікавы валет»*. Уся іх злачынная дзейнасць заснавана на дэталёва прадуманых афёрах і фальшывых здзелках, якія трымаюцца выключна на людской даверлівасці. Сярод ахвяр хітрых дзялкоў было нямала вядомых людзей, у тым ліку і сам губернатар Масквы, дом якога аказаўся прададзеным.

Фандорын, дзякуючы дэдуктыўнаму метаду, здагадваецца, што пад маскай *«Пікавага валета»* дзейнічае не цэлая шайка, а адзін вельмі хітры махляр (разам са сваёй памочніцай). І атрымлівае небывалай дзёрзкасці новае злачынства: *«Пікавы валет»* пранікае ў дом самога Фандорына і вывозіць адтуль усе каштоўныя рэчы яго палюбоўніцы, знатнай графіні, ведаючы, што гэта справа не атрымае агалоскі. З гэтага моманту паядынак паміж Фандорыным і *«Пікавым валетам»* набывае ўжо асабісты характар. Але ў кожнага з іх ёсць свой памочнік: у Фандорына — кур'ер жандарскага ўпраўлення Анісій Цюльпанаў, а ў *«Пікавага валета»* — прыгожанькая бландзінка, якой удалося ахмурыць фандорынскага кур'ера…

У ролі Фандорына — артыст Юрый Багародзіцкі, у ролі Цюльпанава — Сяргей Сяргееў. І што характэрна, у аповесці Акуніна гэтаму персанажу — Цюльпанаву — надаецца шмат увагі, нават аповед пачынаецца з яго. І можна сказаць, што і ў спектаклі ён не застаецца другарадным персанажам, дзкуючы ўжо ігры акцёра. Шматгранны вобраз *«Пікавага валета»* ўвасобіў заслужаны артыст Расіі Андрэй Сідарэнка. Гэта вельмі неардынарная роля, якая складаецца з мноства вобразаў — *«Пікавы валет»* у кожнай новай афёры прадстае ў новай іпастасі, нават можа аказацца ў вобразе жанчыны, і артысту на працягу спектакля даводзіцца вельмі часта мяняць касцюмы і ўвесь свой знешні выгляд. Пастаянна мяняць аблічча даводзіцца і яго памочніцы Мімачцы, ролю якой выконвае Іна Мядзведзева.

Па сутнасці, спектакль складаецца з некалькіх міні-спектакляў — асобных закончаных сцэн, у якіх паказваюцца віртуозныя махлярствы *«Пікавага валета»* і яго памочніцы. Найбольш разгорнутыя і відовішчныя з іх — «Дабрачынная лата-

рэя», «Бал у губернатара», «На катку», «Жабракі на паперці». А вось сэнсава звязаць іх паміж сабой рэжысёру не зусім удалося, ды гэта і сапраўды цяжка зрабіць (хоць вобраз расказчыка ўводзь).

Трохі расчаравала сцэнаграфія: на фоне чорнага задніка і чорных куліс светлымі плямамі выдзяляліся выявы дзяржаўных ільвоў. І па меры таго, як змяняліся карціны спектакля, акцёры раз-пораз перасоўвалі гэтых ільвоў, трансфармуючы такім чынам сцэнічную прастору.

У гастрольнай афішы знайшлося месца і сучаснай замежнай камедыі. Гэта усім вядомы **«Боінг-Боінг»** французскага драматурга Марка Камалеці — адна з самых касавых п’ес сусветнага тэатра, якая ўвайшла ў Кнігу рэкордаў Гінеса як французская п’еса, якая найбольш часта выконваецца за мяжой.

Рэжысёрам-пастаноўшчыкам спектакля з’яўляецца Дзмітрый Красноў. Гэта тыповая камедыя становішчаў з вострымі і нярэдка двухсэнсоўнымі калізіямі, якія, аднак, не пераходзяць за межы мастацка-эстэтычнага.

Сюжэт п’есы, нягледзячы на яго знешнюю закручанасць, даволі просты. Малады парыжанін Бернар (Юрый Багародзіцкі) круціць раманы адразу з трыма сцюардэсамі: амерыканкай Мэры (Марына Анісімава), немкай Мартай (Марыя Салаўёва) і француженкай Мішэль (Ларыса Кіеня). У адпаведнасці з геніяльна распрацаваным планам, у аснове якога расклад міжнародных авіярэйсаў, кожная дзяўчына з’яўляецца ў кватэры Бернара ў свой час і кожная з іх упэўнена, што яна ў Бернара адзіная. Але бясконца так працягвацца не магло. У адной сцюардэсы адбылася затрымка рэйса, другую перавялі на новы Боінг, а ў трэцяй нічога асаблівага і не здарылася, але па законе жанру ўсе яны з’яўляюцца ў кватэры Бернара амаль адначасова. Геніяльны план трашчыць па швах. Але становішча выратоўвае друг Бернара Рабер (Дзмітрый Чапушканаў), які так своечасова прыехаў з правінцыі. Дарэчы, ён настолькі хутка з’арыентаваўся ў сітуацыі, што, здаецца, пачаў пераўзыходзіць свайго парыжскага прыяцеля. Кожная з дзяўчат імкнецца дзейнічаць у адпаведнасці са сваімі звычкамі і ўяўленнямі: меркантыльная амерыканка з нявінным выглядам гне сваю лінію, рацыянальная немка спакойна пераходзіць да другога, а рамантычная француженка настолькі абагаўляе Бернара, што і ён канчаткова спыняе свой выбар на ёй. Але ўсё абышлося так гладка не толькі дзякуючы госцю Бернара. Пастаянна выратоўвала становішча ў доме і яго служанка Берта (Марыя Папова). Не маючы ўласнага жыцця, яна аддае ўсе свае сілы на ўладкаванне чужога. І хоць гэта роля як быццам другога плана, яна так і просіцца на першы. Па крайняй меры, гэта той персанаж, які на працягу ўсяго спектакля падтрымлівае скразное дзеянне. У гэтай пастаноўцы ўсё дзеянне адбываецца ў адным і тым жа пакоі, сцэнаграфія застаецца нязменнай, няма ні масавых сцэн, ні песень, ні танцаў — усё трымаецца на ігры шасці акцёраў, якім удаецца завалодаць увагай залы на працягу ўсяго спектакля.

І нарэшце тульскі эксклюзіў — мюзікл для дзяцей і дарослых **«Тульскія дзівы»**, створаны па матывах сказа Мікалая Ляскова «Ляўша». П’есу напісаў тульскі рэжысёр Веніямін Найман, які і паставіў гэты спектакль, музыку — таксама тульскі кампазітар Сяргей Уткін. Гэта сапраўдны мюзікл, дзе ёсць не толькі песні і танцы, але і прысутнічае музычная драматургія. Вельмі ўражвае і сцэнаграфія (мастак-пастаноўшчык Ірына Блахіна), у якой выкарыстаны навейшыя камп’ютарныя тэхналогіі, але якая ўспрымаецца як старонкі кнігі з прыгожымі ілюстрацыямі, у якой расказваецца пра славутага тульскага майстра Ляўшу. Гісторыю гэту ведаюць усе, яе пераказваць не трэба. І персанажаў гэтай гісторыі ўсе ведаюць. Таму ў праграмцы спектакля пазначаны толькі выканаўцы. Складаныя арыгінальныя касцюмы гавораць самі за сябе, і маленькія гледачы адразу пазнаюць, хто ёсць хто. Гэта выдатны ансамблевы спектакль, дзе ўсе выканаўцы звязаны паміж сабой адзіным сцэнічным малюнкам і адзіным рытмам — як у танцавальнай сюіце. І вельмі цэласны і стыльны, дзе ўсе кампаненты ўзаемазалежныя і ўзаемадапаўняльныя, як кажуць — ні дадаць, ні адняць. Менавіта такія пастаноўкі развіваюць у дзяцей добры мастацкі густ і далучаюць іх да сапраўднага мастацтва.

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ДАЙСЦІ ДА СЯБЕ

*Наталля МІЦКЕВІЧ*

**ДОЎГАЯ ДАРОГА АД ДОМА ЯНКІ МАЎРА ДА ДОМА ЯКУБА КОЛАСА**

*Мінск, Звязда, 2016.*




Дарога — адзін з універсальных чалавечых архетыпаў, дзеянне якога разгортваецца ў лёсе кожнага як пэўны сюжэт. Само жыццё — гэта бясконцы рух, няспынная дарога. Жадаем мы ці не — аднойчы нас сустракаюць выпрабаванні, пасля якіх мысліць «па-старому», «як раней», робіцца немагчыма і мы выпраўляемся ў падарожжа да новай мэты.

«Доўгая дарога дадому» назваў сваю кнігу ўспамінаў Васіль Быкаў. Кнігу, у якой распавядае пра асабістыя вайну і мір, станаўленне асобы і творчай індывідуальнасці, дае ацэнку знакавым падзеям жыцця краіны. Гэта дарога пісьменніка да сябе, да ўнутранай свабоды. Відавочна алюзійную назву атрымала і кніга ўспамінаў дачкі Янкі Маўра, нявесткі Якуба Коласа Наталлі Міцкевіч. І атрымала справядліва: у ёй мы зноў-такі прасочваем эвалюцыю чалавечай асобы, міжволі ўваходзім у шырокі культурны кантэкст нашай краіны.

Жыццю названых класікаў нашай літаратуры прысвечаны многія манаграфіі і артыкулы ў перыёдыцы. Жывой цікавай асобай паўстае Янка Маўр у кнігах Маргарыты Яфімавай і Эсфір Гурэвіч. Дасканала жыццёвы шлях Якуба Коласа даследавалі Іван Навуменка, Максім Лужанін, Міхась Мушынскі. Аднак шматлікасць творчых сувязей гэтых людзей, цікавасць калізій лёсу, вызначальнасць ролі асобы ў развіцці нацыянальнай літаратуры, адукацыі вымагаюць новых росшукаў, пераасэнсавання для стварэння ў свядомасці нашчадкаў паўнавартасных партрэтаў.

«Цікава, што скажуць пра мяне, калі мне будзе сто?» — такім пытаннем яшчэ пры жыцці задаваўся Іван Міхайлавіч Фёдараў, любімы пісьменнік не аднаго пакалення дзяцей з экзатычным псеўданімам. Зараз прайшло ўжо больш як сто трыццаць гадоў з дня яго нараджэння, а гаварыць працягваюць. Прычым гавораць з захапленнем! Пра яго ўнёсак у прыгодніцкую і навукова-фантастычную літаратуру для дзяцей, пра выпрацоўку далейшай «праграмы» падлеткавай прозы…

Вельмі блізкім па духу Янку Маўру быў яго надзейны сябар Якуб Колас. Народны паэт, адзін з пачынальнікаў жанру рамана ў беларускай прозе, ён застаецца ў вялікай ступені пісьменнікам для падрастаючага пакалення. «Якуб Колас, калі можна сказаць так, вельмі выхаваўчы пісьменнік. Яго творы нібы выпраменьваюць душэўную цеплыню, дабрату, вялікую чалавечую мудрасць. Свет Коласа — свет прыгожы, ясны,

гарманічны. На яго творах, як і раней, будуць выхоўвацца новыя і новыя пакаленні маладых людзей», — пісаў Іван Навуменка.

Роднасць двух таленавітых людзей яскрава прасочваецца ў перапісцы, у водгуках аб творчасці адзін аднаго. Нездарма ж менавіта Янка Маўр стаў прататыпам настаўніка Івана Тадорыка ў трылогіі Коласа «На ростанях». Цікавай жыццёвай заканамернасцю паўстае і той факт, што творцы «параднiлiся» і самым сапраўдным чынам: іх дзеці ажаніліся.

Таму своеасаблівым «праваднiком» паміж двума пісьменніцкімі дамамі выступае Наталля Міцкевіч, у дзявоцтве Фёдарава. Разумная, мужная, клапатлівая жанчына, якая прайшла нялёгкую, але надзвычай цікавую жыццёвую дарогу.

«Шмат цяжкіх выпрабаванняў давялося ёй пераадолець. Гэтаму спрыялі яе настойлівасць, энергічнасць, байцоўскі характар», — піша пра жонку Міхась Міцкевіч. І сапраўды, на старонках успамінаў паўстае цяжкое ваеннае дзяцінства ў вялікай сям'і Маўра, шматлікія пераезды, змаганні за права быць сапраўдным навукоўцам, спецыялістам у сваёй галіне, здзяйсненні мудрых сямейных кампрамісаў пасля замужжа з сынам вядомага чалавека. Усё жыццё яна быццам бы пераадольвала прабабчын праклён, колькі разоў выратоўваючыся ад смерці. І пераадольвала годна, здолела атрымаць прызнанне ў грамадстве і стварыць шчаслівую сям'ю.

Галоўнае, што адрознівае мемуарную прозу Наталлі Міцкевіч — «непрыкрытая» шчырасць. Яна не «шліфуе», не прыхарошвае ўласнае жыццё і жыццё блізкіх людзей. Распавядае і пра разлад са зводнымі сястрой і братам, і пра цяжкі характар старэйшага мужавага брата Данілы, і пра інтрыгі ў прафесарскім асяроддзі… Ды і што тут здзіўляцца, калі так яе выхоўвалі з маленства: «Бацька вучыў нас ніколі не лгаць. Калі казаць — дык толькі праўду. Лепш, гаварыў ён, прамаўчаць, чым казаць хлусню. І мы ўсе добра гэта засвоілі». Сваё творчае крэда Якуб Колас таксама выразіў словамі: «А праўда мне ўсяго даражай». Часцяком аўтарытэт асобы і грамадскае прызнанне прымушаюць даследчыкаў спадчыны славутых людзей замоўчваць, наўмысна не заўважаць некаторыя факты біяграфіі. А «Доўгая дарога» Наталлі Міцкевіч ад пачатку да канца натуральная, сапраўдная.

З'яўляючыся «фізікам», а не «лірыкам» па складзе розуму (Наталля Міцкевіч абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэорыі машын і механізмаў і выкладала адпаведную дысцыпліну ў вышэйшай школе), яна здолела выпрацаваць вобразнасць мыслення і лаканічную прыгажосць выказвання. І няхай у некаторых месцах успаміны вядуцца без пэўнага ладу і стройнасці, аднак дасціпнасці думкі і змястоўнасці філасофскіх заўваг у гэтай таленавітай жанчыны варта павучыцца некаторым пачынаючым пісьменнікам! Умела стварае яна і падрабязныя дынамічныя партрэты сваякоў праз апісанне іх маўлення, манеры паводзін, стаўлення да людзей. Чаго вартыя толькі гумарыстычныя аповеды пра Маўра-грыбасея ці пра сабаку, што любіў «кульнуць чарку». Пэўна, трапяткая любоў да сапраўднай літаратуры, класічнай музыкі, тэатра, падарожжаў сфарміравала надзвычай шырокі кругагляд і здольнасць ясна выказвацца дасціпнай малодшай дачкі Янкі Маўра…

Выданне выгодна аздабляюць фотаздымкі з дамашніх архіваў сем'яў пісьменнікаў. Некаторыя з іх зрабіў апантаны фатограф Міхась Міцкевіч, што ўмее выдатна злавіць момант, які раскрывае характар асобы.

На вялікі жаль, кніга ўспамінаў «Доўгая дарога ад дома Янкі Маўра да дома Якуба Коласа» пабачыла свет пасля смерці Наталлі Іванаўны Міцкевіч. Але гэта годны след на зямлі разумнай і адоранай жанчыны, яшчэ адна яскравая і незабыўная гісторыя жыцця выдатных дзеячаў культуры і навукі нашага часу. Пакуль жыве памяць пра іх, можна казаць і пра бессмяротнасць нацыі.

*Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ*

## СЮЖЭТ ДЛЯ ВЕЧНАСЦІ

*Мінск, Мастацкая літаратура, 2013*

Прыемна, калі чалавек адэкватна ацэньвае сябе, дакладна разумее ўласнае прызначэнне. Некалі, даючы інтэрв'ю, Навум Гальпяровіч надзвычай выразна акрэсліў як свае адносіны да жыцця, так і характар свайго таленту: «Мне вось




кажуць: «Не лятай у аблоках». А я лётаю, у свае шэсцьдзясят з лішнім лётаю, лётаю па сённяшні дзень. І на зямлі стаю нагамі даволі трывала, і адчуваю гэты свет як рэальнасць, але магу расчуліцца, расплакацца ад геніяльнага радка, і шчасцю героя Караткевіча паверыць і пазайздросціць…» Ён, даволі разважлівы і рэалістычны чалавек з лідарскімі якасцямі, дырэктар замежнага вяшчання Беларускага радыё, выяўляе ў сваіх выступленнях шчырыя эмоцыі і перажыванні, піша глыбока лірычныя эсэ і замалёўкі, узнёслыя і рамантычныя вершы. Аднак кранае часам менавіта сваёй памежнай рэалістычнасцю, дакладнасцю яго проза, аналітыка. Кнігі вершаў і малой прозы Навума Гальпяровіча «Востраў душы», «Струна», «Шляхі і вяртанні», «Святло ў акне», «Голас і рэха», «Гэта ўсё для цябе», «На трапяткім агні» доказна паказалі наяўнасць цікавага сімбіёзу, а дакладней, балансу, сапраўднарэалістычнага і ўзнёслага ў яго творчай свядомасці. Своеасаблівай квінтэсэнцыяй творчых набыткаў пісьменніка з'яўляецца яго кніга «Сюжэт для вечнасці», што ўключае творы перыяду з пачатку 80-х гг. да цяперашняга часу.

Відавочна, што за азначаныя трыццаць гадоў творчага развіцця Навум Гальпяровіч не страчвае здольнасці глядзець на свет як мастак (хоць прызнаецца, што маляваць не ўмее). Аднак гэта не замінае яго паэтычным «палотнам» быць поліхромнымі, яркімі. У гэтым святле падаецца заканамерным як жывапісанне словам, так і адкрыты зварот да «мастакоўскай» тэмы (у прыватнасці, вершы «Акварэлі», «Графічны ліст заснежаных палёў», «У майстэрні мастака», «Закаханым над горадам (паводле Малевіча)», «Віцебск (эцюд)» і інш). Рэльефна візуалізуюцца такія паэтычныя радкі:

Што гэта? Дрэва? Мелодыя? Цень?
Рукі апусцяцца, вохра застыне.
Свет разаб'ецца. У той палавіне
Выступіць вечар. А тут яшчэ дзень.
Ссунеш фіранку — у свеце імжа,
Мокрых каштанаў халодныя свечкі…
І невядома, ці збегла ў той вечар,
Ці засталася ў майстэрні душа?

Аднак не толькі фарбамі ўмее захапляцца паэт. Яго свет вызначаюць гукі, дотыкі, пахі, што мы часта нават не заўважаем у паўсядзённасці. Лірычны герой вершаў Гальпяровіча прызнаецца, што чуе, «як гавораць дождж і снег», вучыць на памяць «рэкі, хмары, дрэвы, сонца і залевы», імкнецца разгадаць «пергаменты нябёсаў, кнігі жыццяў». Ды і сам сябе ён адчувае то «лёгкім воблакам і водбліскам на шэрай сцяне», то «пылінкай касмічнай ночы».

Пры такой незвычайнай еднасці з вялікім Сусветам нельга не быць заклапочаным і праблемамі лакальнымі, блізкімі, злабадзённымі. Галоўны боль Навума Гальпяровіча як чалавека і пісьменніка — імклівая страта душэўных арыенціраў, праблема мультыкультурызму, шэрасці і стандартнасці. Даўняе моўнае пытанні Беларусі ён падае крэатыўна, глыбока псіхалагічна. Сон, у якім прамоўцу не разумеюць прысутныя, на жаль, можа стаць явай:

Мне сніўся сон: мяне не разумелі.
Я гаварыў, а словы, быццам град,
Па тварах і вачах людзей звінелі
І да мяне вярталіся назад.

Падобнай непрыхаванай трывогай вызначаецца і тэматычна блізкі сімвалічны верш «Запалілі свечку»:

Запалілі свечку, а вакол сляпыя.
І святло іграе на каменных тварах.
І ніхто не бачыць, што пятля на шыі,
Што праз момант горад
палыхне пажарам.

Мудрай «прытчавасцю» адзначаны і шэраг іншых твораў: «Спачну аднойчы ў маладым гаі», «Ляціць страла», «Аблава», «Гарбаты», «Балада пра званочак», «Балада пра чужога», «Журботная балада», у якіх аўтар разважае аб цёмным і светлым пачатках у кожнай істоце, аб смеласці і годнасці несці свой крыж, аб прынцыповасці пазіцый і вернасці ўласным перакананням.

Для вобразнай сістэмы твораў Навума Гальпяровіча характэрна сакралізацыя нябеснага святла і жыватворнага агню. Ачышчальная сіла нябесных свяціл і свечак у храме — відавочная для веруючага сэрца:

А мудрыя сталі мудрэйшыя,
А хітрыя сталі хітрэйшыя,
А дужыя сталі дужэйшыя…
Ва ўсім і ва ўсіх прагрэс…

Ды зорка на небе свеціць,
Ды ў храме не згаслі свечкі,
Ды ў вокны глядзіцца вечнасць
І доўжыцца новы век.

А вобраз «вясёлкавай зоркі», нечым сугучны караткевічаўскай «сямікаляровай зорцы» ці барадулінскай «босай зорцы» нязменна знамянуе ў сістэме каардынат паэта душэўнае абнаўленне і маладую апантанасць.

Нягледзячы на лірычную ўзнёсласць, паэтычны радок Гальпяровіча трапны і лаканічны, часта раніць, як лязо, праўдай і дакладнасцю. Прынамсі, такое адбываецца пры чытанні ўжо названага раней верша «Закаханым над горадам (паводле Шагала)»:

Нібыта дзве галінкі голыя —
Зноў закаханыя над горадам.
Ляцяць высока над зямлёй,
Над роспаччу і мітуснёй,
Над купаламі і над дахамі,
Над здзекамі, пагардай, жахамі!..
А іх тужлівай траекторыяй
Нясе да пашчы крэматорыя.

Тое ж дэманструюць і ўдалыя чатырохрадкоўі «Як у бездань весела імчаць», «Вецер у закінутай царкве», «Новая шаша» і інш.

Нехта можа ўпікнуць Навума Гальпяровіча ў аднастайнасці рытма-метрыкі. Аднак уважліва прасачыўшы яго творчую эвалюцыя, упэўніваемся: гэта далёка не так. Паэт разнастаіць і сілаба-тоніку, арганічна піша і верлібрам. Вялікай энергіяй паэтычнага радка адзначы, напрыклад, яго верлібр, прысвечаны Чарнобыльскай трагедыі:

…мой васьмігадовы Максім,
Які так прасіўся ў госці да бабулі
(Бо дзе ж ты ў горадзе ўбачыш жывога пеўня,
Вепрукоў у хлеўчуку і казу Зорачку),
Уздыхнуўшы, бы дзядок, з разуменнем
І зусім недзіцячым выразам твару,
Вельмі выразна і гучна сказаў тое слова,
Што ніяк не магла вымавіць бабуля.

Празаічная частка кнігі «Сюжэт для вечнасці» каштоўная, перш за ўсё, сваёй дакладнасцю, увагай да дэталей, рэалістычнасцю. Вельмі папулярнай зараз робіцца літаратура нон-фікшн, дзённікі, успаміны. Значыць, усё ж зразумелі значэнне традыцый, генетычнай і культурнай памяці… Апавяданні (ці абразкі, імпрэсіі?) Навума Гальпяровіча — успаміны пра дзяцінства, блізкіх людзей, сяброў. Кранальныя, уражлівыя, памежна шчырыя. Не баіцца пісьменнік паказаць неідэальнасць адносін у сваёй сям'і, падрабязна расказаць пра першыя эратычныя перажыванні. І пры гэтым застаецца зноў-такі выразным лірыкам у душы. «…Сэрца маё, як вавёрка, што скача па цёплай сасне», — сказаў некалі вершаваным радком Гальпяровіч. Абвостранымі пачуццямі вызначаецца і яго проза. Падумайце толькі: праз болей чым пяцьдзясят гадоў ён прызнаецца, што балюча перажывае крыўду, якую прычыніў суседскаму хлопчыку з-за зайздрасці праз новы веласіпед: «Сорамна ж мне за тую бойку з Генкам цяпер яшчэ больш, чым раней. Часам узгадаю слёзы ў Генкавых вачах, і становіцца так балюча і невыносна тужліва, што хоць заплач самому». Расчуліцца да слёз можа і чытач, знаёмячыся з гісторыяй адданасці адно аднаму бацькоў пісьменніка («Вернасць»), і з гісторыяй адданасці сяброўска-братэрскай (не маючы родных братоў, Навум Гальпяровіч называў братам Алеся Пісьмянкова)…

Уласную тэрыторыю Навум Гальпяровіч называе «востравам душы». Востраў — тэрыторыя ізаляваная. На астравах, як вядома, захоўваецца відавая чысціня, эндэміка. Захаваць юначую чысціню пачуццяў удалося і сталаму паэту, празаіку, публіцысту Навуму Гальпяровічу. Часцей заплывайце на яго чысты востраў!

